

**Анатоль Фёдаравіч КУЛЕШ (5.05.1927 - 21.03.2014), выбітны лідскі краязнавец.**
*Здымак з архіва "Лідскай газеты"*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 65 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2014 г.



## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі крыжы з лідскіх прыватных калекцый.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**10,5 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1739**
**Часопіс падпісаны да друку 30.04.2014 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.05.2014 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 7700 руб.**
**індывід. 6 мес.- 15400 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792






# 100-годдзе Валянціна Таўлая ў Лідзе

8 лютага ў г. Лідзе адзначалі 100-годдзе з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая. Лёс звязваў Валянціна Таўлая з многімі населенымі пунктамі Беларусі. Нарадзіўся ён 8 лютага 1914 г. у Баранавічах, пайшоў у школу ў Лідзе, жыў у Рудаўцы на Слонімшчыне і вучыўся ў Слонімскай гімназіі. Пасля польскіх турмаў і кароткага акрэсу жыцця ў БССР, зноў турмаў працаваў у 1939-41 гг. у лідскай газеце "Ўперад", быў у падполлі на Наваградчыне, сядзеў у лідскай турме пры немцах, пасля вайны да 1947 г. працаваў у Менску.

Усе гэтыя этапы жыцця Валянціна Таўлая прадстаўлены ў кнізе "Этапы жыццёвых дарог", з прэзентацыі якой у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы і пачаліся ўрачыстасці. Аўтар кнігі супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Анастасія Каладзяжная, аўтар прадмовы Станіслаў Суднік.

"*Факт да факту, падзея да падзеі, і з кнігі паўстае вобраз паэта-змагара і вельмі неардынарнага чалавека. Пры гэтым у кнізе вельмі мала чыста аўтарскага тэксту, яшчэ менш аўтарскіх эпітэтаў. Усе эпітэты ўзяты з выказванняў тых людзей, якія ведалі Валянціна Таўлая, якія жылі побач, якія побач змагаліся",* - гаворыцца ў прадмове.

На свята прыехалі сваякі Валянціна Таўлая, землякі з Рудаўкі, і ў першую чаргу з Пецярбурга прыехала дачка Галінка з мужам, акадэмікам Ігарам Мацієўскім і прарэктарам Расійскага інстытута культуры і мастацтваў Юрыем Бундзіным.




***Кніга "Этапы жыццёвых дарог"***

І вось вам пецярбургская інтэлігенцыя - што Галінка Таўлай выдатна валодае беларускай мовай, то не дзіва, але на выдатнай беларускай мове размаўляў і Ігар Мацієўскі, які нарадзіўся ў Харкаве і ні дня не хадзіў у беларускую школу. Адным словам - Пецярбург.

Пасля прэзентацыі кнігі ўдзельнікі свята накіраваліся па таўлаеўскіх мясцінах Ліды. Бязлітасная



***Анастасія Каладзяжная прадстаўляе кнігу***



***Падчас прэзентацыі кнігі, крайняя справа дачка Валянціна Таўлая Галінка Таўлай***



***Скляпенні турмы “На Сыракомлі”, дзе пры немцах сядзелі Валянцін Таўлай, Ніна Таўлай і іхнія бацькі***



***Аўтэнтычныя дзверы камеры № 13***




***Памятная шыльда на будынку рэдакцыі “Лідскай газеты”***

вайна пакінула мала што аўтэнтычнае: згарэла хата, дзе жылі бацькі В. Таўлая, але захавалася турма “На Сыракомлі”. На верхніх паверхах сёння тут мэблевая фабрыка, склеп жа фактычна аўтэнтычны, а дзверы камеры № 13 цалкам аўтэнтычныя.

Пасля турмы накіраваліся да рэдакцыі “Лідскай газеты” - спадкаемцы газеты “Ўперад”, якая была заснавана ў 1939 годзе, і дзе з першых нумароў працаваў Валянцін Таўлай. У памяць пра гэта на будынку рэдакцыі была адкрыта памятная шыльда. Выканаў шыльду Рычард Груша.

Наступным пунктам маршруту стала бібліятэка імя Валянціна Таўлая па вул. Фурманава. Бібліятэка носіць імя В. Таўлая ўжо 50 гадоў. Тут да 100-годдзя паэта падрыхтавана выстава твораў, а таксама быў зроблены прыгожы банэр з партрэтам паэта, радкамі верша, здымкам лідскай школы імя Людвіка Нарбута, у якой малы Валянцін пачаў свае ”ўніверсітэты” і дзе напісаў свой першы верш на польскай мове. У ніжняй часцы банэра мосцік цераз Лідзейку недалёка ад вуліцы В. Таўлая ў Лідзе.



***Падчас адкрыцця памятнай шыльды на будынку рэдакцыі “Лідскай газеты”***

Кульмінацыяй святкавання стала адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доміку, дзе ў 1939-41 гадах жыў Валянцін Таўлай са сваёй першай жонкай Кірай. Домік ацалеў у вайну, але наўрад ці дастояў бы да нашага часу, каб падчас першага этапу рэстаўра-



*У бібліятэка імя Валянціна Таўлая па вул. Фурманава*




*Банэр у бібліятэка імя Валянціна Таўлая па вул. Фурманава, падрыхтаваны да 100-годдзя паэта*



*Перад бібліятэкай імя В. Таўлая па вул. Фурманава*

цыі Лідскага замка ў 70-х гадах XX стагоддзя яго не абклалі цэглай. Тут размяшчаўся спорткамітэт, што зусім не адпавядала культурнай значнасці будынка, таму з 1994 года грамадскасць горада, і ў першую чаргу ТБМ імя Ф. Скарыны, пачала кампанію па высяленні спорткамітэта і перадачы будынка аддзелу культуры з тым, каб адкрыць тут Лідскі літаратурны музей. І нарэшце ў 2010 годзе падчас падрыхтоўкі да "Дажынак-2010" з'явілася магчымасць ажыццявіць задуманае. Раённыя ўлады выдзелілі сродкі, правялі рамонт, і ў доміку быў адкрыты Літаратурны філіял Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Домік зажыў новым літаратурным жыццём.

У савецкія часы на доміку вісела просценькая мемарыяльная дошка, якая нагадвала, што тут калісьці жыў паэт, але ў 90-я гады дошку знялі і згубілі.

Эпапея з устаноўкай новай дошкі пачалася ў 2008 г. Некалькі разоў праекты заварочваліся Гарадзенскай мастацкай радай, пакуль нарэшце перад 100-годдзем справа ўстаноўкі мемарыяльнай дошкі не стала справай гонару Лідскага райвыканкама. Праект дошкі нарэшце быў зацверджаны ў Гародні, былі знойдзены грошы, і вось намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Віктар Францавіч Пранюк, дачка Валянціна Таўлая - Галінка Таўлай, скульптар - Рычард Груша адкрылі дошку, завяршыўшы тым самым 20-гадовую гісторыю давядзення да годнага ўзроўню ўшанавання памяці слаўнага сына Беларусі, патрыёта і змагара, выдатнага паэта Валянціна Таўлая.

Непасрэдна пасля адкрыцця дошкі



*Намеснік старшыні Лідскага райвыканкама В.Ф. Пранюк выступае пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі*




***Мемарыяльная дошка Валянціну Таўлаю на доме, дзе жыў паэт, па вул. Замкавай, 7 у Лідзе***



***Галінка Таўлай, намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Віктар Пранюк і скульптар Рычард Груша пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі***



***Сцэну з жыцця Валянціна Таўлая іграюць рэжысёр Лідскага народнага тэатра Алег Лазоўскі і супрацоўніца Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ілона Мерава***



***У літаратурна-музычнай гасцёўні сваячкі Валянціна Таўлая з Баранавіч, Ігар Маціеўскі, Галінка Таўлай, Юры Бундзін***



***Ігар Маціеўскі і Галінка Таўлай***

Галінка Таўлай сказала:

*- Калі я сёння пабачыла колькасць людзей, якія прыйшлі на гэтае свята ў бібліятэку... Цяжка было стрымаць пачуцці. Гэта было настолькі ўражліва. Трэба сказаць, што памяць пра Таўлая сапраўды здзіўляе - гэта прайшло столькі гадоў, чалавек пражыў такое непрацяглае жыццё і пакінуў такую добрую памяць пра сябе, пра сябе, як чалавека, які заўсёды быў за Беларусь.*

Наступным этапам святкавання стала тэатралізаваная пастаноўка з біяграфіі Валянціна Таўлая. Ролю Валянціна выконваў рэжысёр Лідскага народнага тэатра Алег Лазоўскі, а ролю Кіры іграла супрацоўніца Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ілона Мерава. І Ліда не была б Лідай, каб не прагучаў той самы першы верш паэта на польскай мове пра верабейку, які В. Таўлай напісаў у Лідзе.

А ў літаратурна-музычнай гасцёўні, апошнім пункце маршруту, можна было нарэшце перадыхнуць, пазадаваць пытанні, выказацца, пачытаць вершы. Выступіла Ніна Пазняк, сенатар ад г. Ліды, намеснік начальніка ідэалагічнага аддзела А. Самсонаў распавёў пра малавядомыя моманты стварэння музея. А нам застаецца сказаць, што на розных этапах сілы і талент для арганізацыі свята прыклалі самыя розныя людзі: Ірына Саўсян - дырэктар цэнтральнай бібліятэкі, Кацярына Серафіновіч - рэдактар “Лідскай газеты”, Ганна Драб - дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея, супрацоўнікі музея Анастасія Каладзяжная і Алесь Хітрун, супрацоўнікі мэблевай фабрыкі і бібліятэкі імя В. Таўлая, і ні аднаго збою, усюды высокі ўзровень культуры. Прыемна, ганарова і амаль усё па-беларуску.

Ліда шануе роднае і ўмее гэта рабіць.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ







У пачатку студзеня ў Таварыства польскай культуры на Лідчыне выдала кішэнныя каляндарыкі да 500-х угодкаў **бітвы пад Воршай** і да 230-х угодкаў з дня нараджэння **Тодара Нарбута**.




У пачатку студзеня ў Лідзе выйшла кніга Леаніда Лаўрэша **“Ліда ўчора і сёння. Гісторыя горада ў выявах”**, 152 ст. Наклад 300 ас.



У пачатку студзеня ў Лідскім лядовым палацы па вул. Качана, 31 адкрылася кавярня **“Буліт”**.




У пачатку лютага “Белпошта” выпусціла маркаваны мастацкі канверт да 100-годдзя з дня нараджэння **Валянціна Таўлая.**



***На здымку: Ірына Саўсян, Ірына Тур, Алена Серакова, Валянціна Грышкевіч.*** *Фота Вольгі Яхантавай.*

7 лютага 2014 г. па выніках абласнога конкурсу **“Ўстанова года”** першыя месцы занялі: Раённы палац культуры (дырэктар Ірына Тур), Дзяржаўны музычны каледж (дырэктар Алена Серакова), Раённая цэнтральная бібліятэчная сістэма (дырэктар Ірына Саўсян), Дзіцячая мастацкая школа (дырэктар Валянціна Грышкевіч).

7-9 лютага 2014 г. у санаторыі "Вясёлка", які знаходзіцца за 15 км ад г. Ліды, прайшоў Першы Лідскі зімовы мотазлёт **"Люты - 2014”.**



25-28 лютага 2014 г. у Лідзе прайшоў **чэмпіянат Еўропы** па футболе сярод ксяндзоў.











23 сакавіка 2014 г. прайшлі **выбары ў мясцовыя саветы** Рэспублікі Беларусь.

*Былі абраныя:*

*8 дэпутатаў Гарадзенскага абласнога савета;*

*35 дэпутатаў Лідскага раённага савета;*

*21 дэпутат Бярозаўскага гарадскога савета;*

*149 дэпутатаў сельскіх саветаў Лідскага раёна.*

# Пайшоў з жыцця лідскі краязнавец Анатоль Кулеш



21 сакавіка 2014 г. на 87-м годзе жыцця не стала лідскага краязнаўца, настаўніка, грамадскага дзеяча і журналіста **Анатоля Куляша**. Анатоль Фёдаравіч быў адным з пачынальнікаў сучаснага лідскага краязнаўства. Асабліва шмат у гэтым кірунку ён працаваў апошнія гады, нават у сакавіку апублікаваў некалькі артыкулаў у "Лідскай газеце".

Нарадзіўся Анатоль Фёдаравіч Кулеш у позні майскі вечар, 5 траўня 1927 года пад самае свята Юр'ева дня. Вёска Збляны Лідскага раёна, дзе яму пашчасціла прыйсці на свет, раскінулася ўздоўж правага берага Нёмана ў самым цудоўным на свеце прыродным кутку. Тут Анатоль спазнаў першыя словы, першыя літары, тут прыйшло першае каханне. Тут усё было першым. Але ў І7-гадовым узросце жыццё прымусіла пакінуць гэты багаты, цудоўны, жыватворны край.

Анатолю Куляшу прыйшлося пачаць вучобу ў польскай школе першай ступені з адным настаўнікам. Выкладанне прадметаў вялося толькі на польскай мове.

У шосты клас Анатоль пайшоў ужо пасля вайны - 1 кастрычніка 1944 года - у Лідскую СШ №1. Праляцелі 4 гады. Паўстала пытанне: як быць далей пасля заканчэння сярэдняй школы? У гэты час з-за недахопу настаўнікаў сельскіх школ, у Лідскай педнавучальні была адкрыта "спецгрупа" па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў з гадзічным тэрмінам навучання. Туды прымалі слухачоў, якія мелі сярэднюю і дзевяцікласную адукацыю. Шмат што вабіла туды вясковага хлопца: стыпендыя, інтэрнат, а галоўнае - праз год ты становішся самастойным чалавекам. Канчалася нястача, беднасць, галеча. Вучоба ішла лёгка, без напругі. Скончыўся год, мелі быць выпускныя дзяржаўныя экзамены. Перад тым адбылося "размеркаванне". Размеркавалі на працу ў Лідскую працоўную дзіцячую калонію МУС.

Праз год вылузаўся з калоніі і стаў настаўнікам матэматыкі Споркаўскай сямігодкі за 5-6 кіламетраў ад Ліды.

Летам 1951 года А.Ф. Куляшу прапанавалі пасаду другога сакратара райкама камсамолу і адначасова ўзначаліць аддзел прапаганды. А ў раёне поўным ходам ішла калектывізацыя аднаасобных гаспадарак у гаспадаркі калектыўныя – калгасы. Але гэта быў ужо не 1939 год. Што ўяўляюць сабой калгасы, сяляне добра ведалі. Таму, як маглі, супраціўляліся.

У гэты час (1951 г.) былі арыштаваны сябры і аднавяскоўцы А. Куляша за ўдзел у моладзевай патрыятычнай антысавецкай арганізацыі, але на яго ніхто не паказаў.

Праца ў камсамоле не задавальняла, а пайсці па асабістым жаданні з выбарнай пасады – партыйнай ці камсамольскай, савецкай – можна было двума шляхамі: здзейсніць злачынства, ці калі цябе не выбяруць на наступны тэрмін. Але А. Куляшу ўдалося з малымі стратамі зноў стаць настаўнікам, ужо ў Шайбакоўскай школе.

Шмат гадоў А. Кулеш прысвяціў краязнаўству. Яго ўдзел у краязнаўчай рабоце можна падзяліць на тры перыяды: знаёмства з родным краем у дзіцячыя і школьныя гады, у час збору матэрыялаў для напісання дыпломнай работы пры заканчэнні геаграфічнага аддзялення фізіка-геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на тэму "Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна" і ў час работы пазаштатным экскурсаводам Лідскага бюро падарожжаў і экскурсій.

У выніку шмат матэрыялаў апублікаваў у рэспубліканскіх, абласных і мясцовых перыядычных выданнях.

Працуючы настаўнікам геаграфіі ў школах горада, склаў фізіка-геаграфічны атлас раёна. У яго ўвайшлі фізіка-геаграфічная, геолага-геамарфалагічная карты, геалагічны разрэз і комплексны геамарфалагічны і раслінны профіль тэрыторыі раёна. Склаў гіпсаметрычную крывую рэльефу Лідскага раёна ахарактарызаваў рэжым рэк: Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі.

Нарэшце была выдадзена кніжка А. Куляша пад назвай "Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты" - папулярны гістарычна-геаграфічны нарыс

Працаваў у складзе рабочай групы па напісанні кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён". А яшчэ ў шуфлядзе А. Куляша на сёння тры нявыдадзеныя кнігі.

Вечная памяць і павага ад удзячных лідзян.

Няхай родная зямелька не будзе яму цяжкай.

***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2014 года

## Ганароваму сябру рады ТБК у Вільні Сяргею Карабачу - 90

*23 сакавіка 2014 года споўнілася 90 гадоў ганароваму сябру ТБК, навучэнцу беларускай Наваградкай настаўніцкай семінарыі, доктару медыцынскіх навук* ***Сяргею Карабачу****.*

*Ён адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага адраджэння ў Літве і вось ўжо на працягу чвэрці стагоддзя прымае актыўны ўдзел у віленскім беларускім жыцці. Не гледзячы на свой паважны ўзрост, сп. Сяргей і сёння з'яўляецца адным з самых актыўных беларускіх дзеячоў Вільні. Беларускасцю ён запаліўся яшчэ з маленства і пранёс яе праз усё жыццё. І сёння не забываецца на свае карані, бацькоўскую мову, цікавіцца падзеямі, якія адбываюцца на яго Радзіме і вельмі перажывае з-за таго, што Беларусь русіфікуецца, герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг дагэтуль фактычна пад забаронай. Але верыць, што Беларусь рана ці позна стане беларускай.*

*Сяргей Карабач нарадзіўся 23 сакавіка 1924 г. у* ***в. Яманты*** *на Лідчыне. З 1942 па 1944 гады навучаўся ў беларускай Наваградскай настаўніцкай семінарыі. З 1947 г. - у Вільні. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1989 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю і атрымаў навуковую ступень кандыдата медыцынскіх навук. У Літоўскай дзяржаве яго навуковая ступень была перакваліфікавана ў ступень доктара медыцыны.*

*З гэтай нагоды я завітаў у госці да шаноўнага юбіляра і мы за кубкам гарбаты паразмаўлялі з ім пра яго прабеглае жыццё і ўдзел ў жыцці беларускім.*

***- Адкуль у Вас з'явілася цікавасць да Беларусі?***

- Я нарадзіўся ў беларускай сям'і ў 1924 г., калі гэта тэрыторыя знаходзілася пад уладай Польшчы, мова ў нас была беларуская, а дзяржаўнай польскай мовай амаль не карысталіся, бо ведалі слаба. Самы першы такі цікавы момант быў, калі я пайшоў у школу, а яна была ў нашым доме (дом быў на два канцы, і адзін канец здалі пад школу). І я хадзіў цераз сені ў школу. Адзін раз я прыйшоў са школы і старэйшаму брату дэкламую: *"Кто ты естэсь, поляк малы, які знак твуй, ожел бялы..."* і г.д., а старэйшы брат пады-шоў да мяне і кажа: "Адкуль ты тут узяўся такі поляк? Ты не поляк". І гэта скончылася, я больш не дэклама-ваў гэты верш і больш не лічыў сябе палякам. А ў школе нам ніхто не казаў, што мы беларусы, усё было толькі на польскай мове.

Мая маці вельмі любіла чытаць. Кожны год, калі мы ехалі ў мястэчка на базар (часцей гэта было ўжо ў цёплыя часы, недзе ў сакавіку), яна заўсёды ішла



***Сяргей Карабач***

і купляла беларускі адрыўны каляндар у пані Янушэўскай з Вільні. А ўжо беларускі каляндар з'яўляўся для нас нейкай літаратурай. Я памятаю, яна яго чытала, як я быў малы, зачытвала вершы, напрыклад, Якуба Коласа. Я тады яшчэ не ведаў, хто такі Якуб Колас. І былі розныя цікавыя рэчы. І так з цягам часу і далучаўся да беларускасці. А пасля прыйшла савецкая ўлада, і адкрылі беларускія школы, да гэтага былі толькі польскія. Пайшоў я ў беларускую школу. Спачатку ў Беліцы скончыў 5 і 6 класы. А за часоў Польшчы я скончыў 6 класаў польскай школы ў Няцечы, там была вялікая вёска з касцёлам, 3 км ад маёй вёскі.

У той час сялянскія дзеці павінны былі вучыцца да 14 гадоў і да гэтага часу ўкласціся ў 4 класы. Атрымлівалася так, першы і другі клас па году, калі паспяваў, а ўжо ў трэцім класе сядзеў 2 гады, а ў чацвёртым, калі трэба было, то і тры гады сядзеў, каб дажыць да 14 гадоў.

Я адзін год адсядзеў у чацвёртым і пасля задаў пытанне бацьку, чаму я буду сядзець у тым самым класе ў другім годзе. Бацька кажа, ну што рабіць,

паедзем шукаць другой школы. Паехалі мы ў Беліцкую школу, але там нешта не атрымалася. Мой бацька быў добра знаёмы з ксяндзом Няцецкага касцёла і пайшоў да яго. Той і парадзіў, кажа, што ў Няцечы ёсць 6-класная школа, ідзіце туды. І я з татам пайшлі да дырэктара той школы, і мяне прынялі ў пяты клас. І я там скончыў пяты і шосты. І калі я скончыў шосты клас, распачалася вайна Польшчы з Германіяй, і прыйшла Чырвоная Армія. І вось калі прыйшлі чырвоныя, я восенню 1939 г. пайшоў у Беліцкую школу ў пяты клас, таму што ўзровень шостага класа польскай школы не адпавядаў шостаму савецкай. І да другой вайны, ужо з немцамі, я ў Беліцы скончыў 5 і 6 класы.

У 1941 г., калі пачалася вайна з немцамі, дырэктар школы ў Няцечы арганізаваў сёмы клас. Я ў яго паступіў і скончыў. Нас там было вельмі мала, спачатку 10, а пасля засталося толькі 7. Але мы скончылі 7 клас. І гэта мне дало магчымасць у 1942 г., калі дайшлі да нас весткі, што ў Наваградку адкрываецца настаўніцкая семінарыя, паступіць у яе. Спачатку назвалі яе інстытутам. Хаця, як пазней я даведаўся, там планаваўся інстытут, але на гэта не хапіла сіл, да таго ж немцы не далі згоды. І таму арганізавалі настаўніцкую семінарыю. І вось я цераз Дзятлава (а трэба было чамусь цераз Дзятлава) атрымаў туды накіраванне. Але ўжо не памятаю, чаму трэба было атрымоўваць цераз Дзятлава. Паехалі туды, і мяне прынялі ў першы клас семінарыі. У ёй вучыўся два гады: першы клас і ў 1944 г. скончыў другі, атрымаў пасведчанне аб заканчэнні яе ІІ курса і вярнуўся дадому, бо вярталіся бальшавікі, і трэці курс застаўся не закончаны - матуры (атэстат сталасці, *рэд.*) не атрымаў, бо гэтая адукацыя адпавядала 9 класам сярэдняй школы.

Цікава тое, што, як прыйшла савецкая ўлада зноў, нам трэбы было думаць, што рабіць. Па гадах мы падходзілі, каб ісці на фронт. І я з калегам, маім суседам, які вучыўся за часы немцаў у прагімназіі ў Вільні, вырашылі пайсці ў настаўнікі. Пайшлі ў Ліду ў гарана, і нас узялі настаўнікамі пачатковых школ і скіравалі ў вёскі. Я патрапіў у вёску за 10 км ад маёй, ужо не памятаю яе назвы. І я туды два разы хадзіў, ужо ўсё падрыхтаваў да школы, сабраў спісы дзяцей і г.д. Але да бацькі прыйшоў адтуль чалавек і сказаў, што калі ваш сын хоча арганізаваць беларускую школу, то няхай гэтага не робіць, таму што польская падпольная АК (Армія Краёва) гэтым не задаволена, таму няхай ён гэтага не робіць, а то будзе дрэнна. І мы, канешне, адмовіліся ад задумы стварыць школу.

Такая ж сітуацыя атрымалася і з маім калегам Хведарам Макарэвічам. І мы з ім пагаварылі і вырашылі пайсці ў гарана і сказаць ім пра гэта. Як мы прыйшлі і расказалі пра гэта, начальнік гарана раззлаваўся на нас і сказаў: "Пайшлі". І павёў нас у ваенкамат і аддаў нас ваенкаму. Так вось пасля няўдалага свайго настаўніцтва патрапіў у армію. Павезлі нас у запасны полк у Барысаў, там мы былі тры ці чатыры месяцы, і недзе ў канцы снежня нас павезлі на фронт. Я патрапіў у сапёрную частку. Прыехалі на фронт недзе ў студзені, былі маразы, холад. Выгрузілі нас на станцыі Менск-Мазавецкі, і мы пешшу пайшлі ў назначанае месца фронту. Далей быў фронт, Пiліца пад Варшавай, дайшлі да поўдня Варшавы. І так я дайшоў да Шчэціна, там мяне раніла 3 сакавіка, і я патрапіў у шпіталь і быў да канца чэрвеня. Шпіталь быў у Кёнігсбергу на Одэры. Там нам уручылі дакументы, што мы павінны пешшу ісці ў сваю частку. А мая частка знаходзілася недзе над Эльбай, у Людвіггафене. І мы пайшлі ў тым кірунку, каб патрапіць у частку. Два тыдні мы там блукалі, дзе ехалі, дзе ішлі. Нас была група чалавек 12. І пакуль мы дайшлі да месца, дзе павінна была быць наша частка, яе там не аказалася, яе перакінулі ў Японію. Так вось, каб не спазніліся, я мог бы яшчэ патрапіць і ў Японію. Адтуль мы пайшлі ў кірунку Берліна. Там нашы патрулі нас затрымалі і паслалі ў запасны полк пад Берлінам. Туды прыязджалі розныя камандзіры і набіралі спецыялістаў. Аднаго разу запатрабавалі сапёраў, і я патрапіў у сапёрную частку, якая стаяла ў Берліне. І там я фактычна дабыў да снежня 1945 г., калі мяне як настаўніка дэмабілізавалі дамоў.

Калі я вярнуўся дамоў, я пабачыў, што ў мяне там няма ніякіх перспектыў. Прыйшоў да нас брыгадзір калгаса і запатрабаваў, каб я цераз месяц ішоў у калгас. І я рашыў ісці куды-небудзь вучыцца. Пайшоў у Ліду, каб скончыць дзесяты клас, але была ўжо сярэдзіна навучальнага года, і дырэктар мне сказаў, што я 10 клас не скончу за паўгода. І я тады спаткаў сваіх знаёмых і з імі ўладкаваўся на другі курс педвучылішча. І там вучыўся да канца навучальнага года, а на наступны год паступіў у 10 клас Лідскай вячэрняй школы і яе скончыў у 1947 г. А паколькі гэта была школа для чыгуначнікаў, то экзамен на атэстат сталасці я здаваў і атрымаў у Баранавічах. І ў гэтым жа годзе паехаў у Вільню.

У Вільню прыехаў да свайго дзядзькі (брат маёй мамы). Усю вайну мы не ведалі, дзе яны, і што з імі. А ён прыслаў ліст, што ўсё з імі ў парадку, і свой адрас. Ну, я і паехаў яго наведаць і меў з сабой усе дакументы. Ён кажа, што можаш паспрабаваць тут, у Вільні, паступаць ва ўніверсітэт. Я пайшоў ва універсітэт і вырашыў паспрабаваць на медыцынскі факультэт, на яго і паступіў. Закончыў яго ў 1953 г.

***- А можаце зараз больш падрабязна расказаць пра Наваградскую семінарыю?***

- Самы цікавы перыяд майго жыцця гэта семінарыя. У ёй была спецыфічная атмасфера, дзе кавалася беларускасць, у вучняў выхоўваўся беларускі патрыятызм. І вельмі было цікава. Жылі мы на кватэрах, я змяніў некалькі кватэр. Цяжка было, асабліва з прадуктамі. Мне іх прывозіў бацька. Яму трэба было праехаць 23 км цераз лясы. Прыязджаў да мяне раз у месяц.

У семінарыі было вельмі цікава. Апроч вучобы ладзіліся вечарыны, была самадзейнасць, займаліся спортам, спартыўнымі гульнямі.

Былі вядомыя настаўнікі. Дырэктарам быў Пётр Скрабец, А. Анішчык выкладаў беларускую мову, Наталля Орса таксама выкладала беларускую мову, Гоцка - матэматыку і інш. Гэта была кузня беларускасці.

Шунько Міхась Матуральны курс 150 см.
Рулінскі М.. 2-курс 145 см.
Тэрлікоўскі А. 1-курс 140 см.
з дзяўчат:
Гутар Н. 1-курс 117 см.
Брынкевіч З. 2-курс 110 см.
Паза конкурсам:
Мацієўскі, К. 155 см.
Бузук Ю. 150 см,

Гэтае першае спаборніцтва выказала, што між вучнямі есьць шмат здольных спартсмэнаў і гэтым заахвоціла апошніх да зацікаўленьня спортам

**25.3.43. Урачыстасьць 25-тых угодкаў** абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі і 79-х угодкаў сьмерці К. Каліноўскага. Акадэмію наладзіў 3 курс. Праграма акадэміі наступная: 1) рэфэраты на тэмы: „Акт 25 сакавіка“ 2) „Кастусь Каліноўскі — першы змагар“. 3) Інсцэнізацыя паэмы Машары. „Сьмерць К. Каліноўскага.“ Людмілы і Сланеўскай Марыі.

Акадэмія закончылась агульным адсьпяваньнем „Беларусь Наша Маці Краіна“

**19. і 21. 4.43.** адбылося **спаборніцтва па лёгкай атлетыцы** вучняў Настаўніцкай Сэмінарыі, у якім удзельнічалі прадстаўнікі гораду. Гранатай, 700 грам з ручкай кінулі з хлапцоў Сэмінарыі:
Гарбацэвіч С. матур. курс 56, 75 м.
Каратай М. 2-курс 54, 20 м.
Леошко Л. 2-курс 52, 55 м.
Гранатай 500 грам із ручкай кінулі з дзяўчат:
Брынкевіч З. 2-курс 39' 88, якая гэтым кідам устанавіла рэкорд Наваградка.
Філон К. 2-курс 37 м.
Рауцкая Т. 1-курс 35 м.
Гранатай авальнай 700 грам хлапцы сэмінарыі:
Гарбацэвіч С. 65, 69 м.
Каратай М. 58, 58 м.
Карабач С. 57, 35 м.

***Натаатка ў беларускай газеце за 1943 г, дзе ўказана прозвішча С. Карабача, які заняў 3-я месца ў кіданні гранаты***

Было шмат таленавітых вучняў, усе пісалі штонебудзь, кожны другі быў паэтам. Пачалі выдаваць часопіс "Покліч", рэдактарам быў Анішчык. У мяне нават адзін экземпляр ёсць. І там друкаваліся многія навучэнцы семінарыі.

Адзін перыяд я жыў з Якубам Барысевічам. Яго брат Янка Барысевіч жыве ў Аўстраліі. І аднаго разу тут у нас праходзіў з'езд (дакладна не памятаю каго), на які прыехаў Янка Барысевіч, і мы там пазнаёміліся. І ён увесь час мяне распытваў пра брата Якуба, бо ў іх склалася трагічна. У 1944 г. немцы забралі іх сям'ю і вывезлі ў Нямеччыну, дзе Якуб Барысевіч працаваў на нейкай таксічнай фабрыцы, вельмі шкоднай для здароўя, і цераз тры месяцы памёр. А Барысевічы за час эміграцыі згубілі ўсе свае дакументы і фотаздымкі. І вось Янка спадзяваўся, што, можа, у мяне захаваўся братаў фотаздымак. У мяне быў адзін агульны фотаздымак, але недзе згубіўся. Я шукаю гэты альбомчык і не магу знайсці.

***- А якія адносіны былі з мясцовым насельніцтвам і палякамі?***

- Як я быў у семінарыі, там дзейнічаў эскадрон Рагулі, ён таксама выкладаў у семінарыі нямецкую мову, дык там было спакойна. А што тычыцца маёй роднай вёскі, то там была партызанка, спачатку савецкая, а пасля польская АК, якая там пасля ўсім запраўляла. Вельмі цяжка было. Быў такі момант. Тыя, з каторымі я вучыўся ў Няцечы, пайшлі ў партызаны (яны былі каталікі-палякі). Адзін з іх зайшоў да нас да хаты і пытаўся, дзе я і чаму не іду ў іх партызанку. Бацькі адказалі, што я вучуся. Той тады пачаў патрабаваць, каб мяне выклікалі адтуль, з тым, каб забраць у АК. Бацькі пачалі прасіць, каб далі мне давучыцца. І яны адчапіліся. А так наогул многіх бралі з нашай вёскі ў АК і не пыталіся, хочуць яны ці не.

А на Лідчыне, дзе мая родная вёска, у 1942-44 гг. дзейнічала савецкая партызанка, зарганізаваная з былых ваеннапалонных, якіх немцы спачатку рассялілі па вёсках. Затым у яе ўваходзілі і мясцовыя жыхары, часта змушаныя пад абставінамі, створанымі партызанамі. Скажам так, абстраляюць або заб'юць немца каля вёскі, і немцы з помсты паляць вёску, і насельніцтва збягае ў лес і да т.п.

Цераз некаторы час на Лідчыне ўзнікла і польская партызанка - Армія Краёва (АК, белая). Яна мела нядрэнныя адносіны з немцамі, атрымоўвала зброю і ваявала супраць савецкай (чырвонай) партызанкі. Зразумела, што наведвалі вёскі і адны, і другія, і па даносах, хто з кім мае сувязь (хацеў ці не хацеў, ніхто не пытаўся), то другі бок прымяняў рэпрэсіі - расстрэльвалі, палілі. Так, у нашай вёсцы трох мужчын за сувязь з чырвонай партызанкай АК-аўцы застрэлілі і спалілі. Чырвоныя, у сваю чаргу, рабілі тое самае. Так, у Няцечы прыйшлі ў школу, дзе я раней вучыўся, да дырэктара Ю. Раабэ. Ён, праўда, здагадаўся пра мэту іх прыходу. Адкрыў дзверы свайго пакоя, упусціў чырвоных партызан і дзверы замкнуў на ключ, схапіў дачку і ўцёк у лес. Засталася жонка (настаўніца) і маладая настаўніца беларускай мовы (школа дзейнічала пры немцах), застрэлілі іх і спалілі ў школе. Школа была вялікая, прыгожая - палілі, каб немцы не арганізавалі ў ёй умацавання супраць партызан.

АК на Лідчыне вынішчала беларускую інтэлігенцыю і дзеячоў - было застрэлена шмат чалавек. У нашай вёсцы жыў (і быў родам з яе) настаўнік Пётра Зайка, вучыў некалі дзяцей дома па-беларуску і расейску, а яго дачка Шура настаўнічала ў в. Сялец над Нёманам. Дык хтосьці аб гэтым данёс АК-аўцам. Яны прыйшлі і забралі іх, вывезлі ў лес і расстралялі.

Для жыхароў вёскі быў вельмі цяжкі і складаны час. Трэба было і накарміць, і напаіць і белых, і чырвоных. Выжылі толькі таму, што не было калгасаў, самі гаспадарылі.

***- Можа, даводзілася сустракацца з кімсьці з беларускіх святароў у той час?***

- У Беліцы быў святар Краўчанка. Як я разумею,

што беларус, бо як пачала дзейнічаць АК, ён схаваўся, баяўся, што АК яго магла ліквідаваць.

У Наваградку мы, як студэнты семінарыі, хадзілі арганізавана калі-некалі ў царкву. Там быў таксама беларускі святар. Ён пазней стаў біскупам, але я не памятаю яго прозвішча. Гэта быў адзін з актыўных беларускіх дзеячоў.

Як я пасяліўся ў Вільні ў дзядзькі на Зарэччы (а на Зарэччы жыў кс. Станкевіч), дык я часта, бегучы на заняткі, спатыкаў кс. Станкевіча. У той час мог пазнаёміцца, але нейкая нясмеласць не дала, пра што вельмі шкадую. Некалькі разоў заходзіў у касцёл св. Міхала, дзе ён служыў. Некалькі разоў слухаў яго малебен па-беларуску. Пазней, калі канчаў, а, можа, ужо быў кончыўшы ўніверсітэт, мяне пазнаёміў Адольф Клімовіч з яго гаспадыняй Марыяй Шутовіч.

З Адольфам Клімовічам у гэты час мы былі ўжо добра знаёмыя. Ён працаваў арганістам у касцёле на Звярынцы пасля вяртання з ссылкі ў Сібір і прадаўжаў пісаць біяграфічны слоўнік беларускіх дзеячоў. І мы, каб атрымаць дадзеныя пра Аляксандра Карабача, сябра беларускай партыі сацыял-дэмакратаў, паехалі на Звярынец да яго жонкі і сястры. Але вельмі мала даведаліся, бо ўсе дакументы былі знішчаныя, а жонка па паходжанні расейка, відаць, мала цікавілася яго працай і дзейнасцю. Аб жыцці і дзейнасці на беларускай ніве Адольфа Клімовіча, блізкага супрацоўніка кс. Адама Станкевіча па партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, можна даведацца з кніжкі Міхася Казлоўскага "Нашчадак слаўных крывічоў".

І вось я заходзіў да яе (Марыі Шутовіч?) і некаторыя яго кнігі глядзеў. Там у яго ў складзе былі зваленыя кнігі, якія знішчаліся, дык яна сказала мне, што магу іх узяць. Дык я частку тых кніг забраў. І цяпер многім каму з нашых дзеячоў падараваў іх. А некаторыя ўжо рассыпаліся ад часу. Мяне яна пазнаёміла з настаўнікам з Клецкай гімназіі, я таксама хадзіў да яго. І зараз шкадую, што не пазнаёміўся з кс. Станкевічам. А так знаў яго, бачыў.



*Зянон Пазьняк і Сяргей Карабач*



*Сяргей Карабач (у цэнтры) на паседжанні ТБК у Вільні*



***Сяргей Карабач (крайні злева) на шэсці ў Вільні***

***- А ці шмат народу збіралася на службе ў кс. Станкевіча?***

- Ну так, сярэдне. У той жа час, ведаеце, саветчына была. Дык не вельмі многа хадзіла людзей, але хадзілі, былі ў касцёле, пераважна людзі старэйшага ўзросту.

***- А як Вы далучыліся да беларускага руху ў цяперашнія часы?***

- Я пастаянна падпісваўся на беларускія выданні: "Літаратура і мастацтва", "Полымя" і інш. А Валянцін Стэх на паштамце ўзяў дадзеныя, хто выпісвае тут беларускія выданні. І вось у 1988 г. я атрымаў ліст па-беларуску ад Стэха з запрашэннем прыйсці ў Палац прафсаюзаў на сустрэчу з беларусамі Вільні. Калі я прыйшоў у прызначаны час, то там спаткаў знаёмых беларусаў Л. Луцкевіча, А. Анішчыка і інш. Паколькі гэта была пара абвешчанай М. Гарбачовым перабудовы, то ўзнікла пытанне арганізацыі і рэгістрацыі беларускага клуба. Незадоўга падабралі назву і ў 1988 годзе зарэгістравалі беларускі клуб "Сябрына", старшынём якога стаў Мікола Махнач. Прапанова Л. Луцкевіча на старшыню не прайшла (быў рэпрасаваны). Клуб "Сябрына" рэгулярна ладзіў імпрэзы, у якіх я пастаянна ўдзельнічаў. У 1988 г. узнік Літоўскі фонд Культуры, які даваў магчымасць ствараць і рэгістраваць нацыянальныя суполкі. Тады і было арганізавана Таварыства беларускай культуры ў Літве, зарэгістраванае ў лютым 1989 г. у Міністэрстве юстыцыі. Старшынём быў абраны Хведар Нюнька, які на гэтай пасадзе знаходзіцца па сёняшні дзень. Праз год ці два я быў абраны ў раду ТБК, дзе і працую па сёняшні дзень. Узнікла праблема памяшкання для Таварыства. Была пададзена просьба атрымаць дамкі па вул. Жыгімонта, 12, якія належалі беларускім марыянам з Друі, і яны пасля доўгай правалочкі былі перададзены ТБК у Літве ў 1998 г.

***- На колькі мне вядома, Вы абаранялі дысертацыю. Калі ласка, колькі слоў пра гэта.***

- Працаваў я фтызіятарам, быў намеснікам па лячэбнай частцы рэспубліканскага туберкулёзнага дыспансера, і ў нас было цеснае супрацоўніцтва з інстытутам туберкулёзу Літвы. І там мне дырэктар праф. Ю. Гамперыс запрапанаваў пісаць навуковую працу, і я ўзяўся. Гэта была прафілактыка туберкулёзу, і я пакрысе распрацоўваў гэтую тэму. Памалу ішла гэтая работа, але давёў яе да канца, і ў 1989 г. абараніў гэтую кандыдацкую дысертацыю, і пасля, калі Летува стала незалежнай дзяржавай, была праведзена настрыфікацыя дыпломаў, я стаў доктарам медыцынскіх навук. Працуючы ў рэспубліканскім супрацьтуберкулёзным дыспансеры на адміністрацыйнай і лячэбнай працы, пісаў і друкаваў у часопісах навуковыя артыкулы, удзельнічаў у канферэнцыях з навуковымі і практычнымі дакладамі.

***- Які лёс беларускасці ў Вільні на Ваш погляд?***

- Вельмі складанае пытанне. Я б сказаў, Таварыства беларускай культуры многа рабіла да гэтага часу, і хацелася б, каб не згас гэты агеньчык, які быў, каб засталася гэтая праца, якую тут зрабілі беларусы. Кепска, што гэты рух раз'яднаўся, няма кансалідацыі. І гэтыя сілы, якія ёсць, мусяць аб'яднацца. І гэты рух павінен ісці наперад, больш увагі ўдзяляць да агульнабеларускай дзейнасці, пашыраць яе сярод беларусаў Віленшчыны.

*Размаўляў*
***Алесь Адамковіч.***

# Лідчына ў 2013 годзе

**Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.М. Астроўскага 28.02.2014 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў працы за 2013 г.**

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Традыцыя аналізаваць вынікі працы за адпаведны перыяд застаецца актуальнай ва ўсе часы. Такі аналіз дазваляе зразумець, дзе мы былі паспяховыя, а што не атрымалася і трэба скарэктаваць у наступным годзе.



Сёння, падводзячы вынікі мінулага 2013 года, нам трэба адказаць на наступныя пытанні:

Што было зроблена з запланаванага?

Што было не зроблена з пастаўленых планаў і чаму?

Чаму мы навучыліся за гэты год?

Паколькі наш раён адрозніваецца развітай прамысловасцю, пачнём з аналізу якасці працы менавіта гэтага комплексу.

За 2013 год прадпрыемствамі раёна выпушчана прадукцыі на суму амаль 7 трыльёнаў рублёў. Гэта на 16% больш чым у 2012 годзе.

У сярэднім, у месяц, мы вырабляем прадукцыі на суму 60 млн. дол. ЗША.

Павялічаны выпуск па многіх відах сельскагаспадарчай тэхнікі. У 2,5 разы павялічаны выпуск комплексаў для доўгачасовага захоўвання збожжа. Вытворчасць аўтобусаў узрасла ў 1,7 раза.

За мінулы год аб'ём адгружанай інавацыйнай прадукцыі склаў амаль 840 млрд. рублёў. Удзельная вага яе ў агульным аб'ёме адгрузак - больш за 13%. Гэта досыць высокі паказчык. І цешыць, што ён захоўваецца (а часам і перавышаецца) на працягу апошніх пяці гадоў.

У шэрагу арганізацый удзельная вага адгружанай інавацыйнай прадукцыі складае 50 і больш адсоткаў. Да прыкладу, "Лідсельмаш" - 60%, Мінойтаўскі рамонтны завод - 57,3%, Лідскія аўтобусы "Нёман" - 87,6%. Больш за 20% - у завода "Оптык", "Белтэкс Оптык", "Лідабудканструкцыя".

Лідскія аўтобусы "Нёман" выпрабляюць тэхніку з рухавіком "Еўра-3" і "Еўра-4". "Лідсельмаш", "Аграпраммаш" вырабляюць сельскагаспадарчую тэхніку новага пакалення. "Аграпраммаш" асвойвае вытворчасць жатак для ўборкі соі, збожжаўборачнага камбайна на паўтракавым ходзе.

У рамках распрацоўкі новых перспектыўных матэрыялаў арганізавана вытворчасць лакафарбавай прадукцыі з шэрагам замежных фірмаў для машынабудаўнічай галіны. На "Харчовых канцэнтратах" асвоена вытворчасць новых прыпраў і комплексных харчовых дадаткаў.

"Каскад" выпрабляе эксклюзіўную святлотэхнічную прадукцыю. У 2013 г. іх вырабы ўсталяваны ў Палацы Незалежнасці ў Менску і тэатры імя Янкі Купалы, "Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета". Прадпрыемства працуе на аб'ектах рэстаўрацыі Беларусі.

"Ліпласт" у мінулым годзе асвоіў выпуск чыгуначных мачтавых святлафораў, карпусоў электрычных шчытоў. У гэты час асвойвае вытворчасць абліцоўвання трактароў для Менскага і Смаргонскага заводаў; аўтобуса МАЗ-232.

Па выніках працы за 2013 год "Малочна-кансерваваму камбінату" прысуджана прэмія Ўраду Рэспублікі Беларусь "За дасягненні ў вобласці якасці".

У верасні 2013 года пабудавана фабрыка па вытворчасці макаронных вырабаў магутнасцю 20 тысяч тон у год на "Лідахлебапрадукце".

Дынамічна развіваецца знешнеэканамічная дзейнасць. За 2013 год прадпрыемствамі раёна экспартавана прадукцыі на суму амаль 430 млн. дол. ЗША. Для параўнання магу сказаць, што пяць гадоў назад сума экспарту складала 170 млн. дол. ЗША.

Пашырана геаграфія экспартных паставак. Калі ў 2005 годзе прадукцыя прадпрыемстваў раёна пастаўлялася ў 53 краіны свету, то ў 2013 годзе ўжо ў 70. Гэта: усе краіны СНД, Прыбалтыкі, а таксама Нямеччына, Егіпет, Польшча, Турцыя, Аўстрыя, Італія, Харватыя, Грузія, Ізраіль, ЗША, Іран, Францыя, Румынія, Ліван, Вугоршчына, Фінляндыя, Балгарыя і шматлікія іншыя.

Упершыню ў 2013 году адгружана прадукцыя ў Бангладэш, Саудаўскую Аравію, Сінгапур, Чылі, Камерун.

Удзельная вага экспарту ў агульным аб'ёме вытворчасці - парадку 60%. У папярэднія гады было 30-35%.

Атрымана дадатнае сальда знешняга гандлю таварамі больш за 200 млн. дол. ЗША. Сума экспарту паслуг за мінулы год павялічылася на 17,3%.

Прыемна канстатаваць той факт, што многія кіраўнікі нашых прадпрыемстваў разумеюць, што жыццё не заканчаецца на адным выніку, што трэба ісці наперад да новых вынікаў і новых перамогаў. З мэтай

павышэння канкурэнтаздольнасці выробленай прадукцыі арганізацыямі раёна рэалізуюцца планы па мадэрнізацыі вытворчасцяў.

Пазначу найважнейшыя праекты:

- на "Лідсельмашы" (генеральны дырэктар Вашкевіч Юры Эдвардавіч) уведзена яшчэ адна лінія па вытворчасці радыятараў;

- "Торфабрыкетны завод "Лідскі" (дырэктар Залескі Іван Пятровіч) завяршае будаўніцтва модульнага міні-завода;

- Малочна-кансервавы камбінат (генеральны дырэктар Эйсымант Андрэй Адамавіч) - халадзільна-кампрэсарны цэх;

- "Завод "Оптык" (дырэктар Галавач Тадэвуш Юзафавіч) працуе па трох кірунках: геаметрычная оптыка, валаконная оптыка", шкловарная вытворчасць;

- "Лакафарба" (дырэктар Сідараў Іван Пятровіч) мадэрнізуе вытворчасць фталевага ангідрыду;

- "Лідскае піва" (генеральны дырэктар Аўдрыюс Мікшыс) праводзіць маштабную рэканструкцыю вытворчасці. У 2013 годзе ўведзены лагістычны цэнтр.

Працягваюць мадэрнізацыю дзейных вытворчасцяў прадпрыемствы малога і сярэдняга бізнэсу: "Ліпласт-СПБ", "Белтэкс-Оптык", "Каскад", "Белпласт-Інтэрнэшнл". Кіраўнікі: Рышкевіч Ігар Міхайлавіч, Рабінчук Сяргей Валер'евіч, Ус Іван Іванавіч, Вялікін Анатоль Леанідавіч.

У эканоміку раёна за кошт усіх крыніц фінансавання прыцягнута 1,6 трыльёна рублёў інвестыцый.

Ад замежных фундатараў паступіла больш за 30 млн. дол. ЗША, у тым ліку прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове - 11,5 млн. дол. ЗША.

Дарагія сябры!

Вядома, заўсёды прыемна казаць пра добрыя вынікі. Аднак нельга заплюшчваць вочы на тыя моманты, дзе ў нас атрымліваецца не ўсё так, як хацелася б. Ведаю, што ў зале прысутнічаюць людзі, чыя зарплата ці ўмовы працы пакідаюць жадаць лепшага.

На працягу года няўстойліва працуюць завод электравырабаў (дырэктар Радкоў Георгій Аляксандравіч), ліцейна-механічны завод (дырэктар Трубіцкі Раман Эдуардавіч). Вядома, не ўсё залежыць ад кіраўніцтва і калектыва. Неаднаразова звярталіся ў іх галаўныя арганізацыі: завод імя Казлова і Менскі маторны завод па забеспячэнні прадпрыемстваў замовамі. Аднак вырашыць пытанні па стабілізацыі працы прадпрыемстваў пакуль не ўдалося.

У другой палове мінулага года не ў поўнай меры забяспечвалася сыравінай "Лакафарба". Сёлета варта сканцэнтраваць увагу на эфектыўным выкарыстанні маёмасці і загрузцы магутнасцяў "Лідабудканструкцыі".

Мелі месца сур'ёзныя нявырашаныя праблемы на абутковай фабрыцы, Лідлёне, шэрагу сельгаспрадпрыемстваў і як вынік - змена кіраўніцтва.

Трэба прызнаць, што ў асобных арганізацыях недастаткова эфектыўна працуюць і службы маркетынгу, інжынерна-тэхнічныя працаўнікі, маюцца недагляды па рэкламаванні і прасоўванні прадукцыі. Пакідае жадаць лепшага яе якасць. Бо з кожным годам канкурэнцыя не толькі ў Беларусі, але і на замежных рынках расце. І працей не становіцца.

З упэўненасцю можна сказаць, што патэнцыял Лідчыны не вычарпаны. У 2014 г. дзейнасць будзе накіравана на далейшае замацаванне выраблянай у раёне прадукцыі на вонкавых рынках і павелічэнне паставак за межы рэспублікі.

Найважнейшым кірункам застанецца прыцягненне замежных інвестыцый. Ужо сёлета ў нас ёсць два рэальныя праекты: тэхнічнае пераўзбраенне і мадэрні-зацыя Лідскага ветсанутыльзавода. Падпісаны інавацыйная дамова з літоўскай кампаніяй "Арві". У 4-м квартале плануецца ўвод у дзеянне вытворчасці. Пры ўдзеле той жа кампаніі будзе будавацца птушкакомплекс па вытворчасці мяса індычкі. Будзе працягнута тэхнічнае пераўзбраенне "Лідскага піва".

Нашай задачай сёлета з'яўляецца максімальна магчымая падтрымка развіцця малога бізнэсу. Створаны пералік участкаў для прадстаўленне пад развіццё вытворчасці для арганізацыі недзяржаўнага сектара.

Якасць прадукцыі - гэта справа гонару кожнага вытворцы. Таму што гэты фактар працуе не толькі на імідж арганізацыі, рэгіёна, але і краіны ў цэлым.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Адным з крытэраў нашай паспяховасці з'яўляецца наша пакупальніцкая здольнасць.

Аб'ём рознічнага таваразвароту праз усе каналы рэалізацыі па раёне за 2013 г. перавысіў 3,8 трлн. рублёў (тэмп росту - 118,2 %).

Таваразварот на аднаго жыхара склаў амаль 30 млн. рублёў. У крэдыт насельніцтву прададзена тавараў на суму каля 60 млрд. рублёў.

Пасля праведзенай рэканструкцыі адкрыты крама "Еўраопт" па вул. Гагарына, "Родны кут" аблспажыўтаварыства па пр. Перамогі, гандлёвы цэнтр ТАА "Энарг" па вул. Перамогі.

Усяго ў 2013 годзе адкрыта 59 крам і павільёнаў з гандлёвай плошчай амаль на 5,5 тыс. м$^2$ і 5 аб'ектаў грамадскага сілкавання на 165 месцаў.

У мэтах прыцягнення турыстаў, якія наведваюць наш рэгіён, павышэння аб'ёму рознічнага таваразвароту, павелічэння прытоку замежнай валюты, а таксама павышэння іміджу нашай дзяржавы ў цэлым са снежня 2013 г. крама "Дом гандлю" (дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч) падключана да сістэмы звароту падатку на дабаўленую вартасць Tax Free.

У сакавіку бягучага года плануецца адкрыццё сеткавай крамы Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства па вул. Тухачэўскага.

Вядзецца будаўніцтва 2-х гандлёвых аб'ектаў буйнога фармату па вул. Касманаўтаў і вул. Міцкевіча.

Вы бачыце, колькасць гандлёвых і побытавых аб'ектаў з кожным годам у нас расце. Я разлічваю на тое, што канкурэнцыя будзе спрыяць павышэнню якасці паслуг і разумнаму цэнаўтварэнню.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Напэўна, самай складанай і непрадказальнай па чаканых выніках галіной з'яўляецца сельская гаспадар-

ка. Мінулы год па ўмовах надвор’я быў для сельскагаспадарчых арганізацый раёна вельмі складаным. У выніку, па прычыне недабору прадукцыі раслінаводства, тэмп росту па вытворчасці валавай прадукцыі склаў толькі 95%, пры прагнозным паказчыку на год - 108,6%. Усяго выраблена прадукцыі на суму больш за 580 мільярдаў рублёў.

Летась сабраны добры ўраджай рапсу і цукровых буракоў.

Атрымана больш за 8 тысяч тон насення рапсу, што больш да ўзроўню 2012 года на 12%.

Ураджайнасць гэтай культуры вышэй за абласны паказчык на 6%, у сярэднім па раёне з 1 гектара сабрана 20,7 цэнтнера насення. 29 цэнтнераў атрымаў саўгас "Лідскі", філіял "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" - 24,3; СПК "Пескаўцы" - 22,8; СПК "Бердаўка-Агра" - 22,2 цэнтнера з 1 гектара.

Валавы збор цукровых буракоў узрос на 7%, і склаў 72 тысячы тоны. Ураджайнасць карняплодаў склала 400 цэнтнераў.

У пяці гаспадарках: СПК "Бердаўка-Агра", "Беліца-Агра", "Пескаўцы", саўгасе "Лідскі" ўраджайнасць вышэй за раённы паказчык.

Вытворчасць бульбы склала амаль 15 тысяч тон, з аднаго гектара накапана 264 цэнтнеры, што вышэй на 8 цэнтнераў у параўнанні з абласным паказчыкам. Адна з самых высокіх у вобласці атрымана ўраджайнасць бульбы ў саўгасе "Лідскі", якая склала 324 цэнтнеры з 1 гектара.

За 2013 год сельскагаспадарчымі арганізацыямі на развіццё эканомікі было скарыстана 216,7 мільярда рублёў інвестыцый, тэмп росту да адпаведнага перыяду 2012 года склаў 142%.

Былі ўведзены ў эксплуатацыю дзве новыя малочна-таварныя фермы на 777 дойных кароў у СПК "Ходараўцы-Агра" і СПК "Пескаўцы".

Завершана рэканструкцыя, мадэрнізацыя і тэхнічнае пераабсталяванне першых пускавых комплексаў на 5-ці малочна-таварных фермах (МТФ "Агароднікі” СПК "Бердаўка-Агра", МТФ "Дылева" СПК "Світанак-Мыто", МТФ "Ганчары” СПК "Беліца-Агра", МТФ "Ёдкі" СПК "Ёдкаўскі", МТФ "Більтаўцы" ЛРСУП "Мажэйкава").

Эфектыўнасць галіны жывёлагадоўлі залежыць як ад кармавой базы, так і ад эфектыўнасці заветэрынарнай службы. Таму нас чакае вялікая праца па прыцягненні высокакваліфікаваных спецыялістаў гэтага кірунку.

Рэалізацыя інвестыцыйных праектаў у жывёлагадоўлі дазволіла сельскагаспадарчым арганізацыям да канца 2013 года на ўсіх (11-ці) мадэрнізаваных малочна-таварных фермах сканцэнтраваць 6 тысяч галоў кароў ці 46% ад усяго дойнага статка. Аднак пакуль, нажаль, належнага эфекту мы не маем. Для гэтага неабходна: павялічыць прадуктыўнасць дойнага статка і палепшыць якасць выробленага малака да ўзроўню "экстра", што дазволіць атрымаць на кожнай тоне дадатковую выручку ў памеры 1 млн. рублёў.

У 2013 годзе філіялам "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" была праведзена рэканструкцыя птушнікаў па гадоўлі бройлераў, што дазволіла павялічыць вытворчасць мяса птушкі ў 3,5 разы і атрымаць дадатковую выручку ў суме 12 мільярдаў рублёў.

У мэтах аптымізацыі сезоннага збыту прадукцыі раслінаводства праведзена рэканструкцыя чатырох бульбасховішчаў (СПК “Ёдкі", СПК "Ходараўцы-Агра", ЛРСУП "Мажэйкава", РСУП "Саўгас "Лідскі").

Рэканструкцыя лікёра-гарэлачнага цэха сельскагаспадарчага прадпрыемства "Мажэйкава" дазволіла атрымаць дадатковую выручку ў суме 6,8 мільярда рублёў.

Хачу адзначыць, што ў нашым раёне развіваецца і прыватная форма земляробства. Адным з такіх прадпрымальнікаў з'яўляецца Арлавец Іван Тадэвушавіч. Агароднінную прадукцыю яго фермерскай гаспадаркі круглы год вы бачыце на прылаўках крам. Хочацца, каб такіх гаспадароў было больш на Лідскай зямлі.

Дарагія сябры!

Кажуць, што людзі часта застаюцца самотнымі таму, што будуюць сцены замест мастоў.

Нашы будаўнікі будуюць нам хаты і вытворчыя памяшканні, каб мы жылі і працавалі ў камфортных умовах. А, значыць, былі дабрэй і памяркоўней адзін да аднаго, знаходзілі час і мелі жаданне мець зносіны.

За 2013 год прадпрыемствамі будаўнічага комплексу, а таксама грамадзянамі пабудавана больш за 1000 кватэр. Гэта 9 жыллёва-будаўнічых кааператываў, сацыяльны дом у г. Бярозаўцы, камерцыйны жылы дом па вул. Тухачэўскага, 26 кватэр у сельскагаспадарчых арганізацыях і 287 кватэр індывідуальных забудоўшчыкаў.

Вялікі аб'ём па добраўпарадкаванні, рамонце і тэхнічным абслугоўванні жыллёвага фонду выкананы Лідскім ГУП ЖКГ.

Прыводзіліся ў парадак дваровыя тэрыторыі: уладкованы дзіцячыя гульнявыя, спартовыя і гаспадарчыя пляцоўкі, пашыраны праезныя часткі, вызначаны дадатковыя паркавальныя месцы для аўтатранспарту, праведзена рэканструкцыя вонкавага асвятлення. Сёлета гэтыя працы працягваюцца.

У наш час у мікраражне жылой забудовы па вул. Гастэла заканчваецца будаўніцтва дзіцячага саду на 230 месцаў, вядуцца працы па рэканструкцыі сярэдняй школы № 1 па вул. Кірава. У стадыі завяршэння рэканструкцыя былой прафтэхвучэльні "Нёман" пад вучэльню Алімпійскага рэзерву па вул. Жукава.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

На падтрымку сацыяльнай сферы ў нашым раёне ў 2013 г . выдаткавана 624,4 млрд. рублёў - гэта больш за 67% раённага бюджэту.

Гэта сапраўды вялікія грошы, але гэтыя ўкладанні апраўданы. Мяркуйце самі:

Па выніках абласных, рэспубліканскіх і міжнародных фэстаў, аглядаў, конкурсаў, спаборніцтваў лідскімі навучэнцамі заваявана 1215 прызавых месцаў.

91 дыплом атрыманы на абласных прадметных алімпіядах, 25 - на рэспубліканскіх. Гэта лепшы вынік сярод раёнаў Гарадзенскай вобласці.

Навучэнцы Лідскай гімназіі Ракуць Мікіта і Швакель Ксенія сталі пераможцамі алімпіяды саюзнай дзяржавы "Расія і Беларусь: гістарычная і духоўная агульнасць".

Вядучыя пазіцыі па якасці адукацыі не толькі ў раёне, вобласці, але і ў рэспубліцы займае гімназія №1 г. Ліды (дырэктар Зайцава Наталля Андрэеўна). Калектыў установы па выніках працы за 2013 год узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Цешаць поспехі лідскіх выпускнікоў на цэнтралізаваным тэставанні. З 24 стобальных сертыфікатаў, атрыманых выпускнікамі вобласці, 7 - у лідскіх навучэнцаў, пры гэтым Тузіна Кацярына, выпускніца Лідскай гімназіі, атрымала стобальныя сертыфікаты па двух прадметах.

Апанасенка Ларыса Мікалаеўна, настаўнік хіміі гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, стала адным з лепшых педагогаў у рэспубліцы па выхаванні культуры энергазахавання ў навучэнцаў.

У 2013 годзе Лідскі раён стаў пераможцам (1 месца) абласнога этапу рэспубліканскага агляду-конкурсу дзіцячай творчасці "Дабрыдзень, свет!".

Варта адзначыць актыўнае супрацоўніцтва навучальных арганізацый з грамадскімі аб'яднаннямі ветэранаў афганскай вайны і ваенных маракоў. У выніку ў лютым мінулага года ў сярэдніх школах №11 і №10 адкрыліся адпаведныя музейныя экспазіцыі.

Нашы спартоўцы, выступаючы на спаборніцтвах рознага ўзроўню, у тым ліку і міжнароднага, паказваюць стабільна высокія вынікі, даказваючы, што Лідская зямля была і застаецца багатай на спартовыя таленты. Можна адзначыць дасягненні:

- Паўла Шурмея, які заняў I месца на чэмпіянаце Еўропы і II месца на чэмпіянаце Свету па веславанні;
- Карыны Шыпіла, што заняла III месца на першынстве Еўропы па акадэмічным веславанні сярод юніёраў;
- Іны Роік, якая заняла II месца на Еўразійскіх юнацкіх спартовых гульнях па вольнай барацьбе;

У 2013 г. чэмпіёнамі Рэспублікі Беларусь сталі: Наталля Карэйва - лёгкая атлетыка, Валер Паленскі - - вольная барацьба, Віталь Горшва і Яўген Крывашэй - акадэмічнае веславанне;

Усяго нашымі спартоўцамі заняты 183 прызавыя месцы на спаборніцтвах рэспубліканскага і 660 - абласнога рангу.

Тым не менш, на мінулай зімовай алімпіядзе лідзян у нацыянальнай камандзе не было. Але ў нас ёсць яшчэ чатыры гады - вялікае поле дзейнасці для нашых трэнераў і спартоўцаў. Тым больш, што матэрыяльная база ў нас адпавядае высокім стандартам.

Дарагія сябры!

Добра, калі людзі займаюцца справай па душы. Тады і вынікі цешаць усіх. Святочныя мерапрыемствы мінулага года, асабліва ярка - 690-годдзе г. Ліда, у чарговы раз паказалі велізарны творчы патэнцыял лідзян. Як сказаў адзін з нашых замежных гасцей: "Сапраўдную Беларусь я ўбачыў у Лідзе".

Па выніках працы за 2013 г. лепшымі ў вобласці прызнаны: Раённы Палац культуры (дырэктар Тур Ірына Эдуардаўна), Цэнтральная раённая бібліятэчная сістэма (дырэктар Саўсян Ірына Іванаўна), Лідская дзіцячая мастацкая школа (дырэктар Грышкевіч Валянціна Сяргееўна), Лідскі дзяржаўны музычны каледж (дырэктар Серакова Алена Віктараўна).

Другое месца ў вобласці занялі: Лідскі гістарычна-мастацкі музей (дырэктар Драб Ганна Мікалаеўна) і раённы метадычны цэнтр (дырэктар Беразун Ірына Яўгенаўна).

Дэбютам мінулага года па праве можна назваць Ксенію Малачко, выхаванку Бярозаўскага Дома культуры, якая годна прадставіла Лідчыну на рэспубліканскім конкурсе "Спеўныя гарады".

Па заканчэнні афіцыйнай часткі сходу творчыя калектывы Лідчыны яшчэ раз пакажуць свой талент і жаданне ствараць нам добры настрой.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Я рады, што праведзеныя мерапрыемствы, немалыя фінансавыя сродкі, накіраваныя на сацыяльную абарону грамадзян, даюць станоўчыя вынікі.

Упершыню за апошнія 20 гадоў натуральны прырост насельніцтва ў 2013 годзе ў Лідскім раёне склаў "+"64 чал., у аналагічным перыядзе 2012 г. натуральнае змяншэнне насельніцтва складала "-"69 чал. За 2013 год у раёне нарадзілася 1 838 дзяцей, гэта на 54 дзяцей больш, чым у 2012 годзе. Смяротнасць зменшылася на 79 чалавек ці 4,3%.

Шмат у чым гэтым падзеям садзейнічае паляпшэнне медыцынскага абслугоўвання. Летась адкрыты другія кардыялагічнае аддзяленне і аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі. Завершаны рамонт Першамайскай участковай лякарні, кардыялагічнага і траўматалагічнага аддзяленняў.

Прыярытэтнай задачай бягучага года з'яўляецца забеспячэнне напаўнення раённага бюджэту для таго, каб вырашаць праблемы лідзян. А менавіта: далейшая рэканструкцыя аддзяленняў цэнтральнай раённай бальніцы, гарадскіх устаноў адукацыі, добраўпарадкаванне дваровых тэрыторый, вуліц, капітальны рамонт жыллёвага фонду.

Аднак гэты год пачынаецца складана. Многія арганізацыі паказваюць страты, а гэта значыць, што трэба перагледзець свае прыярытэты, завяршыць пачатыя праекты, суцішыць свае апетыты, навучыцца жыць у сучасных умовах.

Адмысловыя патрабаванні да супрацоўнікаў сілавых структур. Нажаль, па ранейшаму маюць месца факты страт на пажарах, не змяншаецца ўзровень злачыннасці. Гэта трывожны званок. І сёлета мы проста абавязаны змяніць сітуацыю.

Тым больш, што нашы вайскоўцы заўсёды адрозніваліся высокай баявой і палітычнай падрыхтоўкай. Напрыклад, лётчыкам 116-й авіяцыйнай базы даўно стала па сілах выкананне складанага манеўру - пасадка на аэрадромны ўчастак дарогі, годна яны выявілі сябе ў стратэгічных вучэннях "Захад-2013",

якія праводзіліся сумесна з Узброенымі Сіламі Расійскай Федэрацыі. Лідскімі памежнікамі ў 2013 г. затрыманы больш за 50 парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы і 500 парушальнікаў памежнага заканадаўства, а таксама таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў, прызначаных для незаконнага ўвозу-вывазу, на суму больш за 10 млрд. рублёў.

Падзеі, якія адбываюцца ў сумежных і далёкіх ад нас краінах паказваюць, наколькі далікатны свет. Давайце на іх памылках вучыцца берагчы тое, што мы маем. Менш за месяц засталося да завяршэння выбарчай кампаніі па выбарах дэпутатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Я прашу вас адказна паставіцца да свайго выбарчага права і прыняць удзел у галасаванні. Спадзяюся, што новы дэпутацкі склад будзе працаздольным і ініцыятыўным, дапамагаць уладам вырашаць вашы запыты.

Дарагія сябры!

Жыццёвыя сітуацыі часам прымушаюць нас знаходзіцца на грані. Але ў роўнай ступені на грані правалу і на грані поспеху. Усё залежыць толькі ад таго, што мы зрабілі да таго, як падысці да гэтай грані.

Быць можа, мінулы год атрымаўся не такім, як хацелася б, але, адназначна, ён прынёс нам досвед. А досвед - неацэнны. Калі мы жадаем дамагчыся іншых вынікаў, значыць трэба навучыцца дзейнічаць паіншаму. Давайце скарыстаемся назапашанымі навыкамі. Будзем ствараць сваё жыццё самастойна, вучыцца браць на сябе адказнасць за сваё жыццё і дасягаць жаданых мэтаў.

---

| ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | ЛИДСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ |
|---|---|
| РАШЭННЕ | РЕШЕНИЕ |
| ___ февраля 2014 г. № | |
| г. Ліда, Гродзенская вобл. | г. Лида, Гродненская обл. |

## Пра вынікі спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2013 годзе

Абмеркаваўшы вынікі працы прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2013 год, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

**1. Уручыць Ганаровы дыплом першай ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 7 (сем) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:**

прамысловасці - ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты" (генеральны дырэктар Кіжук Аляксандр Яўгенавіч);

будаўніцтва - даччынаму прадпрыемству "Лідская ПМК-169" Гарадзенскага абласнога ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд" (дырэктар Лабецкі Ўладзімір Уладзіслававіч);

гандлю - унітарнаму камунальнаму прадпрыемству Крама №1 "Дом гандлю" (дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч);

адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліда" (дырэктар Фанасаў Сяргей Анатолевіч).

**2. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:**

аховы здароўя - атарыналарынгалагічнаму аддзяленню ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (загадчык Палонская Наталля Іванаўна);

за працу па добраўпарадкаванні дваровых тэрыторый і ўтрыманне жыллёвага фонду - Лідскаму гарадскому ўнітарнаму прадпрыемству жыллёва-камунальнай гаспадаркі (дырэктар Саўко Сяргей Янавіч);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - установе аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (галоўны лекар Эйсмант Генрых Эдмундавіч);

культуры - Лідскаму раённаму Палацу культуры (дырэктар Тур Ірына Эдуардаўна);

фізкультурна-аздараўленчай працы - дзяржаўнай установе "Лідская дзіцяча-юнацкая спартовая школа па хакеі з шайбай" (дырэктар Вострыкаў Юры Пятровіч).

**3. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый у сферы:**

прамысловасці - замежнаму прадпрыемству "Белтэкс Оптык" (дырэктар Рабінчук Валер Сяргеевіч);

сельскай гаспадаркі - фермерскай гаспадарцы "Арловец" Лідскага раёна (кіраўнік Арловец Іван Тадэвушавіч).

**4. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй**

**ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за першае месца сярод арганізацый у сферы:**

дашкольнай адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Яслі-сад № 7 г. Ліды" (якім кіруе Новік Аліна Іванаўна);

малога і сярэдняга бізнэсу - сумеснаму таварыству з абмежаванай адказнасцю "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" (генеральны дырэктар Вялікін Анатоль Леанідавіч);

сельскагаспадарчых падраздзяленняў: малочнатаварнай ферме "Далекія" філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" (загадчык Кацмаер Галіна Іосіфаўна).

**5. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за трэцяе месца сярод арганізацый у сферы:**

прамысловасці - ААТ "Лідаграпраммаш" (дырэктар Плаўскі Алег Альфрэдавіч).

**6. Занесці на раённую дошку Пашаны працаўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (трох) базавых велічынь:**

Бак Алену Анатольеўну - аператара малокасховішча кансервавага цэха ААТ “Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Белана Сцяпана Сцяпанавіча - наладчыка абсталявання аптычнай вытворчасці чацвёртага разраду замежнага прадпрыемства "Белтэкс Оптык";

Багатка Іяланту Зыгмундаўну - загадчыка дзяржаўнай установай адукацыі "Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці п. Дзітва";

Бутурля Галіну Станіславаўну - рабочую па комплекснай уборцы і ўтрыманні домаўласніцтваў жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 5 Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Вардзіса Ігара Мікалаевіча - трэнера-выкладчыка Лідскага філіяла ўстановы адукацыі "Гарадзенская дзяржаўная вучэльня алімпійскага рэзерву";

Вараноўскага Мар'яна Мар’янавіча - машыніста аўтагрэйдара дарожна-будаўнічага кіравання № 24 ААТ "Дарожна-будаўнічы трэст № 6";

Глыздову Тацяну Міхайлаўну - настаўніцу рускай мовы і літаратуры дзяржаўнай установы адукацыі "Гімназія № 1 г. Ліда";

Жамойціна Аляксандра Аркадзевіча - старэйшага прапаршчыка ўнутранай службы, старэйшага кіроўцу групы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і абслугоўвання пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 1 Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрствы па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь";

Карпа Сяргея Пятровіча - муляра чацвёртага разраду будаўнічага кіравання №104 ААТ "Будаўнічамантажны трэст № 19";

Кярнея Лявона Віктаравіча - аператара на дагадоўванні буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Світанак-Мыто";

Кірмеля Паўла Аляксандравіча - гвардыі старэйшага лейтэнанта, начальніка фізічнай падрыхтоўкі і спорту аддзялення баявой падрыхтоўкі 116-й гвардзейскай Радамскай Чырванасцяжнай штурмавой авіяцыйнай базы;

Карнея Ўладзіміра Ўладзіміравіча - апаратчыка атрымання лакаў і эмаляў на полімерызацыйных смолах і эфірах цэлюлозы вытворчасці № 2 ААТ "Лакафарба" г. Ліда;

Красоцкую Алену Іосіфаўну - аператара машыннага даення філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт";

Лук'ян Вольгу Віктараўну - навуковага супрацоўніка дзяржаўнай установы "Лідскі гістарычнамастацкі музей";

Міхаловіча Зміцера Валяр'янавіча - прапаршчыка міліцыі, міліцыянера-кіроўцу аператыўна-дзяжурнай службы міліцыі грамадскай бяспекі аддзела ўнутраных спраў Лідскага райвыканкама;

Плаўскую Надзею Мікалаеўну - сацыяльнага працаўніка аддзялення сацыяльнай дапамогі на хаце дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Рыбачука Віктара Леанідавіча - інжынера па ахове працы службы аховы працы вайсковай часткі 1234;

Савасцюк Людмілу Станіславаўну - прадаўца чацвёртага разраду крамы аграгарадка Дварышча Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Цішук Святлану Сямёнаўну - выдзімальніка шклавырабаў цэха крышталю ААТ "Шклозавод "Нёман";

Урбановіч Лілею Чаславаўну - разьбяра на агні цэха крышталю ААТ "Шклозавод "Нёман";

Хітрун Алу Лявонаўну - майстра пральні № 2 камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Лідскі камбінат побытавых паслуг";

Халяўскага Андрэя Войцехавіча - токара чацвёртага разраду ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Яскуця Валера Францавіча - лекара-хірурга хірургічнага аддзялення стаматалагічнай паліклінікі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Яцкевіча Казіміра Раманавіча - кіроўцу аўтамабіля катэгорыі "Д" першага класу філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліда" ААТ "Гроднааблаўтатранс".

**7. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:**

Барташэвіча Мікалая Іванавіча - абвальшчыка мяса пятага разраду каўбаснага цэха ААТ "Лідскі мясакамбінат";

Беняша Ігара Міхайлавіча - цясляра чацвёртага

разраду будаўнічага кіравання № 175 ААТ "Будаўніча-мантажны тэст № 19";

Васількевіч Аліну Міхайлаўну - медыцынскую сястру (старэйшую) гарадской паліклінікі № 2 установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Ягорову Галіну Аляксандраўну - загадчыка аптэкі № 37 в. Ваверка цэнтральнай раённай аптэкі № 146 Лідскага раёна Гарадзенскага гандлёва-вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Фармацыя";

Жылінскую Алену Іванаўну - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў";

Захватовіча Рыгора Ўладзіміравіча - фрэзероўшчыка рамонтна-будаўнічага цэха № 6 ААТ "Лідская абутковая фабрыка";

Івашэвіч Наталлю Ігараўну - начальніка вытворчасці даччынага прадпрыемства "Лідабудканструкцыя" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Каладзінскую Вольгу Сцяфанаўну - начальніка аддзялення паштовай сувязі Ліда-13 Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белпошта";

Каржову Алену Іванаўну - галоўнага інжынера філіяла "Лідскі хлебазавод" ААТ "Гроднахлебпрам";

Каржуева Аляксандра Мікалаевіча - майстра ўчастка цэха сталярна-будаўнічых вырабаў ААТ "Лідабудматэрыялы";

Кароль Людмілу Вітольдаўну - шэф-кухара дзяржаўнай установы "Лідскі дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых";

Кот Ганну Баляславаўну - аператара машыннага даення раённага ўнітарнага сельскагаспадарчага прадпрыемства "Саўгас "Лідскі";

Курыла Наталлю Аляксееўну - намесніка дырэктара па навучальна-метадычнай працы дзяржаўнай установы адукацыі "Ліцэй №1 г. Ліды";

Лях Ірыну Валяр'янаўну - выдзімальніка шклавырабаў цэха бясколернага шкла ААТ "Шклозавод "Нёман";

Амельяновіча Дзмітрыя Васільевіча - начальніка цэха ўзнаўлення свінагадоўчага комплексу "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт";

Ракуця Мікіту Аляксандравіча - навучэнца 11-га класа дзяржаўнай установы адукацыі "Гімназія №1 г. Ліда";

Санюка Генадзя Іосіфавіча - трактарыста сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Беліца-Агра";

Хрышчановіча Іосіфа Пятровіча - ліцейніка металаў і сплаваў чацвёртага разраду плавільна-залівальнага ўчастка ліцейнага цэха ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод";

Шванкоўскага Аляксандра Казіміравіча - слесара па рамонце рухомага саставу лакаматыўнага дэпо Ліда транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";

Ясюлевіча Іосіфа Іванавіча - машыніста экскаватара вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

**8. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:**

Аніська Марыну Вацлаваўну - маляра чацвёртага разраду даччынага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона № 169" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Бубен Ірыну Барысаўну - тэхніка па ўліку лакаматыўнага дэпо Ліда транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";

Валынец Марыю Юльянаўну - аператара машыннага даення сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ёдкаўскі";

Гебеня Віктара Зыгмундавіча - наладчыка холадна-штамповачнага абсталявання чацвёртага разраду нарыхтоўча-прэсавага цэха № 4 ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Дружыніна Яўгенія Фаміча - спецыяліста першай катэгорыі аддзялення сродкаў і сістэм аховы Лідскага аддзела Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь;

Кудзі Севасцьяна Ігаравіча - дырэктара дзяржаўнай установы "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву № 2 г. Ліда";

Масюкевіча Антона Янавіча - выкладчыка ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Мацюка Анатоля Эдуардавіча - настаўніка фізікі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Мілевіч Яніну Міхайлаўну - машыніста рэзальных машын Гарадзенскага абласнога ўнітарнага паліграфічнага прадпрыемства "Лідская друкарня";

Паўлюкоўскую Лілею Аляксандраўну - аператара машыннага даення сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ходараўцы-Агра";

Руднік Марыю Мікалаеўну - апаратчыка ўпарвання, згушчэння прадуктаў пятага разраду цэха сухога абястлушчанага малака ААТ Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Русакова Андрэя Сяргеевіча - слесара аварыйна-аднаўленчых работ у вобласці газазабеспячэння вытворчага кіравання "Лідамежрайгаз";

Рынду Аляксандра Ўладзіміравіча - лекара-тэрапеўта, загадчыка тэрапеўтычным аддзяленнем установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая лякарня";

Сянкевіча Яўгена Альфрэдавіча - электрагазазваршчыка пятага разраду вытворчасці камунальных кацельных і цеплавых сетак Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Стрэж Алену Віктараўну - педагога дадатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі";

Чарняка Віктара Канстанцінавіча - слесара механазборачных работ чацвёртага разраду слясарна-механічнага цэха ААТ "Лідскія аўтобусы "Нёман";

Шэўка Тацяну Віктараўну - загадчыка складамі аддзела лагістыкі г. Ліда ААТ "Лідскае піва";

Шунько Святлану Сямёнаўну - выкладчыка рускай мовы і літаратуры ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны прафесійны ліцэй меліярацыйнага будаўніцтва";

Юргілевіч Алу Леанідаўну - намесніка начальніка вытворчай лабараторыі ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты";

Ясюкайціса Лявона Іосіфавіча - майстра лесу Ваверскага лясніцтва дзяржаўнай лесагаспадарчай установы "Лідскі лясгас".

**9. Узнагародзіць Дыпломам Лідскага раённага выканаўчага камітэта з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 2 (дзвюх) базавых велічынь:**

Жылінскую Тацяну Рамуальдаўну - паліроўшчыка цэха № 1 ААТ "Завод "Оптык";

Заблоцкага Аляксея Мечыслававіча - тынкоўшчыка чацвёртага разраду будаўнічага ўчастка закрытага акцыянернага таварыства "Каскад";

Ёдку Пятра Станіслававіча - аператара таварнага цэха нафтабазавай гаспадаркі і АЗС ААТ "Лідзнафтапрадукт";

Кудла Лілею Антонаўну - аператара на дагадоўванні маладняку буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Беліца-Агра";

Лункевіча Казіміра Казіміравіча - ветэрана працы;

Магільніцкага Віталя Генрыхавіча - старэйшага майстра па рамонце абсталявання транспартнага цэха ААТ "Торфабрыкетны завод Лідскі";

Мінкевіча Паўла Юзафавіча - інжынера лінейных збудаванняў сувязі і абаненцкіх прыстасаванняў участка гарадской тэлефоннай сеткі Лідскага раённага вузла электрычнай сувязі Гарадзенскага філіяла "Белтэлеком";

Місевіч Ганну Вацлаваўну - лекара-эндакрынолага тэрапеўтычнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Апанасенка Ларысу Мікалаеўну - настаўніцу хіміі дзяржаўнай установы адукацыі "Гімназія №1 г. Бярозаўкі";

Пуйдака Аляксандра Станіслававіча - аператара станкоў з праграмным кіраваннем трэцяга разраду нарыхтоўчага цэха ААТ "Лідаграпраммаш";

Сямашку Юрыя Віктаравіча - старэйшага электрамеханіка Лідскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";

Смоліча Яўгена Іванавіча - аператара на дагадоўванні маладняку буйной рагатай жывёлы Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Саўсян Ірыну Іванаўну - дырэктара Лідскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы;

Урбановіч Аляксандру Сяргееўну - выхаванку дзяржаўнай установы "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву № 2 г. Ліды";

Шкуль Тацяну Сцяпанаўну - майстра вытворчага навучання ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны прафесійны політэхнічны ліцэй";

**10. Узнагародзіць грашовай прэміяй у памеры 2 (дзвюх) базавых велічынь:**

Анціпава Аляксея Андрэевіча - удзельніка моладзевага атрада аховы правапарадку Лідскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі";

Бабіча Сяргея Іванавіча - электраманцёра па эксплуатацыі размеркавальных сетак Лідскага раёна электрычных сетак філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Барташэвіча Вікенція Вікенцьевіча - кіроўцу сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Пескаўцы";

Беняш Людмілу Эдвардаўну - аператара на адкорме маладняку буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Бердаўка-Агра";

Берднікa Сяргея Аляксандравіча - мантажніка вонкавых трубаправодаў ААТ "Лідагазбуд";

Вайткуна Віталя Сцяпанавіча - трактарыста ААТ "Торфабрыкетны завод "Дзітва";

Віднікевіч Вольгу Сяргееўну - педагога сацыяльнай дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 12 г. Ліда";

Варону Дануту Эдмундаўну - оптыка цэха № 4 ААТ "Завод "Оптык";

Гардзея Міхаіла Аляксандравіча - аператара на дагадоўванні маладняка буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ходараўцы-Агра";

Гінцэвіч Вольгу Ўладзіміраўну - прадаўца шапіка №4 г. Ліда Лідскага міжраённага аддзялення "Гроднааблсаюздрук";

Глушкевіча Ўладзіслава Іванавіча - трактарыста сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Бердаўка-Агра";

Дуля Віктара Станіслававіча - кіроўцу другога класа даччынага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона № 170" Гарадзенскага абласнога ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Еўзікава Зміцера Міхайлавіча - апаратчыка сінтэзу цэха па вытворчасці лакаў на кандэнсацыйных смолах цэха № 5 ААТ "Лакафарба" г. Ліды;

Жыгала Галіну Іванаўну - аператара пульта кіравання мукамольнага цэха ААТ "Лідахлебапрадукт";

Жылевіча Іосіфа Станіслававіча - кіроўцу трэцяга класа рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааўтадар" філіяла дарожна-эксплуатацыйнага кіравання № 55;

Жукоўскага Віктара Віктаравіча - трактарыста дарожна-рамонтнага будаўнічага кіравання № 157 камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблдарбуд";

Жукаву Тацяну Аляксандраўну - аператара машыннага даення сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Світанак-Мыто";

Зянкевіч Алену Міхайлаўну - прадаўца шостага разраду кафетэрыя "На хвілінку" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства гандлёвага цэнтра "Патстдам" г. Ліда;

Касюкевіча Івана Іванавіча - машыніста экскаватара будаўнічага кіравання № 133 ААТ "Будаўніча-мантажнага трэста № 19";

Караманаву Наталлю Аляксандраўну - трэнера-выкладчыка дзяржаўнай установы "Комплексная дзіцяча-юнацкая спартовая школа № 4 г. Ліды";

Казлоўскага Сяргея Канстанцінавіча - муляра ААТ "Будвектар";

Карабача Алега Ўладзіміравіча - мастаўшчыка ААТ "Лідскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства № 17";

Карогвіча Міхаіла Макаравіча - мантажніка санітарна-тэхнічных работ філіяла "Лідскае мантажнае кіраванне ААТ "Белсантэхмантаж-2";

Крывеня Валянціну Віктараўну - майстра вытворчага ўчастка даччынага прадпрыемства "Мінойтаўскі рамонтны завод" Гарадзенскага ўнітарнага прадпрыемства "Аблсельгастэхніка";

Лапко Ірыну Іванаўну - працэдурную медыцынскую сястру першага псіхіятрычнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Абласная псіханеўралагічная бальніца "Астроўля";

Лук'ян Людмілу Ўладзіміраўну - аператара на дагадоўванні маладняку буйной рагатай жывёлы раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Саўгас "Лідскі";

Маткевіч Тарэзу Валяр'янаўну - загадчыцу сталовай унітарнага камунальнага прадпрыемства "Камбінат школьнага сілкавання";

Міцкевіча Віктара Юльянавіча - аператара па дагадоўванні маладняку буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Пескаўцы";

Аброшка Аксану Ўладзіміраўну - загадчыка малочна-таварнай фермы "Більтаўцы" Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Паўлоўскую Надзею Сцяпанаўну - вядучага інжынера вытворча-тэхнічнага аддзела ўнітарнага прадпрыемства "Лідская дарожна-будаўнічая перасоўная механізаваная калона № 72";

Рымжу Віталя Валяр'янавіча - тынкоўшчыка ААТ "Лідарамбуд № 4";

Рум Ірыну Вячаславаўну - загрузчыцу сыравіны ААТ "Лідлён";

Рума Юрыя Тадэвушавіча - тавараведа аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ААТ "Лідская мэблевая фабрыка";

Сямёнава Анатоля Аляксеевіча - слесара па рамонце абсталявання цеплавых сетак пятага разраду раёна цеплавых сетак філіяла "Лідскія цеплавыя сеткі" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гродна-энерга";

Серафімка Марыю Людвігаўну - аператара на адкорме маладняку буйнай рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ёдкаўскі";

Станкевіча Юрыя Францавіча - кіроўцу аддзела аўтатранспарту ААТ "Лідахлебапрадукт";

Санцэвіч Тамару Паўлаўну - галоўнага бухгалтара філіяла "Будаўніча-мантажнага кіравання № 2" ААТ "Будаўніча-мантажны трэст Белпалівабуд";

Субоціна Пятра Мікалаевіча - кіроўцу даччынага ўнітарнага Лідскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм абласнога ўнітарнага прадпрыемства "Гроднамеліяводгас";

Тарасевіча Юрыя Яраслававіча - ацынкоўшчыка трэцяга разраду дзяржаўнага прадпрыемства "Конус" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі";

Урбановіча Аляксея Іванавіча - аператара на дагадоўванні маладняку буйной рагатай жывёлы сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ходараўцы-Агра";

Харошку Мікалая Мікалаевіча - фрэзероўшчыка трэцяга разраду механічнага цэха ААТ "Лідаграпраммаш";

Цыбульскага Андрэя Міхайлавіча - муляра чацвёртага разраду прыватнага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона";

Чаплю Люцыю Іванаўну - прадаўца 6 разраду крамы № 12 "Світанак" ААТ "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Чарнову Ірыну Станіславаўну - загадчыка малочна-таварнай фермы "Дакудава" сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ёдкаўскі";

Шэўчык Наталлю Мікалаеўну - памочніка дырэктара ААТ "Шклозавод "Нёман";

Шахоўскага Паўла Мікалаевіча - інструктара-метадыста Лідскага раённага вузла электрычнай сувязі Гарадзенскага філіяла "Белтэлекам";

Шушко Івана Ўладзіміравіча - апаратчыку вакуум-гарызантальных катлоў ААТ "Лідскі ветсанутыльзавод";

Юрэвіча Рамана Часлававіча - чысцільшчыка вытворчасці № 2 ААТ "Лакафарба" г. Ліды;

Яблонскую Алену Антонаўну - выхавальніка дзяржаўнай установы адукацыі "Яслі-сад № 7 г. Ліды";

Ягелу Паўла Ўладзіслававіча - манцёра каляі Лідскай дыстанцыі каляі транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі".

11. Прэміяванне ў памеры 100 000 000 (сто мільёнаў) рублёў зрабіць за кошт сродкаў, прадугледжаных на правядзенне мерапрыемстваў райвыканкама паводле каштарысу выдаткаў (прыкладаецца).

12. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на намесніка старшыні райвыканкама Глаўніцкага А.Т.

Старшыня А.М. Астроўскі.
Выканаўца абавязкаў кіраўніка
справамі Р.М. Нікіпарчык.

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

## Парафія Васілішская

**Парафіяльны касцёл у Васілішках** знаходзіцца ў Лідскім павеце і ў тым жа дэканаце, вёскі і мейсцы, якія да гэтай парафіі належаць згодна з алфавітам:

**Алешкаўцы** (Oleszkowce), васпана Александровіча, на поўдзень чвэрць мілі.

**Арцюшы** (Arciusze), васпана Александровіча, на поўдні палова чвэрці мілі ад парафіяльнага касцёла.

**Банюкі** (Baniuki), васпана Квінты, у тым жа кірунку палова мілі ад касцёла.

**Баяры** (Bojary), васпана Александровіча, так сама на поўдзень вялікая міля.

**Бакшты** (Bakszty), таго жа ягамосці, у тых жа кірунку і адлегласці.

**Ваейкаўцы** (Wojejkowce), васпана Александровіча і васпанства Быкоўскіх, на поўдзень міля.

**Вайнёўцы** (Wojniowce), васпана Квінты, на поўдзень палова мернай мілі.

**Вайшчукі** (Wojszczuki), васпані Гарваскай, на поўнач мерная міля.

**Васілішкі** (Wasiliszki), вёска, у якой знаходзіцца парафіяльны касцёл, ад якога робіцца апісанне гэтай парафіі, сама вёска належыць плябаніі.

**Васілішкі** (Wasiliszki), старасцянскае мястэчка васпана Александровіча, на поўнач палова чвэрці мілі.

**Волчынкі** (Wolczynki), васпана Паплаўскага, на ўсход мерная міля.

**Гудзішкі** (Gurnofel), васпана Алескандровіча, паміж усходам і поўднем палова вялікай мілі.

**Гурнофель** (Gurnofel), фальварак васпана Алескандровіча, паміж усходам і поўднем палова вялікай мілі.

**Глебаўцы** (Hlebowce), таго ж ягамосці, на поўдзень мерная міля.

**Галасавічы** (Holaszewicze), таго ж ягамосці, у тых жа кірунку і адлегласці.

**Грынкішаны** (Hrynkiszany), васпана Александровіча, на поўдзень мерная міля.

**Гайкаўшчына** (Hajkowszczyzna), фальварак васпані Гарвацкай на поўнач мерная міля.

**Дварчаны** (Dworczany), васпана Александровіча, на поўнач ад парафільнага касцёла некалькі сотняў крокаў.

**Дзегцяры** (Dziehciary), васпані Пяровай, на поўнач малая міля.

**Догілі** (Dogile), шляхецкая ваколіца, на поўдзень пяць чвэрцяў мілі.

**Задворні** (Zadwornie), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Збражкі** (Zbroszki), васпана Александровіча, там жа і ваколіца, на поўдзень чвэрць мілі.

**Зыбалы** (Zyboly), васпані Пяровай, на поўнач палова мілі.

**Казелішкі** (Kozieliszki), шляхецкая ваколіца, у тым жа кірунку і адлегласці.

**Казлы** (Kozly), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Калечыцы** (Kaleczyce), васпана Сцыпіёна, у тым жа кірунку і адлегласці.

**Каптуры** (Kaptury), васпана Александровіча, там жа.

**Капцюга** (Kopciuha), фальварак васпана Паплаўскага, паміж поўначчу і ўсходам палова мернай мілі.

**Карэвічы** (Korewicze), таго жа ягамосці, на поўдзень мерная міля.

**Касцянева** (Koscieniewo), васпана Александровіча, на поўдзень мерная міля.

**Клешнякі** (Kleszniaki), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Кронкі** (Kronki), таго жа ягамосці, у тым жа кірунку і адлегласці.

**Ладыга** (Lodyha), ксяндзоў дамініканаў, паміж поўначчу і ўсходам палова мернай мілі.

**Лычкава** (Lyczkowo), двор васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Лябёдка** (Lebiodka), фальварак васпана Квінты, на поўдзень палова мернай мілі.

**Лябёдка** (Lebiodka), фальварак васпана Александровіча, на поўдзень чвэрць мілі.

**Маркаўцы** (Markowce), васпана Александровіча на ўсход сонца палова мернай мілі.

**Масяўцы** (Mosiowce), васпані Пяровай, на поўнач палова мілі.

**Мякішы** (Miakisze), васпана Александровіча, на поўдзень міля.

**Навумаўцы** (Naumowce), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Нявеша** (Niewiesza), васпана Александровіча, на поўдзень, у якой шляхта жыве на сваёй зямлі мерная міля.

**Пераходы** (Perechody), васпана Нарбута, паміж поўднем і захадам сонца паўтары мерныя мілі.

**Плябанаўцы** (Plebanowce), васпані Гарваскай, паміж захадам і поўначчу палова мілі.

**Псярцы** (Psiarce), васпана Забелы, на поўдзень палова мілі.

**Пяскі** (Piaski), шляхецкая ваколіца, на поўдзень міля.

**Разнятычы** (Rozniatycze), фальварак васпанства Талочкаў, паміж усходам і поўначчу мерная міля.

**Рудава** (Rudowo), васпана Нарбута і васпані Пяровай, на ўсход сонца міля.

**Русанаўцы** (Rusanowce), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**Рыбакі** (Rybaki), фальварак васпанства Быкоўскіх, там жа і карчма васпана Александровіча, на поўдзень палова мілі.

**Стадаляны** (Stodolany), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мернай мілі.

**Старадворцы** (Starodworce), ваколіца, там жа фальварак ксяндзоў францішканаў, на захад вялікая міля.

**Стары Двор** (Stary Dwor), фальварак васпана Нарбута, там жа фальварак васпана Глушынскага, на захад вялікая міля.

**Шайбакполе** (Szejbakpole), двор васпана Александровіча, на поўдзень мерная міля.

**Шастакоўцы** (Szostakowce), васпана Нарбута і васпана Глушынскага, у тым жа кірунку і адлегласці.

**Шкеры** (Szkiery), васпані Гарваскай, на поўнач міля.

**Шкордзі** (Szkordzie), фальварак і вёска ксяндзоў дамініканаў, паміж захадам і поўначчу палова мернай мілі.

**Шляхроўшчына** (Szlachrowszczyzna), васпана Александровіча, на поўдзень паўтары мілі.

**2.**

**Ад гэтага парафіяльнага касцёла суседнія касцёлы:**

**Астрына**, царква (ўніяцкая - *Л.Л.*) у мястэчку Астрыне, на поўдзень тры мерныя мілі.

**Ваверка**, парафіяльны касцёл, на поўнач дзве мілі.

**Забалаць**, парафіяльны касцёл, паміж захадам і поўначчу дзве мілі.

**Ішчална**, парафіяльны касцёл, у тым жа Лідскім дэканаце, паміж усходам і поўднем, ад Васілішскага касцёла тры мерныя мілі.

**Лядск**, парафіяльны касцёл, на поўдзень тры мерныя мілі.

**Новы Двор**, парафіяльны касцёл, паміж поўднем і захадам тры мерныя мілі.

**3.**

**Публічныя гарады каля гэтага касцёла:**

**Астрына**, каралеўскае мястэчка, на поўдзень, тры мерныя мілі.

**Ліда**, горад, на ўсход сонца пяць міль.

**4.**

Дарога да горада **Вільні** ад гэтага Васілішскага касцёла, тут праходзіць тракт на Лебёдку, Праважу і Радунь, сямнаццаць міль, дарога месцамі проста добрая, месцамі пясчаная, камяністая, ідзе адкрытым полем.

**5.**

Азёраў, багнаў і балотаў значных у парафіі няма.

Малы стаў каля плябаніі ў мястэчку Васілішкі, за некалькі сотняў крокаў, на малой рэчцы Лябёдка, якая пачынаецца праз некалькі міляў.

Малы стаў каля фальварка Гурнофель васпана Александровіча, пачынаецца з блізкіх крыніц.

Малы стаў каля фальварка Воўчынкі васпана Паплаўскага, на малой рэчцы Бешанка.

Малы стаў каля двара Гайкаўшчына васпані Гарваскай, на рэчцы Лябёдка, якая пачынаецца праз дзве мілі.

Ставы маюць свае партыкулярныя млыны.

**6.**

Вялікіх лясоў, дрэва якіх можна ўжываць у гаспадарцы няма, акрамя лесу з ёлкі і асіны памерам у палову мілі васпана Нарбута каля фальварка Стары Двор. Таксама месцамі зараслі па некалькі моргаў.



**7.**

**Партыкулярныя дарогі ў гэтай парафіі:**

Дарога да парафіяльнага касцёла ў **Ішчалне,** ідзе ад Васілішскага касцёла, а Васілішскі млын, які знаходзіцца праз некалькі сотняў крокаў на ўсходзе, потым дарога ідзе палову мілі да вёскі Маркаўцы каля Гурнофельскага фальварка, далей праз су-

хое поле на Гурнофельскі млын, і тут заканчваецца Васілішская парафія.

Дарога да **Лядскага** касцёла ідзе каля двара ў Шайбакполі які знаходзіцца праз мілю, і дзе ёсць касцёл ксяндзоў-францішканаў, які называецца Шайбакпольскім, потым па дарозе праз палову мілі вёска Русанаўцы, і тут мяжа Васілішскай парафіі.

Дарога да **Навадворскага** парафіяльнага касцёла ідзе паўмілі да карчмы ў вёсцы Кронькі васпана Александровіча, далей праз чвэрць мілі па дарозе вёска Клешнякі, праз чвэрць мілі вёска Бакшты, і тут заканчваецца Васілішская парафія.

Дарога да **Астрынскай** парафіяльнай царквы ідзе на вёску Карэвічы, да якой міля, далей на вёску Стадолы праз палову мілі, і тут заканчваецца Васілішская парафія.

Дарога да Ваверскага касцёла ідзе праз мястэчка Васілішкі, потым праз чвэрць мілі па правым баку вёска Зыбалы, потым будзе карчма Дзегцяры, пасля яе дарога ідзе праз малую грэблю і млын васпані Пяровай, і заканчваецца Васілішская парафія.

Дарога да **Забалацкага** касцёла ідзе праз мястэчка Васілішкі, далей праз мілю будзе карчма ў Лябёдцы, потым з правага боку будзе двор Лябёдка васпана Пацея, і заканчваецца Васілішская парафія.

Васілішская парафія не мяжуе з іншымі ваяводствамі і паветамі, цалкам знаходзіцца ў Лідскім павеце.

Гэта апісанне парафіі подпісам уласнай рукі пацвярджаю

Кс. Казімір Лазоўскі, плябан Васілішскі.

## Парафія Жырмунская

Касцёла няма, замест яго шопа ў мястэчку **Жырмунах**, якія знаходзяцца ў Лідскім павеце і дэканаце, вёскі і мейсцы, якія да гэтай парафіі належаць, згодна з алфавітам:

**Ажэлішкі** (Ozeliszki), за ракой Дзітвой, два фальваркі, за перавозам яснавяльможнага пана Адамовіча, рэгента земскага Лідскага (гродскі суддзя - *Л.Л.*), з вёскай Ажэлішкі, на захад міля.

**Баранаўшчына** (Baranowszczyzna), васпанства Прэнзінскіх, паміж усходам і поўднем спорая міля ад касцёла.

**Бенкавічы** (Bienkiewicze), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам у дыстанцыі да касцёла адна міля.

**Бялевічы** (Bieliewicze), вёска ягамосцяў князёў Радзівілаў, экс-падкаморых Літоўскіх, паміж усходам і поўднем тры чвэрці мілі ад касцёла.

**Бярнуці** (Biernucie), вёска тых жа ягамосцяў князёў, у тым жа кірунку тры чвэрці мілі ад касцёла.

**Вялікае Сяло** (Wielka Wioska), ягамосцяў князёў, на поўдзень чвэрць мілі.

**Габраловічы** (Gabrialowicze), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам спорая міля.

**Ганцавічы** (Hancewicze), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам праз спорую мілю.

**Гератанцы** (Geratunce), вёска ягамосцяў князёў Радзівілаў, на захад праз палову мілі.

**Гервянікі** (Gierwieniki), фальварак ягамосцяў князёў у арэндзе васпанства Гасцэвічаў, паміж усходам і поўднем лёгкая міля ад касцёла.

**Гудэлі** (Gudele), вёска, што належыць радунскаму староству, паміж поўднем і захадам паўтары мілі ад касцёла, над ракой Дзітва.

**Дзеякі** (Dziejaki), вёсачка ягамосцяў князёў Радзівілаў, экс-падкаморых Літоўскіх, паміж усходам і поўднем лёгкая міля.

**Жырмуны** (Zyrmuny), мястэчка ў арэндзе яснавяльможных ягамосцяў князёў Радзівілаў, на поўдні.

**Жырмунка** (Zyrmunki), фальварак тых жа яснавяльможных ягамосцяў князёў Радзівілаў, на захад чвэрць лёгкай мілі.

Два двары: адзін мураваны палац, каля гэтага палаца мураваная афіцына, дзве іншыя драўляныя афіцына атынкаваныя. Другі двор эканомскі, гаспадарскі з гумнамі, лядоўнямі, вазоўнямі, пад імі мураваныя склепы. Абора драўляная. Стайня фабрычная пры гумне, трошкі ў поле ветраны млын, які не меле. Ідучы ад эканамічнага двара, па правай руцэ статуя лідскага Рафала на мураваным слупе, па левай руцэ драўляныя кашары з мураванымі слупамі пастаўленыя для прыслугі і розных рамеснікаў. Тут жа пры кашарах знаходзіцца вялікая аўстэрыя з рознымі выгодамі, насупраць яе знаходзіцца драўлянае з мураванымі слупамі збожжасховішча, пад ім мураваныя склепы і лядоўня.

Мураваны двор з аднаго боку акапаны ровам стаіць над ставам. На гэтым ставе мураваны двухпавярховы млын, вакол млына дрэвы.

Мураваны бровар з усімі выгодамі, за ім будынак з усімі выгодамі для пратачак. Ідучы да бровара, каля двара альховы гай які мае назву Мамоўшчына, тут у прыгожым месцы, у перспектыве бачны мураваны агароджаны палац, у якім розныя выгоды: кухня, студня і г.д., у гэтым жа гайку чатыры драўляныя замкі: адзін для княжат, другі для князя-палкоўніка, трэці для яснавяльможнага пана шамбеляна Шышкі, чацвёрты для бургграфа. Павярнуўшыся ад двара, па правай руцэ бачны ... мураваны з усімі выгодамі. ... за ім сені, на гары будка, па левым баку бачна другая перспектыва: альтанка на два паверхі фарбаваная зялёнай фарбай, далей рэчка, адкуль вада з крыніц паступае да студні пад кухняй.

**Кавырыкі** (Kawaryszki), вёска ягамосцяў князёў, пры тракце з Жырмун да Вільні, на захад чвэрць мілі.

**Квяткоўшчына** (Kwiatkowszczyzna), вёска ягамосцяў князёў Радзівілаў, на захад тры чвэрці мілі.

**Коўкі** (Kowki), вёска ягамосцяў князёў Радзівілаў, на поўдзень спорая міля.

**Круповічы** (Krupowicze), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам міля.

**Кульпы** (Kulpy), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам міля.

**Курміны** (Kurminy), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам міля.

**Мажэйкаўшчына** (Mozejkowszczyzna), фальварак ягамосцяў князёў Радзівілаў, на захад сонца тры чвэрці мілі.

**Мендрыкоўшчына** (Medrykowszczyzna), васпанства Тубялевічаў, паміж поўначчу і ўсходам чвэрць

мілі.

**Мілевічы** (Milewicze), вёска ягамосцяў князёў, за ракой Дзітва, за перавозам, паміж поўднем і захадам спорая міля.

**Наркуны** (Narkuny), вёска Радунскага староства, паміж поўднем і захадам міля.

**Нornішкі** (Norniszki), ваколіца шляхты, паміж поўднем і захадам паўтары мілі.

**Петкаўшчына** (Pietkowszczyzna), двор ягамосцяў князёў Радзівілаў у арэндзе шамбеляна Шышкі, паміж захадам і поўначчу палова мілі.

**Рэксці** (Rexcie), фальварак васпанства Суркантаў, у тым жа кірунку і дыстанцыі.

**Рэксці** (Rexcie), два фальваркі, адзін яснавяльможнага пана Мацея Тубялевіча, чашніка Дэрб., другі васпана Казіміра Тубялевіча і васпана Казіміра Куйця, на поўдні палова мілі.

**Сакалы** (Sokoly), ваколіца шляхты з двух бакоў віленскага тракта, на поўнач міля.

**Сарокі** (Soroki), плябанскі фальварак, чвэрць мілі ад касцёла на ўсход.

**Сарокі** (Soroki), там жа, ваколіца шляхты васпанства Ганцавічаў і Кербядзёў, там жа два селяніны, якія належаць фальварку плябанскаму Сарокі.

**Скаўроды** (Skowrody), вёска, якая належыць Жырмунскай плябаніі, на ўсход тысяча крокаў ад касцёла.

**Скопы** (Skopy), ваколіца Вільбікаў, на поўдзень міля.

**Стацевічы** (Stecewicze), ваколіца, дзе жыве шляхта, на поўдзень адна міля.

**Стукі** (Stuki), вёска тых жа ягамосцяў князёў, на захад чвэрць мілі.

**Талачкоўшчына** (Toloczkowszczyzna), васпанства Калышкаў фальварак, на захад міля ад Жырмун.

**Татары** (Tatary), вёска ягамосцяў князёў, на поўнач чвэрць мілі.

**Таўкіні** (Towkinie), вёска ягамосцяў князёў, на захад, чвэрць лёгкай мілі ад Жырмунскага касцёла.

**Тубялевічы** (Tubieliewicze), ваколіца шляхты, на подзень міля.

**Урбелі** (Urbiele), вёска ягамосцяў князёў, на поўнач чвэрць лёгкай мілі.

**Шавардакі** (Szewerdaki), вёска ягамосцяў князёў Радзівілаў, на поўдзень адна міля.

**Шальціні** (Szalciny), вёска тых жа ягамосцяў князёў, праз чвэрць лёгкай мілі.

**2.**

**Ад гэтага парафіяльнага касцёла суседнія касцёлы:**

**Асава**, ці **Гародна**, парафіяльны касцёл у тым жа дэканаце, на зямлі яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана, на захад міля.

**Воранава**, парафіяльны касцёл у дэканаце Радунскім, у пацэсіі яснавяльможнага панства Александровічаў, канюшых Літоўскіх, на поўнач дзве мілі.

**Гераманішкі**, парафіяльны касцёл, на зямлі яснавяльможнага пана князя Пастыра, на поўнач дзве мілі ад Жырмун, мяжуе з парафіяй Жырмунскай.

**Ліда**, парафіяльны касцёл у тым жа дэканаце, у пацэсіі яснавяльможнага пана Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, старасты Лідскага, на поўдзень адна міля.

**Радунь**, парафіяльны касцёл у дэканаце і старостве Радунскім, на зямлі яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана, на захад сонца дзве мілі.

Касцёл парафіяльны **Тракельскі** на зямлі яснавяльможнага пана Гуроўскага, маршалка надворнага Літоўскага, на ўсход дзве мілі, па шляху ад Баранаўшчыны ўлева, у лес знаходзіцца вёска Тракельскай парафіі Гаўруны, а з Баранаўшчыны ўправа - Лідская парафія.

**3.**

**Значнейшыя гарады каля парафіяльнага касцёла:**

**Вільня**, сталічны горда, на поўнач ад Жырмун дзесяць міль.

**Ліда**, павятовы горад, да Жырмун дзве мілі, ад Вільні да Ліды дванаццаць міль.

**Наваградак**, судовы горад, на ўсход дзесяць міль.

**Вільня** ад **Наваградка** дзевятнаццаць міль.

**4.**

Дарога ад Жырмун да **Вільні** месцамі пясчаная, бугрыстая, камяністая, крывая, добрымі коньмі язды цэлы дзень як улетку, так і ўзімку, дрэннымі коньмі паўтара дня.

Дарога да **Наваградка** па аднаму тракту гарыстая, па другому пясчаная, бугрыстая, з пераправай цераз Нёман.

Дарога да **Ліды** месцамі пясчаная, месцамі камяністая, але не гарыстая.

**5.**

Балоты знаходзяцца каля двара князя экс-падкаморага, калі ехаць з Жырмун да Вострава, каля таго ж двара ёсць безназоўны стаў, сажалка, каналы, тры невялікія масты. Калі ехаць да Радуні ёсць пераправа на рацэ Дзітва, пасля гэтай пераправы па абодва бакі балоты. Каля той жа Дзітвы, пры двары яснавяльможнага пана Александровіча, рэгента Лідскага, па правай руцэ ёсць багна, а па левай, каля Нарвішак, ваколіца шляхты.

Гэтая рака **Дзітва** пачынаецца ад ваколіцы ВількАнцы, з-пад альшыны чвэрць мілі цячэ да става яснавяльможнага пана Ромера, ад става на задворках Ромера,палову мілі цячэ балотамі да вёскі Вайкунцы, ад Вайкунцаў балотамі да вёскі Складанцы, там выкапаны стаў, і на ім млын, пасля става рэчка цячэ палову мілі балотамі да Азялішак, тут на бродзе перавоз ягамосці князя і недалёка брод яснавяльможнага пана Александровіча, рэгента.

Другая рэчка **Крывец** выцякае з Бялевіч на ўсходзе ад касцёла, каля брода ў Бялевічах карчма, пасля цячэ да вёскі Дзейкі, адсюль да Рэксцяў, праз некалькі дзесяткаў крокаў пасля Рэксцяў упадае ў стаў яснавяльможнага пана Сурконта, пасля става рэчка называецца **Нешкруп**, цячэ палову мілі да Крупавіч,




адсюль чвэрць мілі на захад да Стацэвічаў, пасля Стацэвічаў праз палову чвэрці мілі ўпадае ў Дзітву.

**6.**

Значных гор, яроў няма. Бор знаходзіцца ў яснавяльможнага пана Сурконта на тысячу крокаў. Другі бор шляхты васпанства Тубялевічаў, сто крокаў у шырыню і пяцьдзесят у даўжыню. Сасновы бор належыць плябаніі Жырмунскай, на тысячу крокаў у шырыню і ў даўжыню, але тоўстага дрэва няма, толькі жэрдкі.

Гай князя - ягамосці экс-падкаморага, альховы каля двара на тысячу крокаў у шырыню і ў даўжыню, мае назву Мамоўшчына.

Другі гай князя - ягамосці каля фальварка Мажэйкаўшчына, ушырыню і ў глыбіню на тысячу крокаў. У ім расце асіна і вольха.

Лес князя - ягамосці які мае назву Аўсядава, на палову мілі, у гэтым лесе растуць елкі, бярозы, асіны, сосны.

Лясы князя - ягамосці ў іншых месцах спустошаны будоўляй, цагельнямі, дровамі для ацяплення, і там зараз расце алешына, лаза, бярозавы хмызняк.

Едучы ў Вільню, каля Сакалоў знаходзіцца сасновы лес, часткова князя - ягамосці, часткова рознай шляхты, і тут мяжа парафіі.

Па шляху ў Мыто мала хмызняку, у асноўным чыстае поле аж да Бялевіч, тут праходзіць мяжа парафіі.

**7.**

Усіх млыноў у парафіі чатыры, валюш адзін.

**8.**

Тракт публічны да **Вільні**, дзесяць міль на поўнач.

Тракт публічны да **Слоніма**, пятнаццаць міль на поўдзень.

Тракт публічны да **Гародні**, васямнаццаць міль на поўдзень.

Тракт прыватны да **Ліды**, дзве мілі, каля Жырмунскага двара за чвэрць мілі, каля крыжа па левую руку будзе карчма Сурконты а па правую руку будуць бачны вёскі Бялевічы і Бярнуці, тыя вёскі каля невялікага бору, праз сто крокаў гасцінцам ля карчмы Півоні князя - ягамосці заканчваецца парафія.

Тракт да касцёла парафіяльнага ў **Асаве**, выехаўшы з Жырмун, мінуўшы грэблю і вёску Каварыкі князя - ягамосці экспадкаморага Літоўскага, якая па левай руцэ на захадзе, управа пойдзе дарога на Вільню прама, каля двара ягамосці пана шамбеляна Яго Каралеўскай Мосці які будзе па правай руцэ, мінуўшы дзве сялянскія халупы, карчму ягамосці пана шамбеляна якая называецца Галынка, потым мінуўшы млын і валюш па левай руцэ, а па правай стаў, далей па левай руцэ будзе вёска Пяткоўшчына ягамосці пана шам-беляна, дзе заканчваецца парафія Жырмунская і пачынаецца Асоўская, ад става дарога ідзе прама да Асавы. З Жырмун міля праз хмызняк да карчмы Галынка і потым чыстым полем пясчаная дарога да Асавы.

Дарога да **Воранава**, дзе ёсць касцёл парафіяльны. Выехаўшы трактам на Вільню, за Мураванкай будзе пясчаная дарога, у хмызняку грэбля і невялікі масток, з'ехаўшы з грэблі будзе другі масток праз ручай з балот, якія па правую руку. Па левую руку тут будуць бачны вёскі Каварыкі. Далей дарога ідзе каля Татар, Баяраў, Мендрыкоўшчыны да ваколіцы Сакалы, дзе заканчваецца парафія Жырмунская і пачынаецца парафія Асоўская.

Дарога да **Радуні**, дзе ёсць парафіяльны касцёл. Выехаўшы ўправа ад Жырмунскага касцёла, каля крыжа які будзе стаяць справа, пясчаная дарога ідзе праз зараслі каля фальварка Жырмункі князёў - ягамосцяў Радзівілаў, фальварак будзе справа. Далей праз грэблю якая каля става і млына, дзе ёсць невялікі масток. Пасля грэблі каля крыжа дарога ідзе ў права і праз сто крокаў па левую руку будзе невялікая вёсачка Гератанцы, далей пясчанай дарогай да карчмы, каля якой будзе пераправа цераз Дзітву, тут невялікі паром на ліні, і тут заканчваецца парафія Жырмунская.

Жырмунская парафія не мяжуе з іншымі ваяводствамі і паветамі, але цалкам знаходзіцца ў Лідскім павеце.

Гэта апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі падцвярджаю

Кс. Ян Кяневіч,

паддэкан Лідскі, плябан Жырмунскі.

*(Пераклад Л. Лаўрэша.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Лідчына да 1914 г. у люстэрку прэсы



Гэта артыкул прысвечаны жыццю Лідчыны на пачатку XX ст. і амаль што цалкам скампанаваны з газетных артыкулаў таго часу. З-за таго, што аўтару хацелася данесці да чытача жывы "водар" гісторыі, які часта цікавейшы за ўсялякія аўтарскія каментары, тэкст месцамі ўяляе сабой мазаіку з артыкулаў пачатку XX ст. Аўтар наўмысна падабраў матэрыял так, каб зберагчы аўтэнтычныя тэксты, а аўтарскага тэксту пры тым было як мага меней - вывады з прапанаванага матэрыялу кожны можа зрабіць сам.

Трэба заўважыць, што тэксты з першай беларускай газеты "Наша Ніва" падаюцца так, як іх друкавала газета, граматыка нашай мовы ў той час яшчэ выкрышталізоўвалася.

Калі гэта магчыма, аўтар у ацэнках падзей таго часу заўжды будзе прыводзіць меркаванні самага паважанага жыхара Лідчыны пачатку XX ст. Вандаліна Шукевіча - выбітнага археолага і этнографа, члена-карэспандэнта Кракаўскай акадэміі ведаў, дасведчанага чалавека і сталага карэспандэнта "Кур'ера Літоўскага".

## 1. Злачыннасць і здарэнні

### 1.1. Лідская паліцыя, суды.

У XX ст. Лідчына увайшла са сваім старым паліцэйскім спраўнікам Сцяпанам Мацвеевічам Ляўданскім, які з 1888 па 1900 гг. быў нашым галоўным паліцыянтам. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 3-й ступені[1].

Наступным лідскім спраўнікам стаў надворны дарадца Мікалай Іванавіч Салаўёў (скончыў Уладзімірскую духоўную семінарыю, на пасадзе з 11 лістапада 1901 г.)[2].

31 студзеня 1905 г. загадам № 14 па Віленскім губернскім кіраванні "начальнік земскай варты Навамінскага павета (Мінск-Мазавецкі павет - *Л.Л.*) капітан фон Гротэ-дэ-Буко, згодна з яго прашэннем, прызначаецца часовым выканаўцам абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка"[3]. З "Памятных кніжак Віленскай губерні" бачна, што з 1906 г. па пачатак 1915 г. ён узначальвае павятовую паліцыю.

Інфармацыі пра дзейнасць праваахоўнай сістэмы на Лідчыне на пачатку XX ст. у прэсе не шмат. Першая легальная штотыднёвая беларуская газета "Наша Доля" (газета была рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, усяго выйшла 6 нумароў, з іх 4 былі канфіскаваны, 7-ы быў знішчаны яшчэ ў наборы) ў першым жа сваім нумары, які выйшаў у верасні 1906 г. напісала пра Лідскага спраўніка: *"На Зельну ў Васілішскай воласці злодзеі пакралі коні. Гаспадары чутка зглядзеліся і пагналіся следам за канакрадамі. Зладзеі ў Ліду, і гаспадары ў Ліду ды да паліцыі з просьбай, каб ператрэсці мястэчка. Аж спраўнік сам выйшаў да збядаваных гаспадароў і сказаў: "Не магу, братцы, я вам даць стражнікаў, мне іх даў губернатар, каб сматрэць за спакойствіем". Выйшла тое, што гаспадары самі прыгналі канакрадаў пад скрыдэлка паліцыі. А трэба ведаць, што на тую пару была вучэнне стражнікаў, і іх з'ехалася якіх з семдзесят чалавек, так што не толькі мястэчка, а цэлы павет маглі б ператрэсці"*[4]. Цяжка сказаць, ці была гэта публікацыя тэндэнцыйнай.

Газета "Беларус" у лютым 1913 г. пісала пра загад, выдадзены Лідскім спраўнікам дзеля ўмацавання дысцыпліны сярод падначаленых: *"Ліда. У загадзе павятовай паліцыі, спраўнік звяртае ўвагу на тое, што стражнікі паліцыі прымушаюць сялян і крамнікаў даваць хабар і купляць ім гарэлку. Спраўнік папярэджвае, што калі паступіць ад каго такая жалаба, дык абвінавачаны ва хабары ўраднік ці стражнік будзе выгнаны са службы без паяснення прычын, а*

*калі будзе даказана, што прымушаў даваць хабар, дык тады будзе адданы пад суд"*[5].

Прэса рэгулярна паведамляла пра паседжанні Віленскага акруговага суда ў Лідзе, але амаль што не пісала пра дзейнасць лідскіх судоў. Рэдкім выключэннем у гэтым сэнсе з'яўляецца зацемка пра хабарніцтва ў лідскіх судах, надрукаваная ў "Нашай Ніве". Нехта пад псеўданімам "Валасны" ў 1910 г. пісаў з мястэчка Беліца пра тое, што за малую справу валасны суддзя бярэ з сялян 5 рублёў, а за трохі больш значную - 8-10 рублёў[6].

**1.2. Рэвалюцыя 1905-1906 г. на Лідчыне.**

Акты спецыфічнай "рэвалюцыйнай" злачыннасці ў гады першай рэвалюцыі ў Расіі былі і на Лідчыне.

На пачатку 1906 г. у Лідскім павеце было арыштавана 10 настаўнікаў народных вучэльняў, яны падазраваліся ў агітацыі сярод сялян[7]. Пры канцы жніўня таго ж года *"распараджэннем куратара Віленскай навучальнай акругі звольнены настаўнік школы ў Ражанцы сп. Аўрамчык. Падчас праверкі у яго знайшлі пракламацыі і рэвальвер, на які ён меў дазвол"*[8]. У верасні быў арыштаваны настаўнік Навадворскай народнай вучэльні Шушко[9]. Беларуская газета "Наша Ніва" пісала, што ў тым жа месяцы быў арыштаваны нейкі малады хлопец, сын пасэсара Каспяровіч: "*Сам прыстаў са стражнікамі прыехалі трасьці яго хату. Шукалі, шукалі, led ператрэслі ўсе куты, а такі нічога не знайшлі і паехалі. Праз два ці тры дні пасля таго зноў наехала ўся каманда, зноў шукалі, трэслі ўсе куты, зноў не знайшлі нічога, а Каспяровіча такі забралі, завязлі ў Васілішскі, а адтуль на заўтра адправілі ў Ліду, дзе і сядзіць ён у вастрозі на дзісь дзень"*[10].

Узброеныя людзі неаднаразова рабавалі панскія маёнткі. Экспрапрыяцыі, ці, як казалі ў рэвалюцыйным асяроддзі, "эксы" рабіліся і ў горадзе. Улетку 1906 г. газета пісала пра спробу маладых рэвалюцыянераў адабраць грошы на патрэбу сваёй партыі: *"21 ліпеня каля 3 гадзін дня ў маёнтку Падзітва генерал-маёра у адстаўцы Іллавайскага з'явілася пяць незнаёмых мужчын і адна жанчына і патрабавалі ад гаспадара грошы для рэвалюцыйнай арганізацыі. Але атрымалі адмову. Тады рабаўнікі патрабавалі 1000 рублёў ад эканома маёнтка сп. Календы але не атрымалі грошай і тут. Потым, спалохаўшыся парабкаў, якія пачалі збірацца каля панскага дома, рабаўнікі рушылі ў бок станцыі Бастуны. У пагоню памчаліся паліцэйскія, якія дагналі іх на дарозе. Банда кінулася ў лес, паліцэйскія некалькі разоў выстралілі і паранілі аднаго з рабаўнікоў, пасля чаго ён не мог уцякаць далей. Так сама была затрымана жанчына. Астатнія бандыты скрыліся ў лесе. Паранены мужчына - Ян Гадлеўскі, 17 лет, жанчына - Францішка Коркуць, 18 лет. Праводзіцца судовае следства"*[11].

У лістападзе 1906 г. некалькі маладых людзей, прыкрываючы твары, ўвайшлі ў дом да купца Віленчыка ў Лідзе і, пагражаючы рэвальверамі, забралі ў яго 100 рублёў[12].

Пад "эксы" рэвалюцыянераў маскаваліся звычайныя злачынствы, так 25 жніўня 1906 г. была абрабавана лідская крама "гарэлачнай манаполіі": *"Па словах прадаўшчыцы Марыі Высоцкай нападнікі забралі 450 руб. гатоўкай. Аднак следства паказала, што Высоцкая хлусіць. Яна разам з мужам сама забрала касу крамы і сімулявала рабаванне рэвалюцыянерамі. Высоцкая арыштаваная"*[13].

Магчыма "рэвалюцыйнай узрушанасцю" было выклікана і злачынства 13 жніўня 1907 г.: *"... паліцыянт Руткоўкі па службовых справах зайшоў у піўную Манскага. Селянін Семяновіч, які там знаходзіўся, кінуўся на Руткоўскага, ударыў яго кіем і сарваў нашыўкі. Руткоўскі, баронячыся шабляй параніў Семяновіча"*[14].

У кастрычніку 1907 г. Віленская судовая палата *"асудзіла на 1 год крэпасці мешчаніна Пінхуса Тхорніцкага за тое, што ён раздаваў у Лідскім павеце проклямаціі, друкаваные па беларуску і па польску. Да суда Тхорніцкі прасядзеў у турме 4 з паловай месяцы, і таму Палата пастанавіла, што ён мае сядзець у крэпасці ешчэ 7 с паловай месяцоў"*[15].

**1.3. Перaслед ксяндзоў.**

Нават пасля "канстытуцыі" 1905 г. расійскі урад працягваў пераслед ксяндзоў за шлюбаванне праваслаўных з католікамі і арганізацыю польскіх школ. 28 сакавіка 1908 г. ў Лідзе прайшла кадэнцыя Віленскага акруговага суда, на якой была разгледжана справа ксяндза Яна Казарновіча (пробашча з Забалаці). Ксёндз абвінавачваўся па 93 артыкуле Карнага кодэкса за ўпісванне ў парафіяльныя кнігі 15-ці гадовай праваслаўнай[16].

У 1911 г. "Кур'ер Літоўскі" інфармаваў, што на *"сесіі выязнога акруговага суда разгледжаны справы ксяндза Аляксандра Гайдука, абвінавачанага ў тым што ў Навадворскім касцёле даў шлюб праваслаўнай Галіне Козіч з каталіком Аляксандрам Храноўскім, вырак суда - 50 руб. штрафу, і ксяндза з Радуні Антона Давідовіча, які дазволіў пахаваць на парафіяльных могілках забітага маланкай без дазволу паліцыі і доктара. Ксёндз Давідовіч апраўданы"*[17].

**1.4. Уцёкі з турмы.**

У гэтыя гады было здзейснена некалькі ўцёкаў з Лідскай турмы. "Кур'ер Літоўскі" пісаў пра спробу ўцёкаў 24 верасня 1906 года: *"Шасцёра зняволеных, якія знаходзяцца пад следствам, скарыстаўшыся невялікай колькасцю ахоўнікаў, здзейснілі спробу ўцячы з турмы. ... калі дзяжурны ахоўнік адкрыў дзверы камеры, ўсе яны кінуліся на яго, уцягнулі ў камеру, забралі рэвальвер і ключы і выпусцілі ўсіх зняволеных. Падняўся вялікі шум, які пачуў другі ахоўнік. Ён закалоў штыком арыштанта ўзброенага рэвальверам і прымусіў астатніх зняволеных разысціся па камерах. Аднак адзін са зняволеных, нехта Пятроў, паспеў*

*збегчы з турмы"*[18]. А 28 сакавіка 1911 г. з павятовай турмы ўцяклі Пётр Мілашэвіч (17 гадоў) і Кароль Альшэўскі (19 гадоў)[19].

**1.5. Рабаўніцтвы і забойствы.**

Узімку 1906 г. усеагульную цікавасць у горадзе выклікаў наступны выпадак: *"Некалькі тыдняў таму спадар К., кіраўнік маёнтка Дворышча, падвергнуўся нападу двух рабаўнікоў белым днём на дарозе Ліда - Дворышча. Рабаўнікі былі ў уніформе земскіх стражнікаў, мелі карабіны і шаблі. Адзін з іх цэліўся ў с-ра К., другі, з агаленай шабляй, забраў у ахвяры партманэ з 700 рублямі. С-р К. і фурман пазналі потым у Лідзе рабаўнікоў, якія яшчэ не займалі пасады стражнікаў, а былі толькі кандыдатамі на гэтую пасаду. Варта было б у кандыдатаў на пасаду стражніка, патрабаваць рэкамендацыі ад паважаных людзей, каб падобныя выпадкі не паўтараліся"*[20].

Увосень 1906 г. газета пісала пра некалькі рабункаў на Лідчыне: *"У ноч на 18 верасня ў фальварку Остын у Тарноўскай гміне абрабаваныя арандатары Гірш Гутоўскі і Дварынскі. Рабаўнікі Юзаф Мерч-Аляксееў і Мікалай Пухальскі (сын кантралёра акцызнай палаты) былі арыштаваны з забранымі грашамі. 23 верасня ў 9 гадзіне вечара на Гродзенскай шашы, сярод глухога лесу на паштовую карэту з Лідскай канторы, напала некалькі ўзброеных рабаўнікоў у масках. Стрэламі паштальён паранены ў шыю і руку. Хоць паштальён і сам стрэліў чатыры разы, але разам з фурманам быў прывязаны ў лесе да дрэва. Нападнікі забралі грошы, пошту і зніклі"*[21].

Тады ж на Лідчыне з'явіўся вядомы рабаўнік і беглы катаржнік Ліннікаў: *"У ноч з 18 на 19 ліпеня два узброеныя злачынцы напалі на ўладальніцу маёнтка Гародна Пляменнікаву і яе эканома Ельскага, якія вярталіся з Вільні. Нападнікі забралі грошы, пярсцёнкі, брычку і каня і з усім гэтым з'ехалі. Аднак іх хутка дагналі на дарозе з Жырмун на Ліду. Напад, здаецца, ёсць справай уцекача з катаргі Ліннікава, якога здаўна шукае паліцыя"*[22].

8 жніўня 1907 г. сялянка Разалія Купрашэвіч з Мытлянскай воласці, *"праходзячы лесам каля вёскі Ваверка, знайшла труп незнаёмага чалавека без галавы"*[23].

Заканчэнне рэвалюцыі не прынесла спакою лідскім купцам, у красавіку 1911 г. "*у гадзіну ночы з чацвярга на пятніцу двое невядомых напалі на яўрэя Дубіцкага ... і пагражаючы рэвальверам забралі ў яго 3000 рублёў"*[24].

У лістападзе 1911 г. у *"кватэры паручніка 172 палка пяхоты Якштаса*[25]*, які знаходзіцца ў адпачынку, быў знойдзены задушаны шараговец таго ж палка Кулін"*. Як высветліла следства, яго забілі рабаўнікі, якіх шараговец выпадкова заспеў на месцы злачынства[26].

На Лідчыне, як і па усёй імперыі, чыноўнікі не маглі стрымацца ад крадзяжу грошай, за якія яны адказвалі на службе. Увосень 1911 г. у Астрыне *"ўцёк начальнік мясцовага паштова-тэлеграфнага бюро Нюнька. Рэвізія выявіла недахоп грошай у суме 5 600 руб. Следства паказала што грошы скраў Нюнька. Пачаўся яго росшук"*[27]. У тую ж восень у мястэчку Жалудок нейкі Эдвард Градзіцкі, *"член тутэйшага сельскагаспадарчага таварыства, скраў з касы таварыства 120 руб. 31 кап."*[28].

Вялікай бядой для сялян былі канакрады. Пад псеўданімам "Далёкі" нехта з жыхароў Лідчыны пісаў у "Нашу Ніву": *"М. Воранава Лідскага павета. Вельмі шкадуем, што закон аб зладзеях аб'яўлен надта позна, як ужо пачаліся доўгія ночы. Канакрады ды іншыя майстры прачулі пра тое, ды за пару апошніх тыдняў справілі па вёсках і дварох пагалоўныя крадзежы. Каровы і валы крадуць сярод белага дня, коні уводзяць начамі. Праўда і тое, што ў кожнай вёсцы, часцёй на аднаселлі, зладзеі находзяць прытулак і нават маюць сваіх агентаў. Павядуць мужыцкую канюху - гаспадар запрашае людзей, разстаўляе па мастох і па трактах, сам прыслухваецца, ды на тым і канча-ецца справа. Да паліцыі рэдка ўдаецца* (звяртаецца - *Л.Л.*). *Усяго ў нашай вакрузі, як вядома нам, уведзена штук 20 коней. [...] Не так даўно абакралі зладзеі царкву ў в. Папоўская Жыжма Лідскага павета"*[29].

У студзені 1913 г. на дарозе *"з двара Ваверка ў Багданаўшчыну забілі арандатара двара Ваверка, Ляса. Забойцы ўсё тулава парубалі на кавалкі, адсеклі ногі, пабілі галаву і рукі. Гэтак сама зрабілі з целятамі і качкамі каторых Ляс вёз на продаж"*[30].

Пра галоўнага лідскага "боўдзілу" пачатку XX ст. гл. мой артыкул у "Лідскім летапісцы" № 3 (64) - 2013.

**1.6. Побытавая злачыннасць і злоўжыванні дробных чыноўнікаў.**

Як і паўсюдна, на Лідчыне не абыходзілася без побытавых злачынстваў.

Так у кастрычніку 1907 г. у Васілішках, нейкі Б. *"стрэліў з рэвальвера ў качку, якая была ўласнасцю сялянкі, за што тая напала на яго з жэрдкай у руках"*. Абодва былі арыштаваныя на тыдзень[31].

"Наша Ніва" паведамляла пра злачынства розных службоўцаў. Пры канцы 1907 г. ў вёсцы Заборцы Ганчарскай воласці, ляснік Лагень *"падвыпіўшы добра на вяселлі Шпілеўскага, пакалечыў шырокім нажом Анелі Шмара тры пальцы на левай руцэ і Стэфцы Баярчык нагу і калена"*[32]. А на пачатку 1908 г. у вёсцы Асава Беліцкай воласці *"старшына Лукашэвіч* (кіраўнік воласці - *Л.Л.*) *пабіў ды катаваў мужыка Южыка Санюка без усялякай прычыны"*[33].

Але даставалася і чыноўнікам. На Нёманскай гуце шкла (зараз у Бярозаўцы) адбыўся сапраўдны "пралетарскі" чын: *"працаўнікі з-за помсты напалі на чыноўніка заводакіравання Юзафа Лідашынскага, пабілі яго кіямі і выбілі некалькі зубоў"*[34].

У кастрычніку 1910 г. у Радзівонішках нежаданне вяртаць дзядзькам пазыку прывяло да забойства пляменніцы: *"Ева Тарашкевіч пазычыла свайму дзядзьку Станіславу Тарашкевічу 110 рублёў, праз нейкі*

*час патрабавала вярнуць грошы, але Тарашкевіч адмовіўся. Тады Ева звярнулася ў суд і выйграла справу. Дзядзька, незадаволены прысудам, выцяў пляменніцу палкай у галаву. Ахвяра зараз знаходзіцца ў шпіталі Св. Якуба ў Вільні, дзе ёй зрабілі аперацыю, але стан здароўя безнадзейны. Тарашкевіч арыштаваны"*[35]. А праз два месяцы падчас вяселля ў вёсцы Збляны *"40-гадовы селянін Антон Лакцевіч пасварыўшыся з суседзямі пайшоў да сябе. Праз нейкі час ён выйшаў з хаты, і на яго напала 10 чалавек, якія пачалі біць яго дошкамі з плоту. Білі, пакуль Лакцевіч не памёр. Забойцы хацелі кінуць труп у Нёман, але для гэтага трэба было прайсці каля хаты святара. Таму яны выкапалі дол каля школы і тут закапалі забітага. У Лакцевіча засталіся пяцёра дзяцей. Забойцы арыштаваныя"*[36].

У Цвербутах брат забіў брата: *"Завяліся брат з братам за дошку. Старшы брат з жонкай і сынамі накінуліся на меншага і зрабілі тры раны ў галаве сякерай, той і памёр. Тады старшы брат схапіў атруту, а дзяцей і жонку суд выслаў на вечную катаргу. Дошка асталася ... на труну"*[37].

#### 1.7. Ашуканствы.

Як і ў наш час, былі на Лідчыне ўсялякія знахары і "народныя дактары", якія добра зараблялі на народным невуцтве і недаступнасці да сапраўднай медыцыны, у 1911 г. у амаль што "курортнай" прынёманскай вёсцы Сялец Ганчарскай воласці нейкі Язэп З. наняў кватэру *"і абвясціў сябе знахарам. Лечыць ён націраючы спіртам і ад кожнай хваробы робіць адно і тое. Хваліцца, што выганяе добра раўматызм, падвей, рожу і др., ды што на ўсю Расею такіх, як ён, знахараў ёсць усяго толькі 40 чалавек. Туманіць галаву людзям добра ўмее, а тыя і пруць да яго, нясучы свае цяжка запрацаваныя капейкі, каторых шкадуюць на праўдзівага доктара"*[38].

Беларуская газета "Наша Ніва" ў красавіку 1913 г. расказала пра спецыфічныя метады лячэння, якія ўжываў знахар: *"Сялянка вёскі Краснае, Беліцкай воласці Лідскага павету Аўдоцця Вітка, захварэла на раматус у нагах. Ёй парадзілі, каб яна ўдалася на раду да знахара Кастуся Русакевіча, што жыве ў вёсцы Лоск Ашмянскага павету. 7 красавіка яна прыехала да гэтага знахара і, па загаду яго засталася ў яго на лекі. ... У ночы Русакевіч заткнуў Вітке горла, каб не крычала і ... згвалціў яе, даводзячы, што ад гэтага раматус у нагах прападзе. Па справе робяць цяпер следзтва"*[39].

Улетку 1913 г. тая ж газета "Беларус": *"Ліда. Тутака ездзяць цыгане і не дорага прадаюць нібы медны посуд. Тым часам аказваецца, што гэты посуд з звычайнай бляхі і не варты нават паловы сумы, што бяруць за яго цыгане"*[40].

#### 1.8. Здарэнні.

Не абыходзілі тутэйшы люд няшчасныя выпадкі і розныя здарэнні.

19 лютага 1910 г. у маёнтку Подзітва генерала Ілавайскага, *"селянін Міхал Бэдзюнец рэзаў салому для быдла, усадзіў у сячкарню руку, і сячкарня адсекла руку"*[41]. Яшчэ больш цяжкі выпадак адбыўся з селянінам вёскі Мошкішкі Лідскага павета, дзе Георгі Бабін *"упаў з даха на кол агароджы. Яго знялі з палі і адправілі ў шпіталь Св. Якуба ў Вільні, дзе Бабін памёр"*[42].

Як і заўжды сяляне любілі добра "закласці за каўнер", што часам прыводзіла да смерці піякаў: *"В. Сялец, Лідскага павета, Ганчарскай воласці. Нядаўна чацвёра тутэйшых сялян так напіліся спірытусу, што ён аж загарэўся ў іх. Трох адратавалі, а чацьвёртага пахавалі"*[43].

У вёсцы Кеймашы Радунскай воласці *"пярун забіў працаваўшага ў полі селяніна Яна Жэгздрына, які меў 33 гады"*[44].

Пры канцы суровай зімы 1911 г. на мяжы Лідскага і Слонімскага паветаў здаралася нават такое: *"На ўрадніка Рафаловіча напалі ваўкі. Двух ваўкоў ураднік забіў шабляй, але астатнія ваўкі разадралі яго на кавалкі"*[45].

4 кастрычніка 1911 г. адбылося, верагодна, першае транспартнае здарэнне з удзелам аўтамабіля на Лідчыне. *"...каля 17-00 пані Чачот ехала на брычцы па дарозе Ліда - Вільня. Не даязджаючы Беняконей, конь быў напалоханы аўтамабілем пана Вагнера з Вялікіх Салечнікаў, які абагнаў брычку без папераджальнага сігналу. Конь кінуўся ў бок, перавярнуў брычку, і пані Чачот была выкінута з яе на дарогу. Конь з брычкай без гаспадыні памчаўся ў бок мястэчка, дзе і быў злоўлены. Пані Чачот атрымала цялесныя пашкоджанні і не магла сама падняцца з зямлі, аднак кіроўца і пасажыры аўтамабіля не звярнулі на яе ўвагі"*[46].

#### 1.9. У цэлым.

Пра агульны узровень злачыннасці на Лідчыне ў "Кур'еры Віленскім" пісаў Вандалін Шукевіч. Адзін з яго артыкулаў пра чарговую сесію выязнога Віленскага акруговага суда пачынаўся так: *"Разгледжаныя справы не былі складанымі. У Лідзе, у адрозненні ад вялікіх гарадоў, няма крадзяжоў, для расследавання якіх патрэбен Шэрлак Холмс, няма заблытаных забойстваў. Злачынствы здзяйсняюцца ў асноўным простымі людзьмі, сякерай або калом. Народная цемра падлівае алей у лямпу злачыннасці, агонь якой ўсё ж час ад часу абпальвае. Бягучая кадэнцыя суда разгледзела 15 спраў, улічваючы што акруговы суд збіраецца ў Лідзе 4 разы ў год, не цяжка падлічыць сярэднюю колькасць злачынстваў - 60 у год. А як у Лідскім павеце жыве амаль 200 000 чалавек, дык злачыннасць у нас не высокая. Тут, вядома, трэба ўлічыць, што частка спраў не даходзіць да суда прысяжных і г.д."*[47].

Такім чынам злачыннасць на Лідчыне была ўсё ж справай рэдкай.

## 2. Пажары

### 2.1. Пажары ў горадзе.

Як і ўсе збольшага драўляныя гарады з пячным ацяпленнем і шчыльнай забудовай, Ліда ў XIX - пачатку XX ст. часта гарэла. Пажар 23 жніўня 1842 года ў Лідзе ўзнік, менавіта, з-за перагрэву печы ў яўрэйскай лазні. Гэта быў найбуйнейшы да таго часу пажар. У выніку пажару згарэў касцёл піяраў, школьны двор, частка дамоў каля рынкавай плошчы і ўздоўж Віленскай вуліцы 43 дамы, паводле іншых звестак згарэла 80 яўрэйскіх дамоў і 40 хрысціянскіх, згарэла павятовая драўляная паштовая кантора.

6 кастрычніка 1891 г. ў Лідзе здарыўся яшчэ больш грандыёзны пажар, згарэла 3/5 горада, практычна ўся цэнтральная частка. У "Віленскім календары" пісалася: *"Пажарам, які адбыўся з невядомай прычыны, знішчана 444 жылыя дамы і 283 халодныя пабудовы з рухомай маёмасцю пацярпелых (страты 679.408 р.). Пры гэтым згарэлі: архіўныя справы, кнігі і некаторыя бягучыя паперы: Паліцэйскай управы, павятовага спраўніка, З'езду Міравых суддзяў, прадвадзіцеля дваранства, З'езду Міравых пасярэднікаў, павятовай Прысутнасці па воінскай павіннасці, Дваранскай Апекі, Гарадской Управы, Сірочага Суда, Мяшчанскай управы і метрычныя сшыткі яўрэяў, якія захоўваліся ў казённага рабіна. 10 кастрычніка, у тым жа г. Лідзе, згарэлі, ад неасцярожнага абыходжання з агнём 10 жылых і 9 халодных пабудоў з рухомай маёмасцю пацярпелых (страты 53.635 р.)"*[48]. Пажар 1891 г., між іншым, знішчыў пабудаваны ў XVIII ст. будынак Лідскай ратушы які стаяў на базарнай плошчы. Ратуша служыла вайсковай гаўптвахтай, а прыбудова - адрынай для пажарнікаў[49]. Пасля гэтага пажару новая забудова Ліды ішла з улікам патрабаванняў пажарнай бяспекі Расійскай Імперыі[50].

Наступным вядомым нам пажарам быў пажар 10 жніўня 1906 г. Было цалкам знішчана 12 дамоў па вуліцы Замкавай. Страты склалі 1400 руб., прычым толькі два дамы былі застрахаваныя. Паліцыя вырашыла, што верагодная прычына пажару - падпал[51]. У канцы верасня 1907 г. "Кур'ер Літоўскі" пісаў: *"20 верасня ўвечары выбухнуў велізарны пажар. Агонь пачаўся ў доме праваслаўнага святара Каяловіча*[52]*. З-за моцнага ветру агонь быў перанесены на суседнія дамы, і праз паўгадзіны гарэла ўжо шмат будынкаў. Агонь патушаны толькі на раніцы. Страты папярэдне ацэньваюцца ў 150 000 рублёў"*[53]. 150 000 рублёў, гэта па таму часу вялізныя грошы, для параўнання гадавы бюджэт горада ў 1904 г. - 26 900[54], гэты пажар бясспрэчна быў вельмі вялікі. А роўна праз чатыры гады ў пажары згарэлі хаты і гаспадарчыя пабудовы гараджан Болтруця, Руткоўскага і Сцяпуры[55].

Пажары былі вялікім бедствам нашага горада. У кастрычніку 1913 г.: *"Уначы 13, гэтага месяца, у Лідзе згарэла каля 20 дамоў у самай густа заселенай частцы горада. Згарэлі так сама тры заезды і шляхецкі клуб. Пажарнікаў тут няма, а якія ёсць не маюць ні добрай каманды ні добрага абсталявання. А жыве ў горадзе каля 20 тыс. чалавек. Ёсць прыгожыя крамы, розныя інстытуцыі, школы, нават электрычнасць, дык аж ні хочацца верыць, што няма там добрай пажарнай каманды"*[56].

Неабходна дадаць, што на пачатку XX ст. лідская гарадская добраахвотная пажарная каманда мела 4 помпы і 6 пажарных бочак[57] і пажары былі, верагодна, самай вялікай праблемай для горада.

### 2.2. Пажары ў мястэчках і вёсках Лідчыны.

Не меней чым горад, пакутавалі ад пажараў мястэчкі і вёскі, прычым спадзявацца жыхары гэтых населеных пунктаў маглі толькі на сябе.

29 сакавіка 1907 г. у *"вёсцы Салішкі (Новааляксандраўская воласць) агонь знішчыў 42 хаты з усімі пажыткамі. Страты 42 450 руб"*[58].

Праз паўгода з невядомай прычыны пажар пачаўся ў вёсцы Леснікі: *"Згарэла 40 дамоў і гаспадарчых пабудоў. Страты 40 000 руб."*[59]. Пра тое што цалкам выгарэла вёска Леснікі мытлянскай воласці газета "Наша Ніва" паведамляла ў двух нумарах[60]: *"5 акцябра ў поўнач згарэла вёска Леснікі, згінула многа скаціны. Пажар не маглі затушыць, бо быў сільны вецер. Асталіся толькі 4 хаты. Прычына пажару - неасцярожнасць. У Лідскім павеце гэтай восенню ўсё болей пажараў. У пані Красінскай ў маёнтку Ольжава спалілася гумно і свіран, яшчэ ў трох маёнтках яе пагарэлі гумна. Дрэнна што прападае шмат хлеба - ўсё, што сёлета з поля сабралі, ад гэтага хлеб падаражае, а пад вясну і мужыком ня будзе гдзе купіць ... . Арыштаваны да суда 8 чалавек з вёскі Ольжава, вінавацяць іх у тым, што пасвілі быдла па лесу пані Красінскай. Вёска гаворыць, што яны не пасвілі, толькі раз дзеці мімаходам прапусьцілі"*[61]. Пасля пажару, камісія па землеўпарадкаванні абяцала сялянам вёскі Леснікі прадаць зямлю, калі яны згодзяцца рассяліцца на хутары. Сяляне згадзіліся і не будаваліся ўжо *"на старых цесных пляцах, але новых, хутарных вучасткаў не выдзялялі вельмі доўга. Цяпер прыйшла зіма, марозы, і людзям дрэнна прыходзіцца, бо няма дзе падзецца"*[62]. У 1910 г. народны карэспандэнт І. Калодка паведамляў: *"В. Леснікі, Лідскага павета Лебёдскай воласці. Трэці ўжо год, як мы разсяліліся на хутары і, хоць спярша крыху баяліся, як гэта будзем жыць, але цяпер ня можам нацешыцца самі. Кожнаму з нас лепш стала жыць, бо над сваёй зямлёй можа панам быць"*[63]. Як кажуць "ліха без дабра не бывае".

Увосень 1908 г. згарэлі чатыры дамы ў вёсцы Асава што ў Беліцкай воласці[64].

Улетку 1910 г. у вёсцы Барысаўцы Астрынскай воласці *"згарэла 14 дамоў і 33 гаспадарчыя пабудовы. Страты 22 057 руб."*[65]. У 1911 г. пажар узнік ноччу ў вёсцы Пакроўскае (Сабакінцы - *Л.Л.*). *"Згарэлі: будынак школы, гаспадарчыя пабудовы воласці. Страты 2 870 руб."*[66].

Прычынай пажару магла стаць не толькі асабістая неасцярожнасць ці гаспадарчая дзейнасць сялян але і прыродныя з'явы. Напрыклад увосень 1910 г. з-

за маланкі выбухнуў пажар у вёсцы Смілгіні Забалацкай гміны. *"Цалкам згарэлі ўсе пабудовы сялян Нядзелькі і Юхніка. Маланка, якая выклікала пажар, пры гэтым яшчэ і забіла Юзафа Юхніка"*[67].

Гарэлі не толькі сялянскія хаты але і нешматлікія прамысловыя прадпрыемствы, 15 траўня 1908 г. у Беняконях *"з-за пашкоджання рухавіка, згарэў паравы тартак. Страты 8 000 руб. Некалькі сямей засталіся без працы"*[68]. У жніўні 1913 г., *"у Шчучыне ў маёнтнасці кн. М. Друцкай-Любецкай згарэла фабрыка фанэры, страты 60 000 рублёў"*[69].

У лістападзе 1911 г. не пашанцавала гаспадыні фальварка Прамыслова сп. Кацярыне Звярхоўскай. З-за неасцярожнасці пастухі з вёскі Кульбакі падпалілі яе лес, у выніку чаго яна панесла вялікія страты. А праз некалькі дзён, калі Звярхоўская вярталася з Ліды, на яе напалі некалькі рабаўнікоў. Але на гэты раз лёс не пакінуў яе - ехаўшыя за ёй па дарозе сяляне злапалі рабаўнікоў[70].

Пры канцы таго ж года з-за наўмыснага падпалу згарэлі тры гумны ў вёсцы Багданаўшчына. Пры гэтым абшарнік Вільгельм Скіндар атрымаў страты на суму 5 500 руб., арандатар Лейба Ляс - 9 675 руб. Але будынкі былі застрахаваныя ў таварыстве "Расія" на суму 5 200 руб., і страты былі часткова кампенсаваныя[71].

У Радуні вялікі пажар быў да 1906 г. Прамой інфармацыі пра пажар няма, але ён узгадваецца ў артыкуле ў "Кур'еру Літоўскім", надрукаваным ў кастрычніку 1908 г.: *"Мястэчка* (Радунь - *Л.Л.*) *прыгожае, новаадбудаванае пасля пажару, які яго цалкам знішчыў"*[72].

Дастаткова шмат інфармацыі ў розных газетах таго часу пра пажар 1910 г., які амаль што цалкам знішчыў мястэчка Бенякoні.

Газета "Кур'ер Літоўскі" пісала: *"У панядзелак 7 чэрвеня ў 9 раніцы загарэліся Бенякoні. ... як знарок быў моцны вецер. ... Вяртаючыся ў Вільню, я быў на станцыі ў 2 гадзіне дня. Бачыў страшны від згарэўшага мястэчка: чорныя адзінокія коміны, абгарэлыя дрэвы, тлумы людзей з ваколіц і пагарэльцаў, якія занялі агароды і шырокі Лідскі гасцінец. Ад вельмі прыгожага мястэчка, акрамя касцёла, засталося ледзьве некалькі дамоў і сінагога. ... Загінула 18-гадовая дзяўчына Дравецкая ..."*[73].

Пра пажар у Беняконях і яго наступствы "Наша Ніва" надрукавала шэраг карэспандэнцый. У першай з іх нехта *"Юзюк Гр."* пісаў: *"М. Бенякoні Лідскага павета. У панядзелак (7 чэрвеня) ня больш, як за паўтары гадзіны, згарэло да званьня нашае мястэчка. Агонь так шпарка перакідаўся на высушэныя стрэхі дамоў, што не было і думкі, каб што небудзь ратаваць. Людзі беглі з сваіх хат, каб толькі самім ратавацца. Згарэло шмат жывёлы і адна дзяўчына. Пажар пачаўся ад курнай хаты"*[74]. Праз месяц нейкі *"Бенякoніч-хрысціянін"* даслаў больш грунтоўную і вынiковую карэспандэнцыю: *"Бенякoні, Лідскага павета. 7 іюня ў нас быў пажар. Згарэла дамоў 35, а гаспадарскіх будоўль яшчэ больш. Выгарэла Свіная вуліца і глаўная вуліца на такце. 7 дамоў у новапаселенцаў жыдоў і хрысціян былі застрахаваны ў воласці, плацілі праз 9 гадоў, але страхоўкі не заплацілі ім, бо быццам новапаселенцам у воласці страхаваць не можна. Гэтыя людзі звяртаюцца да губернскага прысутвія с жалабай. Пагарэлыя па стараму звычаю звярнуліся за падмогай да памешчыкаў Вагнера, Бароўскага, гр. Путкамера (б. Дэпутат Другой Думы) і др., каб яны прадалі дрэва хоць за грошы, але з гэтага нічога не выйшла. Толькі адзін панок Ян Селянка памагаў, чым мог. Даваў коні вазіць жвір, дровы, даваў мох, дрэва. Прыслалі толькі жыта два Рымшы, Бароўскі, Гувалдова, Вайткевіч, доктр Хазбевіч. Злажылі ксяндзу Ушумецкаму, каб ён дзяліў. А жыды нашы бенякoнскія па суседску памагалі, чым хто мох. Напрыклад, лясны купец Рабіновіч прадаваў бярвення па сваёй цане і на павер, а хто грошы сам прынясе, то добра! А хто не плаце і да сягодння, то купец не спаганяе. Цяпер па троху, дзякуючы падмозе добрых людзей і суседзей адбудаваліся"*[75].

Праз год "Наша Ніва" зноў вярнулася да тэмы пажару ў мястэчку Бенякoні: *"Пасля пажару 7 чэрвеня 1910 г. па троху наша мястэчка пачало адбудоўвацца. Адзін нават мурок збудавалі. Жыды паставілі цяпер дамы шмат лепшыя, як да пажару былі, ім памагалі жыдоўскія дабрадзеі з другіх гарадоў і мястэчак. А тутэйшыя паны нічым не памагалі бенякoнскім хрысціянам. Хто маець сваю зямлю, дык дасталі страхоўку і, як мацнейшыя, добра пабудаваліся, а сямі навасяленцам на чыншавай зямлі, каторым не прызналі валасной страхоўкі, прышлося саўсім туга. ... Німа цяпер ў нас краўца, быў адзін, але як пагарэў, то выехаў, бо не было хаты"*[76].

## 3. Адукацыя

### 3.1. Адукацыя ў Лідзе.

Даведнік "Города России в 1904 году" паведамляе, што ў Лідзе было 6 навучальных устаноў, у якіх вучыліся 700 вучняў (500 мужчынскага і 200 жаночага полу) і 23 настаўнікі (18 мужчынскага і 5 жаночага полу)[77]. Асноўнымі навучальнымі ўстановамі горада былі: мужчынская прыходская двухкласная вучэльня, гарадская чатырохкласная вучэльня, жаночая вучэльня Навіцкай, пачатковая яўрэйская вучэльня[78] (з 1905 - іешыва з 6-гадовым тэрмінам навучання).

У 1901 г. "Литовские Епархиальные Ведомости" друкуюць некралог па памёрлым у Лідзе чыноўніку Івану Феліксавічу Крэчынскаму, які раней служыў у *"ведамстве народнай асветы і карыстаўся невялікай ад гэтага ведамства пенсіяй ... мы плануем потым сказаць пра яго службовую дзейнасць, якая хоць была сціплая, але важная, тым больш, што нябожчык І.Ф. належаў да ліку людзей, якія свядома перажылі найважныя падзеі мінулага стагоддзя ў Заходне-Рускім краі"*[79]. На жаль, болей пра жыццё сціплага чыноўніка газета не пісала, вядома, што ён працаваў у Віленскай



***Лідская гарадская чатырохкласная вучэльня***

рэальнай вучэльні памочнікам класнага кіраўніка і, верагодна, пасля выхаду на пенсію пераехаў у Ліду.

Тыя ж "Литовские Епархиальные Ведомости" на пачатку 1901 г. пісалі пра *"занапад царкоўнай школы на гуце Столе і Краеўскага каля Нёмана"*[80].

У тым жа 1901 г. тая ж газета надрукавала справаздачу аб ушанаванні 40-гадовай педагагічнай дзейнасці лідскага протаіерэя Іосіфа Каяловіча[81]: *"27 ... лютага ў цесным педагагічным коле было наладжана сціплае, але вельмі сардэчнае ўшаноўванне найстарэйшага педагога ... вучэльні, законанастаўніка, протаіерэя І. Каяловіча ў сувязі з 40-годдзем ягонай педагагічнай дзейнасці. Пасля ўрокаў, у актавай зале вучэльні на чале са штатным наглядчыкам Ф.Л. Навіцкім, сабраліся ўсе навучэнцы хрысціянскіх вучэльняў г. Ліды. Сход ўшанавалі сваёй прысутнасцю спадарства ўчастковы інспектар А. І. Ланачэўскі і прадвадзіцель дваранства І. Р. фон-Віт. На набажэнстве спяваў хор вучэльні на чале з дасведчаным кіраўнікам, настаўнікам І. М. Палу. Пасля набажэнства ад імя прысутных юбіляру быў паднесены абраз Збаўцы. Падносячы гэты дарунак, штатны наглядчык Ф. Л. Навіцкі вітаў юбіляра прамовай. ... Расчулены выступам, а. Каяловіч у адказ падзякаваў за аказаны яму гонар і сказаў, што ... ён ад душы цешыцца значнаму павелічэнню колькасці навучэнцаў праваслаўнага спавядання ... (бо) быў час, калі ў гэтай школе даводзілася выкладаць слова Божае аднаму вучню"*[82].

Вучыцца ў Лідскай гарадской вучэльні было складана, пра што у 1907 г. пісала "Наша Ніва": *"Ліда. Нам пішуць, што тут вельмі ціснуць вучняў гарадского вучылішча. Інспектар несправядліва выгнаў вучня Б. За нейкае глупства настаўнікі калечаць усё жыццё маладому хлопцу"*[83].

Інспектарам вучэльні ў гэты час працаваў Яўстафі Антонавіч Ганецкі[84].

У дадатак да існых дзяржаўных, 7 кастрычніка 1901 г. у Лідзе была адкрыта прыватная жаночая трохкласная вучэльня з падрыхтоўчым класам. Арганізавала і ўтрымлівала вучэльню Марыя Канстанцінаўна Навіцкая (у дзявоцтве Снітко) - выпускніца Віленскай вышэйшай Марыінскай вучэльні[85]. У красавіку 1906 г. *"прыватная жаночая школа ў Лідзе спадарыні Навіцкай хадайнічае аб пераўтварэнні ў прагімназію"*[86]. У верасні таго ж года М. Навіцкая і М. Палу *"падалі прашэнне куратару навучальнай акругі аб дазволе адкрыць у Лідзе 4-х класную прагімназію"*[87]. Вучэльня пераўтвараецца ў прагімназію, але 6 лістапада 1908 года ад разрыву сэрца памірае стваральніца Лідскай прыватнай жаночай прагімназіі Марыя Канстанцінаўна Навіцкая, тым не менш назва "Прагімназія Навіцкай" працягвае выкарыстоўвацца[88].

17 верасня 1910 г. "Кур'ер Літоўскі" напісаў, што *"25 жніўня ў Лідзе адкрыта прыватная гімназія Навіцкай з правамі дзяржаўнай школы"*[89].

У жніўні 1913 г. у горадзе пачынае працаваць мужчынская гімназія: *"У Лідзе гэтай восенню адкрываецца гімназія для хлопцаў. Уступныя экзамены пачнуцца ад 20 жніўня. Просьбы аб прыняцці ад 1 жніўня прымаюцца ў канцылярыі гімназіі"*[90].

"Кур'ер Літоўскі" надрукаваў развагі невядомага жыхара горада пра не жаданне вывучаць польскую мову: *"У горадзе функцыянуюць дзве прыватныя школы, прагімназіі жаночая і мужчынская з правамі дзяржаўных школ. Абедзве школы атрымалі права выкладаць польскую мову за дадатковую плату па 7 рублёў з вучня. Аднак ахвотных вучыцца польскай мове знайшлося толькі 40 чалавек, і таму настаўніца поль-*




***Лідская прыватная гімназія Навіцкай***

*скай не загружана і выкладае яшчэ і французскую мову"*. Аўтар са смуткам паведамляе, што ў жаночай прагімназіі польскую мову вучыць толькі 18 вучаніц, у мужчынскай - 24 вучні. *"Вялікая частка гараджан Ліды - габрэі, дома яны размаўляюць часткова на ідыш, часткова па-руску, на вуліцы - у асноўным па-руску. Хрысціяне: палякі і беларусы, дома размаўляюць у асноўным па-польску*[91]*, а на вуліцы паміж сабой па-руску"*. Далей невядомы піша: *"На пытанне, чаму не жадаеце, каб вашы дзеці вучылі польскую мову, адказваюць: "Нашы дзеці ўмеюць Пана Бога славіць па-польску ў касцёле па кніжцы, і больш ім не трэба""*[92].

Перад 1914 г. горад меў дзяржаўную мужчынскую гімназію, прыватную жаночую гімназію Навіцкіх, дзве прыватныя прагімназіі, пачатковую школу (каля замка), дзве парафіяльныя школы - мужчынскую і жаночую, талмуд-тору і слаўную іешыву равіна Райнеса.

У сувязі з агульным эканамічным уздымам, да 1914 г. у горадзе з'яўляліся новыя вучэбныя ўстановы ўзроўню гімназіі, гэта станоўча ўплывала на жыццёвыя перспектывы моладзі, бо падвышала яе канкурэнтаздольнасць на рынку працы і давала магчымасць атрымліваць падрыхтоўку неабходную, каб стаць студэнтам універсітэта ў родным горадзе.

**3.1. Адукацыя ў Лідскім павеце.**

У першым нумары беларускай газеты "Наша Доля" ў карэспандэнцыі, датаванай вераснем 1906 г., падрабязна расказваецца пра арганізацыю сялянамі школы ў мястэчку Жырмуны: *"У восені ў прошлым годзе крэсцяне Жырмунскай воласці пастанавілі ўстроіць сваю школу, у каторай вучылі бы дзяцей і па-польскі. Начальства не дазволіла гэтага. Дзеля таго ўсе крэсцяне згаварыліся не пушчаць сваіх дзяцей у казённую школу і не даваць грошы на гэту школу. У вучылішчы ёсць вучыцель народны - неякі Данько, чалавек нягодны. Заўсягды ён ваяваў з крэсцянамі, рабіў ім усё злое, што мог. Часта кресцяне падавалі жалабу на яго вучылішнаму начальству, але з гэтага ніякага толку не было. Данько застаецца на сваім мейсцу. За тое цяпер, як крэсцяне пастанавілі не пасылаць дзяцей у школу, вучыцель Данько напісаў данос начальству на самых бойчэзных крэсцян і назваў іх бунтоўшчыкамі. Пісалі крэсцяне аб новых школах глаўнаму міністру Віттэ, але і тут нічога не дабіліся. Скончылася ўся справа тым, што вучыцель падаў на крэсцян жалабу ў суд. Цяпер суд прысудзіў прадаць дабро крэсцян, каб такім спосабам узяць ад іх грошы на вучылішча з каторага ніхто не карыстае. Цешыцца Данько, што такі прыцісnуў крэсцян, і чэкае, як гэта праз некалькі дзён споўніцца прыгавор суда, як будуць забіраць мужыцкае дабро .... Дзякаваць Богу, што такіх нягодных вучыцялёў мала ёсць у нашым краю"*[93].

Праз два месяца "Курьер Літоўскі" напісаў пра далейшыя падзеі ў Жымунах: *"21 лютага 1906 г. ў Жырмунскім касцёле паліцыя знайшла 60 вучнёўскіх сшыткаў і 9 польскіх падручнікаў. У плябаніі настаўніца Аляшкевіч вучыла дзяцей мове, а пробашч выкла-*

*даў рэлігію. Школа зачынена"*[94]. Пробашчам касцёла у гэта час быў магістр тэалогіі ксёндз Баляслаў Сперскі[95]. Пасля пакарання, ксёндз быў пераведзены ў Жалудок. У 1908 г. *"пробашч касцёла ў Жалудку кс. Баляслаў Сперскі, падаў паданне ў Віленскую вучэбную акругу з просьбай адчыніць пры касцёле школу з выкладаннем полькай і рускай мовы"*[96]. Але і ў Жалудку Сперскі за арганізацыю нелегальнай школы быў арыштаваны, і выязная сесія Віленскага акруговага суда ў Гародні прыгаварыла яго да зняволення ў цвердзі тэрмінам на адзін год[97].

*Кс. Баляслаў Сперскі нарадзіўся 05.04.1871 г. у засценку Коньчыны пад Вільняй у шляхецкай сям'і. Ягоным першым настаўнікам была маці. Потым ён вучыўся ў гарадской школе і Віленскай гімназіі. Пасля гімназіі паступіў у духоўную семінарыю. Пасля заканчэння семінарыі, як лепшы, быў накіраваны на вучобу у Пецярбургскую духоўную акадэмію, у 1897 г. закончыў яе з ступенню магістра тэалогіі. Наступныя чатыры гады выкладаў у Віленскай духоўнай семінарыі. Потым у якасці пробашча служыў ў Жырмунах, Жалудку а пасля 1920-х гг. у Ліпнішках, Кобрыне*[98]. *Пад час працы на Лідчыне стаў сталым кліентам Віленскага акруговага суда. У выніку, пасля вызвалення з зняволення ў цвердзі, быў вымушаны эміграваць у Амерыку. З'язджаючы, сказаў сябрам, што хіба вернецца Жалудок толькі разам з польскім войскам, бо інакш ужо ніяк*[99]. *Што гэта было? Выпадковасць ці ксёндз насамрэч прадбачыў хуткую Сусветную вайну, крушэнне трох імперый і стварэнне на іх месцы незалежных дзяржаў? Невядома. Але амаль што так і адбылося. Пасля заканчэння Першай Сусветнай вайны ксёндз спярша прыехаў працаваць у Сандамірскую дыяцэзію, а ў 1921 г. перабраўся Віленскую дыяцэзію. У 1927 г. стаў Гарадзенскі дэканам і пробашчам парафіі Св. Францішка Ксаверыя. У 1931 г. прызначаны адміністратарам касцёла Св. Барталамея ў Вільні. З 1936 г. - пробашч Віленскай парафіі Усіх Святых.*

*У 1941 г. арцыбіскуп Ялбжыкоўскі накіроўвае кс. Сперскага ў Менск. Але праз тыдзень знаходжання ў Менску яго арыштоўвае гестапа і праз нейкі час прымусова адпраўляе ў Вільню. У Вільні ксёндз далучаецца акцыі дапамогі віленскаму гета. У сакавіку 1942 г. разам з некалькімі іншымі ксяндзамі зноў арыштаваны і змешчаны ў турму на Лукішках. Адтуль трапіў у канцлагер у Шалтупях, адкуль быў вызвалены толькі ўлетку 1944 г. і зноў пачаў працаваць пробашчам парафіі Ўсіх Святых. У верасні 1944 г. выехаў у Бабруйск, дзе пачаў працаваць у мясцовый парафіі, якая да таго часу ўжо шмат гадоў не мела святара. З Бабруйска даязджаў аж да Магілёва, спрабаваў аднавіць парафію ў Воршы. 14.12.1946 г. кс. Сперскі арыштаваны МГБ Літоўскай ССР і ў жніўні 1947 г. атрымаў 5 гадоў лагераў. Трапіў у лагер каля Сталінагорска. Адтуль пераведзены ў Уладзімірскаю турму. Праз нейкі час, вельмі стары чалавек, з турмы пераведзены ў лагер пад Верхнеўральскам. Памёр 23.04.1951 г.*[100].



***Ксёндз Баляслаў Сперскі***

У кастрычніку 1907 г. "Наша Ніва" паведаміла, што ў Вільні хутка адчыніцца пачатковае двухкласнае вучылішча для летувісаў. Рэдакцыя паведамляе, што праз два месяцы павінна пачаць працаваць школа, дзе дзетак будуць вучыць таксама і беларускай мове[101].

У карэспандэнцыі стылізаванай пад сялянскую гутарку пад загалоўкам "З Лідскага павета" ў газеце "Наша Ніва" на пачатку 1908 г. аўтар пад псеўданімам "Калодка" паказваў, што сяляне ўжо добра зразумелі неабходнасць навукі для дзетак на сваёй мове: *"У вадной вёсцы надумаліся мужыкі наняць настаўніка ... цяпер нам усім дрэнна, а без навукі яшчэ горш будзе. Зямлі, брат, сваёй няшмат, дома сыны век не будуць сядзець, трэба будзе выхіляцца ў свет, а як чалавек невучоны, дык бяда: усюды папіхваюць і за дурня маюць! ... Антось Кумпяк (сказаў) - Трэба нам наняць вучыцяля, ды такога, каб вучыў па нашаму, у такой мове, як самі гаворым; гэта на сам перад, а пасля хай вучыць дзяцей па польску і па расейску. Калі не будзе так, як я кажу, дык дальбог, і капейкі не дам на якога іншага вучыцяля! Я шчыра раджу наняць вучыцеля Юзіка Кавальчука: ён, браты, усюды па гарадох, усё ведае, на ўсім-усякім чытанні знаецца, а сваёй мовы не цураецца, ад яе не адракаецца! Такі нам і патрэбны ..."*[102].

Той жа аўтар праз некалькі месяцаў пісаў: *"Устаюць па малу беларусы на свае ногі і самі працуюць, каб падняць культуру. Толькі бядуюць, што няма гдзе вучыць дзяцей, школак ў валасці толькі адна - народная, а дзяцей для навукі ў кожнай вёсцы будзе па 30, прыйдзе зіма, і вясковыя дзеці замест навукі будуць*

*сабак ганяць ... Але мужыкі стараюцца і самі наймаюць вучыцялёў на зіму. Школкі такія добра вучаць і па руску і па польску, і тлумачыць ім вучыцель усё ў роднай беларускай мове. Крыўда толькі дзецям ў тым, што такія школкі называюць "тайнымі" і закрываюць. У 1908 гаду начальства закрыла 4 такія школы ў Ганчарскай воласці, у вёсках Фалькавічах, Мінойтах, Песках і Заборцах, дык яшчэ 2 школкі ў Беліцкай воласці ў в. Нецяч і Чаплічы"*[103]. Як бачым, сяляне Лідчыны гатовыя былі вучыць сваіх дзяцей за свае кроўныя грошы, але расійская ўлада пераследавала непадкантрольную её адукацыю. Газеты таго часу рэгулярна змяшчалі інфармацыю з усёй Беларусі пра закрыццё "тайных" школ і судовы перасьлед іх арганізатараў.

У 1909 г. паведамлялася, што ў мястэчку Астрына Лідскага павета, *"мужыкі збіраюцца адкрыць гарадзкое вучылішча"*[104]. У тым жа гаду ў мястэчку Новы Двор *"з вучылішчам у нас ізноў бяда. Толькі паставілі новы будынак вучылішча, выходзіць, што дабрацца да яго нельга, хіба лётаючы па паветры. Зямля перад вучылішчам належыць быццам да купца Бершчадскага, і Бершчадскі не дае ні праходу, ні праезду ў вучылішча. Судзіліся мы адзін раз аб той кавалак зямлі перад Земскім і атсудзілі зямлю ад Бершчадскага. А на з'ездзе зноў нашы пісар і старшына паехалі без сведкаў і папераў, Бершчадскі і выіграў, і цяпер хоча за кавалак зямлі даўжыні 14 сажняў і шырыні 10 саж. - 300 руб. Старшына маніцца падаць яшчэ ў губернскае присутствіе"*[105].

У вёсцы Фалькавічы пастаноўка справы народнай адукацыі збольшага задавальняла сялян: *"В. Фалькавічы, Лідскага павета, Ганчарскай воласці. Ёсць ў нас вучылішча Любарскага обчэства. Усе нашы сяляне цешацца і з вучылішча, і з вучыцеля, каторы вельмі добра абходзіцца з дзеткамі. Не саўсім толькі здаволены каталікі тым, што ім прыходзіцца вучыцца па расейску. Хаця усе тут беларусы, але цёмныя людзі хочуць вучыцца пацяроў не па беларуску, а па польску, бо думаюць, што як каталік, то ўжо і палякам стаўся"*[106].

Але моўнае пытанне сялянская грамада магла вырашыць па свайму разуменню бо беларуская мова задавальняла ўсіх: *"У Лідскім павеце гаспадары пачалі кратацца каля прасветы сваіх дзетак. У аднэй вёсцы зрабілі прыгавор аб вучылішчу, але агледзяліся, што у гэтым вучылішчу адразу вучаць па расейску, дык першы год дзеці толькі час трацяць, бо дрэнна разумеюць гэту мову, вось і сяляне надумалі з самых пачаткаў вучыць сваіх дзяцей дома. Нанялі такога вучыцеля, каторы ўмее добра іхнюю беларускую родную мову, і пераканаліся, што гэтак шмат болей карысці для дзяцей, бо ім усё што вучыцель да іх кажа, зразумела, і пасля ў школі ляхчэй вучыцца"*[107].

Пра прагу сялян даць адукацыю дзецям пісаў народны карэспандэнт пад псеўданімам "Тутэйшы" з толькі што адбудаванага пасля пажару мястэчка Беняконі: *"У нашым народным вучылішчу было заўсёды ня больш 50-60 вучняў, а ў гэтым годзе ўсе сунуліся да наукі, і ўжо вучанікоў больш 100 і яшчэ просяцца, але не прымаюць. На гвалт патрэбна тут двухкласнае вучылішча, але ніхто аб гэтым не дбаець"*[108].

Ахвочых вучыцца і насамрэч было болей, чым маглі прыняць школы, нейкі "А.С." пісаў з Бутрыманцаў Лідскага павета: *"... асвета сялян тут па вёсках ідзе не праз школы, бо ўрадавая школа ўсяго адна на цэлую воласць - і воласць не малую. Хадзіць у тую школку ня кожнаму спадручна, ды і школка малая: усе месцы заняты, а жадаючых навукі шмат, дзеля гэтага сяляне прымушаны самі вучыць сваіх дзяцей і вучаць: бо уцямілі патрэбу навукі. Усюды добра граматнаму - ці дзе паехаў, ці пайшоў. Чытаць умеюць ня толькі мужчыны але і ўсё блізка кабеты, кабеты ж і вучаць чытаць дзяцей, сабраўшы па якіх 2-3, - больш ня можна, бо пацягнуць... Галоўная мэта гэтай навукі чытанне на малітоўніку. На малітоўніку дзеці і чытаць вучацца, ён і астаецца ў іх на заўсёды адзінай літаратурай, якую чытае тутэйшы грамацей. Гэтыя кніжкі малітоўнікі, друкаваны ў польскай мове і дзеля гэтага прывык тутэйшы беларус вязаць сваю веру з польшчынай. А праз цемнату сваю ён веру лічыць за нацыянальнасць і дзеля гэтага называе сабе палякамі. І гэта адбіваецца на жыцці"*[109].

Як бачым, на пачатку XX ст., неабходнасць адукацыі ўжо была ўспрынятая сялянамі Лідчыны як адзін з галоўных фактараў жыццёвага поспеху сваіх дзяцей. Так сама пачала ўсведамляцца неабходнасць і мэтазгоднасць вучобы менавіта на роднай мове.

### 4. Грамадскае жыццё

#### 4.1. Выбары ў Дзяржаўную думу.

Пасля рэвалюцыі 1905-06 гг. прэса традыцыйна шмат увагі надавала выбарам у Дзяржаўную думу Расіі.

Падобна, што менавіта для ўзгаднення пазіцый на выбарах з 19 і 20 студзеня 1906 г. на Лідчыне пад выглядам палявання сабраліся буйныя землеўладальнікі: *"У Шчучыне Лідскага павета адбылося паляванне на дзікоў у 6 стрэльб, гэта былі: уласнік Шчучына князь Уладзіслаў Любецкі, паны Ян Бішпінг, Адам граф Броель-Плятэр, Канстанцін князь Чацвярцінскі, Аскар Мяйштовіч і Станіслаў Незабытоўскі. У першы дзень палявання, вялізнага дзіка забіў граф Плятэр, на другі дзень трохі меншая жывёла легла ад рукі князя Любецкага"*[110].

"Кур'ер Літоўскі" падрабязна расказваў пра выбары ў Дзяржаўную думу Расеі ў 1906 г. Выбары не былі прамымі, усе жыхары Лідчыны былі падзелены на курыі, ад якіх абіраліся дэлегаты на губернскі сход, на якім у свой чарод ад губерні і выбіраліся дэпутаты ў Дзяржаўную Думы.

Быў утвораны "Звяз землеўладальнікаў" Лідскага павета. А 15 студзеня адбыўся агульны сход, на які акрамя гаспадароў землеўладальнікаў запрошаны і прадстаўнікі ад парабкаў з маёнткаў *"для рашэння пытання пра паляпшэнне побыту сельскіх працаўнікоў з улікам інтарэсаў гаспадароў. Прэзідэнтам камітэта*

*"Звяза землеўладальнікаў" выбраны Вітольд Даўкша, віца-прэзідэнтам Уладзімір Ятаўт, сакратаром А. Кастравіцкі"*[111].

22 лютага ў Лідзе адбыўся з'езд землеўладальнікаў з мэтай выбараў членаў так званага часовага выбарчага павятовага камітэту. З'езд адбыўся пад старшынствам маршалка шляхты сп. Віта. *"Па прапанове графа В. Путкамера ... вырашылі абраць 7 чалавек - па аднаму ад кожнай воласці і па аднаму намесніку для іх. Былі выбараны сп. В. Путкамер, Ул. кн. Друцкі-Любецкі, Е. Буткевіч, Л. Кабылінскі, Е. Прыбытка, А. Бяліна-Бразоўскі, С. Калясінскі намеснікі: сп. Е. Нарбут, Матушынскі, К. Шалевіч, М. Сяклюцкі, С. Жураўскі, М. Краснік, Карпінскі"*[112].

Хутка маршалак шляхты аб'явіў пра выбары, дзе павінны быць абраныя ўпаўнаважаныя ад духавенства і дробных уласнікаў[113].

У красавіку 1906 г. газета пісала пра павятовы сход, на якім выбіраліся прадстаўнікі Лідчыны ў губернскі сход. Выбары праходзілі па курыях. На сходзе землеўласнікаў у "Вінаградавай" зале сабралася 68 чалавек - землеўладальнікаў і ксяндзоў. 48-ю галасамі быў абраны старшыня сходу пан Рэйстут Сумарок. *"Ён выступіў першым і падкрэсліў неабходнасць адзінства .... Затым выступіў Юльян Марачэўскі .... Ксёндз Сакалоўскі выступіў і сказаў, што духавенства злучае ўсе класы грамадства ..."*. У выніку былі абраныя Брахоцкі (84 галасы), Марачэўскі (81 голас), Сумарок (80 галасоў), граф Путкамер (77 галасоў), ксёндз Баляслаў Сперскі (76 галасоў), князь Любецкі (75 галасоў), Лясковіч (68 галасоў)[114].

Потым прайшлі выбары дэлегатаў ад сялянскай курыі. На гэтым мерапрыемству лідскія "левыя" Змітровіч і Гатавецкі выступалі, прамаўляючы па-беларуску: *"Нам не трэба вучоных... яны будуць трымацца разам з панамі"*[115]. Былі абраны Выдрыцкі, Штурма, Качан, Іваноўскі (праваслаўны) і Гатавецкі[116].

27 красавіка 1906 г. (па новым стылі) ў Вільні сход выбаршчыкаў выбраў дэпутатаў у І-ю Дзяржаўную думу Расіі. Сход праходзіў у агульнай зале Шляхецкага Клуба ў Вільні пад старшынствам губернскага маршалка шляхты графа Адама Плятэра. Ад сялянскай курыі быў абраны Міхал Гатавецкі (атрымаў 33 галасы "за", "супраць" - 7), *"уладальнік невялікага фальварка ў Лідскім павеце, католік, узрост 47 гадоў"*. У момант выбараў Гатавецкі працаваў адвакатам ў Эйшышках[117].

Гэты чалавек быў першым у гісторыі жыхаром Лідчыны, якога легальна і адносна дэмакратычна выбралі ў парламент.

*Міхал Станіслававіч Гатавецкі (1858-1933), селянін Лідскага павета. Закончыў Лідскую народную вучэльню. Да 20 гадоў займаўся земляробствам, потым 8 гадоў служыў пісьмавадзіцелем у міравога суддзі і судовага следчага, з 1887 г. працаваў прыватным паверанным (адвакатам) пры міравым і павятовым з'ездзе. Быў сябрам сялянскай працоўнай партыі*[118]*. Валодаў фальваркам, зямельны надзел якога складаўся з 10 дзесяцін спадчынай і 60 купленай зямлі. У Думе ўваходзіў у "Групу Заходніх ускраін", быў сябрам аграрнай камісіі, выступіў у Думе па аграрным пытанні*[119]*. Першая выбраная народам Дума 21 ліпеня 1906 г. была разагнаная ўрадам. "Кур'ер Літоўскі" ў ліпені інфармуе пра вяртанне былых дэпутатаў Думы, у тым ліку і Гатавецкага, дахаты*[120].



ВИЛЕНСКАЯ губернія.

ГОТОВЕЦКІЙ,
Михаилъ Станиславовичъ.

Родился въ 1860 г. Автономистъ.
(Группа зап. окраинъ).

Литовецъ. Католикъ. Крестьянинъ. Окончилъ народное училище. Частный повѣренный. Избранъ изъ крестьянъ.

18

***Міхал Станіслававіч Гатавецкі***

*У 30-я гг. ХХ ст. ён фігуруе як селянін Эйшышскай гміны*[121]*, які меў у суме 87 га зямлі*[122].

*Як палітык, Гатавецкі для левых быў занадта правым, а для правых ён так і ніколі не стаў сваім.*

Першая Дзяржаўная Дума праіснавала 72 дні і была разагнаная з-за сваёй рэвалюцыйнасці.

Другая дума біралася так сама як і першая - праз шматступеневыя выбары па курыях.

У верасні 1906 г. у мястэчку Жалудок адбыўся мітынг, *"удзел у якім прыняло 100 чалавек. Удзельнікі мітынгу пасля яго заканчэння расходзіліся з рэвалюцыйнымі спевамі, выкрыкваючы лозунгі, у якіх патрабавалі свабоду"*[123].

Пры канцы снежня 1906 г. яўрэйская арганізацыя Бунд распаўсюдзіла ў Лідзе і Ашмянах пракламацыі, якія заклікалі не ўдзельнічаць у выбарах, бо *"паліцыя без тлумачэння прычын выкінула з спісаў вялікую колькасць выбаршчыкаў. Напрыклад у Лідзе з 400 чалавек, якія маюць права голасу, выкінутыя 150 ... "*[124].

Пры канцы 1906 г. Віленскі губернатар асобным

загадам прызначыў правесці па паветах з'езды землеўладальнікаў, гарадскіх выбаршчыкаў, упаўнаважаных ад валасных сходаў. Пасля гэтага павінен быў адбыцца губернскі з'езд упаўнаважаных.

"Наша Ніва" ў студзені 1907 г. друкавала карэспандэнцыю з Васілішак, у якой аўтар пад псеўданімам "Ясь" разважае пра выбары. З публікацыі, па даведваемся, што *"... быў у Думе з нашага Лідскага павету - Гатавецкі, ды толькі з яго пацехі было, што на пекных крэслах у Думе сядзеў дый пэнсіі па дзесяць рублёў у дзень браў, - а як трэба было гаварыць - то маўчаў, як немко. Не, нам не такі патрэбны: няхай будзе чалавек смелы, няхай будзе языклівы, каб патрапіў за бедны народ заступіцца! Нам не патрэбны панскі служка, не патрэбны земскага ці станавога лёкай, нам патрэбны ... чалавек, што не прадасць нас ..."*[125].

У студзені 1907 г. лідскі маршалак шляхты абвясціў аб правядзення з'езду дробных землеўладальнікаў, якія не маюць маёмаснага цэнзу для непасрэднага ўдзелу ў выбарах[126].

Пры канцы таго ж месяца прайшлі выбары выбаршчыкаў ад курыі землеўладальнікаў. На Віленскі губернскі з'езд ад Лідскага павета, выбраны: Рэйстытут Сумарок, Юлі Марачэўскі, ксёндз Юзаф Шкоп, Аляксандр Мікульскі, Раман Рымша, граф Ваўжынец (Лаўрэнці) Путкамер, Мацей Марачэўскі[127].

З'езд упаўнаважаных ад валасных сходаў у Лідзе апісаны ў вялікай карэспандэнцыі Мацея Сокала ў газеце "Наша Ніва": *"Прыехаў і адвакат Гатавецкі, быўшы ў Думе ў прошлым годзе, бо яго выбралі упоўнамочаным ад воласці і цяпер. Як з'ехаліся, просіць ён усіх да сябе на гарбату. "Нас, відзіш, грамада: няхай ужо да нас прыдзе, калі хочэць", - кажуць упоўнамочаныя. Прыйшоў да нас дагэтуль невядомы нам наш дэпутат. Сеў, ды зачаў паказваць, вымаючы з кішэні, сваю адну мову ў Думе, гдзе відаць будзе, які быў зашчытнік народу. А нейкі чалавек, ня чуўшы ніколі пра дэпутата, ні пра яго тую мову, кажэць "Абач, які дэпутат наш ... Відаць шчыры хлапатун за нас быў". А тут яму людзі кажуць, што не трэба такіх дэпутатаў, што сядзяць дарма ў Думе, ды прадаюцца паном за гарбату. "Гэта лгарства!" кажэць дэпутат: "З панамі і з баронам Ропам я злучыўся, бо я праўдзівы католік. А ў Думе, нябось, не маўчаў, першага йюня во што сказаў, зараз пакажу". Ну, а другі яму атказваець: "Праўда! Лгуць языкі вострыя, ня маўчаў Гатавецкі як рыба, ён ня дарма сядзеў у Думе 72 дні. Высядзеў 720 рублёў, ды ажнаго дня, бач, падперазаўся, панатужыўся ды дзесяць мінут казаў ..."*. Ну і так далей. А назаўтра, калі ўпаўнаважаныя сабраліся ў карчме, каб абмеркаваць выбары, Гатавецкі зноў падвяргаўся абструкцыі як з боку упаўнаважаных, так і выпадковых наведвальнікаў[128].

У наступных нумарах "Наша Ніва" з пазіцый левых партый апісвала выбары дэпутатаў ад Віленскай губерні на сходзе выбаршчыкаў. Па выбарчым законе буйныя землеўладальнікі мелі 44 выбаршчыкі, дробныя землеўладальнікі (часцей за ўсе сяляне) - 40 выбаршчыкаў, жыхары гарадоў - 7 выбаршчыкаў, рабочыя - 1 выбаршчыка. Два выбаршчыкі ад сялян не

**ВИЛЕНСКАЯ** губернія.



Графъ **ПУТКАММЕРЪ**,
**ЛАВРЕНТІЙ СТАНИСЛАВОВИЧЪ.**

*Родился въ 1859 г.* *Нар.-демократъ.*

Инженеръ путей сообщенія. Участвовалъ въ постройкѣ желѣзныхъ дорогъ: уральской, бакинской и полѣсской. Чл. вилен. сел.-хозяйств. о-ва. Попечитель еванг.-реформ. прихода въ Вильнѣ.

19

***Граф Ваўжынец Путкамер***

прыехалі, ад гараджан было 6 яўрэяў і 1 хрысціянін, выбаршчык рабочы сядзеў у турме, і яго адмыслова, для ўдзелу ў сходзе вызвалілі. Выбаршчык ад абшарнікаў Корвін-Мілеўскі спрабаваў дамовіцца пра адзінства з лідарам яўрэйскіх выбаршчыкаў Бакам. Але гэта камбінацыя не ўдалася. Тады на бок абшарнікаў перайшлі чатыры выбаршчыкі сялянскай курыі ад Лідскага павета: Вацлаў Кананові, Антон Штурма, Пётр Ціхно і Казімір Ціліндзь. Прэса пісала, што гэтых выбаршчыкаў "апрацоўваў" і адправіў у Вільню "першым класам" вядомы ксёндз з Васілішак Сакалоўскі. Таму ад сялян у Думу прайшоў толькі адзін Пілейка з Ашмяншчыны (дарэчы сяляне па закону як раз і мелі адно гарантаванае месца ў Думе ад Віленшчыны)[129]. Потым выбаршчыкі-сяляне падпісалі скаргу аб парушэннях і сярод іншага скардзіліся на Лідскага маршалка шляхты Віта, які "падмаўляў мужыкоў-выбаршчыкаў", скардзіліся, што частку сялян у дзень выбараў з раніцы частавалі гарэлкай у буфеце і т.д.[130].

*У другую Дзяржаўную Думу ад Віленшчыны быў абраны жыхар Лідскага павета граф Ваўжынец Путкамер (1859-1923), унук знакамітай Марылі з Верашчакаў (атрымаў 49 галасоў выбаршчыкаў). Ваўжынец Путкамер нарадзіўся ў Больценіках, скончыў гімназію ў Вільні і Інстытут інжынераў шляхоў*

*зносін ў Пецярбургу і 10 гадоў адпрацаваў інжынерам, будаваў Уральскую, Бакінскую чыгункі і Палескую. Пабудаваўшы магістраль каля свайго маёнтка, у 1890 г. граф выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў Больценіках. Ваўжынец Путкамер актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці краю, быў сябрам сельскагаспадарчага таварыства і куратарам Евангеліцка-рэфарматарскага сіноду ў Вільні*[131]. *Два разы абіраўся ў Дзяржаўную думу Расеі: Другую і Чацвёртую. У складзе Другой думы ён уваходзіў у "польскае кола", а ў Чацвёртай - у беларуска-польска-літоўскую групу і быў сябрам Савета старэйшын думы. У рускай гістарычнай літаратуры фігуруе як "Путткамер Лаврентий Станиславович"*[132].

II Дзяржаўная дума праіснавала з 20 лютага па 2 ліпеня 1907 г. (102 дні) і была распушчаная царскім урадам. Адначасова з указам аб роспуску думы II склікання 3 чэрвеня 1907 г. было апублікавана новае Палажэнне аб выбарах у Думу. Гэтая выбарчая сістэма выкарыстоўвалася пры выбарах у Дзяржаўныя думы III і IV склікання. Выбары зноў былі непрамыя, не прадугледжвалі роўнага прадстаўніцтва і зноў павінны былі праходзіць па сістэме курый. Асноўнымі курыямі (афіцыйна курыі называліся спісамі выбаршчыкаў) з'яўляліся: валасныя (гэта значыць сялянская), землеўладальніцкая, 1-я гарадская (вышэйшы выбарчы цэнз, асобы якія валодалі маёмасцю), 2-я гарадская (нізкі выбарчы цэнз), працоўная. Хоць закон прадугледжваў выбары па курыях і гарантаваў фіксаванае мінімальнае прадстаўніцтва курыям сялян і рабочых, канчатковы выбар дэпутатаў з выбаршчыкаў гэтых курый належаў агульнаму губернскаму выбарчаму сходу, большасць на якім заўсёды мелі землеўладальнікі і гараджане вышэйшай маёмаснага цэнзу. Такім чынам, сяляне і рабочыя пасылалі ў Думу тых прадстаўнікоў, якія выбіраліся з іх ліку памешчыкамі і багатымі гараджанамі. Мясцовыя ўлады атрымалі дазвол падзяляць выбарчыя з'езды на два - для рускіх і нярускіх выбаршчыкаў; гэты адвольны прыём дазваляў у нярускіх губернях рускай меншасці атрымліваць столькі ж выбаршчыкаў, колькі і мясцоваму насельніцтву.

Выбары ў Дзяржаўную думу трэцяга склікання праходзілі ўвосень 1907 г. Народны карэспандэнт "В." "Нашай Нівы" паведамляў пра выбары ўпаўнаважаных на Лідчыне ад "рускай" сялянскай курыі: *"Выбралі двух рускіх, каторыя цягнуць болей к правым. Хацелі выбраць народнага вучыцеля Ч., але поп умяшаўся, кажучы, што вучыцель ненадзёжны, такі не выбралі. ... У Пакроўскай* (Сабакінскай - *Л.Л.*) *воласці поп угаварываў мужыкоў запісацца ў "союз"* (Рускага Народа, "чорную сотню" - *Л.Л.*), *але мужыкі ведаюць, што гэты саюз ідзе супраць свабоды, ня хочуць запісвацца"*. У тым жа нумары невядомы аўтар з Ліды пісаў пра павятовыя выбары, па яго словах на выбары прыехалі *"4 чыноўнікі і адзін мужык. Астальныя мужыкі не прыехалі, бо ніхто не заведаміў воласці, калі будуць выбары. У пяцёх пачалі выбіраць. Выбралі пракурора, 2 земскіх начальнікаў, мужык кінуў ім добрыя галкі* (галасавалі кідаючы "галкі", верагодна шары, у скрыню для галасавання - *Л.Л.*). *Паставілі кандыдатам быўшага губернатара, нехта кінуў яму чорную галку. Папы парадзіліся меж сабой і кажуць, гэта не іначэ, як мужык падваліў "варанога", і калі прышоў чарод выбіраць мужыка, то яму кінулі ўсе 4 чорныя галкі. Валасныя ўпаўнамочаные павінны падаць жалобу ў губернскую па выбарах камісію ..."*[133]. У выніку ад "рускай" сялянскай курыі Лідскага павета на губерскі сход выбаршчыкаў былі абраны сенатар Дамбавецкі, "товарищ прокурора" Пятухоў[134], земскія начальнікі Скосыраў і Дэконскі[135], ад "рускіх" горада Ліда - ляснічы Змаровіч, левы, беспартыйны[136].

Па губерні валасныя сходы ўсіх паветаў выбралі 236 выбаршчыкаў ад сялян, сярод іх былі і два былыя дэпутаты першай Дзяржаўнай Думы - Гатавецкі і Аляксандровіч[137].

24 верасня прайшоў сход курыі землеўладальнікаў, які абраў выбаршчыкаў на губернскі сход. Ад Лідчыны абраны ксёндз-дэкан Шкоп, спадары Аляксандр Мікульскі, Юліян Марачэўскі, граф Ваўжынец Путкамер, Раман Рымша і Станіслаў Жураўскі[138].

Але на гэты раз губернскі сход не абраў у Думу нікога з лідзянаў.

Дзяржаўная дума Расійскай імперыі IV склікання пачала працаваць 15 лістапада 1912 г.

Трэба адзначыць, што цікаўнасць прэсы да выбараў і дзейнасці III і IV Дзяржаўных Думаў была значна меншая чым да папярэдніх. Напрыклад"Наша Ніва" пісала: *"Ешчэ зусім нядаўна выбралі мы дэпутатаў у Першую Думу. Тады было сьвята народнае... На выбары глядзелі як на адну з важнейшых грамадзкіх павіннасьцей. "Выбіраймо найлепшых людзей!" - вось які окліч раздаваўся падчас выбараў. ... Прайшло шэсць год. Цяпер ізноў былі мы сьведкамі выбараў у Чацвёртую Думу. Якая вялікая перамена! ... Вера ў Думу згасла"*[139].

З лідзян у Думу быў абраны былы дэпутат II Думы граф Ваўжынец Путкамер.

**4.2. Самаарганізацыя грамадства, аграрны рух.**

Найбольш вострым пытаннем у Расійскай Імперыі было аграрнае, без вырашэння яго далейшае развіццё грамадства было немагчыма.

У жніўні 1906 г. "Кур'ер ..." паведаміў, што прайшлі выбары ў сялянскія камісіі па землеўпарадкаванні, прычым *"у некаторых валасцях сяляне адмовіліся ад удзелу ў іх"*[140]. Аднак газета "Русское Слово" пісала: *"З аднаго боку з-за адносна высокага развіцця тутэйшых сялян, з другога з-за тактоўных паводзін землеўладальнікаў"*, якія *"не хаваюцца за плечы паліцыі ці драгунаў, не выклікаюць казакаў, але рашуча і станоўча кантактуюць з сялянамі"* менавіта на Лідчыне *"аграрны рух паступова прымае характар хатняга паразумення паміж абшарнікамі і сялянамі"*[141].

Тым мне менш "Наша Ніва" пісала пра сялян-



S. † P.

**Wawrzyniec Hr. Puttkamer**

Kurator i wielokrotny dyrektor Wileńskiego Synodu Ewangelicko-Reformowanego,

po krótkich cierpieniach zasnął w Bogu dnia 30 listopada 1923 roku w Bolcienikach pow. Lidzkiego.

pogrzeb nastąpi w Wilnie dn. 5 grudnia po nabożeństwie żałobnem, które odbędzie się o godz. 11-ej rano w Kościele Ewangelicko-Reformowanym. Na te bolesne obrządki zapraszają krewnych, przyjaciół i znajomych pogrążeni w żalu

Żona, córka i zięć

S. † P.

Kolegjum Wileńskie Ewangelicko-Reformowane w Wilnie zawiadamia, że dnia 1-go grudnia 1923 r. zmarł Kurator Synodu Wileńskiego Ewangelicko-Reformowanego

**HRABIA**

**Wawryniec Puttkamer**

Nabożeństwo i eksportacja zwłok odbędzie się dn. 5 grudnia o godz. 11-ej rano w Kościele Ewangelicko-Reformowanym w Wilnie (ul. Zawalna)

скія хваляванні ў вёсцы Фалькавічы Ганчарскай воласці з-за раней адабранай у казну сялянскай зямлі[142].

У снежні 1906 г. у Лідзе было створана сельскагаспадарчае таварыства (Kolko rolnicze), заснавальнікамі яго сталі: Міхал Шымялевіч, Адольф Сегень, Ян Грышэль, Міхал Каміц, Антон Клышэйка, Баніфацы Жак, Ігнат Кудаш, Ян Кучынскі і Юзаф Змітровіч[143]. Цікавым тут з'яўляецца згадванне Шымялевіча Міхала Іванавіча - лепшага знаўцы гісторыі Лідчыны 20-га стагоддзя.

У жніўні 1906 г. лідскія півавары ўдзельнічалі ў менскім з'ездзе півавараў: *"20 ліпеня ў Мінску праходзіў з'езд уладальнікаў бровараў. Сабраліся 29 прамыслоўцаў, з Вільні сп. Парчэўскі, Ліпскі, з Віленскай губерні - прадстаўнікі Папірмайстра і Пупко. Галоўная тэма абмеркавання - урэгуляванне продажу і ўсталяванне мінімальнай цаны на піва"*[144].

У снежні 1907 г. Віленскі губернатар дазволіў у Новым Двары кірмаш *"па серадах на вызначаным месцы"*[145].

Пра спробу сялян на Лідчыне працаваць супольна ў 1907 г. пісала "Наша Ніва": *"З пад Васілішак Лідскага павета ... . ... ў вёсцы Банюках колькі гаспадароў зрабілі суполку і завялі сабе бычка - на завод. Нейкі час было ўсё добра, але ж бяда, што ў нас кожны гаспадар глядзіць адно за тым, што належыць да яго самаго, а што супольнае - на гэта ўвагі ня мае. Дык і бычка таго так дрэнна даглядаюць, што ён чыста марнее. Калі б справа была толькі пра бычка, то яшчэ не надта вялікае горэ. Дык жэ дрэнны, што нашы беларусы ня дбаюць і аб важнейшых супольных справах сваіх. "Што не маё, да таго мне дзела німа!" - так кажуць у нас. Ці то справа ідзе пра выбары, ці аб карысці ўсёй грамадзе, - кожны беларус думае толькі аб сябе, і здаецца, не разумее, што як ўсім дрэнна будзе, то і яму не палегчае. А пара бы ўжо працерці вочы ... . Тады ўбачылі бы нашы беларусы, што там людзям добра жывецца, гдзе ёсць згода грамадская, гдзе кожны чалавек стаіць за ўсіх, а ўсе за аднаго"*[146].

Але здаецца, што сяляне пачалі ўжо разумець свае інтарэсы і грамадой прымаць правільныя рашэнні: *"З Лідскага павету. У нашых валасцёх ёсць вялікі запас хлеба на час голаду. Змеркавалі сяляне, што гэтак нявыгадна, бо гніе збожжа, а магазын вартуй, дый старасты, часта заглянуўшы ў магазін, суюць боты, а пасля ў валасці на сходзе ілгуць, што мышы могуць у год з'есці з кожнага пуда па 5 фунтаў. Вось, дзеля гэтага і прыгаварылі разабраць збожжа, а заместа яго палажыць ў казначэйства грошы, бо на грошы і працэнты ісці будуць. Але гаспадыні кажуць, што як пападуць гаспадаром у рукі грошы, то іх прапьюць, і будзе без пары голад у хаці. Хто ведае, мусі жонкі ведаюць нораў сваіх мужоў?"*[147].

Пра добрыя вынікі супольнай справы паведамляла "Наша Ніва" у 1908 г.: *"В. Цацкі Беліцкай воласці. Ужо трэці год як мужыкі тутэйшыя выбрукавалі вуліцу каменьмі. Хваляць, надта добра зараз, не трэба мясіць балота. Брукаром заплацілі 100 р. А камення і пясок вазілі самі. За Цацкамі следам пайшлі і іншыя вёскі, якія ўжо напісалі прыгавор і нанялі брукара. Пачалі работы ў Няцечы, выходзіць па 12 р. на кожнага гаспадара, брукуюць свае вуліцы так сама вёскі Асава, Табала, Лазяны. Табала ўжо скончыла брукаваць"*[148]. У тым жа нумары газеты паведамляецца, што ў вёсцы Фалькавічы *"... азіміна і ярына слабыя. Ворыва трохі ад халадоў, што былі ў чэрвені, аслабла. Азіміна, што пасеяная па лубіне, надта добра ўрадзіла ..., за тое і цана на лубін паднялася, каля нас плацяць па 60 кап. за пуд"*[149].

"Курьер Літоўскі" у верасні 1908 г. пісаў пра цяжкасці якія ўзніклі на пачатку працы сельскагаспадарчага таварыства ў вёсцы Нача[150]. Праз некалькі нумароў тая жа газета паведамляла: *"Калеснікі. Падобна пачынаецца нейкі рух па падвышэнню асветы і дабрабыту народу. Рух гэты пачаўся з заснавання ашчадна-пазыкавых кас, сельскагаспадарчых таварыстваў, кааператыўных крам і г.д. ... Па вясне сп. Браніслаў Ёч, Пётр Сядлікоўскі і ксёнлз Рудзіц арганізавалі сельскагаспадарчае таварыства. ... Сябры таварыства чытаюць сялянам лекцыі па агранаміі . ... Колькасць таварыства дасягае 40 чалавек. Гэта шмат, калі ўлічваць тое ... што ў блізкай Начы сп. Вандалін Шукевіч, знаны грамадскі дзеяч і археолаг, не можа арганізаваць адпаведнае таварыства ..., справа не ідзе далей спробаў сабраць людзей на першы сход"*[151]. У 1911 г. у мястэчку Калеснікі працавала сельскагаспадарчае таварыства і кааператыўная крама[152].

Арганізатар сельскагаспадарчага таварыства ў Начы, знаны навуковец Вандалін Шукевіч у адказе на гэтую публікацыю пісаў: *"... пазыкава-ашчадная каса, якая стараннямі сп. Яна Карловіча з'явілася ў Эйшы-*

*шках не выжыла, а з'явіўшаяся потым на яе месцы каса ..., не можа знайсці нават трох чалавек, якія маглі б стаць яе заснавальнікамі. Таму ў нядаўна заснаваным сельскагаспадарчым таварыстве ў Каленіках не могуць угаварыць яго членаў да нейкай пазітыўнай дзейнасці. А ў Начы, дзякуючы яўнаму нежаданню тых, хто мог бы зрабіць добры ўплыў на людзей, на так званыя "паседжанні" ніхто не прыходзіць, і нават няма для каго нешта чытаць"*[153].

У кастрычніку 1908 г. Шукевіч яшчэ раз падрабязна пісаў пра агульны стан руху сельскагаспадарчых таварыстваў на Лідчыне. Ён канстатаваў, што гэты рух развіваецца ў нас надта павольна, бо *"можа нашая грамадская глеба не гатовая да перанясення сюды гэтай заходнееўрапейскай з'явы, а можа не ўмеем рабіць справу, але на гэтай дзялянцы грамадскай справы пануе застой ... Усе наракаюць, што справа ідзе супраць агульнай паняверкі і апатыі людзей, і калі нешта атрымліваецца, дык дзякуючы толькі надзвычайным высілкам людзей добрай волі"*[154]. Шукевіч пісаў, што сяляне заўжды маюць вялікае падазрэнне, што хтосьці хоча залезці ім у кішэню, і калі яны не могуць зразумець канчатковую мэту, дык і не хочуць рызыкаваць. І гэта пры тым што, першай звычайна арганізуецца кааператыўныя крама, дзе агульныя грошы абарочваюцца хутчэй і прыносяць большы прыбытак. Аўтар адзначаў, што справа рухаецца толькі ў тым выпадку, калі за супольнае дзела бярэцца чалавек заможны, адукаваны і які мае жаданне займацца агульнай справай. Але нават калі праз вялікія намаганні кааператыўная крама адчыняецца, гэта не з'яўляецца гарантыяй таго, што далей усё будзе добра, бо звычайна пачынае не хапаць капіталаў і навыкаў кіравання. Так сама цяжка *"прышчапляюцца ў нашым неўрадлівым і цёмным краі і іншыя здабыткі заходняй цывілізацыі, такія як штучныя ўгнаенні, розныя машыны і прылады"*[155]. Шукевіч заклікаў не паскараць працэс самаарганізацыі сялян, а планаваць шматгадовую працу дзеля свайго народа, бо людзі павінны да ўсяго прызвычаіцца і грунтоўна зразумець сваю выгаду[156].

Вандалін Шукевіч усё ж арганізаваў у Начы дзейсную кааператыўную краму і для падвышэння ўзроўню прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі стварыў земляробчы гурток. У "Курьеру Літоўскім" у 1910 г. член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі Ведаў пісаў, што 28 лютага яго абралі старшынём земляробчага таварыства, і губернатар зацвердзіў статут. Ад пачатку таварыства адчыніла краму, і крама пачала даваць добры прыбытак[157]. Навуковец часта за ўласныя грошы выпісваў насенне, якое потым раздаваў сялянам на выпрабаванне. Калі ўраджай быў добры, сяляне прыходзілі да Шукевіча з просьбай, каб на наступны год ён замовіў такога насення больш, і толькі тады расплачваліся. Па прапанове Віленскага земляробчага таварыства Шукевіч арганізаваў 5 эксперыментальных палёў для выпрабавання штучных угнаенняў, новых гатункаў бульбы і аўсу. Сябры сельскагаспадарчага гуртка ў Начы таксама купілі жаткі і пад час збору ўраджаю мелі ад іх вялікую карысць[158].

У 1911 г. у Беняконях *"... аткрылася пробнае поле (станцыя) Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі на 15 дзесяцінах. Пабудавалі гожае мураванае гумно, хату для чэлядзі, кожнаму па пакою і пекарню. Пакуль што жывець там і дырэктар пробнай станцыі аграном Ластоўскі, а на вясну будуць будаваць мураваны дом. Памешчыкі далі на станцыю 20 тысяч, і казна 20 тысяч рублёў дасць, калі затвердзіць Дума, і што год будзе казна 20 тысяч рублёў даваць па 3 тысячы руб.*

*У гэтым гаду пасадзілі на пробу 26 гатункаў бульбы, поле ўсё дрэнавалі. У восень жыта сеялі і садзілі розных гатункаў.*

*Адну дзесяціну бульбы, касілі бульбяннік, як толькі кончыў красаваць, а другую пакінулі. Някошаная бульба дала на 320 пудоў больш бульбы, як кошаная. На вясну станцыя будзе шырока рабіць розныя пробы, каб ведалі гаспадары, як гаспадарыць. Каля пробнага поля дырэктар Ластоўскі засеяў сам ... жыта двом гаспадаром Войшніцы і Развадоўскаму. Паглядзім, што будзе!"*[159].

Але ў тым жа 1911 г. ураджай у Беняконях быў *"значна горшым, чым у папярэднім годзе"*[160].

Паводзячы аграрную рэформу, якая атрымала назву "Сталыпінскай" , улады стымулявалі выхад сялян на хутары. Пры гэтым замест так званых зямельных "шнуроў" ці шахаўніцы, сялянам наразалася зямля адным кавалкам. Народны карэспандэнт "Нашай Нівы" які меў псеўданім Тройца, пісаў з мястэчка Васілішкі Лідскага павета: *"Вялікім днём ў колькі вёсках была гутарка аб тым, каб выйсці з шахаўніцы і пабіць усю зямлю на хвальваркавыя гаспадаркі. - У вёсцы Галасевічах падлічылі, што, каб пабіць усю зямлю на такія гаспадаркі, трэба будзе на новыя студні ды будоўлю блізка па 700 рублёў на гаспадарку. Праўда, старая будоўля ёсць і неруханая будзе стаяць на мейсцу яшчэ доўга, але зрушы яе з мейсцы, то астанецца здатнага на будоўлю дрэва не больш як чацьвёртая часць. Студню жэ трэба новую даставаць. - Так што, відаць, без помачы са стараны навет тыя мужыкі, што ў іх зямлі досі, выйсьці з шахаўніцы сваімі сіламі не здолеюць.*

*А якая ў нас шахаўніца, пазнаць можна з такога ніжэй мененага прыклада: у Мытлянскай воласці памёр ў аколіцы шляхціц, асталося пасля яго зямлі 6 дзесяцін, і пабіта гэта зямля на 95 кавалкаў. С кавалка да кавалка дарогі - гадзіна, а загараць увесь кавалак - мінут пяць. Вось надрукуеце гэты лісток, пане Рэдактар, можэ і дэпутат Віленскі ў Думе, Пілейка, прачытае яго і парупіцца крышку сам аб справах мужыцкіх, бо дасюль, дзе яму трэба было гаварыці, паны ... гавораць"* [161].

Вялікую цікаўнасць у аматараў гісторыі заўжды выклікае любая інфармацыя пра маёнтак Лябёдка на Лідчыне, які належаў Леанарду Іваноўскаму - бацьку знакамітых братоў Іваноўскіх з якіх старэйшы - Ежы, лічыў сябе палякам, у адноўленай Польшчы неаднаразова займаў пасады міністра і стаў сенатарам, прафесары Вацлаў і Тадэвуш лічылі сябе адпаведна - беларусам і летувісам і былі знакамітымі дзеячамі сваіх

народаў.

У вялікім артыкуле "Ўражанні ад выставы ў Лябёдцы" газета "Кур'ер Літоўскі" ўвосень 1910 г. пісала пра сельскагаспадарчую выставу ў Лябёдцы сп. Іваноўскага. *"На ўсе бакі ад прыгожага, вельмі рацыянальна і па-сучаснаму пабудаванага двара ў Лябёдцы цягнуцца ўзорныя сады, гароды, купкі пладовых і дэкаратыўных дрэваў. Далей пачынаюцца добра апрацаваныя палі бульбы і збожжа... Гаспадарчыя пабудовы лёгкія і танныя ... . У адной з такіх, высокай і добра пабудаванай шопе, усталяваны простыя але спрытныя машыны для вырабу дахоўкі, цэглы і пустых знутры вялікіх блокаў ... . У стайнях, аборах, хлявах, курніках шмат жывёлы розных сартоў, падабраных для нашых умоваў. Агароды і купкі пладовых дрэў дэманструюць шматгадовую працу былога прэзідэнта Таварыства Садаводаў. Сады з-за вялікай колькасці сартоў дагледжаных тут дрэваў маюць музейную вартасць. ... Колькі смачнай і карыснай гародніны стала вядома дзякуючы толькі таму, што сп. Леанард Іваноўскі купляў яе паўсюдна, а потым папулярызаваў сярод мясцовых гаспадароў. Сп. Іваноўскі ёсць найвялікшы знаўца сваёй справы ў Літве ... . ... На выставе дэманстраваліся цікавыя вырабы з садавіны і гародніны, выробленыя пад кіраўніцтвам гаспадыні, сп. Ядвігі Іваноўскай. Адборныя віны, кансерваваныя ягады і грыбы ў шкляных і бляшаных банках розных відаў ... гародніна па-кіеўску, гародніна сушаная ў адмысловых сушарнях, старасвецкія канфіцюры і сокі - усё надта смачнае і дасканала выробленае. Бляшаныя банкі, распрацаваныя Вацлавам Іваноўскім - простыя, танныя і адначасова дасканалыя і герметычныя, абавязкова будуць выкарыстоўвацца ў прамысловасці. ... Выстава ў Лябёдцы была арганізаваная для суседніх гмін і ў ёй прымалі ўдзел вырабы суседніх маёнткаў. ... Але вырабы з Лядёдкі былі па-за канкурэнцыяй. ... Лябёдка 400 гадоў знаходзіцца ў руках Іваноўскіх ... "*[162].

У верасні 1913 г. Леанард Іваноўскі ў сваім маёнтку Лябёдка рабіў выставу жывёлы[163].

**4.3. Рух за асвету і цвярозы лад жыцця.**

У кастрычніку 1906 г. Расійскае тэлеграфнае агенцтва паведамляла, што *"пад уплывам ксяндзоў у Эйшышскай і іншых суседніх парафіях Лідскага павета, арганізаваныя таварыства цвярозасці, сябры таварystваў устрымліваюцца ад ужывання алкаголю. Абароты манапольных крамаў зменшыліся да мінімуму. У Калесніках такая крама наогул зачынена"*[164]. Тут трэба нагадаць, што масавы народны рух за цвярозасць у нашым краі пад кіраўніцтвам касцёла ўзнік перад паўстаннем 1863 г., і таму зразумелая трывога, з якой улады глядзелі на адраджэнне гэтага народнага руху.

Працэс самаарганізацыі насельніцтва, які аднавіўся пасля "даравання свабоды" царом, шырыўся. 4 кастрычніка 1907 г. ў Лідзе была арганізавана філія Віленскага таварыства "Асвета". У кіраванне філіі ўвайшлі ксёндз Юзаф Шкоп (прэзідэнт), Эдвард Янушкевіч (віца-прэзідэнт), Эдвард Запаснік (сакратар), Зоф'я Шкоп (скарбнік), Антон Вісмант, Антон Клышэйка. *"Ад пачатку членамі таварыства запісаўся 31 чалавек, яны сабралі складкі ў памеры 78 рублёў"*[165]. Задачай "Асветы" было адукоўваць жыхароў у духу польскасці, распаўсюджваць польскую культуру, мову, ўзмацняць нацыянальную свядомасць. Але ўжо ў наступным годзе Віленскае таварыства "Асвета" было забаронена ўладамі[166].

У лістападзе 1907 г. у Лідзе заснавана Рыма-каталіцкае таварыства дабрачыннасці, *"статут быў прадстаўлены для зацвярджэння губернатару. Заснавальнікі таварыства: ксёндз - дэкан Юзаф Шкоп, "палкоўнікава" Міхаліна Запаснік, лідскі бурмістр Леан Вісмант, Антон Вісмант, Пётр Вянцкевіч і Каспар Філіпчук"*[167].

**5. Паўсядзеннае жыццё Лідчыны**

**5.1. Лідскі замак.**

"Кур'ер Літоўскі" надрукаваў развагі невядомага жыхара горада пра адносіны гараджан да галоўнага ўпрыгожвання горада - замка Гедзіміна: *"Маем у горадзе замак ... але хутка помнік гэты ператворыцца ў руіны, бо з-пад падмурка гараджане для сябе выгортваюць жоўты пясок, і сцены замка з-за гэтага могуць абваліцца. І робіцца гэта днём, проста на ажыўленай вуліцы, паліцыянты і дзяржаўныя чыноўнікі праходзяць каля "замініраваных" сцен замка, якія пры абвале пагражаюць смерцю тым, хто выграбае пясок, і тым, хто выпадкова будзе праходзіць побач"*[168].

У жніўні 1908 г., другі невядомы жыхар горада пад псеўданімам "Z", заўважыў у "Кур'еры Літоўскім": *"Нарэшце і ў нас з'явілася нейкая шырэйшая думка і жаданне нешта зрабіць для агульнай карысці"*. Далей аўтар пісаў: *"На працягу многіх гадоў мы бачылі пастаяннае знішчэнне муроў замка Гедзіміна, аднак ніхто і не думаў пра яго ратаванне. Калі ж мы зацікавіліся гэтай справай, то даведаліся, што руіны знаходзяцца пад апекай Імператарскай археалагічнай Камісіі. Звярнуліся да Камісіі з просьбай аб выдзяленні грошай і пра дазвол на правядзенне работ па кансервацыі гэтага гістарычнага помніка. Калі прыйдзе адказ і ці будзе ён станоўчым, яшчэ не вядома, але пэўна, калі дапамога і будзе аказана, дык сума будзе недастатковай. Таму гарадскія ўлады павінны пачаць збіраць прыватныя сродкі сярод жыхароў горада і землеўладальнікаў Лідскага павета"*[169]. На жаль, немагчыма даведацца, хто аўтар гэтай зацемкі, як звалі таго першага лідзяніна, які пачаў бараніць галоўны помнік гісторыі і архітэктуры ў горадзе.

Ужо ў кастрычніку "Кур'ер" паведамляе што Міністэрства ўнутраных спраў асігнавала 1000 рублёў на рэстаўрацыю руін замка ў Лідзе[170].

Пасля першай у гісторыі замка ў Лідзе рэканструкцыі 1910 г. яго абследаваў Вандалін Шукевіч разам з выбітным знаўцам помнікаў архітэктуры, ксяндзом-канонікам Казіцкім і вядомым даследчыкам мінулага Вільні Вацлавам Студніцкім, *"мы аглядалі сцены як найпільней. Галоўным чынам пан Казіцкі, не зважаючы на сваю стомленасць, узлазіў некалькі*




***Лідскі замак пасля кансервацыі***

*разоў ажно на самы верх мура па драбіне, звязанай з дзвюх, якая ўгіналася пад кожным крокам"*. Вучоны са скрухай адзначае: *"Незайздросны лёс помнікаў мінулых вякоў у нашым краі! Дзесьці там, у цывілізаванай Еўропе як урады, так і грамадства атачаюць такія помнікі клапатлівай апекай, шануюць іх, амаль пакланяюцца, сцерагуць ад усялякай шкоды. У нас наадварот, калі і існуюць яшчэ нейкія абломкі, то толькі дзякуючы нечуванай іх трываласці, бо ў нас усё робіцца, каб іх знішчыць..."*[171]. Больш, чым за сто гадоў, якія прайшлі пасля напісання гэтых радкоў, наш менталітэт не памяняўся!

Вучоны справядліва заўважаў, што *"для нас мінулае павінна быць падвойна дарагім, бо ў ім адным мы можам чэрпаць натхненне для барацьбы за нацыянальнае існаванне"*. Далей Шукевіч паказваў, што Лідскаму замку не пашанцавала яшчэ болей, чым іншым. Бо *"вельмі мала тут чаго засталося, а тое, што ёсць, падлягае сістэматычнаму руйнаванню не толькі хціывымі на такі адборны матэрыял, як каменне з муру, жыхарамі слаўнага града, але і нязванымі апекунамі, якія як бы задаліся мэтай, знішчыць усялякія рысы ўласцівай такім помнікам прыгажосці і замяніць яе на нічога не вартыя сцены з камення"*. Шукевіч апісваў працэс паступовага разбурэння замка які ішоў на яго вачах на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў: *"Гавораць, што некаторы з паноў-спраўнікаў лідскіх, панікшыся трывогай за цэласць ілбоў дaвераных яго апецы жыхароў слаўнага града Ліды, загадаў значную частку муру разабраць па кругу, што і было зроблена з вывазам камення на брукаванне вуліц, а цэглы, праўдападобна, на пабудову яўрэйскіх печаў"*[172]. Адмоўна ацэньваў археолаг і першую рэканструкцыю: будаўнікі раскідалі ненадзейныя месцы муроў, а паверхні сцен абмазалі цэментнай рошчынай. Якасць кансервацыйных работ была дрэннай: *"У цэлым можна сказаць, што ў спусташэнні замка больш вінаватыя людзі, чым разбуральны час. Спрыялі руйнаванню не толькі нядобрасумленныя людзі, але нават і асобы з самымі лепшымі намерамі. ... пасля "ўпарадкавання" па загаду аднаго з "спраўнікаў", нібыта ў імя грамадскай бяспекі ... адбылося частковае разбурэнне сцен, асабліва на поўнач і захад. ... праз дрэнную руплівасць замуравалі нават арачныя байніцы, размешчаныя ў паўночнай сцяне..., муры былі пакрыты зверху цэментам. Ці можа быць гэтая ідэя названы шчаслівай - трэба меркаваць спецыялістам. Я думаў, што так праводзіць працы па кансервацыі замка нельга. Можна нават даравaць той факт, што такім чынам былі знявечаныя сцены, але самае горшае, што гэтая цэментная нашлёпка на сценах не прадухіляе пранікненне вільгаці ў сцены, а наадварот, прадухіляе выпарэнне вільгаці, што паскарае працэс разбурэння. Гэта ўжо бачна... нідзе так не захоўваюць сцены"*[173].

Ты мне менш, цікаўнасць гараджан да захавання замка сведчыць пра рост агульнай адукаванасці і абуджэнне грамадзянскіх і патрыятычных пачуццяў гараджан.

**5.2. Развіццё горада.**

29 ліпеня 1904 года Савет Міністраў дазволіў далучыць да горада прылеглы фальварак "Ферма", 34 дзесяціны і 1558 сажняў квадратных[174]. У красавіку 1911 г. "Кур'ер" пісаў: *"Да Ліды прылягаюць і склада-*

*юць з ёй адно цэлае наступныя прадмесці: Дварцовая Слабада, Зарэчча, Каменка і Вісманты. Яны карыстаюцца ўсімі прывілеямі горада акрамя аднаго - паліцэйскага надзору. Для далучэння іх да горада неабходна ўзяць на службу аднаго афіцэра, трох унтэр-афіцэраў і 8 шараговых паліцыянтаў. Афіцэр будзе штогод зарабляць 726 руб., 200 руб. кватэрных, 500 на канцылярыю - разам 1425 руб. Унтэр-афіцэр 400 руб. зарплаты і 100 кватэрных, шарагоўцы па 240 руб. зарплаты. У суме - 4846 руб. у год. У сувязі з гэтым Віленскі губернатар звярнуўся да гарадскіх уладаў з пытаннем, якую частку гэтай сумы яны могуць узяць на сябе"*[175]. Да далучэння прадмесцяў у 1904 г. уся лідская гарадская паліцыя складалася з дванаццаці "ніжніх чыноў" і аднаго паліцэйскага афіцэра[176].

У 1910 г. гарадскія ўлады ўвялі падатак на сабак, 30 капеек з сабакі[177].

**5.3. Жыцце мястэчак і вёсак.**

Газета "Кур'ер Літоўскі" паведамляла пра тое, што 15 жніўня 1906 г. у Жырмунах адбылася *"народная забава, даход з якой пайшоў на пабудову мура вакол тутэйшых могілак. Апроч спеваў хору, аркестра, дэкламацый беларускіх і польскіх была дадзена: 1)"Okrezne", камедыя ў 2-х актах Е. Каржанеўскага 2)"Фельчар у малым мястэчку", гумарыстычная сцэна"*[178].

Улетку 1908 г. пасварыліся паміж сабой жыхары двух вёсак "З. і Ол." у Дубіцкай воласці аб чым жыхар суседняга сяла Глыбокае пісаў у газету: *"... Адна вёска адкупіла лес, у гэтым лесе ёсць палянкі, часамі ў сухі год там расце толькі мох, а ў мокры плодзяцца качкі ды кнігаўкі. Вось быдла другой вёскі ўзышло на гэтыя палянкі, ды зараз на іх наша вёска падала ў валасны суд, быццам ім зроблена шкода на 109 рублёў. 26 жніўня быў суд. Вось адзін пажылы мужык Тамаш і кажа: "Ня добра, хлопцы, на сваіх суседзяў так лгаць, якая там шкода, калі ж мы самі ездзім на начлег туды, і там можна мак малаціць!". Судьдзі і пісар хацелі памірыць, але не ўдалося. Тады прысудзілі заплаціць за шкоду 20 р. Хацелі падаваць земскаму, вышэй, але нехта як гукнуў: "На гарэлку будзе досць!" - то ўсе і зціхлі. І да позняй ночы мужыкі прапівалі цяжка запрацаваныя грошы сваіх суседзяў. Каб за гэтыя грошы, калі ўжо іх дабылі, зрабіць што добрае, - да гэтага яшчэ не прывык наш мужык"*[179].

Пры канцы 1908 г. народны карэспандэнт малюе карціну жыцця Беліцкай воласці:

*"У Задварчанах нядаўна выпаў град, як добры арэх.*

*Найстарэйшы дзядуля ў Фалькавічах мае 106 гадоў, яшчэ здатны хоць куды, памагае сыну ў гаспадарцы.*

*Нецяч. 26 верасня ў двор нанялі баб капаць бульбу па 20 кап. А заплацілі па 15 кап. Бабы акружылі дом, дзе быў эканом і крычалі цэлую гадзіну. .. тады ... выдалі 20 кап.*

*У гэтым маёнтку парабкі наракаюць, што ў свята іх выпраўляюць з рознымі транспартамі, але парабкамі тутака пахваліцца ня можна, яны гандлююць гарэлкай, за тое і ў свята ім няма адпачынку.*

*У Няцечы ў новым доме пры касцёле людзі збіраюцца адчыніць хаўрусную краму. Гандляры з мястэчка Беліца непрыхільны да гэтага...*

*Ганцавічы. Наша Сялецкае грамадства зарабляе найболей грошай сплавам дрэва па Нёману. Маладыя працуюць на гуце Краеўскага, але заработкі гэтыя нашы мужыкі акуратна дзеляць з манапольскай* (прапіваюць - *Л.Л.*), *сыпяць грошы, як у Нёман. Мужыкі ў Ганцавічах не стыдаюцца самі па хатах гандляваць гарэлкай, каб слабы чалавек мох п'янстваваць заўсёды і ў дзень, і ў ноч"*[180]. Як бачым п'янства заўжды было нашым можа галоўным нацыянальным бедствам.

На пачатку 1909 г. народны карэспандэнт пад псеўданімам "Дзяцел" паведамляў пра навіны Жалудка: *"М. Жалудок Лідскага павета. У нас ёсць гаспадарская суполка, але надта моцна яна не працуе. Аткрылі тут хаўрусную краму, за 7 месяцаў яна дала 400 руб. чыстага даходу. Хаўруснікаў у краме 120-140, кожны даў па 10 рублёў. Яшчэ большая была бы карысць, каб у нас была не толькі хаўрусная крама, дзе мужык толькі купляе за свае грошы, але яшчэ хаўрусы для прадажу мужыцкага дабра, здабытага мужыцкай працай - напрыклад, малака, масла, збожжа і др.*

*Тут ёсць вялікая старасвецкая карчма, якая належыць памешчыку князю Ч. Ён перабудаваў нанава гэтую карчму пад краму і чайную, хочуць зрабіць тут і заезд дзеля начлега. З крамы кн. Ч. бярэ 50 руб. арэнды, - значыць ня шмат. Вядома рэч, што як багатыя людзі памагаюць завясці карысныя для грамады рэчы, то гэта добра. Але хаўрусныя крамы і таварыства будуць моцныя толькі тады, калі самі мужыкі будуць на іх складацца. Мужыцкі грош будзе цвярдзейшы!*

*Княгіня аткрыла тут бальніцу на 10 ложкаў, лечаць дарма"*[181].

Уладальнікі Жалудка князі Чацвярцінскія - сапраўдныя арыстакраты, якія паказвалі ўзор сацыяльнай адказнасці багатых за стан жыцця свайго народу. На жаль, не ўсіх арыстакратаў таго часу можна было лічыць сапраўднай, адказнай элітай.

А да мястэчка Новы Двор у 1909 г. дайшлі самыя сучасныя на той час "інфармацыйныя тэхналогіі" і болей чым праз 100 гадоў неверагодна прыемна чытаць наступныя радкі: *"Новы Двор. Лідскага павета. Як тэлеграфам можна перасылаць па дроце ліст, так сама тэлефонам можна перасылаць па дроце мову. Тэлефоны для краю дужа карысная рэч, і за граніцай яны ўсюды заведзены. Там кожная пошта, кожная воласць мае тэлефон, праз каторы можа гаварыць кожны, заплаціўшы невялікія грошы (5-25 кап.). Апроч гэтага ўсякі, хто хоча, можа мець у хаце свой тэлефон і гаварыць з другім канцом свету. Гэтакая прылада для людзей дужа карысная: трэба скажам пільна доктара, ксяндза - папа - пагаварыў праз тэлефон - за мінуту - дзве, дохтар ці ксёндз ужо збіраецца ехаць, трэба, скажам, прадаць на вёсцы жыта, а не ведаем цаны, зараз праз тэлефон запытайся ў Вільні,*

*як цана на жыта, ці паднялася, ці не - і ўжо не ашукаюць. Вось у пятым земскім вучастку Лідскага павета земскі Шацілаў устроіў тэлефон межы трыма воласцямі: Дубіцкай, Астрынскай і Сабакінскай. Можа за некалькі гадоў гэтак усякая воласць будзе мець тэлефон, з воласці ў павятовы горад, с павятовых у губернскія і гэтакім парадкам можна будзе гаварыць, з кім захочаш, па ўсёй нашай бацькаўшчыне - Беларусі.*

*300 руб. на тэлефон далі воласці, аколічныя паны далі слупы, а земскі Ш. клапаціўся аб усім. З першых жа дзён не абышлося без смеху. Пан М., тутэйшы памешчык, ехаў уначы да хаты, і навадворскім абычаем, едучы не сярэдзінай дарогі, а бокам, зачапіў носам за дрот, каторым слуп быў прывязаны да зямлі. На заўтра распух нос, як жбанок. "Ось і пагаварыў праз тэлефон", - смяюцца людзі"*[182].

Вышэй ужо пісалася пра спробу праваслаўнага святара ў Сабакінцах (зараз - Першамайск Шчучынскага раёна) стварыць чарнасоценную арганізацыю падчас выбараў ў Думу. Верагодна ўсё той жа святар працягваў займацца "рускай справай": *"М. Васілішкі Лідскага павета. Некалькі дзён таму ў нас аткрывалі аддзел саюза "рускага народа". Найбольш старалася аб гэтым тутэйшая духоўная асоба, але неяк не дужа многа спагадалі людзі іхнаму дзелу: з дзесяці прашэных на гэта суседніх паноў, прыехалі толькі тры, з Васілішскіх жа былі на адкрыцці ўраднік, паштовы чыноўнік і мужыкоў з 20. Запісалася ў саюз усяго 9 мужыкоў, ды і тыя не ведаюць, што робяць"*[183].

А цэлым, 1909 г. для сялян Лідчыны заканчваўся добра: *"Ўраджай гэтага года добры. Праўда, збожжа доўга валялася на полі ... , але хто ў шапку не спаў - патрапіў сабраць ды свезці, таму добра павялося. Гаспадары з балотных лугоў (напрыклад з пад Дзітвы) да сяго часу не маюць доступу касіць за вадой. Відаць прападзе там сена да званьня. Будзе зноў корм дарагі"*[184].

Перад Першай Сусветнай вайной эканоміка Расіі расла шпаркімі тэмпамі, жыццё наладжвалася, і людзі на Лідчыне думалі пра будучыню. Жыхар Шчучына ў 1910 г. пісаў пра план пабудовы шашы ад чыгуначнай станцыі да мястэчка: *"Шчучын. Да нядаўняга часу адзінай дарогай, якая звязвала Шчучын з астатнім мірам быў паштовы гасцінец з Гродна на Ліду і далей Вільню. І вось прайшла чыгунка з Ліды на Ваўкавыск. ... Дарога працягласцю ў мілю ад чыгуначнай станцыі да Шчучына вельмі дрэнная. ... нарадзілася ідэя зрабіць шашу і злучыць станцыю чыгункі Балагое-Сядлец з шашой Гродна-Ліда"*[185]. З артыкула бачна, што праект будаўніцтва знаходзіўся на стадыі пошуку грошай. Падчас Першай Сусветнай вайны, пад нямецкай акупацыяй, была пабудавана вузкакалейная чыгунка ад чыгуначнай станцыі праз Шчучын да Пляntаў, якія як раз знаходзіліся на шашы Гароднямя-Ліда.

Вышэй ужо неаднаразова пісалася пра можа галоўную праблему беларускай вёскі - алкагалізацыю насельніцтва. Не абышоў бокам гэтую праблему і народны карэспандэнт "Вінцук Н.", пішучы пра праблемы свайго мястэчка Васілішкі: *"Васілішкі - гэта найбольшае мястэчка ў Лідскім павеце. Тут, як і па ўсім нашым мястэчкам на Беларусі, ёсць царква, касцёл, валаснное праўленне, доктар, аптэка, колькі дзесяткаў крамак жыдоўскіх, трынаццаць піўных і адно вучылішча для дзяцей. І як усюды, так і ў Васілішках дзеці адукуюцца не толькі ў адным вучылішчу, але і ў трынадцаці піўных, і сама сабой гэта апошняя піўная, або - лепей - карчомная адукацыя пераважвае і накладае сваё кляйно на новае пакаленне. Апрыч 13 піўных ёсць яшчэ ў нас адна манаполька і два рэстараны. Чаго ж болей? Усё ёсць! .. А хоць і ўсё ёсць, ды чагосці не хапае ... бо старыя уздыхаюць, што даўней менш было карчэм, і маладзёж, а асабліва дзеці смаркатыя, там не бадзяліся, - што па вёсках цішэй было ад сварак, абманаў, зладзейства, - што лепшыя бывалі абычаі. А ёсць і такія, каторыя кажуць, што на 16 карчомных хат трэба было б, каб была хоць адна хата, дзе б вучылі рэмесла, і каб Васілішскіе і акалічные людзі прапіваючы ў 16 корчмах што году больш 60 тысяч рублёў, выдавалі хаўрусам хоць 60 рублёў на кніжкі і газеты - было-б лепей. А дачакаемся гэтага хіба тады толькі, калі на 16 школ будзе адна карчма ў нас. Але пачакаць гэтага прыдзецца, ох доўга"*[186].

*Андрэй Асташонак, карэспандэнт "Нашай "Нівы" з Васілішак, нараджэнец в. Голацк (н. 15.10. 1889) Ігуменскага павета. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1910). У 1910-1915 гг. настаўнік Васілішскага народнага вучылішча Лідскага павета. Удзельнік 1-й Сусветнай вайны. З восені 1917 года старшыня Дукорскай валаснай земскай управы. З 1918 года студэнт Менскага настаўніцкага інстытута, сябар беларускай нацыянальнай арганізацыі "Маладая Беларусь" і партыі беларускіх эсэраў. У 1920 годзе сябар Беларускай камуністычнай арганізацыі, інс*труктар Часовага Беларускага Нацыянальнага камітэта ў Лідскім павеце, з жніўня член КП(б)Б. З канца 1920 года сакратар Саюза працаўнікоў асветы ССРБ, нядоўгі час працаваў загадчыкам аддзела ЦБ КП(б)Б па рабоце на вёсцы. Скончыў Менскі інстытут народнай адукацыі (1921) і БДУ (1925). Далейшы лёс не вядомы[187].

У лістападзе 1911 г. нейкі В. Хвалкавецкі надрукаваў у "Нашай Ніве" цікавую этнаграфічнаю замалёўку з Лідчыны ў якой распавёў пра традыцыю вырабу паясоў вясковымі дзяўчатамі для сваіх суджаных[188].

У тым жа 1911 г. на Лідчыне памёр надзвычай цікавы чалавек пра якога мы ведаем толькі з публікацыі нейкага І. Вадэйкі ў "Нашай Ніве": *"В. Клюкавічы, Беліцкай воласці. Памерлі тут двое людзей, муж з жонкай, у адзін дзень. Суседзі і знаёмыя вельмі шкадуюць нябожчыка, Пранука Сівіцкага. Пражыў ён 84 гады. Пасля яго смерці асталася невялікая біблиятэка, яго ўласныя рукапісы, па цяжкай працы меў ён сабе забаву з кніжкай і пяром. Можна сказаць, што ён сваімі гутаркамі і казкамі, патрапіў разбудзіць ва ўсякім чалавеку пачуццё да свайго народу і зямлі,*



*Андрэй Асташонак*

*каторую шчыра любіў. Няхай-жа будзе лёкка яму родная зямліца! Суседзям памяць яго будзе дарага"*[189]. Канешне ж усе рукапісы Сівіцкага загінулі, і мы ніколі не даведаемся, пра што пісаў гэты чалавек.

У 1911 г . на Лідчыне *"ўраджай збожжа і сена ... быў сярэдні, а цана на збожжа добрая"*[190].

Аўтар "Нашай Нівы", які хаваўся пад псеўданімам "Калод", у красавіку 1914 г. у карэспандэнцыі пад назвай "З Ганчарскай воласці" пісаў:

*"Найстарэйшы чалавек у вёсцы Бахматы А. Кіман (празваны "Таўкачом" за тое, што спрытна танцаваў беларускі танец "таўкачыкі") мае 115 гадоў, здужае яшчэ жабраваць.*

*У вёсцы Агароднікі памёр каваль. Спаўшая пры нём жонка не чула, калі муж Богу душу аддаў. Добры сон?*

*Сёлета каля нас гаспадары бядуюць па хлебу, што ён пляце, як кажуць, лапці, ды ўцякае ў мястэчка. У краме за рубель можна будзе знайсці хлеб, толькі ён стыдаецца гаспадара, што уцёк ад яго, шчырванеў, нябога, запечаны, так як ад сораму. Ня лепш выглядае і гаспадар шукаючы хлеба.*

*У вёсцы Фалькавічы, капа жыта (60 снапоў) дае ўмалоту 2 пуды 10 ф., замест 5 пудоў, затое ярына сярэдняя, бульба таксама не ўдалася, ды і корму нехват. Вот і чакай вясны, не гаруй! Бацян прыляцеў, жаўрук заспяваў, усё ажывае і чалавека жыць прымушае.*

*Пачынаюцца выбары на старшыну, з'яўляецца многа кандыдатаў, і ўсе добра яны частуюць гарэлкай, а найбольш Кухске браты. Не выбірайця ж за пачастунак, але такога, якога параіць нам наша сумленне. Бо толькі тады будзе добра для нас, калі па праўдзі добрага выбярэма чалавека за старшыну"*[191].

Сутыкаліся сяляне і з адмоўнымі прыроднымі з'явамі: газета "Кур'ер Літоўскі" паведамляе ў 1908 г. пра тое, што *"каля чыгункі Ліда-Нёман, у ваколічных вёсках эпідэмія шкарлятыны, чорнай воспы і дыфтэрыту"*[192], у траўні 1910 г. сярод былда ў Дзікушках з'явіўся фурункул[193], а 10 траўня 1910 г. моцны град пабіў ураджай на Лідчыне[194].

**5.4. Эміграцыя ў Амерыку.**

На пачатку XX ст. прэса шмат увагі надавала абмеркаванню такой грамадскай з'явы, як эміграцыя ў Амерыку.

*"Пэўна німа такіх людзей, што ня чулі аб Амэрыцы*, - пісала газета "Наша Ніва" у 1907 г. - *У Амэрыку штогод то з той, то з другой вёскі нехта выбіраецца шукаць там сабе лепшага, свабоднейшага жыцця, часта можна спаткаць і такіх людзей, што праз колькі гадоў жылі працавалі тамака і, сабраўшы грошы, вараціліся ў родную старонку"*. Далей газета расказвае, як жыве амерыканскі працоўны: *"Заработная плата ў Амерыцы ў 2 - 3 разы большая, як у Англіі, Францыі і Нямеччыны. Некаторыя амерыканскія рабочыя (напрыклад муляры) зарабляюць у месяц больш, як у нас ... за цэлы год. ... А жыцьцё амерыканскага рабочага абходзіцца ня вельмі дарага. Напрыклад амерыканскі фунт (на нашу вагу два нашы фунты) мяса каштуе 25 кап.*[195]*, амерыканскі фунт сала - 20 кап., масла 48 кап., мукі - 4 кап., цукру - 10 кап., гарбаты - 1 рубель. Кватэры добрыя і, пры тамтэйшых заробках, даступныя кожнаму работніку. Опратка і обув - фабрычныя, гатовыя і прадаюцца куды танней, як у нас. Вось чаму работнік ў Амерыцы можа купляць усяго ў 2 - 3 разы больш, як у Еўропі, вось чаму і жыве ён ў 2 - 3 разы лепш за нашых рабочых. ... Свет навукі ў Амэрыцэ даходзіць да ўсіх, часта просты работнік бывае так сама вучоны, як які багач. Дык ня дзіва, што працуе ён скора, добра, што работа ў руках яго гарыць, што працоўны дзень кароткі. I абы каго на работу ня возьмуць, фабрыкант лічыць, што лепш наняць мала, але добрых і дарагіх рабочых ... . Праз гэта нашым пераселенцом спачатку часта вельмі дрэнна прыходзіцца, бо яны з тамтэйшымі раўнавацца не могуць, ведама, нашы - народ цёмны, забіты, прыціснуты"*[196].

Праз некалькі нумароў газета друкавала ліст беларускага эмігранта з Бэрклі: *"Дайшла да мяне тут Ваша газета. ... Праўда што амэрыканскі рабочы шмат зарабляе. У Каліфорніі цэна рабочых рук нават яшчэ большая, як ў "Нашай Ніве" паказана. Муляры бяруць па 12 - 14 рублёў у дзень, за тое ж і працуюць так, што Вашы і ня снілі: ставяць ў дзень каля трох тысяч цэглаў. ... Працуюць па 10, 9, а гдзе і па 8 гадзін ў дзень, але работа ў іх у тры разы скарэй, як Вашых рабочых. ... Для такой працы трэба сільных, здаровых работнікаў. Людзі слабыя ў Амэрыцы ... часта церпяць бяду і голад, бо зарабляюць усяго 4, 3, або і 2 рублі ў тыдзень. У Каліфорніі жыццё не надта таннае. ... Жыццё з кватэрай і харчамі абходзіцца 10 - 12 руб. у тыдзень ... . Для рабочага, каторы зарабляе 25 - 30*

*руб. у тыдзень, гэта ўсё не дарага. І жыць у Амэрыцы добра таму, хто мае работу. Але цяпер і ў Амэрыцы насталі дрэнныя часы. Вельмі многа багачоў збанкрутавала, і работу знайсці надта цяжка. ... Беларусаў тут шмат, ды ўсё прыезджаюць. Няхай жа кожны, хто хоча яшчэ ехаць у Амэрыку, раней напіша туды да сваякоў або знаёмых, ці напэўна знойдзе там працу?"*[197].

Здаецца не ўсе беларусы прыслухоўваліся да добрай парады свайго земляка з Бэрклі, бо ў 1908 г. "Курьер Літоўскі" пісаў: *"З ваколіц Беняконей не заканчваецца эміграцыя ў Амерыку. Пакінутыя сем'і эмігрантаў паміраюць з голаду, бо тыя, што паехалі ў Амерыку, не маюць там працы, не маюць грошай, каб вярнуцца, а ў нас, з-за таго, што няма работнікаў, палі стаяць не засеяныя"*[198]. Эміграцыя на столькі пашырылася, што на радзіме ўжо месцамі пуставалі палі!

На эміграцыі ў Амерыку праз падман, нажываліся розныя дзялкі. "Наша Ніва" ў 1910 г. пісала пра маштабную афёру, ахвярамі якой сталі ажно 130 лідзян, якія выправіліся ў эміграцыю: *"С-пад Ліды. На самыя Вялікодныя святы вярнулася да хаты цэлая грамада людзей, што выбіраліся ў прочкі ў Амерыку. А вярнуліся вось з якой прычыны. Нашы агенты браліся даставіць у Амерыку па цане 120-140 рублей ад чалавека. Ахвотнікаў назбіралася душ 130.*

*Агенты перавялі іх праз граніцу на прускую старану, купілі білеты на чыгунку аж да Амстэрдама (места над морам у Галандзіі), ды стуль ужо меліся вадой даставіць эмігрантаў у Амэрыку.*

*У Амстэрдаме меўся эмігрантаў сустрэць агент і выдаць усім шыфкарту (білэты на праезд вадой). Але ані агента, ані шыфкарты эмігранты не знайшлі, і пэўна загінулі б з голаду ў чужой старонцы, каб не расейскі консул у Амстэрдаме, каторы ўсіх адаслаў за казённыя грошы ў Ліду.*

*Гэтым ашуканствам агенты злупілі з народу 17 тысяч рублей (130 душ па 130 руб.), і німа - ведама ці ўжышчыць хто свае грошы назад. Пры тым жа трэба ж і дзівіцца цемнаце нашых мужыкоў: калі ехаць у Амэрыку праз Лібаву, тады каштуе паспарт каля 15 руб., даехаць да Лібавы 5 р. і шыфкарта з Лібавы ў Амэрыку 65 рублёў, - значыць усяго 88 руб. А агенты лупілі па 120 - а то і 140 руб. з душы. Гэта ўжо яўнае ашуканства"*[199].

Народны карэспандэнт "Нашай Нівы" з Бутрыманцаў пад псеўданімам "А.С.", лічыў, што эміграцыя не такая ўжо і дрэнная з'ява: *"Бутрыманцы, Лідскага павета. Сярод эканамічных праяў у жыцці тутэйшых вёсак ёсць адна вельмі цікавая і важная - гэта эміграцыя ў Амерыку. Пачалася яна тут ужо гадоў дзесяць, або і больш і цяпер ўжо ўзрасла да вялікай меры. Ёсць тут ў ваколіцы такія вёскі, у каторых прыходзіцца на кожную хату па "амерыканцу", а часам і больш. Едуць найбольш людзі маладыя, дужыя, назбіраўшыя на роднай зямліцы запасы сілы, каб там, за морам, прамяняць яе на амерыканскія долары. Едуць нават дзяўчаты і падросткі. Я пільна ўслухаўся да гутарак аб гэтай Амерыцы і аб "амерыканцах" і ня чуў ні разу скаргі на няўдачу, нараканні на тое, што ездзілі, ці выпраўлялі каго ў Амерыку. Праўда, два чалавекі вярнуліся, страціўшы грошы і не даехаўшы - бо іх ашукалі агенты. А шмат хто, прыехаўшы прывозіў з сабой грошы, часам вялікія грошы. Гэтыя амерыканскія грошы не пашлі прахам, а далі змогу шмат каму з сялян паадкупляць ад паноў зямлі. І дзеля гэтага, тутака гаспадары па вёсках жывуць ня бедна, хоць зямля і не надта выгодная - бо камяністая, але ж маюць яе шмат: па паўвалокі і больш. Ці не дзеля гэтага тут і народ святлейшы, як па іншых кутох Беларусі"*[200].

У Амерыцы да таго часу ўсе вольныя землі ужо былі разабраныя: *"З малымі грашыма ў Амэрыцы ўжо за зямлю не ўзяцца, добрую, вольную зямлю дачыста разабралі"*[201]. Таму беларусы эмігравалі і ў Канаду, бо менавіта ў Канадзе, беларус - адвечны хлебароб, яшчэ мог *"дастаць скарбовай зямлі на выбар 4 валокі за малыя грошы - праўда, далёка ад гораду, у глушы"*[202].

Аналізуючы працэсы эміграцыі таго часу, Вандалін Шукевіч пісаў, што "*прага эміграцыі ў Амерыку захапіла як летувісаў, так і беларусаў і нават беларусаў у большай ступені",* і з-за гэтага нават пачала памяншацца колькасць жыхароў Лідскага павета[203].

**6. Рэлігійнае жыццё**

Пасля рэвалюцыі 1905-06 гг. і так званага "Кастрычніцкага маніфеста" - практычна канстытуцыі Расійскай Імперыі, сярод іншых свабодаў, была дазволена і свабода сумлення. Цар падпісаў знакаміты ўказ аб рэлігійнай талеранцыі, да гэтага ўказу адыход ад праваслаўя лічыўся крымінальным злачынствам. Паводле ўказу, праваслаўе заставалася пануючай рэлігіяй у Імперыі, але цяпер можна было законна перайсці ў іншае веравызнанне. І нават праз 70 гадоў пасля скасавання уніі, па ўсім краі людзі пачалі пераходзіць у каталіцтва. Верагодна, рэкорд паставілі жыхары мястэчка Сапоцкін і навакольных вёсак (тэрыторыя якая ўваходзіла ў Царства Польскае, і дзе унія была скасавана толькі на пачатку 1875 г.), якія ў поўным складзе перайшлі ў каталіцтва. Па усёй Беларусі ў 1905-1909 гг. у каталіцтва перайшло 232 705 вернікаў[204]. Дакладная лічба вернікаў якія перашлі ў каталіцтва на Лідчыне адсутнічае, але напрыклад, настаяцель Маламажэйкаўскай царквы а. Леў Савіцкі ў 1907 г. расказваў, што ў яго прыходзе было 15 пераходаў у каталіцтва (з 1400 вернікаў) што, па яго словах *"малая колькасць"*[205].

Карыстаючыся "свабодай" каталіцкія вернікі па ўсей Лідчыне пачалі будаваць новыя храмы, да гэтага часу будаўніцтва касцёлаў рознымі спосабамі стрымлівалася ўладамі.

На пачатку кастрычніка 1906 г. сяляне Каняўскай воласці намагаліся атрымаць дазвол на будаўніцтва новага касцёла ў вёсцы Рудня, *"для атрымання дазволу, яны напісалі губернатару краю"*[206].

Жыхары вёскі Дубічы *"напісалі паданне да губернатара, каб атрымаць дазвол на будаўніцтва новага касцёла на падмурках зруйнаванай у 1863 г. святыні і пра аднаўленне сваёй парафіі"*[207].

У гэты ж час у Ельні, *"католікі злажылі па-*

*данне да Віленскага губернатара, каб атрымаць дазвол на будаўніцтва мураванай святыні на месцы драўлянага, якая з-за сваёй старажытнасці моцна зруйнаваная"*[208].

У верасні 1906 г. газета "Курьер Літоўскі" пісала пра ўрачыстае асвячэнне новага касцёла ў Лядску: *"Каля старога, драўлянага касцёла пабудавана дасканалая святыня з адной вежай у гатычным стылі. Будоўля пачалася ў 1898 г. у часах, калі прыйшлося перамагчы вельмі шмат перашкодаў, каб атрымаць дазвол на будаўніцтва. Асвячэнне новага касцёла адбылося 3 верасня, яго правёў канонік Віктар Франскевіч-Радзімінскі з асістэнтамі ксяндзомдыяканам Вацлавам Гінтаўтам і субдыяканам кс. Антоніем Пакшысам"*[209]. Перад Вялікаднем 1910 г. у новым Лядскім касцёле *"стараннямі мясцовага пробашча кс. Ташкюна і парафіянаў быў уладкаваны вялікі алтар за 1 200 руб. у гатычным стылі работы сп. Крішчыкайтыса з Вільні, выкананы вельмі сумленна і старанна. Асабліва прыгожа зроблена рама абраза Маці Божай. Сам абраз вельмі старажытны, пэндзля невядомага мастака, у прошлым годзе абраз быў аднаўлены мастаком з Вільні сп. Габіятам. Асаблівая ўдзячнасць парафіянам, якія эмігравалі ў Амерыку на заробак: калі яны даведаліся пра патрэбы касцёла, адзін з іх даў 1 000 руб на алтар, потым эмігранты зрабілі складкі і даслалі яшчэ 600 руб."*[210].

13 траўня 1907 г. святкавалася 500-годдзе царквы Маламажэйкаўскай інкастэляванай царквы[211] (насамрэч святкаваць трэба было 400-годдзе, падрабязна пра гэтае святкаванне гл. мой артыкул у "Лідскім летапісцы" № 3 (63) - 2013.)

У 1908 г. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства" надрукаваў некралог па протаіерэю Яраславу Брэну (1844-1908), сыну Голдаўскага святара Клімента Брэна і ўнуку першага праваслаўнага дабрачыннага і ліквідатара уніі на Лідчыне Самсона Брэна[212].

Тады ж тая самая газета публікуе справаздачу з выбараў Лідскага царкоўнага старасты, якія адбыліся 2 сакавіка ў Лідскім гарадскім саборы: *"Аднагалосна абраны на шостае трохгоддзе тутэйшы павятовы казначэй Аляксандр Уладзіміравіч Мачалкін,* (ён) *памятны ў Вільні як узорны чыноўнік і выдатны царкоўны староста царквы Св. Троіцкага манастыра"*. Мачалкін у 1907 г. святкаваў 50-ці гадовы юбілей сваёй службовай дзейнасці, і таму за шматгадовае выкананне абавязкаў Лідскага царкоўнага старасты быў узнагароджаны ордэнам Св. Ганны 2-й ступені. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства" падрабязна расказвае пра святкаванне чыноўнікам свайго юбілею[213].

У верасні 1908 г. нехта з мясцовых жыхароў, пад псеўданімам F.H., крытычна пісаў у "Кур'еры Літоўскім" пра будаўніцтва новага касцёла ў Начы: *"Мястэчка, ці проста вёска Нача, не адрозніваецца ад тыповых населеных пунктаў Беларусі* (у тэксце менавіта, Беларусі - *Л.Л.*), *хіба нават цемната і забітасць тут яшчэ мацнейшыя. Новы касцёл, які будуецца тут замест старога драўлянага, з'яўляецца "безгустоўнай" мешанінай стыляў усіх эпох. Праект нейкага дамарослага архітэктара сведчыць пра агульны ўпадак пачуцця прыгажосці. Супольнае жыццё ў поўным застоі. Няма думак, дзеяў і адпаведных для гэтага людзей"*[214]. Здаецца, усё ж загадкавы F.H. занадта крытычна ставіўся да стылю новага касцёла. Праз 100 гадоў відочна, што неагатычны касцёл у Начы - адзін з найпрыгажэйшых касцёлаў, пабудаваных у той час на гістарычнай Лідчыне.

Лідскі Слабадскі касцёл быў пабудаваны ў 1933 г.[215]. Аднак, яшчэ да Першай Сусветнай вайны Віленскі губернатар зацвердзіў дазвол Лідскага магістрата ад 15 снежня 1909 г. аб выдзяленні 3 дзесяцін гарадской тэрыторыі на будаўніцтва *"другога каталіцкага касцёла"*[216].

Пасля паўстання 1831 г. па загаду гарадзенскага губернатара касцёл у Дэмбраве быў перароблены ў царкву[217], і парафіяне павінны былі хадзіць у Лядскі касцёл. У снежні 1910 г. парафіяне былой Дэмбраўскай парафіі, якія *"зараз прыпісаны да Лядскага касцёла, просяць улады дазволіць пабудову новага касцёла ў мястэчку Дэмбрава. Грошы на пабудову дае князь Яўстах Сапега"*[218].

У ліпені 1911 г. паведамлялася, што будаўніцтва касцёла ў Калесніках з-за недахопу грошай ідзе цяжка[219].

Рыма-каталіцкі касцёл рупіўся аб выхаванні дзяцей з бедных сямей: *"Пробашч Васілішскага касцёла намагаецца атрымаць дазвол на арганізацыю прытулку для бедных дзяцей у асобным памяшканні пры касцёле. Дзеці там павінны навучацца сялянскай працы, чытанню і пісьму"*[220].

У 1913 г. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства" друкуе спіс цэркваў пабудаваных праз генерал-губернатара Літвы Мураўёва-вешальніка. На Лідчыне гэта:

*"1) Уладкавана і асвечана на 200 чалавек царква ў м. Шчучын па каштарысу на суму 4 651 р. 64 к.*

*2) Уладкавана і асвечана 11 ліпеня 1865 г. мураваная царква на 700 чалавек у м. Астрына на суму 5 905 р. 60 к.*

*3) Уладкавана і асвечана царква ў мястэчку Орля на 450 чалавек на суму 5 671 р. 45 к.*

*4) Уладкавана і асвечана царква ў мястэчку Мыто на 200 чалавек на суму 4 736 р. 71 к.*

*5) Уладкавана і асвечана царква ў Дакудаве на 459 чалавек на суму 5 863 р. 95 к.*

*6) Збольшага скончана царква ў мястэчку Радзівонішкі на 4 875 р. 35 к.*

*7) Пачата пабудова царквы на 500 чалавек у мястэчку Пакроўскае (Сабакінцы - Л.Л.) па каштарысу на суму 6235 р. 40 к."*[221].

**7. Нацыянальныя адносіны**

У 1908 г. "Кур'ер Літоўскі" надрукаваў артыкул "Зваротная хваля" пра балта-славянкія кантакты ў Лідскім павеце. Невядомы аўтар пад псеўданімам "Н" пісаў, што лінгвістычная карта Літвы і Беларусі, выдадзеная прафесарам Развадоўскім некалькі гадоў таму

ў Кракаве, паказвала, як этнічная мяжа паміж беларусамі і летувісамі перасоўвалася з усходу на захад, г.зн. беларусы каланізавалі былыя летувіскія землі, асімілюючы летувісаў. Пры канцы артыкула аўтар сцвярджаў, што *"ў апошнія часы, аднак, мы бачым адваротны працэс. Сяляне-летувісы, пад уздзеяннем на іх нацыянальнай агітацыі ці з-за эканамічных стасункаў, стараюцца перасунуць этнаграфічную мяжу на ўсход. ... Летувісы, як вядома, вызначаюцца вышэйшай агульнай культурай і больш высокай сельскагаспадарчай культурай"*[222]. У гэтым жа артыкуле аўтар, узгадваючы мястэчка Радунь, пісаў: *"Калісьці гэта быў вялікі горад, у якім было сем касцёлаў і замак каралевы Боны, які згарэў з-за шведаў, але руіны існуюць і зараз"*[223].

Праз некалькі нумароў артыкул невядомага аўтара пракаментаваў знаны археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч, жыхар Лідчыны Вандалін Шукевіч: *"... аўтар робіць высілкі высвятліць прычыны перасоваўвання этнаграфічнай мяжы паміж беларусамі і летувісамі і расказвае легендарна-казачную гісторыю Радуні"*[224]. Шукевіч заўважыў, што абшары, якія займаюць летувісы ў зоне кантактаў з беларусамі вызначаюцца сваімі *"пясчанымі і неўрадлівымі землямі ... адсутнасць пераваг тутэйшых летувісаў бачна хоць бы ў тым, што некаторыя гаспадаркі, маючы нават па 100-150 дзесяцін зямлі, стала купляюць хлеб"*[225]. Навуковец паказаў, што калі б летувісы пераўзыходзілі ў культурным сэнсе беларусаў, дык этнаграфічная мяжа рухалася б у адваротны бок, але даследчыкі не бачыць "зваротнай хвалі" летувіскай асіміляцыі. Шукевіч таксама заўважае, што Радунь ніколі не была вялікім горадам, і там ніколі не было сем касцёлаў. *"Касцёл быў заўжды адзін ... стаяў двор старасты, ад якога і зараз засталіся сляды..."*[226]. Як вядома, Шукевіч лічыў што так званы "Радунскі замак", валы якога захаваліся да нашага часу, гэта былы двор Радунскага старасты.

У траўні 1910 г. "Кур'ер Літоўскі" змяшчае вялікі артыкул Вандаліна Шукевіча з адказам на артыкул нейкага Нарцыза Агенчыка ў № 35-37 "Gonca Codziennego" пра этнаграфічныя стасункі ў Літве. Артыкул пачынаецца з расповяду пра гісторыю нашага краю. Шукевіч не згаджаецца з аўтарам, які не бачыць у беларусах асобнага народа, *"а толькі з-за рэлігіі дзеліць іх на палякаў і рускіх"*[227]. Таму ў аўтара атрымліваецца вялікая перавага *"рускіх"* над усімі іншымі, напрыклад, у Гарадзенскай губерні, а "*з Віленскай губерні шаноўны аўтар цалкам "выгнаў" беларусаў, але налічыў тут ажно 26,3% рускіх"*[228]. Агенчык усіх каталікаў, за выключэннем летувісаў і латышоў, запісаў у палякі. Шукевіч супраць вызначэння народа праз рэлігію: *"Нарэшце, зараз належала б і мову лічыць за адзнаку асобнасці народа. Мова ў народаў ... з'яўляецца выразам іх культуры, з'ўляецца найкаштоўнейшай часткай іх душы, і развіццё мовы не можа затрымаць ніводная сіла, ніводны ўплыў. Бачым мы гэта на прыкладзе чэхаў ... лужыцкіх сербаў і іншых народаў. Толькі мова захоўвае традыцыю народа, і калі гіне мова - гіне і народ. Таму пры вызначэнні народа, нельга абыходзіць мову, бо можам дайсці да абсурду запісаўшы усіх каталікаў у палякі ... Гэта адносіцца і да беларусаў, скасаваных адзіным росчыркам пяра аўтара. Праўда, мова беларусаў ... покуль не развітая ... застыўшая ..., яна заліваецца хваламі польскай ці рускай мовы з абодвух бакоў. Аднак прайшлі стагоддзі, а яна стаіць сярод гэтых хваль і нават расце і набірае моц,назапашвае жывыя сілы для далейшага існавання. Такі народ "газетную анексію" перажыве, але можа змяніць свае сімпатыі ў бок нашых непрыяцеляў. Таму не трэба казаць, што беларусы - яшчэ не народ. Маюць яны ўжо пачуццё салідарнасці, яшчэ трошкі і яны павінны ўсвядоміць сябе народам. Таму мы з гэтым павінны лічыцца і ... зарабляць сімпатыю да сабе з боку народа, які будзіцца"*[229].

У 1908 г. Шукевіч напісаў артыкул ў падтрымку адраджэння беларускага народа, беларускай мовы і адукацыі: *"Пытанні так зв. нацыянальныя, а як у нас: літоўскае і беларускае, якія падымаюцца на старонках газет, выстаўляюцца ў такіх рознакаляровых і адвольных асвятленнях і разглядаюцца найчасцей не цераз прызму навуковай нейтральнасці, а праз павелічальнае шкло рознародных пачуццяў... . Звычайна, гаворачы аб гэтых пытаннях, мы распальваемся, не можам ўтрымаць абавязковай у такіх выпадках раўнавагі. Некаторыя "нават выходзяць з сябе" з абурэння ад смеласці "нейкіх там" беларусаў або летувісаў адчуць у сабе нацыянальную адметнасць. Альбо наогул ігнаруюць справу, прымаюць у такім выпадку тон іранічна-з'едлівы, стараючыся высмеяць кожны рух, скіраваны на ажыццяўленне мараў аб самастойнасці. Наколькі такая методыка паводзінаў правільная - не будзем на тым спыняцца. ... не спрычыніцца яна для раз'яснення сітуацыі і ўладкавання стасункаў паміж бакамі, наадварот, можа толькі падрыхтаваць грунт пад пасеў непаразуменняў і ўзаемнай непрыязні"*[230]. Далей вучоны піша, што пытанне будучыні цэлых народаў не могуць вырашацца іроніяй, падтасоўкай фактаў ці фразеалогіяй узроўню сярэднявечнай схаластыкі. Такія пытанні павінны грунтавацца на грунтоўных навуковых дадзеных. Бо *"народ, які абуджаецца да жыцця адасобленага, альбо мае столькі сілаў жыццёвых, што яго ніякія намаганні свету з дарогі не звернуць, альбо іх не мае. ... Народ, які абуджаецца да супольнага жыцця па ўласнай мадэлі, не патрабуе нянек, ... не прымае ніякага націску і насуперак усяму выквітнее ён з часам цудоўнай кветкай цывілізацыі, уносячы новы элемент у духоўны даробак гэтай цывілізацыі. Наш святы абавязак ёсць - не перашкаджаць у развіцці той кветкі, але дапамагаць ёй"*[231]. Шукевіч напамінае, што ўсім тутэйшым добра знаёмы прымус да адмовы ад сваёй ідэнтычнасці, які заўжды прыводзіць да адваротных вынікаў, бо *"... народы незнішчальныя, ... можна часова прыпыніць іхняе развіццё, але ніколі не ўдасца перамяніць істоту іх духу, забіць любоў да рэчаў айчынных, зацерці рысы адметнасці"*. Таму *"не трэба баяцца таго, што ў нас беларусы горнуцца да кніжак, якія даюць ім крошкі ведаў у іх роднай мове ..., да тых, хто ім дапамагае падняцца духоўна ў іх уласнай мове, захаваюць яны пачуццё ўдзячнасці назаўсёды, і яны будуць ненавідзець кожнага, хто стане на шляху іх памкненняў або будзе выказваць непавагу да іх ...*

*нацыянальнасці і мовы"*[232]. Шукевіч разумее, што калі краёвая інтэлігенцыя не падтрымае беларускага руху, як ён піша *"таго сімпатычнага ... руху"*, дык яго падтрымаюць іншыя сілы і *"прынамсі, усходняя група праваслаўных беларусаў будзе цалкам страчана ..., бо прыхіліцца да крэўнай сабе мовай і верай Вялікаросіі"*, і таму *"нельга забываць пра братоў беларусаў з крыві і косці, якія насуперак усяму самаўсведаляюцца і хочуць захаваць сваю нацыянальную адметнасць"*[233].

На пачатку ліпеня 1911 г. "Кур'ер Літоўскі" перадрукоўвае артыкул з летувіскай газеты "Viltis" № 60 з моўнай статыстыкай Радунскай парафіі ў 1906-07 гг.: размаўляюць толькі на летувіскай мове 3 583 чалавекі, летувіскую і іншыя мовы ўжываюць 1 118 чалавек - разам 4701 чалавек. Толькі польскую мову ужываюць 124 чалавекі, польскую і іншыя мовы 2 262, разам 2 386 чалавек. Толькі беларускую мову ўжываюць 2 137 чалавек, беларускую і іншыя мовы 3 370, разам **5 507** чалавек[234].

Склад сваёй Нацкай парафіі, Вандалін Шукевіч апісваў так: *"Пасля адыходу вёсак заселеных летувіскім насельніцтвам да новаўтвораных парафій Калясінскай і Рудніцка-Дубіцкай, пры Нацкім касцёле засталіся прыхаджане, якія паходзяць з польскай шляхты і сялян-беларусаў з дамешкам польскага элементу"*[235].

Гэтыя публікацыі, пэўна, выкліканы вялікай сваркай, якая пачыналася сярод парафіянаў Радунскай і Нацкай парафій. У гэтых парафіях адбываўся раскол на прыхільнікаў польскай і летувіскай моваў у касцёле. У жніўні 1911 г. "Кур'ер Літоўскі" пісаў, што яшчэ некалькі гадоў таму Радунскі дэканат быў ціхі і спакойны, але *"ў выніку працы па "разпольшчванні" парафіянаў, якую вялі кс. Пётр Будра ў Бутрыманцах, кс. Ігнат Шопара ў Воранаве, кс. Юзаф Сташыц у Асаве, кс. Ян Гуданіс у Радуні дэканат Радунскі аказаўся вельмі ўдзячным для летувіскай агітацыі"*[236]. Першым пачаў праводзіць летувіскую агітацыю кс. Гуданіс. Газета піша, што галоўным пытаннем на споведзі ў гэтых касцёлах з'яўляецца: *"Да якой партыі належыш?"*[237]. У 1911 г. у дэканаце 6 парафій мелі ксяндзоў - руплівых летувісаў: 1) У Радуні кс. Напалеон Сабалеўскі (пробашч) і кс. Пэткель (вікары) 2) У Васілішках кс. Францішак Сакалоўскі (пробашч) і кс. Ян Кяніс (вікары) 3) У Начы кс. Ян Бурба (пробашч) 4) У Асаве кс. Ян Бурба, пробашч, пляменнік пробашча з Начы 5) У Воранаве кс. Вінцэнт Мішкініс (пробашч) 6) У Калесніках кс. Міхал Рудзіс (пробашч)[238].

Каб прытушыць канфлікт у Радунскім дэканаце пачалі складаць спіс, *"у якім будзе ўказана, на якой мове ў сям'і размаўляюць парафіяне"*[239].

Пры канцы 1911 г. у Нацкім касцёле адбыліся падзеі, якія Вандалін Шукевіч ахарактарызаваў як *"бітва народаў паміж жыхарамі адной зямлі - Літвы. ... У нядзелю 20 лістапада (3 снежня) падчас, калі мясцовы вікары кс. Гіўнайціс пачаў прамаўляць казанне па-летувіску, касцельны люд пачаў спяваць пабожныя песні ..., і ксёндз быў прымушаны пакінуць казальніцу. У адказ на гэта тутэйшы пробашч кс. Бурба выклікаў паліцыю, якая склала пратакол на вернікаў ... ."*[240].

Паводзіны ксендза выклікалі велізарнае абурэнне вернікаў Начы і ўсёй грамадскасці гістарычнай Літвы. Прэса пісала, што наступным крокам ксяндза павінен быць выклік рускіх казакоў з нагайкамі супраць сваіх парафіянаў. Таму ксёндз Бурба хутка зразумеў сваю памылку, і ўжо праз тыдзень Шукевіч пісаў з Начы: *"З прыемнасцю хачу зазначыць, што пасля здарэння 20 лістапада ў Нацкім касцёле ... кс. Ян Бурба зразумеў, што з нашым людам ні пратаколамі, ні загадамі, нават калі яны ад вышэйшых касцельных уладаў, нічога зрабіць не магчыма. ... На свята 8 (21) снежня кс. Бурба ... лагодным словам стараўся супакоіць буру. І яму гэта ўдалося. ..."*[241].

Пра тыя падзеі ў студзені 1912 г., народны карэспандэнт пад псеўданімам "А.С." пісаў у беларускай газеце "Наша Ніва": *"Народ тут мешаны - беларусы і ліцвіны, больш менш па раўне. Сярод ліцвінаў, за апошнія часы, дужа ўзмацніўся нацыянальны рух, і з гэтай прычыны, было вымаганне літоўскай гутаркі ў касцёлу - нават адной толькі літоўскай. Рабілі тут у касцёле сходкі, каб разабрацца, якой тут мове панаваць: літоўскай, ці польскай? Канчаліся гэтыя сходкі цэлымі бітвамі - біліся ліцвіны з "палякамі", а гэтыя "палякі" - усе нашы беларусы. Асілілі-ткі "палякі" - дзеля таго, што на іх старане, апрач чысла - яшчэ і капітал ды і паны былі. Кажуць, што некаторыя з паноў тутэйшых, каторыя сабе палякамі лічаць - вельмі спалохаліся, каб іх да Варшавы не пагналі (бо гэтак, быццам, перад імі ліцвіны хваліліся), усе спосабы агітацыі ўзялі, каб нарабіць тут як найбольш "палякаў" і ня толькі беларусаў, але шмат і ліцвінаў падмовілі "палякамі" зрабіцца.*

*Сумная гэта гісторыя, калі народ дзякуючы сваёй цемнаце, паддаецца нагаворам, ... . Але не ўспамянуць патомные вякі добрым словам тых людзей, каторыя дзеля сваёй далёкай "палестыны", свой праўдзівы родны народ, карыстаючы з яго цемнаты, пхаюць на ненавісць да брата суседняга народа. Ненавісць пасеяная імі ўзышлася ўжо і добрую рунь дала - што ж кожнаму свая слава! Але ж не на доўга! Народ тут ведае ўжо, што ён беларус, і толькі цяжка яму ўцяміць, як гэта разам выйсці можа: і паляк, і беларус, і каталік, і ліцвін? Калі ён у гэтых словах разбярэцца, тады пасохне тое паганае насенне. І няхай жа дае Бог, каб усё ліхое звялося - нянавісць, крыўды і злосць, а мы, калі таго хочам, павінны пастарацца, каб на гэтай жа ніўцы, добра ўжо ўзросшай, пасеяць зярняты навукі і добра.*

*Мова беларуская тут* (на поўначы Лідчыны - *Л.Л.*) *крыху пакалечаная польскімі словамі ... . Затое мала хто гаворыць па польску, ці па расейску - хіба толькі па дварох. Аб тым, што ёсць беларуская літаратура, ведае кожны, хто гэтым толькі цікавіцца"*[242].

У прэсе таго часу дастаткова матэрыялаў для вялікага артыкула аб летувіска-польскім супрацьстаянні ў касцёлах гістарычнай Лідчыны, але нас, беларусаў,

тая сварка на нашай зямлі, як быццам, і не закранула, таму я не бачу сэнсу падрабязна пераказваць і аналізаваць тыя падзеі.

**8. Культурнае жыццё**

На пачатку XX ст. у горадзе было некалькі аматарскіх тэатраў, якія дастаткова актыўна працавалі. Так 5 жніўня 1907 г. ў Летнім тэатры ў гарадскім парку адбылося аматарскае прадстаўленне, частка прыбытку ад прадстаўлення пайшла на рамонт мясцовага касцёла[243].

Пачынаючы з першай паловы XIX ст. Ліда не аднойчы прыцягвала да сябе ўвагу вандроўных тэатральных труп. У 1906 г. у "Кур'еры Літоўскім" пад загалоўкам "Тэатр польскі ў Лідзе" была змешчана інфармацыя, што Віленскі генерал-губернатар дазволіў артысту тэатра пану Тадэвушу Рэйф-Арлоўскаму даваць прадстаўленні на польскай мове п'ес, не забароненых цэнзурай, яго рэпертуар уключаў п'есы польскіх аўтараў і п'есы ў перакладзе: Славацкага, Крашэўскага, Слівінскага, Растана[244]. Дазвол на выступы ў *"павятовых гарадах Літвы: Лідзе, Ашмянах і Свянцянах"* атрымала і артыстка тэатра Каміла Хнаке- Завадская-Далінская[245].

"Кур'ер Літоўскі" змяшчаў інфармацыю пра гастролі тэатральных труп у горадзе, напрыклад у суботу 2 (15) чэрвеня 1907 г. *"трупа Віленскага літаратурна-драматычнага таварыства пад кіраваўніцтвам Эдмунда Купецкага з удзелам артысткі познаньскай сцэны Марыі Свенцкай паказвала "Вырак Яна Казіміра" - гістарычную драму У. Сыракомлі і камедыю Элізы Ажэшкі "Pokocilo Sie" і "Dam Noge", а ў нядзелю, 3(16) чэрвеня "Пляцоўку" Б. Пруса ды камедыю Дабжанскага "Таямніца". Пачатак 20-30. Квіткі прадаюцца ў аптэцы Бергмана ў Лідзе"*[246].

У траўні 1908 г. невядомы жыхар горада пісаў у "Кур'еру": *"У суботу 10 траўня ў гарадскім тэатры прайшло прадстаўленне тэатральнай трупы Арлоўскага. Гараджане задаволеныя тым, што ў горадзе гастралюе тэатр... . Сярод гледачоў, акрамя суддзі (рускага), двух землеўладальнікаў, лекара і аптэкара, у асноўным былі небагатыя людзі. Яўрэі дэманстратыўна шпацыравалі па парку каля тэатра, не рызыкуючы, за выключэннем 2-3 старазаконных, купіць квіток. Зал быў запоўнены не больш чым на траціну. Нядзельная ж п'еса "Мэдор" была адменена з-за адсутнасці гледачоў. Такую абыякавасць з боку лідзян да мастацтва і тэатра можна растлумачыць толькі адсутнасцю або прытупленнем усялякіх вышэйшых інспірацый духу ..."*[247]. Пэўна, як і заўжды ў гэты час, гараджане працавалі на палетках…

Праз некалькі месяцаў, вераснёўскім вечарам, у зале гімназіі Навіцкай адбыўся *"толькі адзін вечар гумару, прадстаўленне вядомага драматычнага артыста з Кракава Юзафа Харонжага"*[248].

У 1910 г. "Кур'ер ..." інфармаваў, што *"ў суботу 8 і нядзелю 9 траўня віленскія артысты пакажуць дзве п'есы"*. Аўтар нататкі спадзяваўся, што зала, дзе будуць праходзіць прадстаўленні, будзе шчыльна запоўненая гледачамі[249].

У 1908 г. "Кур'ер Літоўскі" змясціў зацемку гараджаніна, пра, магчыма, першую дэманстрацыю кінематографа ў горадзе: *"Ліда. (Глядач). Тэатр "Фантазія" ёсць сапраўдным адбіткам фантазій пана дарэктара кінематографа, якія зусім не стасуюцца з грамадскімі меркаваннямі. Вечарам 1 снежня у 21-30, я з кампаніяй знаёмых прыйшоў у гэтую "Фантазію", мы купілі квіткі, якія тут не таннейшыя, чым у Варшаве, і не паспелі мы прагледзець усе 10 карцін, як раптоўна стала цёмна, і мы пачулі нейчы голас, што сеанс закончаны. Не дапамаглі пратэсты нас і яшчэ некалькіх гледачоў, нехта сказаў "Але ж гэта сапраўдная фантазія". Тыя карціны, якія мы паспелі разгледзець, былі зроблены так дрэнна і невыразна, што часам немагчыма было зразумець іх сэнс ... , часам выявы былі, як у тумане. Калі пан дырэктар кінематографа, лічыць што грамадскае меркаванне, як заўжды, не паспявае за прагрэсам, дык хай загадае не прадаваць білетаў тым "tarde venientibus"* (лаціна, "тым што спазняюцца" - *Л.Л.* )"[250].

Сталыя гастролі тэатральных труп і прафесійных акцёраў у нашым горадзе ўсе ж сведчылі пра тое, што іх дзейнасць была дастаткова прыбытковай, бо ў горадзе ўжо пачало складвацца кола адукаваных людзей, якія цікавіліся мастацтвам і чакалі тэатральных гастроляў.

**9. Падсумаванне**

Эканамічны ўздым, які пачаўся ў Расійскай Імперыі пры канцы XIX ст. не абмінуў і павятовы горад Ліду. Асаблівае значэнне для развіцця горада, уздыму прамысловасці, адукацыі і росту насельніцтва адыграла тое, што горад стаў буйным чыгуначным вузлом.

У 1910-я гг. у горадзе закладваліся падмуркі яго будучага развіцця ў XX ст., атрымлівала адукацыю і ўступала ў самастойнае жыццё пакаленне людзей, якія адчувалі неабходнасць палітычных свабодаў і гарантый развіцця асобы, а ў павеце бурліва набіраў моц беларускі нацыянальны рух.

Разам з тым у 1908 г. у адной з сваіх артыкулаў у газеце "Кур’ер Літоўскі" жыхар Лідчыны, археолаг, член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі Ведаў Вандалін Шукевіч, даў вельмі негатыўную ацэнку стану грамадскага жыцця на Лідчыне:

*"Відочна, у нас пануе душная атмасфера, такая як на дне піўной бочкі, якую доўгі час не адчынялі - кожны прамень святла гасне, бо нікім не падтрымліваецца. І калі тут усё ж робіцца нешта разумнае, дык толькі дзякуючы высілкам адзінак, якія не аглядваюцца на нікога і спадзяюцца толькі на ўласныя сілы.*

*Такое ж і грамадскае жыццё: шэрае, не абапёртае на жывую і творчую справу, а на высілкі без вышэйшых мэтаў, скіраванае толькі на падтрыманне асабістага марнага існавання. Відочна, на такім грунце любая ініцыятыва не можа выжыць, бо вызначае поле мыслення і кіруе палётам духу праца, адзіна скіраваная толькі на здабыццё хлеба.*

*Гэтаму ёсць вельмі разнародныя прычыны: тут і эканамічны ўклад краю з вельмі нізкай культурай і нязменныя агульныя ўмовы грамадскага і палітыч-*




***Ліда. Парк.***

*нага жыцця. Такі стан спраў будзе трымаць нас яшчэ надта доўга - гэта сумна, але праўдзіва.*

*Генезіс умацавання ў нас гэтай атмасферы дае магчымасць зразумець сэнс падзеў якія адбыліся на Літве за апошняе стагоддзе. Яны зрабілі нязводную пляму на душы цэлага народа, асабліва прынізілі яе, знявечыўшы ўсялякія зародкі вольнай думкі. Звычайнай справай з'яўлялася тое, што так званыя "абывацелі" не толькі не вучыліся ні ў якай вучэбнай установе, але і нават не разумелі патрэбы ў навуцы і самаўдасканаленні. Таму разумовы далягляд паступова, як вада ў возеры, паніжаўся, пакідаючы на дне камяні і багну найгоршых інстынктаў. [...] Цемра пануе ў нас непадзельна, адсоўваючы наш край усё далей і далей ад Еўропы, робячы з яго такі "арыгінальны" здабытак мінулага"*[251].

І тым не менш, як бачна з вышэй пададзенага матэрыялу, перад 1-й Сусветнай вайной на Лідчыне пачала развівацца грамадская супольнасць, людзі атрымлівалі навыкі палітычнай і культурнай дзейнасці ды самаарганізацыі.

**Літаратура, заўвагі і каментары:**

1. Памятная книжка Виленской губернии на 1903 г. Вильно, 1902. ч. 3. С. 58.
2. Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. Вильно, 1901. С. 262.
3. Виленские губернские ведомости. № 20, 9 января 1905. С. 1.
4. Наша Доля № 1, 1 сенцября 1906 г.
5. Bielarus № 6, 14 lutaho 1913.
6. Наша Ніва № 12, 18(31) сакавіка 1910.
7. Kuryer Litewski № 36, 14 (27) lutego 1906.
8. Kuryer Litewski № 188, 22 sierpnia (4 wrzesnia) 1906.
9. Kuryer Litewski № 199, 3 (16) wrzesnia 1906.
10. Наша Доля № 2, 15 сенцября 1906 г.
11. Kuryer Litewski № 174, 4 (17) sierpnia 1906.
12. Kuryer Litewski № 264, 21 listopada (4) grudnia 1906.
13. Kuryer Litewski № 199, 3 (16) wrzesnia 1906.
14. Kuryer Litewski № 185, 22 sierpnia (4 wrzesnia) 1907.
15. Nasza Niwa № 21, 1 (14) junia 1907.
16. Kuryer Litewski № 96, 27 kwietnia (10 maja) 1908.
17. Kuryer Wilenski № 220, 29 wrzesnia (12 pazdernika) 1911.
18. Kuryer Litewski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdernika) 1906
19. Kuryer Litewski № 72, 31 marca (13 kwietnia) 1910.
20. Kuryer Litewski № 21 (122), 26 stycznia (8 lutego) 1906.
21. Kuryer Litewski № 219, 29 wrzesnia (11 pazdziernika) 1906.
22. Kuryer Litewski № 166 (267), 26 lipca (8 sierpnia) 1906.
23. Kuryer Litewski № 180, 15 (28) sierpnia 1907.
24. Kuryer Wilenski № 129, 11 (24) czerwca 1911.
25. Леан Феліксавіч Якштас, малодшы афіцэр 1-й роты 172 палка - Памятная книжка Виленской губернии на 1911 г. Вильно, 1911. С. 157.
26. Kuryer Wilenski № 243, 28 pazdernika (8 listopada) 1911.
27. Kuryer Wilenski № 92 (212), 20 wrzesnia (8 pazdziernika) 1911.

[28] Kuryer Wilenski №70 (190), 24 sierpnia (6 wrzesnia) 1911.

[29] Наша Ніва № 37, 10 (23) сенцябра 1909.

[30] Наша Ніва № 4, 25 студзеня 1913.

[31] Kuryer Litewski № 220, 3 (16) pazdziernika 1907.

[32] Nasza Niwa № 36, 21 hrudnia 1907.

[33] Nasza Niwa № 6, 14 (27) marca 1908.

[34] Kuryer Wilenski № 131 (251), 5 (18) listopada 1911.

[35] Kuryer Wilenski № 4, 7(20) pazdziernika 1910.

[36] Kuryer Wilenski № 57, 10 (23) grudnia 1910.

[37] Наша Ніва № 12, 24 сакавіка 1911.

[38] Наша Ніва № 11, 17 сакавіка 1911.

[39] Наша Ніва № 14, 5 красавіка 1913.

[40] Bielarus № 23-1913, 19 жніўня.

[41] Kuryer Litewski № 43, 23 lutego (8 marca) 1910.

[42] Kuryer Litewski № 137, 20 czerwca (3 lipca) 1910.

[43] Наша Ніва № 12, 18 (31) сакавіка 1910.

[44] Kuryer Litewski № 190, 24 sierpnia (6 wrzesnia) 1910.

[45] Kuryer Wilenski № 41, 20 lutego (5 marca) 1911.

[46] Kuryer Wilenski № 228, 8 (21) pazdernika 1911.

[47] Kuryer Wilenski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdernika) 1911.

[48] Памятная книжка Виленской губернии на 1893 г. Вильно, 1892, ч. 2. С. 108.

[49] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[50] Суднік Станіслаў. Лідскія брандмуры // Лідскі летапісец № 14.

[51] Kuryer Litewski № 183, 15 (28) sierpnia 1906.

[52] Литовские Епархиальные ведомости, 1887, № 43. С. 370.: "Кватэра протаіерэя Каяловіча знаходзіцца ў мураваным будынку які прымыкае да сабора (Святаміхайлаўскай царквы - *Л.Л.*) з усходняга боку".

[53] Kuryer Litewski № 213, 25 wrzesnia (8 pazdziernika) 1907

[54] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 132.

[55] Kuryer Wilenski № 212, 20 wrzesnia (8 pazdziernika) 1911.

[56] Bielarus № 31, 23 кастрычніка 1913.

[57] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 75.

[58] Kuryer Litewski № 78, 10 (23) kwietnia 1907.

[59] Kuryer Litewski № 227, 11 (24) pazdziernika 1907.

[60] Наша Ніва № 32, 26 (8) akciabra 1907; Наша Ніва № 36, 21 hrudnia 1907.

[61] Наша Ніва № 32, 26 (8) akciabra 1907.

[62] Наша Ніва № 36, 21 hrudnia 1907.

[63] Наша Ніва № 12, 18 (31) сакавіка 1910.

[64] Наша Ніва № 22, 23 (5) akciabra1908.

[65] Kuryer Litewski № 144, 29 czerwca (12 lipca) 1910.

[66] Kuryer Wilenski № 97, 1(14) maja 1911.

[67] Kuryer Litewski № 190, 24 sierpnia (6 wrzesnia) 1910.

[68] Kuryer Litewski № 115, 20 maja (2 czerwca) 1908.

[69] Наша Ніва № 32, 9 жніўня 1913.

[70] Kuryer Wilenski № 152 (272), 30 listopada (13 grudnia) 1911.

[71] Kuryer Wilenski № 162 (282), 13 (26) grudnia 1911.

[72] Kuryer Litewski № 234, 11(24) pazdziernika 1908.

[73]. Kuryer Litewski № 129, 10 (23) czerwca 1910.

[74] Наша Ніва № 25, 17 (30) чэрвеня 1910.

[75] Наша Ніва № 04, 27 студня 1911.

[76] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

[77] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 114-115.

[78] Памятная книжка Виленской губернии на 1908, г. Вильно, 1908. С. 145-146.

[79] Литовские Епархиальные Ведомости №17 - 1901. С. 137.

[80] Литовские Епархиальные Ведомости №1-2 - 1901. С. 13.

[81] Пра І. Каяловіча гл. Протаіерэй Іосіф Каяловіч // Лідскі летапісец № 1-2 (45-46), 2009. С. 23.

[82] Литовские Епархиальные Ведомости №12 - 1901. С. 95-96.

[83] Nasza Niwa №13, 30 marca 1907.

[84] Памятная книжка Виленской губернии на 1907 г. Вильна, 1907. С. 157.

[85] Жалезны Рыгор. Марыя Навіцкая і першая Лідская жаночая гімназія // Лідскі летапісец № 5-6.

[86] Kuryer Litewski № 88, 21 kwietnia (4) maja 1906.

[87] Kuryer Litewski № 207, 14 (27) wrzesnia 1906.

[88] Жалезны Рыгор. Марыя Навіцкая і першая Лідская жаночая гімназія // Лідскі летапісец № 5-6.

[89] Kuryer Litewski № 210, 17 (30) wrzesnia 1910.

[90] Наша Ніва № 32, 9 жніўня 1913.

[91] Словы аўтара пра польскую мову беларусаў горада як хатнюю трошкі здзіўляюць, верагодна аўтар зацемкі лічыў беларускую мову дыялектам польскай.

[92] Kuryer Litewski № 30, 6 (19) lutego 1908.

[93] Наша Доля № 1, 1 сенцября 1906 г.

[94] Kuryer Litewski № 54, 8(21) marca 1906

[95] Niewiero Florian. Historia kosciola parafilnego w Zyrmunach. Lida, 1939. S. 53-54.

[96] Kuryer Litewski № 22, 26 stycznia (8 lutego) 1908.

[97] Вестник Виленского Св. Духовского братства. № 12-13 - 1909. С. 234.

[98] http://katolicy.eu/ZSRR/Sperski.htm

[99] Szymielewicz Michal. Szkice do monografii Zoludka // Ziemia Lidzka № 12-1937.

[100] http://katolicy.eu/ZSRR/Sperski.htm.

[101] Nasza Niwa № 31, 12 (25) akciabra 1907.

[102] Nasza Niwa № 1, 4 (17) stycznia 1908.

[103] Nasza Niwa № 15, 18 (31) lipnia 1908.

[104] Наша Ніва № 5, 29 (11) января 1909.

[105] Наша Ніва № 31-32, 6 (19) аўгуста 1909.

[106] Наша Ніва № 12, 18 (31) сакавіка 1910.

[107] Наша Ніва №13, 25 (7) сакавіка 1910.

[108] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

[109] Наша Ніва № 2, 13 (26) студзеня 1912.

[110] Kuryer Litewski № 19, 24 stycznia (6 lutego) 1906.

[111] Kuryer Litewski № 21, 26 stycznia (8 lutego) 1906.

[112] Kuryer Litewski № 45, 24 lutego (9 marca) 1906.

[113] Kuryer Litewski № 46, 25 lutego (10 marca) 1906.

[114] Kuryer Litewski № 80, 15 (28) kwietnia 1906.

[115] "Nam nia treba uczonych ... jony budut trymac s panami"

[116] Kuryer Litewski № 80, 15 (28) kwietnia 1906.

[117] Kuryer Litewski № 84, 11 (24) kwietnia 1906.

[118] Государственная Дума первого призыва. Портреты, краткие биографии и характеристики депутатов. Москва, 1906. С. 9.

[119] Иванов Б.Ю., Комзолова А.А., Ряховская И.С. Государственная дума Российской империи: 1906-1917. Москва, 2008. С. 143.

[120] Kuryer Litewski № 154, 12(25) lipca 1906.

[121]. Nowogrodzki Dziennik Wojewodzki. № 5-1931. S. 41.

[122] Nowogrodzki Dziennik Wojewodzki. № 26-1932. S. 225.

[123] Kuryer Litewski № 195, 30 sierpnia (12 wrzesnia) 1906.

[124] Kuryer Litewski № 291, 23 grudnia (5 stycznia 1907) 1906

[125] Nasza Niwa № 1, 6 (19) janwara 1907.

[126] Kuryer Litewski № 3, 5 (18 stycznia) 1907

[127] Kuryer Litewski № 19, 25 stycznia (7 lutego) 1907

[128] Nasza Niwa № 5, 2 lutaho 1907.

[129] Nasza Niwa № 6, 11 lutaho 1907.

[130] Nasza Niwa № 7, 18 lutaho 1907.

[131] Kuryer Litewski № 29 (14894) 1907.

[132] Члены Государственной Думы (портреты и биографии). Второй созыв 1907-1912. Москва, 1907. С. 19.

[133] Nasza Niwa № 30, 28 sienciabra 1907.

[134] Верагодна калежскі асэсар Аляксандр Віктаравіч Петухоў, таварыш пракурора пракурорскага надзору Віленскага акружнога суда, гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1908 г. Вильна, 1908. С. 55.

[135] Kuryer Litewski № 214, 26 wrzesnia (9 pazdziernika) 1907.

[136] Kuryer Litewski № 215, 27 wrzesnia (10 pazdziernika) 1907.

[137] Kuryer Litewski № 210, 21 wrzesnia (4 pazdziernika) 1907.

[138] Kuryer Litewski № 213, 25 wrzesnia (8 pazdziernika) 1907.

[139] Наша Ніва № 43-44, 2(15) лістапада 1912.

[140] Kuryer Litewski № 180, 11(24) sierpnia 1906.

[141] Там жа.

[142] Nasza Niwa № 6, 11 lutaho 1907.

[143] Kuryer Litewski № 276, 5 (18) grudnia 1906.

[144]. Kuryer Litewski № 166 (267), 26 lipca (8 sierpnia) 1906.

[145] Kuryer Litewski № 2, 4 (17) stycznia 1907.

[146] Nasza Niwa № 32, 26 (8) akciabra 1907.

[147] Наша Ніва № 11, 17 сакавіка 1911.

[148] Nasza Niwa № 15, 18 (31) lipnia 1908.

[149] Там жа.

[150] Kuryer Litewski № 206, 7 (20) wrzesnia 1908.

[151] Kuryer Litewski № 215, 19 wrzesnia (2 pazdziernika) 1908.

[152] Kuryer Wilenski № 36 (156), 14 (27) lipca 1913.

[153] Kuryer Litewski № 219, 24 wrzesnia (7 pazdziernika) 1908.

[154] Kuryer Litewski № 246, 25 pazdziernika (7 listopada) 1908.

[155] Там жа.

[156] Там жа.

[157] Kuryer Litewski № 80, 9 (22) kwietnia 1910.

[158] Maria Magdalena Blombergowa. Wandalin Szukiewicz (1852 - 1919). Warszawa - Lida. 2010. S. 70-71.

[159] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

[160] Kuryer Wilenski № 61 (181), 12 (25) sierpnia 1911.

[161] Nasza Niwa № 19, 18 (31) maja 1907.

[162] Kuryer Litewski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdziernika) 1910.

[163] Наша Ніва № 37, 12 верасня 1913.

[164] Kuryer Litewski № 236, 18(31) pazdziernika 1906.

[165] Kuryer Litewski № 251, 9 (22) listopada 1907.

[166] Kuryer Litewski № 39, 16 (26) lutego 1908.

[167] Kuryer Litewski № 269, 30 listopada (13 grudnia) 1907.

[168] Kuryer Litewski № 30, 6 (19) lutego 1908.

[169] Kuryer Litewski № 181, 8 (21) sierpnia 1908.

[170] Kuryer Litewski № 242, 21 pazdziernika (3 listopada) 1908.

[171] Kuryer Litewski № 142, 26 czerwcz (9 lipca) 1910.

[172] Там жа.

[173] Szukiewicz Wandalin. Zamek w Lidzie. Ziemia. Warszawa, 18 Listopada 1911. Rok II. Nr 46. S. 748-749.

[174] Kuryer Litewski № 193, 27 sierpnia (9 wrzesnia) 1910.

[175] Kuryer Wilenski № 92, 26 kwietnia (9 maja) 1911.

[176] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 74.

[177] Kuryer Litewski № 134, 16 (29) czerwca 1910

[178] Kuryer Litewski № 183, 15 (28) sierpnia 1906.

[179] Nasza Niwa № 19, 11 (24) sienciabra 1908.

[180] Nasza Niwa № 22, 23 (5) akciabra 1908.

[181] Наша Ніва № 9, 27 (12) февраля 1909.

[182] Наша Ніва № 31-32, 6 (19) аўгуста 1909.

[183] Там жа.

[184] Наша Ніва № 37, 10 (23) сенцябра 1909.

[185] Kuryer Litewski № 102, 7(20) maja 1910.

[186] Наша Ніва № 33, 18 аўгуста 1911.

[187] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919-1920 гг. // Спадчына № 6-1994. С. 50-87

[188] "Чытаючы "Н.Н." даведаўся я, як п. Максім Тручко ў Слуцкім павеце збіраў паяскі і апісаў сваю няўдачу, трэба ж ведаць, што і ў нашым павеце па вёсках робяць надта пекныя паяскі, але іх прадаваць

так сама не хочуць. А чаму гэта скажу зараз.

Прыйшоў я ў суседнюю вёску, пераступіў ў хаце парог, глянуў, і дзяўчына ёсць: і, пытаю: маеш паясок?

- Ёсць атказвае яна. - То будзеце добры, прадайце мне.

- Не, кажа, на продаж не маю. Гэта не такая рэч, што прадаецца. Здарыцца патрэба, то дармо дам нарачонаму свайму падперэзацца, ды свату.

Значэ з дачкой нічога не зраблю, пайду да старой маткі.

- Чаму ваша дачка не хочэ прадаць паяска? Пытаю.

- Охо, кажа старая, як ваша прыйшоў, бачыць суседнія дочкі прыбеглі, яны самі між сабой, чула я, шэпталі: "Ён кавалер, прыйшоў выглядаць, быццам толькі паяскоў шукаіць, глядзі са сватам прыпрэцца, узяць грошы зазлуецца, не браць грошы - насмяецца".

- Годзі, кажа старой, усё ж-ткі можна купіць паясок у вас?

Не, мой галубок, ня ведаю я добра і сама ці можна, ці не ... Калісь бывала ў нас старых пояс меў тое самае значэнне перад шлюбам, што цяпер пярсцёнак пасля шлюбу. Ага, кажу, дзякуй маці за вядомасць, ведаю цяпер, чаму не прадаюць дочкі паяскоў: гэта таму, што добра ў памяці дзяржыцца старое значэнне паяска" - Цыт. па: Наша Ніва № 46, 17 (30) лістапада 1911.

[189.] Наша Ніва № 46, 17 (30) лістапада 1911.

[190.] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

[191.] Наша Ніва № 14, 3 красавіка 1914.

[192.] Kuryer Litewski № 12, 15 (28) stycznia 1908.

[193.] Kuryer Litewski № 102, 7 (20) maja 1910.

[194.] Kuryer Litewski № 132, 13 (26) czerwca 1910.

[195.] Валютны курс у той час 1 дол. = 2 руб.

[196.] Nasza Niwa № 27, 17 (30) sierpienia 1907.

[197.] Nasza Niwa № 32, 26 (8) akciabra 1907.

[198.] Kuryer Litewski № 195, 26 sierpnia (8 wrzesnia) 1908.

[199.] Наша Ніва № 20, 13 (26) травеня 1910.

[200.] Наша Ніва № 2, 13 (26) студзеня 1912.

[201.] Наша Ніва № 25, 21 чэрвеня 1912.

[202.] Там жа.

[203.] Kuryer Litewski № 249, 29 pazdziernika (11 listopada) 1908.

[204.] Вашкевіч Андрэй. Грэка-каталіцкае насельніцтва Аўгустоўшчыны ў канцы XVIII - пачатку XX стст. (канфесійныя змены і фарміраванне этнічнай свядомасці) // "Bialoruskie Zeszyty Historyczne" № 24-2005. С. 46. 53-54.

[205.] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 8-1907. С. 158-162.

[206.] Kuryer Litewski № 215, 23 wrzesnia (6 pazdziernika) 1906.

[207.] Kuryer Litewski № 239, 21 pazdziernika (3 listopada) 1906.

[208.] Kuryer Litewski № 248, 1 (14) listopada 1906.

[209.] Kuryer Litewski № 207, 14(27) wrzesnia 1906.

[210.] Kuryer Litewski № 92, 25 kwietnia (8 maja) 1910.

[211.] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 8-1907. С. 158-162.

[212.] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 6-1908 С. 128-131.

[213.] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 9-1908 С. 196-197.

[214.] Kuryer Litewski № 206, 7(20) wrzesnia 1908.

[215.] Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa Wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 129.

[216.] Kuryer Wilenski № 101, 6 (19) maja 1911.

[217.] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, воп. 27, спр. 713.

[218.] Kuryer Wilenski № 54, 5 (18) grudnia 1910.

[219.] Kuryer Wilenski № 36 (156), 14 (27) lipca 1911.

[220.] Kuryer Litewski № 217, 26 wrzesnia (9 pazdziernika) 1906.

[221.] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. № 5-1913 С. 103.

[222.] Kuryer Litewski № 234, 11 (24) pazdziernika 1908.

[223.] Там жа.

[224.] Kuryer Litewski № 246, 25 pazdziernika (7 listopada) 1908.

[225.] Там жа.

[226.] Там жа.

[227.] Kuryer Litewski №103, 8(21) maja 1910.

[228.] Там жа.

[229.] Там жа.

[230.] Kuryer Litewski № 196, 27 sierpnia (9 wrzesnia) 1908.

[231.] Там жа.

[232.] Там жа.

[233.] Там жа.

[234.] Kuryer Wilenski №15(135), 18 czerwsa (1 lipca) 1911.

[235.] Kuryer Wilenski №18 (138), 23 czerwsa (5 lipca) 1911.

[236.] Kuryer Wilenski № 42 (162), 21 lipca (3 sierpnia) 1911.

[237.] Там жа.

[238.] Там жа.

[239.] Kuryer Wilenski № 150 (270), 27 listopada (10 grudnia) 1911.

[240.] Kuryer Wilenski № 156 (276), 4 (17) grudnia 1911.

[241.] Kuryer Wilenski № 162 (282), 13 (26) grudnia 1911.

[242.] Наша Ніва № 2, 13 (26) студзеня 1912.

[243.] Kuryer Litewski № 153, 14 (27) lipca 1907.

[244.] Kuryer Litewski № 212, 20 wrzesnia (3 pazdernika) 1906.

[245.] Kuryer Litewski № 213, 21 wrzesnia (4 pazdernika) 1906.

[246.] Kuryer Litewski № 119, 31 maja (13 czerwca) 1907.

[247.] Kuryer Litewski № 112, 16 (29) maja 1908.

[248.] Kuryer Litewski № 207, 10 (23) wrzesnia 1908.

[249.] Kuryer Litewski № 100, 5 (18) maja 1910.

[250.] Kuryer Litewski № 282, 7 (20) grudnia 1908.

[251.] Kuryer Litewski № 219, 24 wrzesnia (7 pazdziernika) 1908.

***Ленід Лаўрэш***

# Генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко

У 2009 г. рэдактар "Нашага слова" Станіслаў Суднік пісаў: *"Арганізатарам беларускага руху ў Лідзе, як ні дзіўна, быў былы расійскі спраўнік Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко. Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко (1862 - пасля 1920), Лідскі павятовы спраўнік. ... У 1918 годзе лідская беларуская арганізацыя спрабавала заявіць пра сябе і мела пэўны поспех. Фон Гротэ дэ Буко сябраваў з нямецкім штадтгаўптманам Альбертсам, падтрымліваў сувязь і арыентаваўся на беларускіх правых: Р. Скірмунт, К. Кандратовіч, А. Радзівіл, Э. Вайніловіч. Аднак пасля 27 снежня 1918 года, калі немцы пакінулі Ліду, беларуская арганізацыя аказалася ў істотнай меншасці ў параўнанні з іншымі, і пра яе дзейнасць нічога не вядома. Нажаль, нічога больш не вядома і пра Я.А. фон Гротэ дэ Буко. Лідскія краязнаўцы звяртаюцца да гісторыкаў і краязнаўцаў Беларусі і ўсяго свету з просьбай падзяліцца любой інфармацыяй пра лёс Я.А. фон Гротэ дэ Буко і яго сям'і. Звесткі просім дасылаць у "Наша слова"* [1].

Аўтару, які таксама з'яўляецца лідскім краязнаўцам, удалося знайсці інфармацыю пра гэтага чалавека, але пошук звестак пра гэтую заслужаную перад Бацькаўшчынай асобу патрэбна працягваць.

Верагодна, бацька Яўгена Аляксандравіча - Аляксандр фон Гротэ дэ Буко (? -1883) пахаваны на 4-м участку Данскога манастыра ў Маскве[2].

Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко паходзіў з аславяніўшагася нямецкага роду праваслаўнага веравызнання, які належаў да дваран Маскоўскай губерні. Нарадзіўся будучы Лідскі паліцмайстар 19 студзеня 1862 г. Быў жанаты на дачцы калежскага дарадцы Свідэрскага - Вользе Мікалаеўне (нарадзілася ў 1872 г.). Меў сыноў Уладзіміра (нарадзіўся 13 ліпеня 1891 г.) і Аляксея (нарадзіўся 24 студзеня 1906 г.) і дачку Кацярыну (нарадзілася 4 лістапада 1897 г.). Жонка была таксама праваслаўнага веравызнання. Фамілія Свідэрскі - беларускага паходжання, і можна з упэўненасцю сказаць, што Вольга Мікалаеўна была беларускай.

Будучы Лідскі спраўнік адукацыю атрымаў у 4-й Маскоўскай ваеннай гімназіі, а потым у Маскоўскай пяхотнай юнкерскай вучэльні.

Службовы шлях афіцэра фон Гротэ дэ Буко падрабязна апісаны у "Фармулярным спісе аб службе Лідскага спраўніка, калежскага дарадцы Яўгена Аляксандравіча фон Гротэ дэ Буко" (*гл. дадатак*).

Лепшы знаўца гісторыі Лідчыны першай паловы XX ст. Міхал Шымялевіч пісаў, што на чале павятовай паліцыі перад Першай Сусветнай вайной стаяў павятовы спраўнік, капітан рэзерву Яўген Гротэ дэ Буко.

31 студзеня 1905 г., загадам № 14 па Віленскім губернскім кіраванні *"начальнік земскай варты Нова-мінскага павета* (Мінск-Мазавецкі павет - *Л.Л.*) *капітан фон Гротэ-дэ-Буко, згодна з яго прашэннем, прызначаецца часовым выканаўцам абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка"*[3]. Гэта ж бачна з "Памятных кніжак Віленскай губерні": з 1906 г. па пачатак 1915 г. ён узначальваў павятовую паліцыю і Лідскае пажарнае таварыства[4], г.зн. адказваў за пажарную бяспеку часта гарэўшага горада, а бліжэй да пачатку вайны быў сябрам апякунскай рады Лідскай прыватнай жаночай гімназіі Ф.Л. і В.С. Навіцкіх[5].



Подполк. Е. А. Гроде-де-Буко. Награжд. орденомъ св. Георгія 4 ст. и Георгіевскимъ оружіемъ.

***Фота з дадатку да газеты "Новое Время" за 10.X.1915 г.***

Спраўнік - вышэйшая паліцэйская ўлада ў павеце. Павятовае паліцэйскае кіраванне складалася з павятовага спраўніка і яго памочніка. Павятовы спраўнік прызначаўся і звальняўся губернатарам і быў абавязаны назіраць за аховай грамадскай бяспекі, за дакладным выкананнем усімі "вернападданніцкага абавязку", за правільным і хуткім вядзеннем спраў, якімі займаюцца чыноўнікі павятовай паліцыі. Спраўнік павінен быў стала знаходзіцца ў павятовым горадзе, але не меней, як два разы ў год ён павінен быў агледзець увесь павет. Пры гэтым, спраўнік кантраляваў працу падначаленых яму станавых прыставаў і садзейнічаў ім у выкананні іх абавязкаў, асабліва па прывядзенні ў падпарадкаванне непаслухмяных, па пераследу злодзеяў, разбойнікаў, ваенных дэзерціраў і ўсіх уцекачоў, па спагнанні падаткаў, па спыненні заразных хвароб. Аглядаючы павет, спраўнік звяртаў ўвагу на спраўнасць дарог, на якасць будаўніцтва пабудоў і т.д. Спраўнік павінен быў *"наводзіць на розум сельскіх абывацеляў, каб яны добра выконвалі свае абавязкі і заахвочваць іх да працавітасці, паказваючы ім выгады распаўсюджвання і ўдасканалення земляробства, рамёстваў і гандлю, асабліва ж у захаванні імі добрых нораваў і парадку"* [6]. Улічваючы тое, што Гротэ дэ Буко займаў вельмі сур'ёзную пасаду ў павеце, захавалася шмат дакументаў з розных галінаў жыцця, якія ён рыхтаваў ці падпісваў.

Чын армейскага капітана быў роўны званню сучаснага маёра, бо пасля адмены маёрскага чыну ў траўні 1884 г. капітан падняўся ў "Табелі аб рангах" на ўзровень VIII класа (чын капітана гвардыі роўны званню армейскага падпалкоўніка). У цывільнай

службе Расіі таксама меўся чын роўны чыну капітана пяхоты - калежскі асэсар з 1884 года (тытулярны дарадца да 1884).

З "Памятнай кніжкі Віленскай губерні" за 1906 г. бачна, што Яўген Аляксандравіч меў чын калежскага асэсара[7]. Гэта чын VIII класа ў "Табелі аб рангах". Да 1884 г. гэты чын адпавядаў чыну маёра, а пасля адмены маёрскага чыну ў войску так і застаўся ў прамежку паміж капітанам і падпалкоўнікам - Гротэ дэ Буко перайшоў з арміі ў паліцыю з падвышэннем на палову чыну.

Чыны ў царскай паліцыі адпавядалі цывільным чынам Расійскай Імперыі. Пры гэтым, у адрозненне ад сучаснай беларускай міліцыі яны не з'яўляліся званнямі, але пры пераходзе з аднаго ведамства ў іншае захоўваліся за іх уладальнікамі. Таму некарэктна было б казаць, напрыклад, "калежскі асэсар паліцыі". Тым не менш, у адрозненне ад чыноўнікаў большасці цывільных ведамстваў, якія мелі знакі адрознення на пятліцах, чыноўнікі паліцыі насілі пагоны. Але ад пагонаў службоўцаў іншых ведамстваў, напрыклад, чыгуначнікаў, гэтыя пагоны таксама адрозніваліся - пагоны паліцэйскіх чыноўнікаў былі падобныя на вайсковыя і адрозніваліся ад іх шырынёй, якая складала тры чвэрці ад шырыні армейскага пагона. Але пры пераходзе ў паліцыю з вайсковай службы за афіцэрам захоўваўся яго вайсковы чын, і ён насіў пагоны армейскага ўзору. Лідскі спраўнік, насіў, канешне, армейскія пагоны.

У "Памятнай кніжцы Віленскай губерні" за 1907 г. Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко ўжо надворны дарадца[8] - праз год паліцэйскай службы ён атрымаў наступны чын, VII класа, які адпавядаў падпалкоўніку ў арміі. Афіцыйны зварот да надворнага дарадцы: "Ваша высокаблагароддзе".

У "Памятнай кніжцы Віленскай губерні" за 1914 г. напісана: *"Павятовы спраўнік - калежскі дарадца Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко"*[9]. Лідскі спраўнік атрымаў ужо чын VI класа, які адпавядаў чыну армейскага палкоўніка.

Першая легальная штотыднёвая беларуская газета "Наша Доля" (газета была рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, усяго выйшла 6 нумароў, з іх 4 былі канфіскаваны, 7-ы быў знішчаны яшчэ ў наборы), у першым жа сваім нумары, які выйшаў у верасні 1906 г. напісала пра Лідскага спраўніка: *"На Зельну у Васілішскай воласці злодзеі пакралі коней. Гаспадары чутка згледзеліся і пагналіся следам за канакрадамі. Зладзеі ў Ліду, і гаспадары ў Ліду ды да паліцыі з просьбай, кабператрэсці мястэчка. Аж спраўнік сам выйшаў да збедаваных гаспадароў і сказаў: "Не магу, братцы, я вам даць стражнікаў, мне іх даў губернатар, каб сматрэць за спакойствіем". Выйшла тое, што гаспадары самі прыгналі канакрадаў пад скрыдэлка паліцыі. А трэба ведаць, што на тую пару было вучэнне стражнікаў, і іх з'ехалася якіх з семдзесят чалавек, так што не толькі мястэчка, а цэлы павет маглі б ператрэсці"*[10]. Цяжка сказаць, ці была гэта публікацыя тэндэнцыйнай.

Газета "Беларус" у лютым 1913 г. пісала пра загад выдадзены Лідскім спраўнікам фон Гротэ дэ Буко дзеля ўмацавання дысцыпліны сярод падначаленых: *"Ліда. У загадзе павятовай паліцыі, спраўнік звяртае ўвагу на тое, што стражнікі паліцыі прымушаюць сялян і крамнікаў даваць хабар і купляць ім гарэлку. Спраўнік папярэджвае, што калі паступіць ад каго такая жалаба, дык абвінавачаны ў хабары ўраднік ці стражнік будзе выгнаны са службы без паяснення прычын, а калі будзе даказана, што прымушаў даваць хабар, дык тады будзе адданы пад суд"* [11].

У апошні год службы Лідскі спраўнік атрымліваў у год: жалавання 937 р. 50 к., сталовых 937 р. 50 к., кватэрных 300 р. і адсоткавую прыбаўку да жалавання - 468 р. 75 к., усяго 2643 р. 75 к.[12] Гэта былі вельмі добрыя грошы па тым часе.

Загадам Віленскага губернатара № 163 ад 6 ліпеня 1914 г. звальняецца ў адстаўку па яго заяве *"з-за хваробы, Лідскі павятовы спраўнік калежскі дарадца фон-Гротэ-дэ-Буко. Да часовага выканання абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка камандзіраваны старэйшы чыноўнік для асаблівых даручэнняў пры Віленскім губернатары, калежскі дарадца Пешкаў"* [13].




***Ліда. Паліцэйскае кіраванне.***

Летам 1914

г. атрымалася так, што галоўная асоба павету - маршалак шляхты граф Людвік Грабоўскі (дарэчы прамы нашчадак апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага ад маргана-тычнага шлюбу з Эльжбетай Грабоўскай), які павінен быў узначаліць мабілізацыю ў павеце, ад вясны лячыўся ў Пецярбургу, ён меў камяні ў жоўцевым пухіры і ў нырках. Яго абавязкі выконваў земскі начальнік 1-га ўчастка Міхаіл Трафімаў. Павятовы спраўнік фон Гротэ дэ Буко яшчэ да пачатку вайны падаў у адстаўку па ўзросту і чакаў загад аб выхадзе на пенсію і знаходзіўся ў адпачынку. У сувязі з набліжэннем вайны, Віленскі губернатар Вяроўкін перапыніў яму адпачынак і загадаў выконваць свае абавязкі. Таму асноўны цяжар арганізацыі мабілізацыі на Лідчыне лёг на спраўніка і Міхаіла Трафімава.

Вось як апісвае пачатак Першай Сусветнай вайны непасрэдны сведка тых падзей Шымялевіч: *"На вуліцы Віленскай* (зараз Савецкая - *Л.Л.*) *горада сабраліся групкамі гараджане, яны чыталі толькі што атрыманыя з цягніка газеты, і кожны на свой капыл каментавалі бягучаю сітуацыю ў свеце. Мабілізацыя яшчэ не пачалася, і агульным перакананнем было тое, што Расія толькі робіць дэманстрацыю сваёй магутнасці, а насамрэч вайны не будзе, бо ніхто яе не хоча. ... Над Лідай выконваючы вучэбны палёт, нізка кружыў аэраплан "Фарман". Ён зрабіў круг над рынкам* (сучасная плошча Леніна - *Л.Л.*) *і паляцеў на ўсход. Раптам аэраплан пачаў хутка зніжацца і падаць. Натоўп зявак думаючы, што аэраплан упадзе каля рэчкі Лідзейкі, кінуўся ў бліжэйшыя завулкі - Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі* (яны вялі ў бок рэчкі - *Л.Л.*). *Але пілот выраўняў машыну, і яна зноў узвілася пад аблокі. Зявакі пачалі вяртацца да цэнтру, і якраз у гэты час па Віленскай вуліцы на дрожках да паліцэйскай управы імчаўся, трымаючы ў руцэ дэпешу, павятовы паліцэйскі спраўнік Гротэ дэ Буко. Адразу ўсе зразумелі: мабілізацыя! У імгненне вока вуліца апусцела. Да позняй ночы горад не спаў. Кожны зразумеў, што вайна непазбежная, і нікога яна не абміне"*[14].

У Віленскім Дзяржаўным архіве знаходзіцца справа *"Предварительное следствие судебного следователя Виленского Окружного Суда 1-го участка по делу о быв. Лидском Исправнике Гроте-де-Буко, приставе 3-го участка Федотове и полицейском уряднике Токць отв. по 362 ст. Ул. о наказ."*. Справа пачата 8 снежня 1914 г., апошняя папера напісана 9 траўня 1916 г. у горадзе Зарайску, але справа не закончаная, і ніякіх рашэнняў па ёй няма. Сутнасць справы палягала ў тым, што *"12 красавіка 1914 года ў канцылярыю Віленскага губернатара з'явіўся селянін ... Іван Вікенцьевіч Конан і, прадставіўшы, выдадзенае яму былым Лідскім павятовым спраўнікам фон Гротэ дэ Буко пасведчанне ад таго ж красавіка за № 2574 аб адсутнасці перашкод да выезду яго за мяжу, прасіў выдаць яму замежны пашпарт. З прадстаўленага пасведчання бачна, што Конан пастаянна пражывае ў вёсцы Зарачаны Шчучынскай воласці. Між тым Конан, апытаны 12 красавіка 1914 г. начальнікам Віленскага вышукнога аддзялення, заявіў, што ён увесь час і неадлучна пражывае ў сваёй вёсцы Юшкі, Каменскай воласці (Гродзенскай губерні) і што, задумаўшы з'ехаць на заробкі за мяжу, ён прасіў дапамагчы "знаёмага" яўрэя, ..., адносна хутчэйшага атрымання дазволу на выезд за мяжу, і яўрэй гэты параіў яму напісаць прашэнне ў Лідскую павятовае Паліцэйскае кіраванне"*[15].

У справе вядзецца дазнанне, чаму чыны лідскай паліцыі далі пасведчанне асобе, якая жыве ў нават іншай губерні.

Да канца не вядома, як ужо немалады Лідскі спраўнік трапіў на фронт. Але вельмі верагодна, што пасля таго, як супраць яго пачалі следства, у фон Гротэ дэ Буко не засталося выбару. Тое, што Лідскі спраўнік, які ў 1914 г. меў чын VI класа, што адпавядаў чыну армейскага палкоўніка ў загадзе ад 9 верасня 1915 г., паводле якога яго ўзнагародзілі ордэнам Св. Георгія 4-й ст. за асабістую храбрасць, фігуруе як падпалкоўнік, ускосна пацвярджае пакаранне Лідскага спраўніка праз звальненне з паніжэннем у чыне.

Пасля жорсткіх баёў 1914-15 гг. кадравая армія была выбіта, на фронце не хапала афіцэраў, і фон Гротэ дэ Буко пайшоў на фронт добраахвотнікам.

Гротэ дэ Буко трапіў у 6-ты Фінляндскі полк, які ўваходзіў у 2-ю Фінляндскія стралковую брыгаду, якая ў сваю чаргу падпарадкоўвалася 22-му армейскаму корпусу. З 1914 па 1915 г. 6-м Фінляндскім палком камандаваў палкоўнік Кялчэўскі Анатоль Кіпрыянавіч, з жніўня 1915 па люты 1917 г. гэтым палком камандаваў Свечын Аляксандр Андрэевіч, будучы буйны ваенны тэарэтык, расстраляны бальшавікамі ў 1938 г.

Руская армія пад пагрозай акружэння да восені 1915 г. пакінула Польшчу і частку Заходняй Беларусі. Пры адступленні рускія войскі ўжывалі тактыку выпаленай зямлі, казакі палілі вёскі, а сялян адпраўлялі ўглыб Расеі. У пачатку верасня 1915 г. нямецкія войскі прарвалі лінію фронту ў раёне Свянцянаў, і нямецкая конніца хлынула ў тыл рускай арміі. Якраз у гэтых баях удзельнічаў 6-ы Фінляндскі полк і, якраз за мужнасць у гэтых баях падпалкоўнік Гротэ дэ Буко атрымаў ордэн Св. Георгія 4-й ст. і Георгіеўскую зброю (загад ад 21.11. 1915)[16].

Свечын пісаў у сваёй кнізе "Мастацтва кіравання палком...": *"Афіцэрскі склад у маім палку быў надзвычай удалы. У мяне было некалькі выдатных памочнікаў у асобах камандзіраў батальёнаў. ... выдатным камандзірам з'яўляўся падпалкоўнік Гротэ дэ Буко. Гэта быў бясхітрасны стары, перад вайной Лідскі спраўнік, які па сваёй добрай волі прамяняў сваю спакойную паліцэйскую пасаду на цяжкую прафесію - спачатку камандзіра роты, потым батальёна. Добрая воля, добразычлівасць, досыць моцныя нервы, а затым сівізна рабілі на салдатаў захапляльнае ўражанне. Салдаты яшчэ не вызваліліся ад кайданоў патрыярхальных уяўленняў, і для іх дзядуля Гротэ з'яўляўся несумнеўным правадыром-старэйшынам; слухалі яны яго з глыбокай павагай і любоўю, і пасля штурму афіцэры 1-га батальёна распавядалі, пра тое, што яны назіралі салдат, якія хапалі дзядулю ў крытычную хвіліну за фалды і хавалі яго ў вырву, салдаты*

*баранілі яго сваімі целамі. Маладосць - сіла, але ў пэўнай абстаноўцы сівая барада, прыстаўленая да добрай галавы, таксама з'яўляецца буйной маральнай сілай пры ўмове непасрэднага судакранання з салдацка-сялянскай масай"*[17].

26 сакавіка 1916 г. былы Лідскі спраўнік атрымлівае званне палкоўніка, а загадам ад 20 кастрычніка 1916 г. - ордэн Святога Станіслава 2-й ст. з мячамі. З Статута ордэна Святога Станіслава: *"Права на ўзнагароду ордэнам Св. Станіслава прадстаўляецца ўсім тым з вернападданых Расійскай Імперыі ..., хто ... ў Хрысціянскіх дабрадзейных справах або выдатнай рэўнасцю да службы на ніве ваеннай, як на сушы, так і на моры ці ... вычынам на карысць чалавецтва або грамадства ці краю, у якім жыве, ці цэлай Расійскага дзяржавы, зверне на сябе асаблівую ўвагу Імператарскай і Царскай Вялікасці"* [18].

9 кастрычніка 1917 г. Яўген Гротэ дэ Буко *"за заслугі ў справах ..."* атрымлівае званне генерал-маёра[19].

Лёс фон Гротэ дэ Буко на працягу 2-х гадоў, да канца 1918 г. не вядомы, але найбольш верагодным горадам, дзе ён мог зблізіцца з дзеячамі беларускага руху, быў Менск. Верагодна, пасля развалу арміі, у 1917 г. былы Лідскі спраўнік жыў у гэтым горадзе, але ніякай дакладнай інфармацыі ў мяне няма.

З'явіцца ў Лідзе генерал фон Гротэ дэ Буко зноў мог толькі пасля заключэння так званага "Берасцейскага міру", раней ён быў бы неадкладна арыштаваны. Менавіта ўвесну 1918 г. з акупаванага немцамі Менска ў Ліду пачалі вяртацца бежанцы.

Немцы не маглі вызначыцца, каго прызнаць пасля сябе ўладай у павеце, таму што апрача палякаў свае прэтэнзіі на ўладу адначасова выказвалі бальшавікі, беларусы і літоўцы. Юзаф Дзічканец, аўтар кнігі "Самаабарона Лідскай зямлі" і відавочца тых падзеяў пісаў: *"Самым небяспечным канкурэнтам для палякаў у справе атрымання зброі ад немцаў побач з яўрэямі быў арганізатар беларускага руху ў Лідзе, былы расійскі "исправник" фон Гротэ-дэ-Буко, які па прычыне свайго нямецкага прозвішча меў пэўныя перавагі ў штадтгаўптмана (начальніка павета). Толькі ён мог прыняць рашэнне аб выдачы зброі. Досыць доўгі час працягваліся спробы атрымання зброі".* Далей Дзічканец адзначае: *"Дзіўна, што рускіх, якія перад вайной мелі прэтэнзіі да Ліды як да "истинно русского города", у гэты час у Лідзе не было. За выключэннем толькі невялікай групкі, амаль усе "истинно русские люди" пакінулі чужы для іх край і горад, накіроўваючыся да сапраўднай сваёй Бацькаўшчыны - Расіі. Былы Лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко, і той пакінуў шэрагі расіян"* [20].

Цікава, што і ў арганізаваным немцамі Шчучынскім (Плянцкім) павеце, нямецкі начальнік павета гаўптман (капітан) Ліндаман хацеў перадаць уладу прадстаўніку ўраду незалежнай Літвы, Тадэвушу Іваноўскаму, які па маці быў немцам. Тадэвуш Іваноўскі вёў палітычную працу ў Шчучынскім павеце разам з беларускім рухам[21].

Пры канцы 1918 г. палітычнае становішча ў горадзе і павеце рэзка абвастрылася. Мясцовыя палітычныя фракцыі - польская, яўрэйская і ў меншай ступені літоўская - імкнуліся да таго, каб германскія акупанты пры сваім адыходзе перадалі ўладу менавіта ў іх рукі. 29 снежня 1918 г. у Лідзе быў створаны павятовы рэўкамітэт. Яго членамі сталі 9 чалавек: 5 камуністаў - Утроб (Чэхаў), Лазараў, Вацлаў Калясінскі (селянін з Ёдкаў), Адольф Сцяпанавіч Сегень (селянін вёскі Вінькаўцы), Камінскі, Камянецкі, і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты. Рэвалюцыйны камітэт заняў дом бежанца ў гады вайны, мясцовага купца Ілютовіча, які размяшчаўся па вуліцы Садовай. Бальшавікі захапілі склад са зброяй, якая належала мясцоваму аддзяленню літоўскай партыі - 100 вінтовак і стварылі гарадскі атрад народнай міліцыі колькасцю каля 100 чалавек, абсалютную большасць членаў міліцыі складалі лідзяне яўрэйскай нацыянальнасці.

Сыходзячы з горада, згодна з Берасцейскай дамовай, нямецкія войскі ўсё ж перадалі зброю мясцоваму рэвалюцыйнаму камітэту. У ноч з 27 на 28 снежня 1918 г. часткі германскіх войскаў пачалі пакідаць Ліду, і 3 студзеня 1919 года нямецкія войскі пакінулі тэрыторыю Лідскага павета. За тры дні праз чыгуначную станцыю прайшло больш за тры дзясяткі цягнікоў са зброяй, амуніцыяй, фуражом і іншым вайсковым абсталяваннем. Дарэчы, камандаванне бальшавікоў прызнавала, што на тэрыторыі павета і горада адыход нямецкіх войскаў не суправаджаўся марадзёрствам і псаваннем чыгуначнай маёмасці, а наадварот, пакідаючы горад, нямецкія салдаты арганізавалі рэвалюцыйны мітынг салідарнасці з мясцовым насельніцтвам. Такія ж мітынгі адбыліся і ў шэрагу іншых населеных пунктаў Лідчыны[22].

Польская "Самаабарона" таксама разлічвала ўзяць пад кантроль горад і павет. Аднак 5 студзеня 1919 года ў Ліду ўвайшлі эскадроны перадавой выведкі Чырвонай Арміі, таму польскія жаўнеры былі змушаныя часова пакінуць горад.

Апошнюю інфармацыю пра Гротэ дэ Буко, як кіраўніка беларускай арганізацыі ў Лідзе, мы знаходзім у мемуарах лідскага ксяндза Гіпаліта Баярунца, адкуль даведваемся, што пры другім "нашэсці бальшавікоў на Ліду", у горадзе засталіся яслі і прытулак для старых, *"якія пры бальшавіках цярпелі вялікую нястачу, бо галоўнае кіраўніцтва над імі пераняла габрэйка Камянецкая і былы колішні расейскі спраўнік Гротэ дэ Буко"* [23].

Хутчэй за ўсё Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко пражыў у Лідзе да 1931 года, бо ў 1931-37 гг. жыў у Вільні.

Улічваючы, што з зразумелых прычын беларускі рух быў не толькі нацыянальны, а і сацыяльны і ў той час у асноўным больш левы, генералу і былому спраўніку фон Гротэ дэ Буко (як і генералу ад інфантэрыі, лідзяніну Кіпрыяну Кандратовічу) было цяжка знайсці ў ім сваё месца. Але фактам застаецца тое, што першым у гісторыі кіраўніком беларускага палітычнага руху ў Лідзе быў менавіта генерал-маёр Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко. Гэта чацвёрты вядо-

мы на сёння генерал, пасля генерала ад інфантэрыі Кандратовіча, генерал-маёра Пажарскага і генерал-маёра Багдановіча, які ў тыя няпростыя часы паверыў у беларускую справу, за што гонар яму і слава.

Са спісу Георгіеўскіх кавалераў удалося даведацца, што генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко памёр у 1944 г.[24] (загінуў у Варшаве ў 1944 г.[25]).

*Дадатак*

**Фармулярны спіс аб службе Лідскага спраўніка, калежскага дарадцы Яўгена Аляксандравіча фон-Гротэ-дэ-Буко**[26]

(Усе даты прыведзены па старым стылі - *Л.Л.*)

Яўген Аляксандравіч фон-Гротэ-дэ-Буко, з дваран Маскоўскай губерні. Нарадзіўся 19.01.1862 г. Праваслаўнага веравызнання. Узнагароджаны ардэнамі Св. Станіслава і Св. Ганны 3-й ступені, медалі: срэбны ў памяць "В Бозе почивающего Императора Аляксандра III-го" і цёмна-бронзавы медаль за працу па першым усеагульным перапісе насельніцтва Імперыі ў 1897 г., светла-бронзавы медаль у памяць 300-годдзя Царствавання Дома Раманавых. Таксама ўзнагароджаны "Высочайше пожалованными" залатым гадзіннікам з ланцужком і выявай Дзяржаўнага Герба.

Атрымліваў у год: жалавання 937 р. 50 к., сталовых 937 р. 50 к., кватэрных 300 р. І адсоткавую прыбаўку да жалавання - 468 р. 75 к., усяго 2643 р. 75 к.

Жанаты першым шлюбам на дачцы калежскага дарадцы Свідэрскага - Вользе Мікалаеўне. Мае сыноў Уладзіміра (нарадзіўся 13 ліпеня 1891 г.) і Аляксея (нарадзіўся 24 студзеня 1906 г.) і дачку Кацярыну (нарадзілася 4 лістапада 1897 г.). Жонка і дзеці праваслаўнага веравызнання і знаходзяцца пры ім.

Маёнтка не мае.

Скончыў 4-ю Маскоўскую ваенную гімназію і Маскоўскую пяхотную юнкерскую вучэльню.

На службу паступіў 8 жніўня 1879 г. "вольно-определяющимся" па адукацыі ў 7-ы грэнадзёрскі Самагіцкі полк. Пасля чаго, у верасні 1879 г., быў камандзіраваны на вучобу ў Маскоўскую пяхотную юнкерскую вучэльню.

21 кастрычніка 1880 г. атрымаў чын унтэр-афіцэра.

Пасля заканчэння вучэльні па 2-м разрадзе, 11 жніўня 1881 г. прыбыў у полк.

13 жніўня 1881 г. атрымаў чын падпрапаршчыка.

Загадам № 50 па 2-й грэнадзёрскай дывізіі, 14 красавіка 1882 г., пераведзены на службу ў 20-ы пяхотны Галіцкі полк.

1 лістапада 1882 г. атрымаў чын прапаршчыка.

14 верасня 1884 г. атрымаў чын падпаручніка.

Па распараджэнні начальства быў камандзіраваны для навучання ратнікаў дзяржаўнага апалчэння у г. Сосніце з 23 траўня па 1 чэрвеня 1884 г., і з 24 верасня па 23 кастрычніка 1891 г., у г. Модліне з 22 траўня па 29 чэрвеня 1892 г.

19 красавіка 1886 г. прызначаецца ад'ютантам 3-га батальёна.

3 траўня 1888 г. па 24 ліпеня камандзіраваны ў 3-ю брыгаду для навучання сапёрнай справе, закончыў курс з адзнакай "вельмі добра".

30 жніўня 1888 г. атрымаў чын паручніка.

30 жніўня 1889 г. прызначаны ад'ютантам 2-га батальёна.

"Высочайшим" загадам па ваеннаму ведамству ад 17 чэрвеня 1895 г. звольнены ў запас армейскай пяхоты.

"Высочайшим" загадам № 42 ад 26 ліпеня 1895 г. прызначаны Памочнікам Начальніка Улоцлаўскага павета па адміністрацыйна-гаспадарчых справах.

На падставе I п. 45 арт. "Высочайше" зацвер-






**Візітоўка фон Гротэ дэ Буко** з справы Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы. Ф. 445. Воп. 3. Спр. 983. С. 21, 21аб.). На адваротным баку візітоўкі надпіс рукой фон Гротэ дэ Буко: *"Не откажите Александр Анатольевич (А.А. Федотаў, прыстаў 3-га стана Лідскага павета - Л.Л.) бумагу о Кононе с ответом передать подателю сего. Она необходима для дела. Удостоверение у вас имеется хорошее. Уважающий вас Е. Гроте. /Подпись/".*

джаных 13 ліпеня 1886 г. Правіл аб асаблівых перавагах чыноўнікаў рускага паходжання, якія служаць у губернях Царства Польскага, 17 чэрвеня 1895 г. атрымаў "путевое пособие" ў памеры 600 рублёў.

"Высочайшим" загадам па грамадзянскаму ведамству ад 24 студзеня 1896 г. за № 4 атрымаў чын тытулярнага дарадцы.

Па спісу Міністэрства Унутраных спраў ад 3 красавіка 1897 г. за № 015217 "Высочайше" ўзнагароджаны цёмна-бронзавым медалём за працу пад час усеагульнага перапісу Імперыі 1897 г.

Грунтуючыся на Іменным "Высочайшим" загадзе, дадзеным ... ад 26 лютага 1896 г., атрымаў срэбны медаль на Аляксандраўскай стужцы у памяць "В Бозе почивающего Императора Аляксандра III-го"

Загадам Начальніка Варшаўскай губерні ад 13 жніўня 1898 г. за №335/1784, згодна з асабістым прашэннем, пераведзены на пасаду Памочніка начальніка Нешаўскага павета па адміністрацыйна-гаспадарчых справах.

За выдатную руплівую службу "Всемилостивейше" ўзнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені.

"Высочайшим" загадам па ваенным ведамстве ад 24 траўня 1899 г. прызначаны Начальнікам земскай стражы Нешаўскага павета з залічэннем па армейскай пяхоце з былым чынам паручніка.

"Высочайшим" загадам па грамадзянскаму ведамству ад 1 ліпеня 1899 г.ўа № 39 за выслугу гадоў атрымаў чын калежскага асэсара .. . .

"Высочайшим" загадам па ваенным ведамстве ад 26 жніўня 1900 г. прызначаны Паліцмайстрам горада Улоцлаўка, з пакіданнем у армейская пяхоце.

"Высочайшим" загадам па ваенным ведамстве ад 1 студзеня 1901 г. атрымаў чын штабс-капітана ... .

"Высочайшим" загадам па ваеннаму ведамству ад 6 снежня 1901 г. атрымаў чын капітана ... .

12 студзеня 1902 г. "Высочайше" ўзнагароджаны залатым гадзіннікам з ланцужком і выявай Дзяржаўнага Герба

Такім жа загадам ад 5 сакавіка 1903 г. прызначаны Начальнікам земскай стражы Нова-Мінскага павета, з пакіданнем ў армейскай пяхоце.

У грамадзянскай службе служыў з 14 чэрвеня 1895 г. па 24 траўня 1899 г.

Загадам Віленскага Губернатара ад 31 студзеня 1905 г. за №14 дапушчаны, згодна з асабістым прашэннем, да часовага выканання абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка.

"Высочайшим" загадам па ваенным ведамстве ад 31 сакавіка 1905 г. звольнены з вайсковай службы ... з перайменаваннем у калежскія асэсары.

Загадам Віленскага Губернатара ад 19 красавіка 1905 г. за № 45 прызначаны на пасаду Лідскага павятовага спраўніка з 31 сакавіка 1905 г.

"Высочайшим" загадам па грамадзянскаму ведамству ад 25 лютага 1906 г. за №1 1, за выслугу гадоў атрымаў чын надворнага дарадцы ... .

"Высочайшим" загадам ад 6 снежня 1910 г. за № 82, узнагароджаны ордэнам Св. Ганны 3-й ступені.

Мае пасведчанне на права нашэння на грудзях "Высочайше" зацверджанага ў памяць 300-годдзя Царствавання Дома Раманавых светлага бронзавага медаля.

Загадам Губернатара ад 31 ліпеня 1914 г. за № 163 звольнены, згодна з асабістым прашэннем, па хваробе ў адстаўку.

**Літаратура:**

[1] Наша слова №13 (904), 1 красавіка 2009 г.

[2] http://baza.vgdru.com/post/1/54823/p164160.htm

[3] Виленские губернские ведомости. № 20, 9 января 1905. С. 1.

[4] Памятная книжка Виленской губернии на 1907 г. Вильно, 1907. С. 160.

[5] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 г. Вильно, 1914. С. 197.

[6] Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона. С.-Петербург, 1894. С. 458.

[7] Памятная книжка Виленской губернии на 1906 г. Вильно, 1906. С. 143.

[8] Памятная книжка Виленской губернии на 1907 г. Вильно, 1907. С. 153.

[9] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 г. Вильно, 1914. С. 193.

[10] Наша Доля №1, 1 сенцября 1906 г.

[11] Bielarus №6, 14 lutaho 1913.

[12] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.445. Воп. 3. Спр. 983. С. 37.

[13] Виленские губернские ведомости. № 61-1914. 2 августа. С. 2.

[14] Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7-12.

[15] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.445. Воп. 3. Спр. 983. С. 2.

[16] http://www.grwar.ru/persons/persons.html?id =6617&PHPSESSID=091491bf5a3aebe926ab1eba63 eeed5e

[17] Свечин А. Искусство вождения полка по опыту войны 1914-1918 гг. Т. 1. Москва - Ленинград. 1930. // http://militera.lib.ru/h/svechin3a/03.html

[18] http://george-orden.narod.ru/statut1892s08.html

[19] Армия и Флот Свободной России (б. Русский Инвалид). №243, 1917.

[20] Дзічканец Юзэф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 49.

[21] Brochocki Andrzej. Dzieje samoobrony w Szczuczynie Nowogrodzkim (rok 1918 - 19) // Slowo № 52, 22 lutego 1936, Slowo №53, 23 lutego 1936.

[22] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада: матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 129-133.

[23] Лідскі летапісец № 2 (54). С. 32.

[24] http://www.rusgeneral.ru/general_g5.html

[25] http://www.grwar.ru/persons/persons.html?id= 6617&PHPSESSID=091491bf5a3aebe926ab1eba63eeed5e

[26] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.445. Воп. 3. Спр. 983. С. 36-43.

***Уладзіслаў Абрамовіч****

# Слабодка - прадмесце Ліды

Толькі ў апошнія гады Ліда разраслася (артыкул напісаны ў 1930-я гады - *Л.Л.*). Цэнтр горада зараз выглядае амаль што так, як і ў перадваенныя часы (маецца на ўвазе Першая Сусветная вайна - *Л.Л.*). З таго часу вуліцы толькі адрамантаваны, па-новаму забрукаваны, зроблены тратуары, і пабудавана некалькі новых камяніц, якія у архітэктурным сэнсе моцна адрозніваюцца ад астатніх пабудоў. Старыя будынкі, канца XIX і пачатку XX ст. не маюць выразнага стылю і да гэтага часу перарабляліся нязначна. Са сценаў і абрамленняў вокнаў прыбраныя пачварныя цагляныя гзымсы (прафіляваныя паясы, карнізы - *Л.Л.*), накладзены гладкі тынк, у крамах зроблены сучасныя вітрыны.

Аднак у параўнанні з даваеннымі часамі Ліда моцна разраслася. Згодна з планам горада 1851 г. горад меў тры вуліцы. На поўдні горад заканчваўся руінамі замка, за якім ляжала адкрытая балоцістая пустка, а далей, у бок сучаснага вакзала цягнулася разараная зямля. На поўнач ішла вуліца Сувальскага палка (раней - Віленская, зараз Савецкая - *Л.Л.*), на якой стаяла некалькі драўняных дамкоў, у апошнім з іх была карчма нейкага Закса. Карчма атрымала назву "Закасанка", а калі горад працягнуўся яшчэ далей, старыўся раён горада, які атрымаў назву "Закасанка". З захаду Ліда таксама была атачоная вялікімі балотамі, якія захоўваліся да 1930 г. Дрыгва гэтая ў народзе называлася "Выган", бо там было добрае месца, каб пасвіць быдла і коней. Зараз у выніку высілкаў горада і дзяржавы на "Выгане" вырас самы новы раён горада - "Вялікая Ліда". Зараз Ліда расце не ў вышыню, а ў шырыню - да тых старых трох вуліц мы мусім дадаць паўстаўшую за наш час 101-у новую вуліцу. Ад 1918 г. да нашага часу колькасць жыхароў горада амаль што патроілася (падвоілася -*Л.Л.*) і наблізілася да 30 000. Такі моцны рост тлумачыцца пашырэннем вышэйзгаданых раёнаў горада, далучэннем да горада вёскі Расляні, разбудаваннем раёнаў "Зарэчча" і "Ферма", але ж галоўным чынам ростам раёна "Слабодка".

Раён "Ферма" цягнецца ад замка і каталіцкіх могілак да чыгуначнага вакзала і сваю назву атрымаў, праўдападобна, ад досыць урадлівай зямлі, якая раней належала да каралеўскай маёмасці. Ідучы ад вакзала да горада, у канцы вуліцы Пілсудскага (зараз бульвар Гедзіміна - *Л.Л.*) ўвагу кожнага прыцягне вялікая яма - вынік нямецкай гаспадаркі пад час акупацыі. Менавіта на гэтым месцы раней быў вялізарны двор старасты - рэзідэнцыя кара-леўскага намесніка. Сярод іншых земель да гэтага двара, ці - як тады звалі - дварца, належала і вёска Слабада. Палі гэтай вёскі цягнуліся ў кірунку паўдзённа-заходнім, мяжуючы з гарадской тэрыторыяй каля сучаснай вуліцы Райскай (зараз вуліца Горкага - *Л.Л.*).

Гэтая вёска ў дакументах звалася "Дварцовая Слабада". Зразумела, што гэтая назва паўстала ад дварца (рэзыдэнцыі) намесніка. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай усе прылеглыя да горада каралеўскія землі перайшлі ў расійскі скарб. Недалёка ад былой рэзідэнцыі намесніка пачалі сяліцца сем'і расійскіх дваран. Паўстаў шэраг густоўных дамоў, аточаных садамі, і так пачаўся вялікі зараз раён горада, які завецца "Ферма".

Таму што на "Ферме" маглі сяліцца толькі дваране, каля 1860 г. было вырашана заснаваць у Лідзе іншую калонію, на землях вёскі "Дварцовая Слабада". Расейскія адміністратары відочна не мелі дакладных указанняў пра тое, якія сем'і трэба сяліць у новай калоніі і ад пачатку пасялілі там чатыры яўрэйскія сям'і. З




***Вуліца ў лідскім раёне "Ферма"***

*****Уладзіслаў Абрамовіч** - лідскі краязнавец, паэт, перакладчык, гісторык культуры, бібліёграф, архівіст. Нарадзіўся 9 траўня 1909 г. у Новым Двары каля Трокаў і лічыў сябе літоўцам (у анкетах пісаў бацька - літовец, маці - беларуска). У 1930 г. скончыў Віленскую гімназію. Жыў у Лідзе і ўзначальваў карэспандэнцкі пункт "Кур'ера Віленскага" і адначасова быў галоўным рэдактарам газеты "Лідская Зямля" (Ziemia Lidzka). Памёр 16 лістапада 1965 г. у Вільні, пахаваны на Росах.*

іх дзве сям'і Ліпнішскіх, адну Баруховічаў, а прозвішча трэцяй сям'і удакладніць ужо немагчыма. Праз некаторы час, калі справа пра пасяленне яўрэяў на Дварцовай Слабадзе дайшла да Пецярбурга, і адтуль была зроблена заўвага пра памылку - пасяленне яўрэяў у новай калоніі, бо папярэдне гэтая калонія прызначалася для засяленне праваслаўных сямей. Патрэбна было высяліць яўрэйскія сем'і, якія да таго часу там грунтоўна атабарыліся. Каля 20 дзесяцін зямлі для кожнай сям'і ўяўлялі немалую каштоўнасць, таму яўрэі былі павінны пайсці на кампраміс і прынялі праваслаўе.

Пасля хрышчэння і прыпісвання да царквы Ліпнішскія прынялі прозвішча Ліпінскіх, Баруховічы сталі Барысевічамі, а чацвёрты яўрэй стаў Крыжаноўскім. У 1866 годзе выдзеленыя дзялкі былі аддадзены на выкуп.

Да часу, калі праз Ліду прайшла чыгунка, пасяленцы - праваслаўныя займаліся сельскай гаспадаркай. Аднак паўстанне Слабодкі непарыўна злучана з чыгункай, першай, у 1883/84 гг., была пушчана ў дзеянне чыгунка Вільня - Ліда - Лунінец. Праз 20 гадоў, у 1902/05 г.г. дзякуючы пракладзенай лініі Маладзечна - Ліда - Ваўкавыск, наш горад стаўся важкім камунікацыйным вузлом.



*Школа на Слабодцы № 4, зараз школа №10 на Слабадзе*

Пры будаўніцтве чыгункі сем'і пасяленцаў, мелі добрыя заробкі. Пры гэтым дочкі, якія былі немалой прыгажосці, знайшлі сабе мужоў сярод чыгуначных жандараў. Паступова пачалі з'яўляцца новыя сямейныя агмені, усё новыя і новыя дамы і пабудовы. Па меры падрастання моладзі, жыхары Слабодкі змянялі характар сваёй дзейнасці, пераходзячы ад сельскай гаспадаркі на чыгунку. Калі пабудавалася чыгуначная станцыя, некаторыя сем'і перанеслі свае дамы ўглыб поля. Раён пачаў пашырацца, колькасць дамоў павялічвалася з кожным годам. Аднак да вайны, іх было не так і шмат. Слабада разбудавалася зараз (1920-30-я гады -*Л.Л.*) і становіцца самым важным раёнам горада.

У 1932 г. дзякуючы стараням ксяндза-вікарыя Станіслава Мажэйкі на Слабадзе паўстала каталіцкая парафія з драўляным касцёлам і плябаніей. Першым пробашчам парафіі быў сам арганізатар. Кс. Мажэйка праславіўся тут як залатавуст і здабыў вялікую павагу ў вернікаў. І калі ксяндза перавялі з Ліды, парафія ўзбунтавалася. Рупліўцы нават планавалі зачыніць касцёл і дзеля пратэсту перайсці ў баптысты. Некалькі гадоў таму для супакаення парафіянаў тут быў нават Арцыбіскуп-Мітрапаліт Віленскі кс. Рамуальд Ялбжыкоўскі.

Сучасны пробашч Слабадской парафіі ксёндз Лабан разам з парафіянамі плануе пабудаваць мураваны касцёл. У 1936 г. Гарадская рада даравала Слабадской парафіі 2 га. гарадской зямлі для заснавання могілак. Пад час геадэзічных работ і работ па агароджванні будучых могілак адзін з работнікаў спытаў меркаванне другога, пра тое хто з іх першы ляжа на новых могілках. Так здарылася, што той, хто пытаўся, і стаў першым нябожчыкам на гэтых могілках. Весткі пра гэта імгненна разышліся па парафіі, і вернікі зрабілі яму ўрачыстае пахаванне.

Зараз Слабодка ёсць самадастатковым раёнам. З'явіліся ўласныя крамы. Што праўда, не такія добрыя, як у горадзе, але ў іх усё можна набыць. Ёсць нават аптэчны склад, які часткова замяняе аптэку. Ад пажару бароніць Слабодку ўласная дабраахвотная пажарная ахова. Ад пэўнага часу ёсць там і пастарунак паліцыі Лідскай гміны. Над усім раёнам узвышаецца гмах грамадскай 7-класнай школы і пажарная вежа. У былым памяшканні школы размясцілася прыватная агульнаадукацыйная гімназія. Гэта сведчыць, што жыхарства Слабодкі расце ва ўсіх адносінах. Ёсць нават лазня, якая належыць чыгунцы, але якой, здаецца, чыгуначнікі не карыстаюцца з-за перапоўненасці. Але гігіена займае тут не апошняе месца.

Сярод іншых прадмесцяў горада Слабодка - лідар. З кожным годам расце колькасць жыхароў. Вабіць яна да сабе, сярод іншага таннасцю пляцаў пад забудову і добрым для здароўя размяшчэннем. Найважнейшым тормазам далейшага развіцца Слабодкі з'яўляецца адсутнасць добрай дарожнай сувязі з горадам з-за інтэнсіўнага руху на чыгунцы і шырокага паса рэйкаў. Пакуль Слабодка не атрымае добрай сувязі з горадам праз пабудаваны віадук, датуль справа яе далейшага развіцця не будзе вырашана.

*Пераклад з польскай Леаніда Лаўрэша.*
*Паводле "ZL", luty, 2002 г., nr 1(53)*

# Фестывалі з удзелам фальклорных калектываў Трокаў і Ліды з кірмашамі традыцыйных рамёстваў










Лідская зямля сустрэла два фальклорныя фестывалі творчых калектываў Лідскага і Троцкага раёнаў "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" у рамках праграмы трансмежавага супрацоўніцтва Латвія-Літва-Беларусь пры падтрымцы міжнароднай тэхнічнай дапамогі Еўрапейскага Саюза.

Фестывалі традыцыйна суправаджаюцца спевамі і танцамі, таму і фестываль, які прайшоў у жніўні 2013 года, не стаў выключэннем. Свае творчыя праграмы на канцэрце прадставілі пяць калектываў Лідскага раёна: Народны ансамбль песні і танца "Лідчанка" Лідскага раённага палаца культуры, Народны ансамбль беларускай музыкі і песні "Прынямонцы" Бярозаўскай











***Народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік" Гудскага ЦТ і ВЧ***

***Народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў Бердаўскага ЦК і ВЧ***







***Фальклорны калектыў Лідскага РЦРіТК***

дзіцячай школы мастацтваў, Фальклорны калектыў Лідскага раённага цэнтра рамёстваў і традыцыйнай культуры, Народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў Бердаўскага цэнтра культуры і вольнага часу ды Народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік"











***Майстры і рамеснікі, якія гандлююць сваімі вырабамі***

Гудскага цэнтра творчасці і вольнага часу.

У сваю чаргу Троцкі рэгіён прадставіў суцэльную канцэртную праграму з выступленнем старэйшай групы ансамбля народнага танцу “Аўкштадварыс” "Нава", капэлы народнай музыкі “Анушкіс”, салістаў Далі і Дарыюса Мацкевічаў і іншых.

Народныя песні і танцы, а таксама гумарыстычныя мініяцюры не давалі сумаваць гледачам, многія з іх нават пускаліся ў скокі пад вясёлыя мелодыі як беларускіх артыстаў, так і літоўскіх.

Традыцыйныя ўдзельнікі фестываляў - гэта майстры і рамеснікі, якія гандлююць сваімі вырабамі. На фестывалі "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" яскравую палітру народных рамёстваў і промыслаў прадстаўлялі майстры з Лідскага і Троцкага рэгіёнаў. Яны выстаўлялі свае работы ў "Горадзе майстроў", праводзілі майстар-класы. Вырабы з саломкі, тканыя паясы і традыцыйныя лялькі-мотанкі, свістулькі-салаўі - ўсё гэта і многае іншае можна было не толькі разглядзець, але і набыць у якасці сувеніра. Асноўная ўвага была скіравана на промысел майстроў з Троцкага раёна - шапавальства. На кірмашы рамёстваў можна было не толькі купіць сабе валяныя шапкі і шалі на любы густ і памер, але і пагутарыць з майстрамі, даведацца пра некаторыя сакрэты шапавальскага промыслу.

На другі дзень фестывалю творчыя калектывы з Літоўскай Рэспублікі змаглі наведаць шклозавод і музей "Нёман" у горадзе Бярозаўцы, Лідскі замак, гістарычна-мастацкі музей горада Ліды, раённы Цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры.





***Народны ансамбль беларускай музыкі і песні "Прынямонцы" Бярозаўскай ДШМ***

А вечарам, жыхары і госці горада Бярозаўкі змаглі атрымаць асалоду ад яскравага выступлення як мясцовых артыстаў, артыстаў з Ліды, так і творчых калектываў Літоўскай Рэспублікі. У выкананні калектываў на працягу амаль трох гадзін гучалі прыгожыя песні і выконваліся яскравыя танцы.



***"Лідчанка"***

На фестывалі была настолькі цёплая атмасфера, што кожны адчуваў сябе не тое што жаданым госцем - часткай вялікай дружнай сям'і, дзе шануюць традыцыі, умеюць добра працаваць і адпачываць

І першы, і другі дзень, у заканчэнні фестывалю адбывалася вельмі яскравае і запамінальнае вогненнае шоў, якое прадэманстравала студыя агню і танцу "Чуціта" з Троцкага раёна.

II фестываль фальклору на Лідскай зямлі адбыўся ў час святкавання 690-годдзя г. Ліды. Адразу пасля вялікага святочнага шэсця фальклорныя калектывы Троцкага рэгіёна накіраваліся на цэнтральную пляцоўку г. Ліды, для таго каб павітаць ды павіншаваць сваёй творчасцю жыхароў Лідчыны. Там ужо панаваў святочны настрой. Жыхары г. Ліды ў гэты дзень радаваліся не толькі адкрыццю свята горада, але і фестывалю фальклору, квасу і іншым мерапрыемствам. На святочных пляцоўках працавалі дзіцячыя атракцыёны, гандлёвыя рады, выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, старажытных прылад працы і інш.



***Танцавальны калектыў Дома польскага "Крэсовы забавы"***

На другі дзень фестываль фальклору "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" пачаўся каля паўдня. Каб павіншаваць ўдзельнікаў фестывалю, на сцэну падняліся шаноўныя госці мерапрыемства: дырэктар Цэнтра культуры Троцкага рэгіёна Дарыюс Нядвецкас і кіраўнік аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Лідскага райвыканкама Інэса Генадзеўна Белуш, якія павіншавалі са святам і адзначылі важнасць падобных мерапрыемстваў.

З арыгінальным рэпертуарам літоўскай народнай творчасці - народнай музыкай, песнямі, танцамі, а таксама абрадам "Жніво" - прысутных знаёмілі ўдзельнікі польскага ансамбля народнай песні і танца "Polukniаnie", лентварыйскай групы народнага танца "Lendvare" і троцкага ансамбля інструментальнай музыкі "Serenada".

На Лідчыне ўмеюць і любяць спяваць. Дастаткова было паслухаць выступленні на фестывалі народных і самадзейных калектываў, каб упэўніцца ў гэтым. Лепшыя канцэртныя нумары прадставілі: народны хор "Скарбніца" ААТ "Завод "Оптык", узорны ансамбль танца "Крышталікі" Бярозаўскага ГДК, народны ансамбль "Журавінка" Першамайскага ДК, народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў Бердаўскага ЦКВЧ, а таксама выступленне фальлорных аматарскіх калектываў Лідскага раёна.

Адзін фальклорны калектыў змяняўся на іншы. Цудоўнае выкананне народных песень, абрадаў дазволіла гледачам не толькі перанесціся думкамі ў мінулае, але і ў чарговы раз адчуць непарыўную сувязь са сваімі гістарычнымі каранямі.



***Польскі ансамбль народнай песні і танца "Polukniаnie" (Літоўская Рэспубліка)***



***Тракайскі ансамбль інструментальнай музыкі "Serenada"(Літоўская Рэспубліка)***







***Лендварыйскай група народнага танцу "Lendvare" (Літоўская Рэспубліка)***



***Дзіцячы фальклорны калектыў "Крынічкі" Бярозаўскага ГДК***



*Народны хор "Скарбніца" ААТ "Завод "Оптык"*



*Дзіцячы фальклорны калектыў "Крынічкі" Бярозаўскага ГДК*





*Фальклорныя аматарскія калектывы Лідскага раёна*









***Кірмаш рамёстваў***







***Узорны ансамбль танца "Крышталікі" Бярозаўскага ГДК***

Пасля завяршэння канцэртнай праграмы пачалася цырымонія ўзнагароджання. Усе фальклорныя калектывы атрымалі ад арганізатараў мерапрыемства дыпломы і памятныя падарункі. Аднак, па словах саміх выканаўцаў фальклору, галоўным для іх стала непасрэдна сустрэча, абмен досведам і ведамі, а таксама сяброўскія зносіны, якія за гэты час існавання фестывалю "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" сталі самымі моцнымі і непарыўнымі.

Апошні фестываль фальклорных калектываў у рамках праекту "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" адбудзецца ў Троках (Літоўская Рэспубліка) ў пачатку чэрвеня 2014 года.

***Наталля ВАЙЦЮКЕВІЧ,***
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры*
*Лідскага раённага метадычнага*
*цэнтра народнай творчасці.*

*Фотаздымкі* ***А. Пецікава.***

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**"Лясная дарога"**

Перад самым судом я выдаў другі томік вершаў. Метадам апрабаваным: у тога ж друкара на Татарскай. Навучаны досведам з першым томікам, вырашыў адмовіцца ад высокага накладу, каб не было лішкаў. Заміж двухсот асобнікаў запланаваў сто пяцьдзесят. Друкарня таксама зажадала сто пяцьдзесят злотых, а можа сто дваццаць.

Усё астатняе было так сама: Саюз літаратараў ласкава згадзіўся падпісацца як выдавец. Гэбатнер (а можа Гаэсік) узяў на рэалізацыю на тых самых драконаўскіх умовах.

Цераз год атрымаў разлік. Прададзена 2 (словамі: *два*) экзэмпляры.

Па сённяшні дзень біўся не раз над думкамі: хто гэта былі тыя пакупнікі? Не блізкія знаёмыя, бо тым парассылаў бясплатныя экзэмпляры з дароўчымі надпісамі. Аматары паэзіі? Калекцыянеры? Вар'яты? (Праўда, пасля надрукавання вышэй напісанага ў "Культурным аглядзе" адзін з іх вельмі міла адазваўся: Ежы Туровіч, галоўны рэдактар "Тыднёвіка ўсеагульнага").

Томік называўся "Лясная дарога". Быў ён значна раўнейшы за першы, але і больш шэры. Першую частку займалі банеўскія вершы, галоўным чынам пейзажныя. У другой даў пару гратэскаў, перакладаў з Ахматавай, Буніна і Танка), нешта ў родзе песень. Было гэта карэктна, але без кіпцяў. Таксама палітычная напруга была больш слабая, што намагаўся спосабам больш-менш завуаляваным высветліць у "Пралогу".

Экзэмпляр томіка забраў з сабой у Варшаву. Брайтар далучыў яго да акту справы на довад, што я - паэт.

Ці былі рэцэнзіі? Тых сапраўдных, "незацікаўленых" - напэўна, не было, так, як і пасля першага зборніка. Можа Маслінскі нешта змясціў у калонцы, хаця я ў тым не ўпэўнены. А калі нават змясціў, то была гэта рэцэнзія таварысцкая, якой не даць без выкліку новых раздражненняў у тым нашым малюсенькім асяродку было не магчыма.

Здаецца, хоць смутна сабе гэта прыпамінаю, што К.В. Завадзінскі зноў змясціў кароткую згадку ў "Літаратурным гадавіку". А можа гэта было дзе ў іншым месцы? У кожным разе недзе адзначыў пазітыўна мой адыход ад авангарднай паэзіі. У той час што раз больш становілася гэта для яго галоўным крытэрыем паэтычнага развіцця.

А тым часам, шчыра сказаўшы, зборнік быў хутчэй дакументам рэгрэсу, чым развіцця. Адышоў ад авангарду, але не знайшоў нічога ўзамен. Вершы пераcталі быць прэтэнзацыйна незразумелымі, але ў цэлым не набралі сэнсу. У грунце рэчаў кніжачка была дакументам майго сур'ёзнага ідэйнага і жыццёвага крызісу.

Тлумачуся ў "Пралогу":

*... так перад табой паўстануць рэчы, пагрозай якіх*
*захліснуты, упустую на крык сарвешся.*

*Тым хутчэй спазнаеш цяжар і перамогу горычы.*
. . .
*кожны дзень твае сілы на нова пералічвай*
*і на нова адпіхні нацёртай далонню.*

*Перш, чым узыдзе пасеў рэчаў, недаспелых яшчэ,*
*вучыся вочы ўтаймоўваць і не пагарджай роспаччу...*

Перакладзём тую паэтычную мову, і так зрэшты досыць недвузначную, на прозу: першыя паразы, якія спазналі непасрэдна мы - ліквідацыя "Па-просту" і "Карты" напрыклад - выклікалі моцны ўплыў на ўражлівую душу паэта. Вось дае нырца ў краявід ("Вось чаму... хілімся да спічастай сіметрыі кветак"...).

У грунце рэчаў верш той вытлумачвае вельмі шмат з той тагачаснай псіхічнай сітуацыі, у пасярэдні спосаб заахвочвае найістотнейшую спрэчнасць, якая аб'явілася ў жыцці ўсёй групы.

Мая паэтычная дарога пачалася ў перыяд нарастання рэвалюцыйнай хвалі ў Польшчы. Ішла яна (тая дарога) ў пары з маёй палітычнай актывізацыяй у рамках "групы Дамбінскага". Вяршыня той актыўнасці - і маёй, і групы - прыпала на перыяд 35-36, г.зн. перыяд хістання рэжыму і барацьбы ў яго лоне прынамсі дзвюх тэндэнцый: ліберальнай і прафашысцкай.

Вельмі важны момант - тая ўнутрысанацыйная барацьба. Дастаткова прыпомніць, што год 1937 зусім не абазначаў спаду рэвалюцыйнай хвалі. Перш за ўсё летам таго году і восенню дайшло да драматычных мужыцкіх штрайкаў. А наша група ў тым годзе моцна падупадла. Уся рэч зводзілася да справы легальнасці. Сіла і слабасць спецыфіка і непаўтаральнасць "групы Дамбінскага" палягалі ў яе легальнасці. Яе легальная

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POLWIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszawa, 1962.

дзейнасць і ўплыў былі вельмі моцнымі. Але таксама і вельмі *vulnerable*, як кажуць французы, ці нецяжкімі для паражэння.

У перыяд Касцялкоўскага і на пачатку Славоя група магла дзейнічаць легальна і мела неаспрэчны поспех. Але потым Славой схапіў яе за горла. Ужо ад восені 36 года група стаяла перад дылемай: зменшыць актыўнасць ці перайсці ў падполле.

Для пачатку першае выйсце навязалася само: пазакрывалі нам выданні. Нейкі час цешыліся, што тут і там нешта яшчэ ўдаецца публікаваць. Але акрамя аднадзёнкі "У абарону міру", выдадзенай галоўным чынам Мухай Жаромскай, недзе ў жніўні ці верасні 1936 года, нічога ўжо не ўдавалася зрабіць. Потым прыйшоў арышт Генрыка і Стэфана. Пазбаўленая іх, група не ўмела прыняць ніякага груптоўнага рашэння. Трывала, і то ў стане досыць роспачным.

Нешта такое рабілася са мной у вобласці паэзіі. Пасля "Па-просту" я неяк не ўмеў знайсці ўласцівага паэтычна-палітычнага тону. Шукаў яго, той тон. Восенню 36 года напісаў новай для сябе паэзіяй верш да Мадрыда. Падаўся мне аднак вельмі слабым. Адважыўся яго надрукаваць цяпер у томіку сабраных вершаў, праз пятуаццаць гадоў. Заміж таго ўлез у пейзажы на нейкі час, "пакуль не ўзыдзе пасеў з'яваў, недаспелых яшчэ...".

**Справа**

Летам 1937 года, адразу пасля таго галасавання за Інгеборгу і нашага перасялення на Добрую найважнейшай падзеяй у жыцці групы аказаўся блізкі працэс. Мы якраз атрымалі акты абвінавачвання.

Хвілямі магло здавацца, што вярнуліся часы "Па-просту". У нас на Добрай, у пакоі Ганкі, адбываліся перманентныя сходы. Перапісвалі акт абвінавочвання, раіліся з адвакатамі, спрачаліся і размаўлялі паміж сабой.

Акт абвінавачвання быў цэлай аповесцю. Налічваў недзе каля 200 старонак. Я чытаў яго хутчэй неахвотна: як артыкулы пра групу "Жагараў", пра мяне ўспаміналася рэдка і мімаходам. Увесь акт быў скіраваны супраць Генрыка і Стэфана.

Пра мяне ўспаміналі звычайна разам з астатнімі абвінавачанымі: Здаецца, толькі дзякуючы рэпартажу з "Ардаля", я меў індывідуальную зачэпку.

Перамовы з адвакатамі я апісаў з большага ў "Рэчаіснасці". З нашага боку вёў іх перш за ўсё Казік. Спецыфіка групы адбілася вельмі выразна на складзе лавы абаронцаў.

Перш за ўсё не было сярод іх ні аднаго "спецыяліста" па справах "прыналежнасці" да нелегальнай партыі. Як вядома, было ў Польшчы шмат адвакатаў, якія баранілі камуністаў не толькі з прафесіі, але і з уласнага пераканання, назавём хоць бы толькі Дурача.

Але паколькі ў нашым выпадку справа была абвінаваўчая, мы палічылі, што такі абаронца стане яшчэ адным абвінавачванем. Таму, напрыклад, загадзя вымaнеўравалі міма старога Загорскага, бацькі Слана, якога на жаргоне групы называлі "Стары Слон". Быў гэта, як я ўжо згадваў сябар даўняй СДКПіЛ і аж гарэў, каб нас бараніць.

Аздобай лавы была блізкая нам таварысцка і нават палітычна Заштоўт - Сукянніцкая, маладая і вельмі здольная адвакатка, старэйшая таварышка Генрыка і Стэфана, жонка аднаго з пратэктараў Генрыка, маладога выкладчыка права Сукянніцкага.

Незвычайна цяжка даецца мне апісанне самога працэсу. У "Рэчаіснасці" ён - цэнтральны эпізод кніжкі. Напісаная на дваццаць год раней, праз толькі пару год пасля справы аповесць стала для мяне больш моцным успамінам з тых часоў, чым успаміны непасрэдныя. У апісанні працэсу не бракуе "літаратурнай апрацоўкі", але ў асноўным трымалася яно рэчаіснага ходу разбору. У выніку мне вельмі цяжка адрозніць "апрацоўку" ад праўды, а ўжо цалкам не магчыма выклікаць гэтыя ўспаміны нанава, непасрэдна ўжо з зацёртых даўно ў памяці "негатываў".

Прыкладам тых цяжкасцяў ёсць між іншым апісанне лавы абаронцаў у першай версіі "Паў веку", надрукаванай у "Аглядзе культуры". Аказалася, што я перакруціў ўсю тую лаву дагары нагамі. Забыў назваць такіх майстроў абароны, як віленскі адвакат Кжыжаноўскі або варшаўскія майстры Мечыслаў Шэрар і Шуманскі. Не назваў адной з актыўнейшых на "лаве" віленскай адвакаткі Гелены Штукоўскай.

Найдзіўнейшае, што назваў за тое некага, хто ў працэсе ўдзелу не браў: скажам, Энгля. Я прысягнуў бы, што бачу яго невысокі, моцны сілуэт, што чую яго голас. Але Штукоўская з газетамі ў руцэ давяла мне, што я мыляюся. Уключыў Энгля ў аповесць - і вось вынік: пачаў мне сніцца ва ўспамінах. Бараніў ён групу, але ў працэсе "акадэмічнай левіцы", а не "Па-просту".

Баюся пасля той навукі ўласнай памяці, асабліва, калі яна ў той жа час сумела адпачыць на пробах літаратурай фікцыі - у аповесці.

Так што сам ужо не памятаю, які з суддзяў выдуманы, які сапраўдны. Былі старыя, засушаныя, гаварылі жудасным жаргонам, сядзелі пад святлом. Дакладна аўтэнтычным быў пракурор, які сапраўдны называўся Вольскі. Быў гэта даўні эндэк, які пераход на дзяржаўную службу аплаціў такой вось зменай палітычных поглядаў. Вельмі востры перад працэсам, падчас працэсу, после працэсу. Здаецца адкрывалася перад ім перспектыва казачнай кар'еры Грабоўскага. Пішу пра яго пастаянна, як пра ворага асабістага, столькі было ў яго выступленнях супраць нас агрэсіўнасці, якая проста перасягала прафесійны максімум.

Далейшы яго лёс, як мне сказалі, быў цяжкі і скончыўся трагічна. Прыгавораны на смерць за ўдзел у тэрарыстычнай бандзе, памілаваны, сядзеў некалькі гадоў у вязніцы, потым выйшаў і .... здзейсніў самазабойства.

Працэс адбываўся ў гмаху Судоў, пры велізарным Лукішскім пляцы. Хоць я ўжо прайшоў цераз судовае "хрышчэнне", тым разам меў трохі страху. Пра справу пісала ўся краёвая прэса. Не як пра Гаргонаву, але ўсё ж... У горадзе было вялікае ўзрушэнне. Калі з раніцы мы прыходзлі на месца, калідоры былі поўныя знаёмых. Я хадзіў ганаровы, як пава: адзін з ... Мая пыха скончылася аднак у хвіліну прыводу галоўных абвінавачаных. Усе кінуліся ў залу, каб з імі прыві-

таццa ці хоць бы на іх паглядзець. Пабег і я.

Абодва - і Генрык, і Стэфан - выглядалі не вельмі, бледныя, з апухлымі тварамі. Генрык быў трохі знерваваны, Стэфан падаваўся больш спакойным.

Прыйшлі абаронцы, сказалі пару слоў. Характэрна: перад працэсам не шкадавалі нам песімізму (зусім, як у той справе Брайтар), цяпер наадварот - былі вясёлыя, аптымістычныя, ляпалі нас па плячах. Думаю, што ёсць у тым метад. Адвакат заўсёды найперш хоча пастрашыць. Па-першае, яго ўласны ўклад працы па справе будзе праз тое выглядаць больш паважна. Па-другое - і самога кліента змусіць да высілку, не да лайдацтва.

Але як ужо справа, асабліва не благая, стаіць на чарзе - лепей тых абвінавачаных пацешыць, каб не мелі лішняга страху.

Разглядаюся па зале з цікавасцю і змешанымі пачуццямі. Пачуваўся адначасова гледачом і актарам у відовішчы, агульны драматызм якога быў несумненны, які аднак для мяне не выглядаў залішне грозным.

Я глядзеў на залу. Гэта страшная рэч, такая поўная зала, страшная і чароўная. Падаецца адным вялікім поглядам нечага велізарнага, што можа цябе раздушыць сваім незадавальненнем - і гэта страшна. Але можа сваім задавальненнем падняць на вяршыню. Сіла залы грунтуецца на адсутнасці ньюансаў. Так цяжка ўбачыць у ёй падзел думак убачыць каля ворагаў сяброў.

На працягу наступнай чвэрці стагоддзя я набраўся досведу ў стасунках з поўнай залай, але тады быў гэта, можа, мой першы акцёрскі выступ пры такім камплекце гледачоў. Зрэшты, як звычайна ў той час, я выступаў толькі, як постаць у суполцы другапланавая.

Тыя першыя: Генрык і Стэфан, былі з нашай групы выдзелены. Яны сядзелі ў асісце паліцыянтаў на асобнай лаве. Для нас чацвярых падставілі такую звычайную лаўку, тут жа за адвакатамі.

Працэс меў ход, які адпавядае справаздачы ў "Рэчаіснасці". Таксама ўсе дэталі са сведкамі запісаў там дакладна, тым ахвотней, што, наогул, мелі яны свой непаўторны каларыт.

Дзе ж, напрыклад, як не ў Вільні трыццатых гадоў, можна было спаткаць постаць доктара Орды (у аповесці: Мурза-Мурзіч)? З багатай зямянскай палескай сям'і. дакладна спартрэтазываны (бо быў і лысы і з трэсшайся галавой, і ў акулярах), патрапіў у атачэнне Генрыка і аж да канца не выбраўся з-пад яго абаяння. Гарачы аматар Вільні, асабліва яго барокавых касцёлаў, пару гадоў перад тым трапіў у востры канфлікт з другім "бараколагам-вільністам", ксендзам Пятром Слядзеўскім, які зрэшты таксама круціўся на далёкай Генрыкавай перыферыі. Канфлікт палягаў папросту ў тым, што Орда нешта пра тыя касцёлы напісаў. Кс. Слядзеўскі пачуўся абражаным такім парушэннем сваёй манаполіі. Адтуль палемікі і пажыццёвая таварыская непрыязнь.

Добра, што толькі непрыязнь. У Вільні раней не бракавала сапраўдных двубоеў на шаблях! - і то з нагоды повадаў прынцыповых! Не за жанчын, нават, не за палітычныя погляды біліся паміж сабой рэдактары выданняў і віленскія літаратары, а за такія няўлоўныя рэчы, як арганізацыя культурных таварыстваў Вільні (славутая "Эрвуза" - пасівеў, аблысеў і сагнуўся, а ўсё яшчэ не маю паняцця, з чаго ў іх пры той "Эрвузе" пачалося).

Не п'яныя прыгоды ўстрасалі кватэры Вільні (гэта было, але не лічылася), толькі шляхетныя пашчочыны або напады з парасонамі. Пазней мы бачылі герояў, з Цатам Мацкевічам на чале, з рукой на тэмбляку, зраненых, як гаварылі, у найсапраўднейшых, найчысцейшых - бо цалкам абстрактных, безпрадметных двубоях.

Але гэта дыгрэсія. Доктар Орда з кс. Слядзеўскім толькі між сабой не размаўлялі. На нашым працэсе Орда паводзіў сябе так, як мы спадзяваліся, г.зн. па-рыцарску. Хоць ад "Па-просту" аддаліўся яшчэ перад яго закрыццём, аднак прыйшоў, каб засведыць сваю сімпатыю ў адносінах да Генрыка і нас усіх.

Хочучы яго скампраментаваць у вачах судзяў, Вольскі сыпнуў яму пару правакацыйных пытанняў, маючы даказаць, што той ёсць зашыфраваным камуністам, але той на выгляд растрапаны Орда выдатна з пастак выскачыў. Утрымаўся пры сваім каталіцызме, абвяшчаючы аднак мажлівасць пагаднення яго з камунізмам.

Тут Вольскі першы разгубіўся і страціў халодную кроў. Крыкнуў:

- Якія палітычныя погляды сведкі?!

Орда, ківаючы галавой і неміласэрна заікаючыся, адказаў без хвілі вагання:

- Я ... ёсць а ... анар... анархіст...

Але калі Вольскі ўжо адвярнуўся да суддзяў, ужо губы адкрыў для трыумфальнага: "Не маю пытанняў", - Орда дакончыў:

- ... у ду... духу свя... святога Аў... Аў... Аўгустына...

Вольскі толькі за галаву схапіўся, а ўся зала рыкнула з захаплення над яго паразай.

**Цяжкія дні**

Гэта было ўжо на другі або трэці дзень.

У першы дзень было нуднае чытанне акту абвінавачання, а потым нашыя тлумачэнні. Мы былі досыць знерваваныя: Генрык гаварыў першы і не быў у добрай форме.

Спецыфіка працэсу рабіла тое, што яго заданне было выключна цяжкае. Гэта не быў працэс пра прыналежнасць. Абвінялі нас у філіяльнасці хутчэй ідэйнай, чым "фізічнай, так сказаць, з Кампартыяй.

У той сітуацыі ўсё залежала ад тону. Было б нонсэнсам займаць становішча "прынцыповае" і дэкляравацца камуністам. Было б гэта незвычайна каштоўным прэзентам для абвінавачвання і знакаміта аблегчыла яму стварэнне прэцэндэнту ў іншых падобных спрвах, якія рыхтаваліся ва ўсёй Польшчы. Але зноў жа, адкідаючы дэкляраванне на баку камунізму, належала захаваць такт і меру, не ўпадаць у падкрэсленне розніцы паміж сабой і камунізмам. Пракурор, як толькі зарыентаваўся, што ніводзін з нас не будзе заяўляць дэманстратыўных сведчанняў, што мы камуністамі

ністы, пачаў вельмі ўпарта дапытваць галоўным чынам першых абвінавачаных на тэму розніц, якія аддзяляюць іх ад камуністаў.

Правільная тактыка - як я цяпер бачу - палягала на як найкарацейшым знаходжанні на тэрыторыі сведчанняў прынцыповых, на як найхутчэйшым пераходзе да элементаў канкрэтных нашай дзейнасці. Так, напрыклад, зрабіў Стэфан, які вельмі хутка і спакойна ўлез у справы эканамічныя, замежнай палітыкі, бадай што нават асветы.

Заміж гэтага Генрык даўся зацягнуць сябе ў дыскусію прынцыповую. Канешне, быў абвінавачаны найбольш, меў той свой удзел у львоўскім З'ездзе работнікаў культуры, сваю прамову і асабліва яго канцавы векліч. Ва ўсякім разе ўсе сядзелі ўспацелыя ад эмоцый і бяссілля.

Ці забраўся Генрык за далёка ў сваіх негатывах? На маё разуменне, не. А пры тым знайшлося пару такіх вырыгарыстаў, якія праз тры гады ў Львове дамагаліся ад мяне, каб адышоў ад Генрыка і ўтапіў яго. Я, канешне, гэтага, не зрабіў. Сітуацыю ўратаваў добры таварыш, украінец, Аляксандр Гаўрылюк, які абоіх катонаў супакоіў у іхніх несвоечасовых запалах.

Ва ўсякім разе тады на працэсе мы перажывалі яго даследванні вельмі цяжка. У перапынку мы курылі папяросы ў маўчанні. Для пабочных быў гэта, мабыць, найцяжэйшы момант працэсу.

Пры наступных - пасля Стэфана - абвінавачаных працэс страціў напругу. Муха адказвала галоўным чынам за аднаднёўку "У абарону міру". Барысевіча пыталі пра бухгалтэрыю "Па-просту". Мяне, бадай што, - толькі пра рэпартаж з "Ардаля". Наогул было тое вельмі слаба, аж меў трохі жалю, што так коратка і абы як пыталі мяне перад поўнай залай.

Кожны з нас заўважыў дзіўна востры тон пракурора супраць апошняга з абвінавачаных, Юзафа Шуса. І ніхто не прывязваў да таго нейкай асаблівай вагі. Толькі праз няпоўны год пачалі мы сабе раптам прыпамінаць і словы, і міны, і, асабліва, тон Вольскага...

А ўласна ўсё ў тым Шусе павінна было нас заінтрыгаваць. Усё - у тым сэнсе, што стаўся адным з абвінавачаных. Яго роля ў "Па-просту" была яшчэ меншая, чым мая. Змясціў там адзін ці два артыкулы - але такіх супрацоўнікаў у "Па-просту" было пару тузінаў. Чаму ўласна яго выбралі?

Гэта была адна з найдраматычнейшых сцэн працэсу. Але мы пра тое не мелі паняцця.

Таксама, калі дайшло да Барысевіча, мы чуць было не папаліся ў пастку. Сярод ахвяраванняў на прэсавы фундуш "Па-просту" фігураваў запіс ад дзвюх варшаўскіх літаратарак - Ванды Васілеўскай і Яніны Бранеўскай. Была гэта як на тыя часы квота, ці не тысяча злотых? Абедзве былі намі выкліканы за сведак. Але аж да разбору не было ўмоўлена з імі, колькі каторая ахвяравала.

Барысевіч спахапіўся пра тое першым, але ўжо было за позна. Сведкі стаялі цеснай грамадкай, над якой узвышалася пастава Васілеўскай. Глядзела на нас так неяк дзіўна. І тады Барысевіч прыпомніў сабе, што ні яна, ні Бранеўская не ведаюць, колькі кожная з іх дала.

Бедалага сядзеў, як на распаленых вуглях аж да выкліку першай. Васілеўскай. Здавалася яму, што мы праваліліся. Бо дастаткова было пракурору запытаць сведку, колькі дала, хапіла б ёй адказаць не трапна, і довад "дутасці" таго ахвяравання, довад фінансавання цераз Кампартыю, якой Васілеўская з Бранеўскай былі толькі імёнамі - мелі б як на далоні.

Вольскі аднак аказію прагапіў. Не ўяўляў сабе напэўна, каб мы маглі такой дробязі не заўважыць. Запытаў Васілеўскую, ці давала яна на "Па-просту".

- Так, - адказала коратка.

- Пяцьсот злотых? - запытаў. - Так шмат!

Васілеўская парушыла плячыма:

- Не за шмат, калі справа ідзе пра выданні, да якіх адчуваеш сімпатыю.

Вольскі схапіўся за тую аказію. Зажадаў далучэння да актаў справы дакументаў, што супраць Васілеўскай вядзецца дазнанне аб прыналежнасці да Кампартыі. Абарона супраціўлялася, сцвярджаючы, што няма яшчэ нават акту абвінавачвання. Усё пагразла ў слоўных перапалках.

У той момант Барысевіч не вытрымаў. Зрабілася яму слаба. Выйшаў у туалет, прылажыў да сэрца мокрую хустку.

**Цяжкі год**

Вечарам Васілеўская і Банеўская з'явіліся да нас на Добрую. У першы раз бачыў іх зблізку.

Былі гэта дзве прыгожыя дамы. Васілеўская высокая, з ганаровым профілем і палымянымі вачыма магла бы пазіраваць для гратгераўскага цыклу "Палонія". Бранеўская больш пікантная, але таксама незвычайна прынцыповая. Сабралася пару недабіткаў групы з Казікам на чале.

Абедзве варшавянкі вельмі востра аацанілі нашыя арганізацыйныя таленты. Але паза тым было вельмі міла. Паказвалі апошняе дасягненне групы, г.зн. Еву. Хвалілі. Ганка была шчаслівая: наглядзелася на свайго Стэфанка.

Працэс трываў некалькі дзён. Я перажыў досыць цяжка прамову Вольскага. Я чытач адной газеты: не ўмею і не магу слухаць таго, з чым не згаджаюся. Надта многа мне гэта каштуе. Падаецца мне, што вораг той мае несумненную рацыю. Пасля Вольскага здалося мне нават, што і я магу трапіць у турму.

За тое абаронцы, а асабліва Сукянніцкая, выцялі знакамітымі прамовамі. Былі потым рэплікі і дуплікі (пярэчанні на рэплікі). З апошняга слова я не памятаю ні паўслоўка. Здаецца, што Генрык зноў разгаварыўся, і што суд яго перарываў.

Прыгавор абвясцілі на наступны дзень Быў снежаньскі, пануры ранак. У зале гарэла электрычнасць. Генрык падаваўся больш зялёным, чым звычайна.

Вырак, як вядома, быў нечаканасцю для ўсіх. Акт абвінавачвання быў развалены, з абвінаваўчага "спіску" ўсе апраўданыя. Затое Генрыка і Стэфана прыгаварылі на чатыры гады на падставе нейкага, немаведама з чаго, змаціраванага абвінавачвання аб

"падрыўной прапагандзе".

Мы стаялі ашаломленыя. Ганка і Зося пабеглі хапаць асуджаных, якіх паліцыя цягнула цераз маленькія дзверы за лавай абвінавачаных у паўцёмны калідор. Людзі павольна выходзілі з залы. Адвакаты, асабліва Сукянніцкая, голасна крытыкавалі прыгавор. Апеляцыю абвясцілі, зрэшты, абодва бакі.

Дома не пераэжыў ніякай радасці: ва ўласным апраўданні быў упэўнены, асуджэнне тых было - не гледзячы на тое, што было верагодным - аказалася вельмі цяжкім ударам. Дом на Добрай у бліжэйшыя дні быў поўны маўчання.

Набліжалася Божае Нараджэнне. Здаецца, што гэта цяпер дайшло да нашага прымірэння з Баневым. Паехалі туды ўтраіх, з Евай. Але нічога з тых свят не памятаю.

Прыйшоў год 1938. Той папярэдні здаваўся найцяжэйшым. Але слабое мы мелі ўяўленне, не спадзяваліся на тое, што нас чапала ў наступным.

Зімой мы сядзелі яшчэ на Добрай. Зарабляў урыўкамі ў Маслінскага або на радыё. У той час "Слова" вельмі разбудавала свой тыднёвы літаратурны дадатак. Сам не ведаю, цераз каго, запрапанавалі мне, каб туды што-небудзь даў. Даў. Змясцілі. Памятаю, што друкавалі мой пераклад апавядання з далёкай Поўначы савецкага пісьменніка Генадзя Гора.

Група прыняла гэта вельмі неахвотна. Размаўлялі са мной. Раілі, каб супакоіўся. "Слова" займала адносна нас усіх - у перыяд віленскіх працэсаў - пазіцыю вельмі варожую, горш, агрэсіўна варожую. Гаварылі мне, што сваім прозвішчам я ствараю для "Слова" нейкае палітычнае алібі. Быў гэта аргумент няўдачны. Я ўжо не меў перабольшанай думкі пра значэнне сваёй асобы і па-просту не ўяўляў сабе, каб маё прозвішча магло некаму дапамагчы ці зашкодзіць. Застаўся пры сваім. Канешне, я не меў рацыі. Але група спецыяльна не гневалася. Зрэшты, яна не праяўляла ў той час амаль ніякай актыўнасці.

Трэба прызнаць, што "Слова" адносілася да мяне вельмі карэктна. Ніколі найменшых тэкставых правак. Або тое, што даваў, прымалі, або не.

Гэта было ў той час найлепш рэдагаванае выданне ў Польшчы. Мацкевіч дасягнуў ужо свайго класу ў палітычнай публіцыстыцы. З Варшавы незвычайна цікавую "закулісную" інфармацыю даваў што дзень Лубенскі. Знакамітыя фельетоны размяшчаў Вышамірскі. Караль Збышэўскі якраз стварыў свой "жанр" ардынарнага але дасціпнага "анекдотафельетона".

Пры тым усім была гэта адна з найбольш рэакцыйных газет у краі. Не павінен я быў з ёю супрацоўнічаць, гэта пэўна.

У сакавіку заснежаныя вуліцы Вільні загрымелі крыкамі прадаўцоў газет. Я сядзеў у семінарыі на Каралеўскай, два крокі ад "Слова". Адтуль выляталі хмары хлопцаў з крыкамі: "Экстратэлеграма. Дадатак надзвычайны". Гэтым разам быў аншлюс.

Як з Абісініяй, як з душанай якраз іспанскай рэспублікай, так і з аншлюсам найстрашнейшай была для нас не дэманстрацыя сілы фашызму. Нейкае абясцільвальнае, задушлівае пачуццё агарнала чалавека, калі чытаў прамовы прэм'ера Францыі ці Англіі. Гэтыя іхнія пустыя гаворкі іхнія фразы, іхнія бясплодныя жэсты, іхнія закулісныя манёўры казалі чакаць нечага найгоршага. Іхняя бездапаможнасць у крытычныя моманты паралізавала волю супраціўлення, прыбівала, змушала лічыцца з апошняй празай.

З Савецкага Саюза ў той час ішлі розныя заклікі аб адзінстве антыфашысцкага фронту. Была гэта яшчэ эра Літвінава, які разрываў вопратку ў Жэневе, намагаючыся разбудзіць тых, якія, здаецца, наўмысня ўзялі вялікія дозы снатворных сродкаў. Вечнай ганьбай Юзафа Бека і санацыі былі яго тагачасныя падскокі перад Гітлерам, якраз у Жэневе.

А мы сядзелі ў Вільні і намагаліся яшчэ нешта рабіць, хоць не вельмі ведалі што.

Ці гэта не вясной 38 года адкрылі ў Вільні Дэмакратычны клуб, прыбудоўку ўзнікаўшай якраз у Варшаве Дэмакратычнай партыі? Наш Крыдль разам са свежа прыбылым з Варшавы прафесарам псіхалогіі Завадскім, а таксама з некалькімі віленскімі адвакатамі належаў да яго заснавальнікаў. Канешне, група падтрымала тую ініцыятыву, але далікатна, каб яе не заваліць. Бо мы былі ўжо "спалены". Памятаю даклад Януарыя Грудзінскага, які з нагоды гадавіны Травеньскага замаху змясціў у прэсе шэраг артыкулаў, якія ўлучалі замаху левы змест і падкрэслівалі, мякка кажучы, нейтральнасць камуністаў адносна яго.

Офіс Клуба быў невялікі, але перапоўнены. Рэферат быў цікавы. Не шкадаваў слоў падтрымкі Крыдлю. Так вось сталася, што ў нас цэлы шэраг выкладчыкаў пайшоў за сваімі вучнямі, а не наадварот. У сэнсе палітытычным трэба разумець. Крыдль падтакваў мне вельмі энергічна. Ён быў класічным антыфашыстам, прымірэнцам. Цяжэй мне даводзілася тлумачыць яму непазбежнасць многіх рэчаў, якія ў той час рабіліся недзе ў іншым месцы.

У канцы сакавіка старанні адвакатаў і, здаецца, Зосі прынеслі вынік. Генрыка і Стэфана ўлады пастанавілі вызваліць пад заклад да апеляцыйнага разгляду.

Першага красавіка мы сабраліся ў некалькі чалавек перад брамамі Лукішак. Была гэта галоўная віленская вязніца, размешчаная каля найбольшай у горадзе Лукішскай плошчы. Дзень быў хмурны і халодны. Ганка свяцілася, размахваючы букетам кветак. Адчыніліся брамы...

Бадай, ці не ў наступны дзень абодва выехалі. Група не здалела нават нагаварыцца.

На лета мы прыехалі ў Банева. Ева ўжо спрабавала першыя крокі. Жыллё на Добрай мы ліквідавалі:

Банева ў той час цвіло. Быў гэта ўжо дзясяты год, як мы там аселі. Сад разросся. Бацька залажыў пасеку. Каля лазні буйна разрасліся маліны. Агарод на лугах даваў незвычайны плён: дастаткова было ўваткнуць у градку адламаную галінку памідораў, каб праз пару тыдняў вырас цэлы куст.

Толькі ў доме пастаянна было нядобра. Бацька працаваў у Дакудаве. Маці сама гэта ўсё цягнула. Не выносіла ўжо каля сябе ніякай прыслугі. Таму пастаянным было адчуванне, што кожны дзень твайго побыту ў тым раі - гэта дадатковая праца для маці.

Мабыць, у тым годзе я ўзяўся весці сталую рубрыку ў львоўскіх "Сігналах", а менавіта пісаць рэцэнзіі на новыя аповесці.

**"Сігналы"**

З львоўскім цэнтрам маладых пісьменнікаў я завязаў кантакты яшчэ ў 1935 годзе, у час таго з'езду паланістаў. Пазнаёміўся там між інш. з Каралем Курылюком, калегам з паланістыкі, вельмі чынным і прадпрымальным, прыстойным, не скорым ні да гаворкі, ні да пісання, але за тое вечна ўсмешлівым. Таксама з Тодарам Парніцкім, які струменіўся маладосцю і прыгажосцю. Памятаю, што яшчэ больш уразіла мяне яго жонка, незвычайна прыгожая, прыстойная і ўважлівая. Сядалася каля яго ў час нашых размоў, маўчала, нават не ўсміхалася.

Потым дайшлі да мяне чуткі пра нейкую ў той сям'і трагедыю. Дэталяў не знаю, ведаю толькі, што сам Парніцкі меў проста ненармальны страх перад хваробамі. Гаварылі мне, што баіцца ісці да цырульніка, бо мог бы ад брытвы схапіць, напрыклад, сіфіліс. Не хацелася мне верыць, выглядаў так здорава і сімпатычна.

Пазнаёміўся таксама з Тадэвушам Галендрам, жудасна брыдкім, з качым носам, растапыранамі зубамі, тарчаўшым уверх чубам, але таксама з незвычайным тэмпераментам, жыццёвым і пісьменніцкім, з сатырычным запалам і з бурлівай, хоць няроўнай, творчасцю.

Сярод трохі дальшых знаёмых прыпамінаю сабе вельмі выхаванага Прамінскага. Можа, праз год, недзе на пачатку 1936 года (недзе ў той час кароткатрывалай адлігі пасля смерці Пілсудскага), тая група моладзі стварыла сваё ўласнае выданне "Сігналы". Памятаю, што было гэта ўжо ў перыяд "Па-просту". І гэта і папярэдняя прыналежнасць мая да "Жагараў" зрабілі, што да "Сігналаў" я адносіўся з гары, як безумоўна "старэйшы". У дадатак скажам сабе, што ў той заклапочанасці пра старшынства сярод праграмна "маладых" пісьменнікаў ёсць нейкая бязглуздзіца тыпу "бачылі большых карлікаў". Яны напісалі да нас з запрашэннем на супрацоўніцтва. Мы ласкава адказалі.

Краем вока я назіраў за тым выданнем. Адразу не вельмі мне падабалася з погляду на яго палітычную двухзначнасць. Здавалася, што галоўным пунктам праграмы выдання ёсць рэкламаванне (папулярызацыя) сваіх супрацоўнікаў.

Але праз нейкі час у львоўскай суполцы дайшло да сутычак, канфліктаў і разрываў, што раз, то іншыя групы хапалі стырно кіраўніцтва, аж пакуль нарэшце не трапіла яно ў рукі Курылюка, які ўжо не выпусціў яго аж да вайны. Паволі выданне прыняло характар недвухзначна левы. Не было яно ні такое задзірыстае, ні разлічанае на такі масавы абсяг, як "Па-просту". Дзякуючы таму (і дзякуючы арганізатарскім талентам Курылюка) пературывала яно Славоеўскі перыяд, у той час як усе іншыя левыя выданні гэтага перыяду (варшаўскае "Аблічча дня", кракаўскае "Альбо-альбо", нашае віленскае) даўно адышлі да гісторыі. Перад вайной сталіся "Сігналы" адзінай, бадай, трыбунай для літаратурнай і публіцыстычнай левіцы. Там, напрыклад, друкаваў Стэфан выдатныя палітычныя артыкулы аж пад двума псеўданімамі "Стэфан Водвіч" і "Пшэмыслаў Бжэскі". Там супрацоўнічаў Генрык у апошні перыяд перад вайной. Там пісаў Барэйка. Там нарэшце ў апошнім нумары з датай 15.VIII.1939 года, Віктар Грош змясціў знакаміты, прарочы, сказаў бы, артыкул, які прадказаў ход сусветнай гісторыі па найбліжэйшыя два гады.

Калі хочаце ведаць, што думалі ў той час польскія камуністы, прачытайце той артыкул. Ён называецца "Ані кроку далей - гэтага мала". Размешчаны на апошняй старонцы.

Я друкаваў у "Сігналах" ад часу да часу вольныя артыкулы (напрыклад, нападкі на "Скамандра" ці таксама пахвала Максіма Танка). Але якраз у той час Курылік запрапанаваў мне сталую рэцэнзію. Фінансавыя ўмовы: дармовыя экзэмпляры рэцэнзаваных кніжак. Таксама быць можа часам пяць, часам пятнаццаць злотых.

Канешне, я згадзіўся, пачалі да мяне прыходзіць пакункі аповесцяў. Выбіраў з іх, што больш цікавае. У кожны нумар (гэта значыць два разы ў месяц) я высылаў умоўленыя некалькі пазіцый.

Не было гэта добра. Пахвалы гучалі няўклюдна. Яшчэ горш было з заганамі. Я пеpажываў забаўны, але і небяспечны перыяд у жыцці рэцэнзента, калі ён пераканаты, што з яго голасам ніхто не лічыцца, фарсуе атакі, выдумляе пеяратыўныя (ўніжальныя) эпітэты, лічачы, што можа хоць такім спосабам звярнуць на сябе ўвагу зацікаўленых.

Так, напрыклад, я страшна паздзекаваўся над "Летам" Рудніцкага, а ўжо асабліва пад "Старымі людзьмі" Багуслава Кучынскага.

За тое расплыўся ў камплiментах на тэму "Ладу сэрца". Падабаўся мне вельмі "Справядлівы з Садому" такой львоўскай аўтаркі, жонкі Андрэя Кручкоўскага. Таксама адна думка пра каханне з "Нецярплівых" Налкоўскай. Таксама "Маладосці спявай" Ялу Курка, вельмі добрая аповесць, выдадзеная на год пазней у перадваеннае лета, таму без рэха, на якое заслужвае.

Я пісаў тыя рэцэнзіі аж да вайны. Апошнюю порцыю (якраз між ін. пра "Маладосці спявай") выслаў недзе ў жніўні 1939 года.

**Усмешлівы, прыстойны...**

У ліпені 38 - га года мы з Ірэнай зноў паехалі ў Ястраню. Мы былі ўжо "марскімі яхтсменамі", што нам давала пэўныя правілей, напрыклад, мы не мусілі калупацца ў "вузлах" і шмараваць палубу на яхтах.

Ястраня за тыя два гады яшчэ больш развілася. Вырасла куча новых пансіянатаў. Брук у кірунку Юраты падоўжыўся на колькі сот метраў. Элегантных пань прыбыло.

Дзве сцэны з лагера засталіся мне ў галаве.

Порт у Ястрані дзіцяча маленькі. З аднаго боку (ад Юраты), каля самага басейна - аднапавярховы будынак, у якім размяшчаецца начальства нашага курсу. З другога - нейкія дробныя будыначкі.

Я аказваюся выпадкова на тым другім, не

нашым баку. Пазіраю. Раптам бачу нейкі рух. Маторная лодка пры моле. Пару паліцыянтаў. З боку мястэчка хутка рухаецца групка людзей. Вакол робіцца дзіўна пуста. Сам сабе раптам пачынаю падавацца няпрошаным гасцем.

Гляджу на тую групку. На яе чале вельмі высокі чалавек у цёмнай вопратцы. Падходзіць, ужо пару метраў ад мяне. Людзі, гэта ж ... Прыстойны твар з вялікім носам, усмешка... Гэта ж Бек.

Бек збягае на сходах да маторкі, сядае, маторка адразу рушыць. Паліцыянты стаяць на "Зважай", казыраюць. Бек махае рукой, усміхаецца.

Канешне, я ўжо казаў, мае сваю вілу побач у Юраце.

Адзін раз маем начны выезд. Ветру амаль ніякага. Поўна зорак. Мы блытаемся ў затоцы, галсуем у злучальным канале, які вядзе да порта ў Ястарні. Гэта нават забаўна: глядзім нястомна на ўязныя агні. З хвілі, калі выходзім з канала, белае святло пачынае ружавець, робіцца чырвоным, мы чым найхутчэй паварочваем.

А з глыбіні затокі добра відаць уся Гэльская паўвыспа. Далёка налева агні Ўладыслававa. Вельмі далёка направа аганькі Гэля. Тут бліжэй усё сузор'е Юраты. З тылу зарыва над Гданьскам, агні Гдыні, аганькі Пуцка.

Раптам справа, здалёку выбухае агністая, блакітная шпага. Рэфлектар. Адразу б'е злева другая. Гайдаюцца недзе над намі, хістаюцца. Вымацваюць нешта ў начы. Чырвонае святло выбухае і гасне каля зеніту. Выбухае і гасне, выбухае і гасне... Трэці рэфлектар, з цэнтра, як фантан святла, проста ўверх...

Абапёршыся аб мачту дзівімся з захапленнем, але з драбінкай страху. Прыгожа, абстрактна прыгожа, аж займае дыханне.

Але і страх, трошачкі страху, як мурашкі бегаюць па ступнях ног, паміж лапаткамі.

Ці ж сапраўды "тое" было такое блізкае. Не хочам у тое верыць. Гвалтам сабе ўталкоўваем, што не, не мажліва...

У той жа час пачатковы страх, калі можна так выразіцца, які я з той нагоды пераживаў, гэта не быў нават страх перад вайной наогул. Маёй апантанасцю было бачанне Польшчы, прыміранай з Гітлерам, якая з ім разам рушыць у паход супраць Савецкага Саюза.

Цяпер, летам 1938 года, усё гэта яшчэ здавалася цалкам мажлівым. Восенню мела нават набраць рысы праўдападобнасці.

Мая непрыязнь да санацыі наогул, і да гэтага ўсмешлівага прыстойніка ў асаблівасці, набірала сілу. А пакуль што, гледзячы на тыя агнявыя каскады не мог схавацца ад нейкага спецыфічнага здзіўлення.

Добра, гаварыў сам сабе, гэта палітычныя каналлі, паўфашысты, прымірэнцы са стопрацэнтнымі фашыстамі. Праводзяць злачынную палітыку ў краі. Праследуюць нацыянальныя меншасці. Эксплуатуюць пралетарыят. Давялі да жабрацтва сялянства. Скамарохі, садысты, што хочаце.

Але ў адным нельга ў ім адмовіць. Зрабілі з арміі цацку, з якой мусяць лічыцца ўсе навокал...

Слова даю, так у скароце думаў у той час. Гэта не ёсць з'едлівая сатыра на санацыю. Па-просту звычайная самакрытыка...

**Далёкі рэйс**

Істотным сэнсам нашага прыезду ў лагер была надзея на нейкі даўжэйшы замежны рэйс, які арганізоўвалі звычайна пад канец курсу. Удзельнічалі ў ім, канешне, ужо людзі з яхтсменскімі ступенямі.

Удалося, запісалі мяне на рэйс такой яхты, якая называлася "Могарт". Што горш, хоць не было рэйсу для дзяўчат, Ірка трапіла - як адна з дзвюх яхтсменак - у мужчынскі экіпаж, які ішоў у Швецыю, у мястэчка Вісбы на выспе Готланд.

Прызнаюся, тая вестка атруціла мне маю ўласную радасць. Апанавала мяне страшная рэўнасць: як гэта мая жонка сярод кучы маладых бычкоў з непрыхаваным, абрыдлівым прыставанне, якое стварае шматдзённы побыт групы людзей на маленькім караблiку? Ірка толькі смяялася. Альбо пачынала біцца і гневацца. Вельмі злы мусіў супакоіцца.

На шчасце выязныя прыгатаванні вельмі мяне захапілі. Зноў трэба было чысціць карабель. Яхта была невялікая, моцная, з адной мачтай. Я выбраў сабе выдатную каюту ў тыльнай частцы карабля, каля галоўнага люка. Перад выездам мы правялі аперацыю, якая на хвілю перанесла ўсіх у краіну цудаў. А менавіта зрабілі візіт у Гдыню ў свабодную зону.

Было тады нешта такое. Караблі, якія ішлі за мяжу, мелі права забяспечыцца там усімі спажыўчымі прадуктамі, якія будуць патрэбныя ў падарожжы. Пасля такога візіту, канешне, нельга ўжо было сходзіць у Польшчы на сушу.

Цэны там былі неверагодныя. Найвыдатнейшы, залаты галандскі тытунь каштаваў у тры разы меней, чым наш "сярэдне турэцкі". Вялікія блокі малочнага шакаладу каштавалі лічаныя грашы. Купіў сябе якраз тытунь і шакалад. Іншыя накуплялі сабе яшчэ джыну, рому, лікёру.

З тым прысмакам замежжа мы вырушылі. Быў рэзкі ветрык з захаду, але хваля лагодная. Адразу падзялілі нас на вахты. Капітанам быў Пашкевіч, які называўся Юка, малады, шчуплы, прыстойны, рэзкаваты, але ў меру. Акрамя яго было нас дзесяць, пры тым не было ні аднаго, якога б я ведаў бліжэй.

"Могарт" быў, як гаварылася невялікі і каржакаваты. Далёка яму было элегантнасці такога, напрыклад, "Сварожыча". Меў толькі адну, не надта высокую мачту. Каля люка знайходзіліся чатыры падвясныя ложкі. Потым уваходзілі ў кабіну. І там было пару месцаў для спання, акрамя таго стол з адкіднымі крыламі сталешніцы. Недзе каля каюты была, здаецца, каюта для капітана. Потым кухня, ці камбуз. Такая дзірка метр на метр з вялікім прымусам, размешчаным на двух шарнірах, каб не перавярнуўся пры гайданні: Яшчэ напярэдзе нешта ў родзе лямуса, але амаль пустога. Ніхто там не спаў, бо занадта гайдала.

Вырушылі ў поўдзень, адразу пачалася падрыхтоўка снедання. Юка вырашыў нас здзівіць: на дэсерт сказаў адкрыць пару банак з ананасамі. Тады гэта было яшчэ вельмі рэдкае і дарагое - па-за сва-

боднай зонай. Дзяжурны кухар вылажыў тыя салатавыя (блякла-зялёныя) абаранкі на адзінаццаць сподкаў (талерачак). Мы глядзелі і аблізваліся.

Ужо ўсё было амаль гатова, калі адзін з нас, вельмі элегантны ў сваёй марскім строі, але невысокі студэнцік з Люблінскага КУЛ-я раптам ззеляпеў. Пытаемся, што з ім, не змог адказаць, трымаючыся за рот пабег на палубу.

- На падветраны, на падветраны бок, - здалеў толькі крыкнуць за ім Юка.

Тая зялёная хвароба аказалася заразнай. Зараз жа выскачыў наступны.

Што робіцца? - падумаў. Гайдала трохі мацней. Выглянуў на верх. Злева заставаўся шырокі кавал пяску, утыканы соснамі: Гэль. Мы выплывалі з Гданьскай затокі, і вось якраз дабралася да нас сапраўдная марская хваля.

Яе вынікі былі ўражвальныя. Маладцаватыя матросы "Могарта" адзін за другім хапаліся за вант на падветраным баку. Вярталіся потым зялёныя, вымучаныя, да нічога не здатныя. Малы КУЛ-ёвец наогул ад вантаў не адходзіў. Здалеў толькі пераапрануцца ў рабочую вопратку і зняць прыгожую шапку з залатымі эсамі-фларэсамі (галунамі).

Дастаткова, што той першы марскі абед стаўся адным з наймацнейшых маіх кулінарных перажыванняў. Селі за яго ўдваіх я з капітанам. Увесь астатні экіпаж захварэў. Пасля супу і пасля другой стравы засталіся перад намі адзінаццаць сподкаў з ананасамі: мы з'елі іх, тыя ўсе ананасы, вокам не маргнуўшы. Пад вечар гайданка ўзрасла. Мы пасоўваліся разпіхваючы носам гранатовыя (цёмна-сінія) хвалі. Далёка злева ледзве віднеліся пяскі ўзбярэжжа з пасачкам нечага зялёнага над белай рысай пляжу.

Мы сядзелі на змену пры стырне. Зрэшты, вечарам ужо пару чалавек выздаравела, не гледзячы на тое, што гайдала мацней. Злева пачалі загарацца мільгаўшыя аганькі маяка. Я адкрыў навігацыйную кніжку. Не цяжка было зідэнтыфікаваць тыя агні. "Леба, - чытаю на карце. - Столпэ, Столпмюндэ... Сённяшнія Лэбы, Дарлова, Усткі...

Спалася мне выдатна, не гледзячы на тое, што пасцель была халодная і вільготная. Улазіў на ложка з цяжкасцю, затое, калі выцягваўся, засынаў адразу.

Раніца, сонца. Выбягаю на палубу. Хваля меншая, мора нейкае свежае, чысцюткае, светла-блакітнае. Цудоўны пах, саланаваты, рэзкі, які прадказвае, бог ведае што, у тваім жыцці. Ані следу сушы.

**Трэлеборг, Істад**

Я ў той дзень быў кухарам. Не прынесла мне гэта асаблівых лаўраў. Капітан зажадаў на дэсерт салодкага рысу. Я не выношу, не ем рысу, хіба "a l'imperatrice". Паслушна прыгатаваў гэтае белае свінства, а потым кінуў у яго цэлую жменю гваздзікаў.

Падчас абеду клялі мяне, хто як умеў. Кожны з няшчасных, які ўзяў у губы лыжку рысу, мусіў адразу выплюнуць, столькі там было тых гваздзікаў.

На тым не канец. Сказалі прыгатаваць гарбату. Згатаваў вады. Але ў хвілі, калі меў усыпаць выдатнай цайлонскай гарбаты, яхту хіснула мацней і ў ваду сыпнулася цэлая лавіна сухога, чорнага зелля.

Лью потым гэта ў шклянкі. Чорнае як чарніла. Спрабую разводзіць, лью і лью ваду - нічога не дае. Чорнае. Юка нецярплівіцца, кажа выліць за борт. Выліў. І вось цуд, праз пару секунд "Могарт" сунецца не праз Балтыйскае, а найхутчэй, найпраўдзівей праз Чорнае мора.

У выніку развіталіся са мной як кухарам радасна. Зноў ноч. Дзесьці справа агні Борнхольма. Прачынаемся Ноч. Яхта стаіць. Выбягаем. Поўна агнёў. Трэлеборг.

Толькі раніцай выходзім на сушу. Малога кулёўца, які хварэў усю дарогу, памясцілі ў тым лямусе на носе карабля. Спаў там, як сапраўдны марскі воўк на кучы старых ветразяў. Не вельмі да яго заглядвалі, так цярпеў. Паставілі яму толькі вядро.

І вось здарыўся люблінскі цуд. Адчыняецца пярэдні люк і на палубу вылазіць наш кулёвец. Ані следу хваробы. Элегантна выпрасаваныя белыя порткі, гранатовая марынарка. На галаве вялізная шапка з залатымі эсамі-фларэсамі. Лёгкім крокам сходзіць на сушу. Куча дзяўчат, якія збегліся, глядзяць на яго, як цяляты на маляваныя вароты. Вось марскі воўк іх мараў.

Я не маю ні такога строю, ні шапкі. Іду згаркнелы, разглядаюся.

Гарадок дзіўны, не падобны да нічога, што ведаю. Дамы невысокія, вулічкі цесныя, усё вельмі чыстае, крамы элегантныя і дарагія.

Дзве вельмі дзіўныя з'явы. Ідзём кучай, размаўляем па-нашаму, нармальна. Усе на нас аглядаюцца, так што праз хвілю пачынаем пачувацца не на сваім месцы. Не адразу спахапіліся, у чым справа. Папросту мы старшна крычым.

Бо шведы не гавораць, шэпчуць. Забаўна, уваходзіш у краму, ламанай нямчызнай пра нешта пытаешся. Прадавец, малады дылда, якому дастаеш да пляча, немагчыма чырванее і шэпча ў адказ, як бы нялюдска саромеецца таго, што робіць.

Другое годнае здзіўлення - гэта багацце расліннасці. Швецыя для нас - гэта поўнач. А тым часам буйнасць дрэў, кустоў і кветак у Трэлеборгу проста небывалая. Круцімся па вулічках, таропімся спецыяльна на каскады дэкаратыўных раслін, якіх ніколі да таго не бачылі. Цэлы дзень стаім у Трэлеборгу. Вечарам пару найактыўнейшых могартоўцаў дамаўляюцца з нейкай групай шведак. Не бяруць мяне з сабой, а шкода. Якія каштоўныя звычаёвыя назіранні мог бы занатаваць!

Зноў ноччу ад'езд. Маем сунуцца ў Капенгаген. Але, калі прачынаюся, бачу што павярнулі на ўсход. Не вельмі ведаю чаму, ад Капенганена адмовіліся.

Налева берагі Швецыі, якія ж інакшыя ад нашых, нейкія шэрыя і зялёныя скалы, амаль без расліннасці.

Завітваем у яшчэ адно мястэчка, якое называецца Істад. Думалі, што Трэлеборг - гэта правінцыя. Дзе там! Там быў такі чыгуначны паром, які перавозіў



***На караблі "Могарт", курс на Трэлеборг Жнівень, 1938 г.***

цягнік недзе з Саснітца, на выспе Ругіі. Цяпер у Істадзе спазнаём сапраўдную шведскую правінцыю, чыстую, ціхую, сонную.

Тым разам я пайшоў адзін. Праз дзве хвіліны мястэчка скончылася. Жыта, як у нас. Палявая дарога, палявыя кветкі. Над гарызонтам блакітнаватая імгла марыва. Стаю, агорнуты падвойным жалем, хацеў бы ўжо быць у Баневе, аглядаць далёкі блакіт Месяцавых гор. І хацеў бы застацца тут, разгадаць той пейзаж, як экзатычную звычайнасць.

Тут не было дзяўчат, усе вярнуліся раней. Кулёвец зняў парадны мундзір, залез у лямус з вядром. Падрыхтаваўся па-своему да падарожжа.

Вецер нас падхапіў адразу за хвалярэзамі порціка.

**Барнгольм і вяртанне**

Быў ён (вецер) у прынцыпе карысны. Ішлі бакштагам на ўсход. Аднак з гадзіны на гадзіну станавіўся ён мацнейшым. Пад вечар Юка прыняў мужчынскае рашэнне: схавацца.

Хваля тым часам вырасла. Падавалася яна зрэшты не страшнай: падганяліся ёй, ішлі меншбольш у адным з ёй кірунку. Я ўлез на бугшпрыт, гэта значыць на той кавалак дрэва, які прадаўжае гарызантальна над вадой нос яхты і трымае нацягнутыя ванты, а галоўнае штагу (жалезную ліну, якая мацуе мачту спераду), цэлымі чвэрцямі гадзіны таропіўся на парывісты, раскалыханы рытм хваль і карабля. Доўга, доўга нос карабля гнаўся за хваляй. Потым кідала яго ўверх, шмат пены, сыку, пропасць пад нагамі, як на лыжах з'езд уніз, і зноў, і зноў...

Я быў захоплены той забавай. Але Юка, бачна, аглядаў хмары і далёкі быў ад захаплення. Радыё яшчэ на яхце не было, сам спадобіўся на ацэнку надвор'я. Гайданка раптам стала мацнейшым. Яхта павярнула трохі на поўдзень.

Перад намі вырасла нейкая цёмная высокая маса. Мы ўзялі курс на паўночны мыс Барнгольна. Вельмі хутка з той масы зрабілася стромая скала, уся зялёная ад плюшчу. Цяжка было толькі разгледзець порт. Толькі на апошніх некалькіх сотнях метраў разгледзелі танюткую запалку хвалярэзу. Выскачылі малыя домікі, скучаныя каля падножжа той велізарнай скалы.

Вецер гнаў нас магутна. З надзьмутым ветразем, амаль на чыстым фордэвіндзе, уляцелі ў порт. Быў ён такі маленькі, што толькі, дзякуючы некалькім раптоўным паваротам мы здолелі скінуць хуткасць і прыстаць да мола прадпісаным спосабам, г.зн. без найменшага ўдару.

Порцік быў, як для лялек: можа трыццаць, можа пяцьдзесят метраў заслоны ад хваляў, яшчэ менш мола. Не быў чысты; заканчвалася тут вузкакалейка, якая звозіла з каменяломняў недзе ў глыбіні выспы стосы шэрых каменных глыбаў. Вялікія плоскія баркі вазілі іх у Капенгаген.

Называлася Гамергаўн гэтае наша сховішча. Мы думалі, што пераначуем, а назаўтра рушым далей. Але раніцай вецер яшчэ ўзмацніўся, не было мовы пра выезд. Муселі тут загасціцца.

Паўночны Барнгольм - гэта вельмі разрэкламаваны ў Даніі турыстычны рэгіён. Ён там феномен тыпу нашых Татраў. Увесь край нізкі, пясчаны. Найвышэйшыя пагоркі - гэта альбо марэны, альбо, найчасцей, па-просту выдмы (дзюны).

Тут вынырнуў з мора край скандынаўскай крысталічнай пліты. Адтуль каменяломні - бадай ці не адзіныя ў краі. Але краявід быў яшчэ лепшы, больш выключны, выключна маляўнічы.

Стаялі ў Гамэргаўне двое з паловай сутак. Мы, канешне, лазілі па ваколіцы. Уся выспа, не толькі порт, рабіла ўражанне краю для ліліпутаў, свету лялек, нечага вельмі закончанага. Цалкам як "сапраўдны" свет, але ў шкале паменшанай напалову.

Толькі скала каля порта была сапраўдная, высокая на нейкія сто метраў, стромая, гранітная. Але і яна ад верху да нізу была прыбрана у бліскучы плюшчавы плашч.

Далей былі пагоркі, падобныя на "сапраўдныя" горы. Усё зарослае прыгожым букавым лесам, які я бачыў бадай што ў першы раз. Палянкі былі поўныя папараці, але якой. Сягала мне па пояс, па грудзі, па шыю. Нейкія кусты. Задзірыстыя і маляўнічыя. Буйнасць расліннасці, як у нас на Багданцы, але іншая, без сасны, ужо не таёжная, ужо атлантычная.

Потым мы пайшлі ў найбліжэйшыя мястэчкі. Большае называлася Алінгэ. Чыгунка, як для лялек - вагончыкі, лакаматыўчык. Домікі ў мястэчку таксама маленькія, касцёл таксама, плошча, мост, рэчка, усё.

Нажаль, ніякіх прыгод. Тут не Швецыя. Порт малы, без горада, рабочы. Мястэчка ўжо пэўна па сезоне, такое пустое. Зрэшты, як звычайна, мы былі без грошай. Удзень мы швэндаліся, разглядваліся, вечарам гулялі ў брыдж па-маленьку.

На трэці дзень вецер трохі аслаб. Юка паразумеўся з нейкім маторным кацерам. Той узяў нас на буксір. Вецер усё яшчэ быў паважны, добра што дуў проста на выхад з порта. Кулёвец, чым хутчэй палез з вядром на свае ветразі.

Жалезны трос нацягнуўся. Павольна, падкідваны што хвіля хвалямі, "Могарт" вырушыў з Гамергаўна. Праз пару соцень метраў за портам трос адчапілі. Хутка паднялі зрыфаваны, зрэшты, грот і рушылі наперад.

Цэлы дзень у адкрытым моры. Хваля вялікая, людзі пачуваюцца не асабліва. На мяне то зусім не дзейнічае. Пад вечар трохі тужліва па сушы. І вось якраз хмара па правым баку, далёка над гарызонтам, афарбавалася на брудна-бела.

На працягу некалькіх хвілін не былі пэўныя. Потым выразна ўлаўліваем своеасаблівы рытм з'яўлення тых водбліскаў. Не падлягае сумненню: хмары адбіваюць бліскі нейкага марскога маяка.

Несумненная прыемнасць. Мора морам, але тая свядомасць блізкай сушы неяк нас усіх напоўніла метафізічным цяплом.

Ранак застае нас на віду знаёмых пясчыста-сасновых берагоў. Яшчэ пару гадзін і Гэль, трохі клопатаў з галсаваннем пад вецер. Ястрыня.

Было ў ёй вельмі пуста. Ірка яшчэ не вярнулася са свайго Вісбы. Нашы раз'ехаліся. Пару дзён я правёў у крытынскім стане: злы, нудны, раўнівы.

Потым вярнулася. Не вельмі гэта паправіла мой настрой.

**Паршывая восень**

Восенню мы вярнуліся ў Вільню. Знялі кватэру на Звярынцы, недзе, здаецца, на Сасновай, у новым ледзве закончаным доміку. Быў ён аж чатырохпакаёвы. У адным з пакояў пасяліліся Стэфан з Ганкай. Ірка заняла з Евай суседні, вялікі пакой. Была таксама маленькая сталоўка, і за ёй яшчэ меншы пакойчык, прызначаны для мяне. Палову таго пакойчыка займаў тапчан, чвэрць - столік, паўчвэрці - крэсла. Усё астатняе - свабоднае.

Зноў парыўся рознымі літарацкімі работкамі: тры месяцы зноў быў кантралёрам радыёперадач. Бадай што, ці не тады я замяняў некатарага з Крыдлевых асістэнтаў. Абавязкі сціплыя, зводзіліся ўласна да абслугоўвання бібліятэкі. Пісаў не шмат. Пару гадоў назад радзіў навэлку "Два твары ночы", абапёртую на банеўскі пейзаж. Потым выцягнуў за вушы наступную: "Школа ў жоўтым доме". Абдумваў, ці не дацягнуць усё тое да томіка. Але навэлы ішлі мне вельмі цяжка. У нейкі час здавалася мне, што можа з таго быць архітвор, сядаўся, спрабаваў пісаць. Адразу пасля першай фразы перакананне недзе дзявалася, пхаў усё ў шуфляду.

У папярэдні год упаў на дзікую думку напісання крымінальных рэчаў. Быў яшчэ перапоўнены ўражаннямі з Палесся. Банду размясціў недзе каля Малога возера Засумінскага. Увёў сатырычна гняздо магнатэрыі з Маневіч. Усё ішло добра, адмахаў нейкіх семдзесят старонак. Потым спатыкнуўся з той самай нагоды, якая столькі паразаў прынесла мне пазней: не ўмеў зрабіць сцэнарый.

Меў пачатую іншую аповесць, дакудаўскую. Таксама спыніўся на нейкай сотай старонцы. Знеахвоціла мяне ў тым выпадку выключная павольнасць і нязначнасць дзеяння.

Словам, займаўся літаратурай, але без ніякіх асаблівых поспехаў і без лішняга запалу.

Стэфан цяпер вярнуўся ў Вільню, але група варушылася вельмі слаба. Па кутках трывалі размовы на тэму далейшага жыцця. Не ведаю, адкуль вынікла прапанова ўступлення некаторых сяброў групы ў ППС (Польскую сацыялістычную партыю). У канцы спыніліся на тым, што тыя з нас, якім бы гэта магло б дапамагчы ў сэнсе аблягчэння легальнай палітычнай дзейнасці, павінны гэта зрабіць.

Я не мусіў гэтага рабіць і не зрабіў.

Восень у краі прадбачылася асабліва паршывай. У траўні свет перажыў першую атаку Гітлера на Чэхаславакію. Чэхі абвясцілі мабілізацыю, і Гітлер адступіў. Але цяпер, на восень пачыналася новая антычэшская штука.

У нас, у Вільні памножана была яна на штуку антылітоўскую. Прэса раздзімала з кожным днём што раз мацней нейкія дробныя памежныя пытанні. Мабыць, у канцы верасня пачаліся вулічныя антылітоўскія дэманстрацыі. Памятаю раскудлачаны тлум недзе на пляцыку Ажэшкі, у самым цэнтры Вільні. Гэта ў Варшаве, здаецца, скандавалі крэтынскія і ўражвальныя слоганы ў родзе: "Правадыр, вядзі нас на Коўню!" Але, можа, было нешта такое і ў Вільні. Можа і ў Вільні блытаўся ў той час Рыдз-Сміглы.

Гэта толькі ў сонных кашмарах чалавек перажывае такія станы. Поўная, абсалютная свядомасць смяртэльнай небяспекі - і поўнае бяссілле. Гледзячы на людзей, якія з пенай на губах помсціліся на літоўцах ці чэхах, хацелася выць, рваць вопратку, качацца па зямлі - каб толькі паверылі, што чыняць шаленства, што яны самазабойцы.

Жудасны перыяд. Хто ведае, ці не горшы, чым праз год, калі вайна ўжо выбухнула. Тады тое, што цяпер нарастала, ужо стала фактам. Цяпер толькі тая ўдушальная пэўнасць надыходзячай катастрофы - і немагчымасць пераканання пра яе навакольных.

Я дайшоў да таго, што баяўся газет. Пасля Літвы да яшчэ горшай штукі дайшло з Чэхаславакіяй. Я не быў у той час асаблівым энтузіястам таго краю. Папершае, не ведаў яго. Па-другое, бацька у кароткім перапынку паміж прыходам у Польшчу з дывізіяй Жалігоўскага і выхадам у Кіеўскую выправу, здалеў трапіць на некалькіднёвую польска-чэшскую вайну за Цешын, засталіся мне з дзяцінства абрыўкі аповесці пра тыя, праўду сказаўшы, не лішне драматычныя здарэнні.

Але каб ацаніць трапна антычэшскую штуку, не трэба было абавязкова любіць чэхаў, дастаткова было любіць Польшчу. Шаленства разгортвання антыврсальскай кампаніі восенню 1938 года дзяржавай, якая ўдзячная Версалю ўсёй сваёй заходняй мяжой, было лішне відавочным.

У той час, зрэшты, чэхі з дзвюх прычын пачыналі мне станавіцца больш блізкімі. Яны патрапілі, не гледзячы ні на што, захаваць у сваім краі лад сапраўды буржуазны, але дэмакратычны. Па-другое, у Савецкім Саюзе шукалі дапамогі і ратунку перад Гітлерам. Ці - разумелі тыя рэчы падобна, як я. Ці былі прымірэнцамі ў вялікім змаганні чалавецтва з фашызмам.

Якое ж жудаснае было ўсведамленне, што твой народ - а дакладней не народ, дзяржава - у тых змаганнях стаіць на баку несправядлівым.

Тая прэса з восені 1938 года! Тыя загалоўкі! Нейкі гэта штотыднёвік ці журналіст назваў свой опус "Маршыраваць?" Тыя легенды пра ваенны геній генерала Бартноўскага, народжаныя з нейкага манеўру, нейкай баталіі той ганебнай “вайны”?

Прамаўчым тую старонку найноўшай гісторыі Польшчы. Не важна, слушна гэта ці не. У кожным разе паступаем натуральна. У жыцці кожнага чалавека ці народа ёсць моманты, якія ён прагне забыць.

Я рабіў з большага тое самае тады, калі рабілася тая справа. Бачыў, што не дапамагу. Паспрабаваў унікнуць усяго, што да таго тычылася.

**Шус**

Неўзабаве мы ўсе - а ўся група ў той справе разумела і адчувала аднолькава - атрымалі магчымасць досыць поўнага забыцця, адарвання ад Заолзя (Заолзенскай Сілезіі). На жаль, як у той час звычайна бывала, сталася нешта яшчэ горшае. У тым сэнсе, што датычыла нас непасрэдна.

Я ўспамінаў пра Шуса. "Рэчаіснасць" спартрэтавала яго досыць дакладна. Быў здольны, хуткі, амбітны, наступальны, няўстойлівы. Любіў пахваліцца. Буяў. Запаляўся. Вочы ў яго бегалі, як, зрэшты, і рукі. Меў людзей, над якімі любіў збыткаваць - напрыклад, над сваім калегам з права, Бардахам, які павольней за яго на ўсё рэагаваў і меней гарэў да студэнцкіх палітычных разборак. Шус меў часам прабліскі некай дзяцінай лютасці адносна таварышаў. Можа гэта былі кампенсацыйныя рэфлексы супраць неабходнасці залішне частых уступак эндэкам? Меў нават антысеміцкія выказванні, з якіх, што паўда, палова, а можа і тры чвэрці былі жартамі, але выключна толькі тыя тры чвэрці, не болей.

Досыць далёка ад групы знайходзілася студэнтка права, таварышка маёй жонкі, Ганка Карпюк, беларуска. Была невысокая, з вельмі чорнымі вачыма, правільным тварыкам, гладка зачасанымі валасамі. Нагадвала трохі тое пакаленне, з якога выйшлі тэрарысткі Народнай Волі, хоць не было ў ёй ніякага фанатызму, вельмі шмат сціпласці і нейкай амаль евангелісцкай пакоры перад бязлітасным лёсам.

Паходзіла з вёскі, недзе з-пад Гародні. Брата яе пастаянна мучыла паліцыя, падазраючы, напэўна слушна, у камунізме. Сама Ганка была ў дадатак кульгавая. Жыла яна напаўгаладаючы, зарабляючы ўрокамі, і, канешне, выдатна вучылася.

Мы прымалі Шуса трохі жартаўліва, як бы ставаючы да кожнага яго слова каэфіцыент недаверу, які натуральна вынікаў з яго схільнасць да бравады. Але дзве справы паўплывалі на папраўку яго пазіцыі ў нашых вачах.

Па-першае - працэс. Факт, што ўлады прызналі за мэту далучыць і яго да групы найнебяспечнейшых. Было гэта для нас нечаканым, але адзіны адказ, які мы з яго з большага выцягнулі, гучаў: ужо там яны лепей ведаюць, хто ім заліў сала за скуру.

Па-другое - уласна, што наблізіўся да Ганкі. Былі яны адно на другое непадобныя, так палярна розныя. Канешне ў тым збліжэнні тон мусіла задаваць Ганка, таму хутчэй яна магла дадаць яму трохі мужнасці ў адносінах да жыцця, чым ён мог бы навучыць яе нейкаму жыццёваму лібералізму.

Яшчэ трэці і апошні элемент трагедыі. У такім закутку Вільні, які быў і гіблай дзіркай, і вельмі блізка ад цэнтра, недзе роўнаадлегла да Міцкевіча, бадай што на працягу Партовай, ужо недалёка ад Віліі стаяў дзіўны дом. Я хадзіў там яшчэ ў 1922 годзе і ўжо тады звярнуў на яго ўвагу.

Быў гэта аднапавярховы дом з цэглы, адсунуты ад вуліцы на пару метраў газона, аддзеленага ад тратуара жалезнымі штыкетамі. Выглядаў на такі сабе "асабняк", як кажуць расейцы, ці нешта ў родзе вілы.

Было нават нейкае дрэўца, пару кусцікаў.

Дзіўная ў ім была атмасфера. Вокны заўсёды пазачыненыя, трохі закураныя. Ніякай шыльды, ніякай таблічкі, ніякіх кватарантаў. А, аднак, дзверы часам стаялі адчыненыя.

Я вырас, пасяліўся недалёка, на Партовай. Часам я там праходзіў, скарочаючы сабе дарогу на Звярынец. Я заўсёды меў дзіўнае адчуванне, можа трохі дзяцінай таямнічасці, якая выпраменьвалася з таго дома.

Ніколі пра яго не размаўляў ні з кім, бо нібыта навошта? А між тым аказалася, што ўсе яго разгледзелі, усе звярнулі ўвагу на яго небудзённасць.

Мы былі ў некага. Ці не ў Казіка. Было асенняе пасляпаўдня. Раптам ускочыў Бардах.

- Юзка ўзялі! - крыкнуў, адсопшыся і пераканаўшыся, што адны свае.

Ішоў з Шусам, бадай што Еркам. Раптам у белы дзень падышоў да іх нейкі тып. Папрасіў прабачэння ў Бардаха і ўзяў Шуса ў бок. Нешта яму паказаў, і Шус паслушна пайшоў за ім.

Бардах ішоў за імі. Пераканаўся, што Шуса завялі ў найбліжэйшы камісарыят.

Трэба ж было трапіцца, што праз пару гадзін, ідучы Партовай, Бардах убачыў дрожкі. У дрожках ехаў Шус у кампаніі, бадай што, паліцыянта ў форме. Пазнаў Бардаха і даў знак, каб той неяк іх адсачыў. Бардах трохі ішоў, трохі бег, каб не страціць дрожкі з вачэй.

Сталі... якраз перад гэтым домам. Завялі туды Шуса. Дрожкі адразу ад'ехалі.

Мы былі ўзрушаны. Сапраўды, гэта не першы раз арыштоўвалі Шуса. Прыгадалі сабе ўсе, што такое было, бадай, у лютым 1936 года. Нехта звярнуў увагу на дзіўны тон Вольскага адносна Шуса на працэсе.

У выніку ўсе страшна знерваваліся. Прыйшла Ганка Карпюк. Пачалі імправізаваць умяшанне. Цераз адвакатаў, цераз выкладчыкаў Шуса, цераз універсітэт. Ганка апавядала пра свае візіты ў сакратарыят універсітэта. Была вельмі прыгнечана фальшывым спачуваннем, якое там атрымала, і выкручваннем ад усякай рэальнай дапамогі.

Была таксама адразу, ад самога пачатку, як бы свядомая, што справа скончыцца фатальна. Як бы на нішто іншае не спадзявалася. Мы намагаліся яе суцешыць, але ўсё тое адскаквала ад яе роспачнага маўчання.

Пачалі шукаць рэальныя сувязі Шуса з партыяй, чым часам хваліўся. Знайшлі толькі сляды нейкай досыць дзяцінай штукі яшчэ ў гімназіі.

На працягу некалькіх дзён уся група праяўляла гарачкавую дзейнасць. Хадзілі ўнекалькіх - памятаю Казіка і Данка - да таго дзіўнага дома. Аглядалі яго з падворка і тут атрымалі адкрыццё. Вокны меў прybраныя ў "кашулькі" з дошак, як звычайна бывае ў арыштанцкіх. Дом быў вуглавы, ад завулка таксама віселі тыя "кашулькі" на вокнах.

За тое ад галоўнай вуліцы вокны былі нармальныя, толькі што цёмныя, закураныя, нейкія нерэальныя. Былі таксама дзверы. Нехта з нас узяўся за клямку. Былі адчыненыя! Увайшлі ў сярэдзіну. Брудны запушчаны хол. Пара дальніх дзвярэй. Тыя ўжо былі замкнёныя. Спрабавалі стукаць. Гукалі на вуліцы: "Юзак!" Дом маўчаў.

Вярталіся ўзбуджаныя і неспакойныя. Намагаліся знайсці нешта такое, каб "насаліць" тым лайдакам. Плялі адзін перад другім. То наклеіць аб'явы на слупах пра пакоі для найму на казачна добрых умовах уласна там, пад тым адрасам. То зноў, каб даць такія аб'явы ў прэсу. Альбо, каб каменямі...

Былі гэта яшчэ хвілі досыць ідылічныя. Не ведаю, ці не ў той жа дзень мы аказаліся перад фіналам.

У Казіка аказаліся тым разам і Бардах, і Ганка. Сам яе выгляд марозіў. Бардах трымаў нумар нейкай яўрэйскай газеткі, з Ашмяны ці Свянцян.

Перакладаў нам малое паведамленне:

"Дня таго і таго адбылося пахаванне студэнта Юзафа Шуса".

Мы не разумелі. Ціснулі на яго, ці гэта ўсё. Прысягаў, што так. Не хацелася верыць. Што? Чаму? Як гэта сталася? Не памятаю, ці ў нататцы была мова пра самазабойства.

Кінуліся ў горад. Не хацелася нам верыць. А калі нават паверылі, разводзілі рукі. Не гледзячы на тысячу асабістых кантактаў ні адна з газет не змясціла ані слоўца. Усялякія афіцыйныя ўмяшанні аказаліся цалкам бессэнсоўнымі. Толькі праз некалькі тыдняў у нейкай кракаўскай газетцы, пры дапамозе Мухі Жаромскай, якая туды перабралася, бо выйшла замуж за Казіміра Намыслоўскага, удалося ўлавіць вельмі асцярожна сфармуляваную справаздачу.

З таго, штосьці адрывачна з розных крыніц даведаліся, справа выглядала наступным чынам. Паліцыя знайшла прычыну: Шус нарадзіўся недзе ў Латвіі. Хоць яго бацькі мелі польскае грамадзянства і юрыдычна грамадзянства тое належала і яму, не меў ён на доказ фармальнага пацверджання. Праз гэта даставіла яго паліцыя на мяжу. Там, як гаварылася, знайшлі яго павешанага на тэлеграфным слупе. Цела яго, як цела самазабойцы, аддалі яўрэйскай гміне для пахавання.

Тыя, хто яго бачыў, казалі маці Шуса, што не меў ён на целе ніякіх слядоў, тыповых для павешанага. Гаварылі, меў толькі лёгкія драпіны на шыі, заміж хоць якіх ацёкаў.

Гэта і ўсё. Мы рабілі яшчэ захады па эксгумацыі і судовай экспертызе. Тут аднак шанцаў не было ніякіх. Апускаючы ўжо пачатковыя погляды, уладам дастаткова было цягнуць. Праз пару месяцаў нават эксгумацыя ўжо ні на што не здалася б.

Былі ў Ганкі. Жыла недзе на Зарэччы. Засталі ў яе і маці Шуса. Тая плакала, мела прыступы, трэба было паіць яе вадой. Ганка толькі маўчала.

Была восень. Дождж, цёмна. Шумелі таполі.

Што гэта было з Шусам? Не ведаю. У "Рэчаіснасці" падаў тое, што мне падалося найбольш праўдападобным.

Не ведаю, што сталася з маці Шуса. Быў у яе адзіным. Бацька яго рана пакінуў сіратой. Не ведаю таксама, што з Ганкай. Здаецца, перажыла вайну, жыве недзе, бадай што, у Вільні.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі кнігі збору твораў Уладзіміра Караткевіча: т. 1 , 536 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 2, 400 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 3, 776 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 4 , 864 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 5, 544 ст., наклад 2000 асобнікаў.**



















**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла кніга Паўла Гацілава “Предание о Нальшанах. Дом Святой Троицы ”, 602 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**







**У Варшаве ў выдавецтве “Losgraf” выйшлі кнігі “Nieswieskie wspomnienia”, 418 ст. і “Nieswieskie wspomnienia. Ciag dalszy...”, 480 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь”, выйшла кніга Л.Я. Клімуця “Сармацкая культура беларускай шляхты ў XVI - XVIII стагоддзях”, 128 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




***Рычард Груша.*** **Мемарыяльная дошка Валянціну Таўлаю.** Чырвоны граніт, бронза.
Ліда, вул. Замкавая, 7, Літаратурны філіял Лідскага гістарычна-мастацкага музея.
*Здымак С. Судніка.*